# Андрэй Федарэнка

# Шчарбаты талер

*Аповесць*

### Часціна першая

### Загадкавая манета

**Раздзел 1**
**Аксана — "выкрадальніца" дзяцей**

Бацька зірнуў на кухонны гадзіннік, умацаваны ў шафцы над газавай плітою, адсунуў кубак з недапітай гарбатаю.

— Дзіўна...— прамармытаў ён.— Увесь час думаю, чаго не хапае? Аказваецца, тэлефон маўчыць. Аж не прыпомню такога вечара, каб ніхто не званіў, каб я нікому не быў патрэбен... Можа, тэлефон сапсаваўся?

Аксана, седзячы насупраць і п'ючы гарбату, паціснула плячыма. Бацька выйшаў у пярэднюю, хутка вярнуўся. У адной руцэ ён трымаў тэлефон, у другой — шнур з выцягнутай з разеткі вілкаю.

— Аксана,— сказаў бацька, зморшчыўшы лоб, падазрона ўглядаючыся ў дачку (ён быў блізарукі),— што гэта значыць? Навошта ты адключыла тэлефон?

— Ну, выцірала пыл у кутку каля разеткі... Можа, неяк выпадкова зачапіла шнур, ён і вылузнуўся.

Бацька ўздзеў на нос акуляры, але позірк яго і цяпер, праз шкельцы, не змяніўся, вочы глядзелі на дачку з тым жа падазроным прыжмурам.

— Я табе не веру. Што ты зноў утварыла?

— Нічога.

— Што ў школе?

— Нічога.

— Ты гаварыла сёння з завучам, як мы дамаўляліся? Сказала яму, што заўтра ты прапусціш урокі, бо мы едзем да бабулі?

— Супакойся, я... гаварыла з завучам.

— Ён адпусціў?

— Адпусціў. Сказаў... сказаў: "Ты добрая дзяўчынка, едзь на здароўе хоць на адзін дзень, хоць на некалькі, хоць да канца вучобы..."

Бацька не даслухаў і махнуў рукою, у якой трымаў шнур.

— Не, штосьці тут не тое... Вось зараз сам перазваню яму дамоў і спытаю,— і бацька знік.

Аксана ўздыхнула. Ну, зараз пачнецца... І чаму гэта дарослыя так любяць праўду, так дабіваюцца яе? Калі б усе гаварылі толькі праўду, што за жыццё было б?.. "Аксана, ты адключыла тэлефон?" — "Так, я адключыла тэлефон".— "Навошта?!" — "Таму, што завуч збіраўся званіць табе, каб выклікаць назаўтра ў школу".— "Навошта?!" — "Каб пагаварыць пра мае паводзіны..." Цьфу! Праўда страшэнна нудная і нецікавая...

Дзяўчынка прысела каля стала, пад якім стаялі дзве вялікія гаспадарчыя сумкі, упакаваныя на заўтра. Пад рукой прыемна захрабусцела навенькая слюда. Вось якім падарункам бабуля будзе радая — квятасты летні халат, кітайскія пухнатыя пантофлі... Дзіўна: у бабулі свая хата, свой агарод, а яны вязуць ёй з Мінска гуркі, памідоры, клубніцы... Няўжо бабуля нічога гэтага яшчэ не пакаштавала? Нашто тады агарод? Ці ў травені гэта яшчэ не паспявае?..

Дадумаць ёй не даў бацька, які, пагаварыўшы па тэлефоне, зноў з'явіўся на кухні.

— Вылезь з-пад стала! — загадаў ён зусім іншым голасам.

Аксана паслухалася, прысела на табурэт, апусціла галаву, убачыла на правым калене, пазаўчора абадраным, чорную засохлую скарыначку, паспрабавала скалупнуць яе пазногцем.

— За адну хвіліну ты ўмудрылася схлусіць мне тройчы,— марудна расцягваючы словы, пачаў бацька. — Ты адключыла тэлефон і не прызналася. Ты не адпрошвалася ў завуча. Ты не сказала, што мяне заўтра выклікаюць у школу... Што гэта за запіска?! — не ў сілах больш стрымлівацца, усклікнуў бацька.

Скарыначка скалупнулася, і Аксана, не падымаючы галавы, пагладжвала бледна-ружовы след на тым месцы.

— Я чакаю. І пакінь у спакоі калена!

— Запіска? — Аксана падняла на бацьку бязвінныя сінія вочы.— Ты пра якую запіску?
— Перастань! А што, іх было некалькі? Запіска, якую ты паклала ў класны журнал настаўніцы замежнай мовы!
— А, гэтая. А чаму яна абзываецца?
— Хто? Запіска, настаўніца?
— Настаўніца.
— Як яна абзываецца?
— Так. Увесь клас не вывучыў на памяць словы, і яна ўсім пачала ставіць двойкі і нікому нічога не казала і толькі мне, ставячы, сказала: "Каму-каму, а табе, Гамола Аксана, трэба зубрыць дзень і ноч!"
— Ну і што тут такога? Правільна сказала!
— Як ты не разумееш? Значыць, я горшая за ўсіх? Я ведаю, яна не любіць мяне. Прыдзіраецца. Яна заўсёды гаворыць: "Каму-каму, а табе..."
— Лухта нейкая.— Бацька прыклаў да шчок далоні, быццам яму раптоўна забалелі зубы.
— Так, яна лічыць мяне горшаю за ўсіх,— упарта паўтарыла дзяўчынка.— Бо я непрыгожая. Бо ў мяне бацька...— яна хацела сказаць "бедны", але, зірнуўшы на бацьку, пашкадавала яго,— небагаты. Бо ў мяне няма маці...
Гэта быў забаронены прыём. Бацька перастаў церці шчокі, падышоў да падаконніка, пабарабаніў па ім пальцамі, паглядзеў у акно.
— Лухта... Пры чым тут горшая, непрыгожая...— прамармытаў ён, стоячы да дачкі спіною. У яго голасе не засталося і следу строгасці, а была толькі разгубленасць.— Ніякая ты не горшая... Ну, і далей? Настаўніца абазвалася, а ты што?
— А я напісала на паперцы: "Калі вы не перастанеце гаварыць адной вучаніцы ўвесь час "каму-каму, а табе...", заўтра ваш сын будзе выкрадзены. І вам давядзецца выкупляць яго за мільён даляраў". І падпісалася — "Невядомы".
Бацька, нібы яму зноў схапіліся балець зубы, прыцмокнуў языком, пацёр скроні:
— "Невядомы"... А калі б яна пайшла з гэтай запіскаю ў міліцыю?
— Не, яна перапалохалася і адразу да сына пабегла. Ён у нашай школе ў першым класе вучыцца. Ведаеш, як яна за ім бегае? — Аксана ажывілася ад успаміну.— На кожным перапынку вядзе яго ў настаўніцкую; корміць там...
— Пачакай, дагавары пра запіску.
— Ну, напісала, тады на перапынку Каця знарок паклікала яе, яна адвярнулася, і я хуценька ўклала запіску ў класны журнал.
— Канспіратары... Добра,— сказаў бацька.— Дапусцім, ты пакрыўдзілася і адпомсціла такім чынам. Але калі ўсе небагатыя, і ўсе, у каго няма маці, і ўсе, скажам, непрыгожыя пачнуць пісаць такія запіскі? Тады што?
У хвіліны разгубленасці бацька заўсёды хаваўся за развагамі тыпу: "А калі ўсе пачнуць так рабіць?"
— А чаму яна абзываецца? — вярнулася Аксана да таго, з чаго ўсё і пачалося.
Цяжка было змагацца з гэтай логікай. Бацька здаўся:
— Добра, заўтра разбярэмся... Позна ўжо, ідзі збірайся спаць.
— А што сказаў завуч?
— Зайсці да яго. Давядзецца раней устаць, і па дарозе на вакзал зойдзем у школу.
Задаволеная, што так лёгка ёй усё абышлося, Аксана глядзела ў большым пакоі тэлевізар. А бацька яшчэ доўга курыў на кухні. Ён успамінаў сваю былую жонку, Аксаніну маці: як жыў з ёю, як потым развёўся... Нягледзячы ні на што, ён згадваў яе з любоўю, з падзякаю за тое, што пакінула яму дачку — гэтую выдумляльшчыцу, шкодніцу, неслуха і разам з тым усё адно самую лепшую ў свеце, самую любімую дзяўчынку.

**Раздзел 2**
**Каця**

А дзевятай гадзіне раніцы, наказаўшы суседцы наглядаць за кватэраю, яны выйшлі з дому.
Невялікі, ціхі, абступлены пяціпавярховымі будынкамі, зарослы каштанамі і плакучымі вербамі дворык жыў блізкім летам. У пясочніцы пад наглядам бабулек корпалася малеча. З боку праспекта даносіліся гукі жыцця вялікага горада. Дворык быў яшчэ ў цені, сонца толькі-толькі дабіралася да верхніх вокнаў суседняга дома, але было цёпла, нават парна.
— Пастаіш у вестыбюлі, каля сумак,— вучыў бацька,— я пастараюся хутка. Ніяк ты не можаш без

прыгодаў... Цяпер думай, каб не спазніцца на вакзал.

— А колькі мы будзем у бабулі?

— Пераначуем і заўтра вернемся.

У школе было ціха, нядаўна пачаўся ўрок. У пустым, гулкім, бы ў час канікулаў, вестыбюлі бацька паставіў каля століка вахцёркі сумкі, папрасіў вахцёрку, што сядзела за столікам і чытала газету:

— Паглядзіце, калі ласка, сумкі і яе заадно,— кіўнуў ён на дачку.

Ён пайшоў у самы канец калідора, дзе знаходзіўся кабінет завуча.

Дзяўчынка патулялася па вестыбюлі, пастаяла каля стэнда з раскладам урокаў, падышла да вузкага доўгага люстра, што было ўмацавана на калоне насупраць пустых гардэробных вешалак. Уважліва, прыдзірліва пачала аглядаць сябе з ног да галавы. Агляд не падбавіў настрою. Самае крыўднае, што знізу, да твару — усё выдатна: роўныя, моцныя, з драпінамі на каленях ногі, белыя з зялёнымі паскамі красоўкі, зялёныя шкарпэткі, зялёныя шорты да каленяў; на правай калашыне знізу надпіс "San-Francisco", такі ж надпіс, толькі большымі літарамі, на зялёнай майцы... А вось вышэй... Кірпаты нос, круглыя вясковыя шчокі ў рабацінні — сляды травеньскага сонца... Саламянага колеру валасы, якія зверху, на макаўцы, па-хлапечаму тапырацца віхрамі і якія нельга прывесці да ладу — прычасаць так, як хочацца,— толькі калі яны мокрыя... Нічога ад бацькі, уся ў маці і ў бабулю! Не, хіба вочы, сінія, жывыя, з кашачымі рыскамі-зрэнкамі,— бацькавыя. Вось каб можна было вочы пакінуць свае, а нос "пазычыць" у Каці... Ненадоўга, толькі каб з'ездзіць у вёску, а тады аддаць назад. Шчокі таксама можна было б пазычыць у Каці, а валасы... валасы тым больш у Каці, у яе самыя прыгожыя ў класе...

Усё ж дзяўчынка звыклася да гэтых шчок і носа і цяпер нават пашкадавала іх. Хай, не бойцеся, не будзе яна вас мяняць на лепшыя, так і быць. Свае як-ніяк.

Прыгадаўшы сяброўку, Аксане раптам захацелася ўбачыць яе.

— Маргарыта Янаўна,— надышла яна да вахцёркі,— папільнуйце сумкі.— І дадала, сарамліва прыцішыўшы голас: — Мне ў прыбіральню трэба.

— Ідзі, ідзі, донечка,— ласкава адказала вахцёрка, цешачыся яе непасрэднасцю.

Аксана хуценька ўзбегла на другі паверх, спынілася каля дзвярэй свайго пятага "А". Трэба было б выдумаць якую прычыну, каб Кацю адпусцілі з урока... Дармо, язык сам штосьці выдумвае, не ўпершыню. Яна рашуча пастукала ў дзверы, тады прасунула галаву, каб упэўніцца, ці не другі якісьці клас займаецца тут сёння. Убачыўшы сваіх і настаўніка гісторыі Барыса Рыгоравіча з указкаю ў руцэ каля вялікай рознакаляровай карты, што была падвешана па дошку і закрывала яе амаль усю, дзяўчынка праціснулася ў дзверы і стала ў парозе.

Вучні засмяяліся, як і звычайна ў такіх выпадках, радыя любой неспадзяванцы, якая ўрываецца ў шэрую звыкласць урока.

— Сядайце, Аксана, і не спазняйцеся больш,— сказаў добры Барыс Рыгоравіч. Ён да ўсіх, нават да іх, пяцікласнікаў, звяртаўся толькі на "вы".

— Я... не на ўрок, Барыс Рыгоравіч,— пачала Аксана,— я... прыйшла развітацца. Мы з татам едзем у вёску. І, відаць, там застанемся назаўсёды...

Клас прыціх. Указка ў руцэ настаўніка таксама застыла, паказваючы на Паўночную Амерыку.

— Вось як? Але ўсяго ж тыдзень застаўся да летніх канікулаў. Вам трэба было б хоць год давучыцца...

Аксана ўздыхнула, развяла рукі і апусціла вочы — маўляў, такія сур'ёзныя рэчы не ад яе залежаць.

— Што ж, шкада, шкада,— прамовіў настаўнік. Аксана ведала гісторыю як ніхто ў класе і была яго любімай вучаніцаю. Да таго ж ён, гісторык, добра ведаў Аксанінага бацьку, археолага, і сябраваў з ім.

— Можна, Барыс Рыгоравіч, адпусціць Кацю на колькі хвілін? Мне трэба сказаць ёй штосьці.

— Вядома, ідзіце, Каця! — і калі Каця пачала выбірацца з-за парты, паўтарыў сам сабе: — Шкада, шкада...

Клас так і маўчаў, бы анямелі ўсе. На які міг Аксана забылася, што гэта ўсё яна сама выдумала. Ёй таксама стала так шкада пакідаць гэтыя сцены назаўсёды... А як яе любяць, аказваецца! Яна і не здагадвалася. Варта было пайсці на такі бязвінны падман, каб упэўніцца ў гэтым...

На калідоры яна схапіла Кацю за руку, дзяўчынкі збеглі ўніз па лесвіцы, спыніліся на пляцоўцы паміж першым і другім паверхамі, дзе было вялікае, на ўсю сцяну, акно і шырокі нізенькі падаконнік. Адсюль праглядаецца ўвесь вестыбюль, таму адразу можна будзе спусціцца ўніз, калі бацька выйдзе ад завуча. Аксана прысела на падаконнік, сяброўка таксама.

— Ты, праўда, едзеш? — Каця глядзела на яе шырока расплюшчанымі, бы ў лялькі, вачыма. Яна добра і даўно, яшчэ з дзіцячага садка, ведала Аксану, але звычайна кожны раз пападалася на сяброўчыны выдумкі. І чым больш неверагодныя, няпраўдападобныя гэтыя выдумкі былі, тым

ахвотней чамусьці Каця ў іх верыла.

— Пакуль мы едзем толькі на разведку.— Аксана цяжка ўздыхнула — ніяк нельга было ўтаймаваць пракляты язык.— Паглядзім, як нас бабуля прыме... Можа, нават давядзецца жыць па чужых людзях.

— А што будзе з вашай менскай кватэраю?

— Давядзецца прадаць.

— А чаму ты раней мне нічога не казала?

— Не магла. Тата забараняў.

Да гэтага дня паміж імі не было ніякіх сакрэтаў. Яны дня не маглі пражыць паасобку, сядзелі за адной партай, рабілі разам урокі, хадзілі адна да аднае ў госці... і вось табе маеш!

— Ты будзеш пісаць мне? — спытала Аксана.

— Буду... Кожны дзень! А ты мне?

Даверлівая, наіўная Каця-лялька глядзела на сяброўку такімі вачыма, што Аксане зрабілася сорамна. Але язык не ўнімаўся; акрамя таго, Аксане прыйшло ў галаву, што цяпер вельмі спрыяльны момант, каб праверыць, ці сапраўды Каця так любіць яе.

— А я... нават не ведаю, ці змагу пісаць табе,— прызналася Аксана.— Я, вядома, пастараюся, але часу можа не хапіць. Можа, увогуле давядзецца кінуць школу і пайсці працаваць.

— А ты хіба ўмееш?

— Навучуся. Гледзячы якая праца. Калі не будзе кавалка хлеба на стале, усяму навучышся.

Абедзве памаўчалі, уражаныя бязлітаснасцю, жорсткасцю дарослага жыцця, з якім яны ўпершыню сутыкнуліся твар у твар.

— Пачакай! — Каця раптам хуценька запусціла руку ў бакавую кішэнь школьнага фартушка, дастала якуюсьці круглую плоскую рэч, падобную на стары металічны рубель, толькі крыху большую памерамі. — Вось, вазьмі... І калі забудзеш мяне, паглядзіш на гэтую манету і ўспомніш. А калі будзе цяжка... ну, не будзе хлеба на стале — прадасі.

Аксана, кранутая, узяла манету, адчула ў далоні халаднаватую прыемную цяжкасць. Яна правяла пальцам па няроўнасцях рубца, пакалупала-пагладзіла выпуклы ўзор на манеце. Манета была сцёртая, старая, тускла-белага колеру, а рубец — зеленаватага. Так і хацелася хутчэй пачысціць яе аб пясок і добра разгледзець.

— Бяры смела,— запэўніла Каця.— Тата аддаў мне ўсю сваю калекцыю назаўсёды.

— А што гэта, срэбра?

— Вядома, срэбра. Можа, плаціна. Старадаўнія манеты ўсе срэбныя. Або залатыя. Ці плацінавыя.

Аксана не магла не паверыць ёй. У Кацінага бацькі была цэлая калекцыя самых розных манет, і, вядома, Каця разбіраецца ў гэтым ва ўсялякім разе лепш за яе, Аксану. Манеты ляжалі ў маленькіх скрыначках пад шклом, кожная манета ў асобным квадрацiку. Але бацька, з тых часоў, як звольніўся з завода, дзе працаваў інжынерам, і ўзяўся, паводле Кацiных слоў, "рабіць сапраўдныя грошы", сваёй калекцыяй зусім перастаў цікавіцца — яму проста не хапала часу. Калі-нікалі Каця з Аксанаю нават без дазволу бралі скрыначкі і гулялі з манетамі.

Але такую, якую падаравала ёй цяпер Каця, Аксана ў калекцыі не бачыла.

## Раздзел 3
## У завуча

Завуч Андрэй Адамавіч і на выгляд, і па гадах быў маладзейшы за Аксанінага бацьку. Чамусьці ён саромеўся сваёй маладосці, таму і з вучнямі, і з іх бацькамі заўсёды стараўся размаўляць строга, нават сярдзіта. Яму здавалася, што за строгасць і сярдзітасць яго будуць больш паважаць.

Коратка падстрыжаны, румяны, да бляску на твары паголены, у малінавага колеру пінжаку і ў бялюткай кашулі, без гальштука, падобны больш на банкаўскага служачага ці на біржавага маклера, але ніяк не на настаўніка, Андрэй Адамавіч сядзеў за сталом і пакручваў у сваіх дагледжаных пальцах тонкі аловак. Гаворачы, ён пазіраў не на бацьку, а ў акно.

Бацька прыляпіўся на крайнім ад стала крэсле. Раз-пораз ён здымаў акуляры, вінавата хукаў на шкельцы, праціраў іх насоўкаю і зноў успіраў на нос. Ён не чакаў, што завуч акажацца такім строгім, а размова — такой непрыемнаю.

— Добра, настаўніца адразу здагадалася, хто мог напісаць такую запіску,— казаў завуч,— і звярнулася не ў міліцыю, а да мяне. Хоць няцяжка ўявіць, што яна перажыла. Вы спытаеце, чаму падазрэнне адразу ўспала на вашу дачку? — працягваў завуч, хоць бацька нічога не пытаў— Адкажу. Акрамя Аксаны ў класе проста больш няма каму прыдумаць такое. Хто прынёс у школу прыблуднага

ката і выпусціў яго на ўроку геаметрыі? Аксана Гамола. Хто прыдумаў працягнуць ад дошкі да задняе парты тонкую лёску, аб якую настаўніца батанікі пабурыла прычоску, акрамя таго, так напалохалася, што не змагла весці ўрок? А хто запіхнуў у скрыначку для крэйды шпульку, сцягнутую гумаю, і калі настаўнік матэматыкі пачаў адчыняць скрыначку, яна затрашчала і заскакала ў яго руках? Тут і чалавека з моцнымі нервамі можна давесці да інфаркту, не кажучы пра слабага здароўем, пажылога настаўніка... Потым, прабачце, вашая дачка ўвесь час хлусіць. Варта ёй спазніцца ў школу або не вывучыць урок, як яна з самым нявінным і праўдзівым выглядам паведамляе, што ў вашым двары быў землятрус, паводка, пажар, што ў вашую кватэру ўламаліся рабаўнікі, што да вас прыехалі госці з Канады, што вы нібыта паехалі ў археалагічную экспедыцыю ў Бразілію і пакінулі яе адну...

— Я не хачу абараняць Аксану,— пакашляўшы, адважыўся ўступіць у дыялог бацька,— але фантазіі звычайна ўласцівыя ўсім здаровым дзецям...

— Асабліва калі пад фантазіямі разумець запіскі настаўнікам аб выкраданні іхніх дзяцей. Або званкі ў школу, што школа замініраваная.

— Хіба? — ускінуўся бацька.

— Вось бачыце, вы нават мала здзівіліся. На шчасце, такіх званкоў пакуль не было. Але калі б такі званок, не дай бог, здарыўся — паверце, у першую чаргу ўспомнілі б пра вашую дачку.

— Што ж, мне яе забіць? — прамовіў раптам бацька, з такой стараннасцю выціраючы шкельцы акуляраў, што пад ім зарыпела крэсла.

— Не зразумеў,— падняў бровы завуч.

— Нічога, гэта я так... Кажу, я згодзен з вамі.

Завуч памаўчаў.

— Вы не спяшаецеся? — спытаў ён.

Бацька зірнуў на гадзіннік. Да аўтобуса яшчэ было часу.

— Не, я вас слухаю, Андрэй Адамавіч.

— Цудоўна. Дык вось, я даўно збіраўся пагаварыць з вамі, як цяпер, сам-насам, ды ўсё неяк не выпадала. Разумею, што, магчыма, закрану тэму, якая непрыемная вам,— завуч паспрабаваў пальцам вастрыё алоўка,— але прашу зразумець і мяне: я не чужы чалавек, а педагог, таму пэўная доля адказнасці за паводзіны і выхаванне вашай дачкі кладзецца і на мяне таксама. Зрэшты, вы маеце поўнае права не адказваць, калі я закрану якіясьці далікатныя моманты вашага асабістага жыцця.

— Калі ласка, я вас уважліва слухаю.

— Як даўно вы развяліся з жонкаю — Аксанінаю маці?

— Пяць гадоў назад.

— Так... Выходзіць, практычна з першага класа ўсе свае школьныя гады дзяўчынка без жаночай увагі.

Крэсла пад бацькам зноў жаласліва зарыпела.

— Як правіла, дзеці з няпоўных сем'яў пакутуюць або ад недахопу ўвагі да іх, або ад залішняй увагі, калі іх занадта шкадуюць і песцяць,— разважаў далей Андрэй Адамавіч, не заўважаючы, што твар бацькаў мяняецца, з вінавата-ветлівага робіцца ўсё больш панурым.— Іншымі словамі, такія дзеці бываюць разбэшчанымі.

— І да якога з гэтых двух варыянтаў вы адносіце Аксану?

— Вось гэта мы зараз і высветлім. Вы, калі не памыляюся, археолаг?

— Не памыляецеся. Археолаг, кандыдат гістарычных навук.

— Ці не маглі б вы коратка апісаць расклад вашага працоўнага дня?

— Ну, раніцай прачынаюся, раблю зарадку, прымаю душ, гатую сняданак, буджу Аксану, збіраю яе ў школу, еду ў акадэмію... Вам цікава гэта? — спытаў раптам бацька.

— Вядома! Далей, калі ласка.

— У акадэміі я працую ў лабараторыі, з экспанатамі, або ў архіве, на кафедры... У пяць-шэсць гадзін вечара вяртаюся, Аксана ўжо дома, або гуляе, ці ў сяброўкі. —

— Так, або гуляе, ці ў сяброўкі... А як вы праводзіце выхадныя?

— Увосень ездзім за горад у грыбы, зімою — на лыжах, ходзім гуляць у парк Чэлюскінцаў, у Батанічны сад, ездзім да маёй маці — Аксанінай бабулі — у Бярэзінскі раён...

— Да якой і сёння сабраліся?

— Так.

— Скажыце, а дзе цяпер ваша былая жонка?

— Тут, у Мінску. У яе цяпер свая сям'я і свае дзеці.

— Аксана наведвае яе?

— Я не забараняю дачцэ рабіць гэта,— панура адказаў бацька.

— Зразумела, але ці часта Аксана бывае там?
— Рэдка. Ёй не падабаецца там.
Самому бацьку таксама ўсё менш і менш падабалася гэтая "педагогіка", якая нагадвала нейкі допыт. Але ён мусіў цярпець і адказваць на пытанні. Вінаватая Аксана? Вінаватая. Мае права завуч школы разабрацца ў сямейных праблемах сваёй вучаніцы, каб потым лепш яе выхоўваць? Мае і нават абавязаны.
— А як вы праводзіце лета? — дапытваўся Андрэй Адамавіч.
— Лета...— Бацька сумеўся.— З летам такая сітуацыя: бачыце, мне абавязкова патрэбна хоць раз на год выязджаць са студэнтамі ў экспедыцыі і проста на раскопкі... Так што дачка кожнае лета жыве ў бабулі.
— Ага. Тады вось што мы маем,— завуч падняў аловак тупым канцом уверх,— улетку, калі найлепш наладжваюцца кантакты паміж бацькамі і дзецьмі, дзяўчынка праводзіць канікулы сама па сабе. З другога боку,— аловак перакруціўся тупым канцом уніз,— бабуля дорыць дзяўчынцы жаночую ласку, спагаду, тое, што не можа даць маці.
Цярпенне ў бацькі канчаткова лопнула.
— Андрэй Адамавіч,— рашуча аб'явіў ён, падняўшыся,— я паважаю вашу педагагічную практыку і абяцаю прыняць яе да ведама. А пакуль хай усё застаецца, як і раней. Хай мая дачка будзе такой, якая ёсць, і буду выхоўваць я яе так, як палічу патрэбным. Дарэчы, настаўніца замежнай мовы не сказала вам, чаму Аксана магла напісаць ёй такое?
— Не.— Завуч утаропіўся ў бацьку, нібы ўпершыню бачыў, і ад здзіўлення нават адклаў убок аловак, які не выпускаў з пальцаў падчас усяе гутаркі.
— Вельмі кепска. Некаторыя настаўнікі маюць патрэбу ў выхаванні не менш за вучняў... Дык я пайду?
У гэты момант на калідоры празвінеў званок з урока. Бацька, кіўнуўшы завучу на развітанне, выйшаў. З другога паверха акурат спускаўся гісторык Барыс Рыгоравіч з журналам і ўказкай пад пахаю. Бацька спыніўся пачакаць яго. З прачыненых дзвярэй кабінета выйшаў і завуч.
— А! — усклікнуў Барыс Рыгоравіч, убачыўшы бацьку.— Міхась, як жа вы так знянацку пакідаеце нас? Што здарылася?
— Нічога,— здзівіўся бацька.— Вось вырашылі выбрацца на выхадныя ў вёску, адведаць старую.
— Як на выхадныя? Толькі што Аксана прыйшла на ўрок і развіталася, сказала, што вы назаўсёды з'язджаеце з Мінска, яна кідае школу...
Завуч, які ўсё чуў, глядзеў на збянтэжанага, пачырванелага бацьку і дакорліва ківаў галавою. "Не хацелі слухаць мяне, дык вось атрымлівайце",— гаварыў увесь яго выгляд.

## Раздзел 4
## Талер

Да самага аўтавакзала бацька не прамовіў ні слова. Маўчала вінавата і Аксана. Звычайна ёй сыходзіла з рук дужа многае, але цяпер яна разумела, што неўпрыкмет, загуляўшыся, пераступіла нейкую мяжу, якая аддзяляе гульню ад дарослага жыцця з яго правіламі. Яна парушыла гэтыя правілы, ступіўшы са сваёй тэрыторыі, са свайго дзіцячага, зразумелага, вясёлага, поўнага выдумак і фантазій свету ў свет дарослых, дзе ўсё так рэалістычна, суха, нецікава...
Калі ж, пачакаўшы трохі на гаманкім, людным у гэтыя перадвыхадныя дні пероне, яны з бацькам уселіся ў мяккія, зручныя, у самым перадзе, крэслы "Ікаруса", Аксана міжволі забыла пра сваю віну і прыліпла тварам да акна. Наперадзе была дарога.
Бацька азірнуўся, каб не пачулі суседзі, і ціха прамовіў:
— Вось як з табою гаварыць? Як табе хоць чаму-небудзь верыць? Я абараняў цябе ў завуча, заступаўся, але цяпер шкадую аб гэтым. І цяпер я веру яму. Веру, што ты самая горшая, самая разбэшчаная, самая хлуслівая з усяго класа. І цяпер я ўсур'ёз падумаю, ці патрэбна ты, такая, бабулі?
— А дзе ж я дзенуся? — крыху напалоханая такім тонам, павярнулася да бацькі Аксана.
— Мне давядзецца не ехаць ні ў якую экспедыцыю. Будзем сядзець разам у горадзе цэлае лета.
Дзяўчынка памаўчала, тады спытала ціха:
— Тата, скажы, ты хацеў бы, каб я была не такая, як ёсць?
— Вядома. Я хацеў бы, каб мая дачка была ціхая, акуратная, ветлівая, не хлусіла, не рабіла мне на кожным кроку сюрпрызаў...
— А вось я ніколі не хацела сабе іншага бацькі...— і голас у яе раптам задрыжэў, а на вачах паказаліся слёзы.
Бацька закашляўся. Прайшла мо хвіліна.
— Аксана,— яго рука легла дзяўчынцы на плячо, але Аксана выкруцілася.— Э-э, ды ў цябе слёзы...

Ну, вытрыся, людзі пазіраюць...

— Хай пазіраюць!

— Вазьмі вось насоўку... Ну, хочаш, мір? Я вінаваты... Я ж разумею цябе, усе твае выдумкі, але іншыя гэтага не разумеюць... І ты павінна лічыцца з іншымі... Ну, мір?

Аксана, не адказваючы, прыкінула: лепш яшчэ крыху пашкадаваць сябе і паплакаць, пабыць насупленай і пакрыўджанай ці лепш круціцца, глядзець у акно, на пасажыраў і задаваць бацьку розныя пытанні? Другое было цікавейшае. Яна выцерла татавай насоўкаю вочы і шчокі, усміхнулася, працягнула бацьку адзін палец. Так яны звычайна мірыліся.

— Але абяцай, што ніколі не будзеш больш хлусіць, пісаць настаўнікам запіскі, адключаць тэлефон...

— Ніколі! — з самым чыстым сумленнем адказала Аксана і адразу ж павярнулася да акна, бо аўтобус у гэты момант загурчэў і крануўся з месца.

Такім чынам, і гэтая непрыемнасць мінулася. Усё ззаду. Усё забыта. Цяпер можна жыць толькі тым, што навокал, што бачыш, чуеш...

Беглі назад і недзе далёка там заставаліся мінскія дамы і вуліцы, трамваі, тралейбусы, людзі на прыпынках... І вось аўтобус вырваўся за гарадское кальцо, нібыта ў іншы свет; ударыў у вочы ўсяго адзін колер — зялёны. Прыдарожныя дрэвы, палі, палянкі, пералескі — цэлае мора яркай травеньскай зяляніны!

Як здорава было б ехаць цяпер цягніком... У цягніку нібы хата. Там можна выйсці ў тамбур, можна спаць, можна схадзіць у прыбіральню — і ўсё адно ехаць. Можна залезці на верхнюю паліцу, высунуцца ў расчыненае акно, каб студзіла твар, каб задыхацца ад свежага пахучага ветру. Там столік, на якім можна раскласці вараныя яйкі, смажаную куру, памідоры — есці і адначасова ехаць.

А ў аўтобусе душна. Нават люк уверсе адчыняць нельга — у аўтобусе малыя дзеці. Адзіная радасць — можна сядзець, а можна, прыціснуўшы кнопку ў падлакотніку, апусціць спінку крэсла і ляжаць.

Не, усё ж і ў аўтобусе някепска. Ты сядзіш або ляжыш высока і ўсё бачыш. І яшчэ здаецца, што аўтобус едзе хутчэй, чым цягнік. І яшчэ тут ціха. Усе дрэмлюць, і бацька таксама, забыўшы зняць акуляры, смешна дзюбае носам... А што, калі ўявіць, што яны з бацькам сапраўды едуць назаўсёды? І ніколі не ўбачаць больш любімага горада, іхняга дворыка, кватэры, гастранома на рагу іхняй вуліцы, школы, аднакласнікаў... Аксана аж уздрыгнула ад такіх думак. Добра, што гэта толькі ўяўленні, а на самай справе пaслязаўтра яны вернуцца, яна адразу патэлефануе Каці ці проста пойдзе да яе...

Успомніўшы Кацю, Аксана згадала і пра яе падарунак — манету. Хуценька сунула руку ў адну кішэню, у другую — пуста! З гэтых нязручных неглыбокіх кішэняў у шортах заўсёды ўсё губляецца!.. Але ж яна нідзе не сядзела... У вестыбюлі ў школе, чакаючы бацьку, стаяла. Да вакзала ішлі пешкі. Толькі тут, у аўтобусе...

Дзяўчынка нагнулася і агледзела падлогу пад нагамі, пасля прыціснулася шчакою да цёплай сценкі і зазірнула ў шчыліну паміж сядзеннем і сценкаю аўтобуса. Няма... Ад адчаю яна зноў гатовая была заплакаць. Што яна скажа Каці? Згубіла яе падарунак, не паспеўшы ад'ехаць ад Мінска... Ну, чаму было не трымаць манету ў кулаку ці не пакласці ў сумку?!

Між тым рукі дзяўчынкі ляпалі вакол па сядзенні... вось жа яна! Манета спакойна ляжала сабе на крэсле, Аксана сядзела на ёй.

— Што ты круцішся? — сонна азваўся бацька.

— Тата,— штурхнула яго пад бок Аксана,— тата, ну не спі!.. Паглядзі лепш, што гэта? Срэбра?

Бацька, беражлівым рухам чалавека, звыклага мець справу са старадаўнімі рэчамі, узяў манету двума пальцамі. Санлівасць адразу знікла з яго твару. Ён зняў акуляры і, трымаючы іх на некаторай адлегласці ад вачэй, нібы лупу, уважліва, з двух бакоў агледзеў манету.

— Гэта Каця дала табе?

Здавалася, што магло быць прасцей, чым адказ — "Так, Каця". Але ж гэта нецікава... Дужа будзённа.

— Я знайшла яе на пустцы, за школаю. Калі ўвесну саджалі дрэвы, капалі ямкі...

— Сур'ёзна? Аксана, ты абяцала ніколі не хлусіць. Дзяўчынка пакруцілася ў крэсле.

— Ну, добра, Каця дала,— пакорліва прызналася яна.

— Вось так лепш. Можа, ты сама паступова пераканаешся, што гаварыць праўду і лягчэй, і прасцей, і больш выгодна, урэшце. Што да манеты... Я, вядома, не нумізмат, але сёе-тое магу табе расказаць.

— Гэта срэбра? — Аксане найперш карцела даведацца пра самае, як ёй здавалася, важнае.

— Не, наўрад ці. Хутчэй за ўсё гэта падробка. Справа ў тым, што сапраўдных такіх манет на тэрыторыі Беларусі вядома ўсяго восем, затое падробак — незлічонае мноства. Магу дакладна сказаць, што гэта — талер, па-іспанску патагон...

— Патагон? Такое непрыгожае слова?

— Непрыгожых слоў не бывае. Іспанцам, можа, некаторыя нашы беларускія словы таксама здаюцца непрыгожымі... Непрыгожыя толькі непрыстойныя словы. Дык вось, гэта талер іспанскага чакану — бачыш "HISP" каля рубца? А вось гэты ўзор на пярэднім баку азначае дзве паліцы — булавы па-беларуску — Геракла, і ў Беларусі ў XVI стагоддзі такія талеры называлі крыжовымі — бачыш, яны ўтвараюць крыж?..

Аксана была расчараваная. Манета аказалася ўсяго толькі падробкаю. А ўсё іншае, звязанае з гісторыяй гэтага талера, дзяўчынку цікавіла значна менш.

— Глядзі, Чэрвень,— перабіўшы бацьку, паказала яна ў акно. Сапраўды, аўтобус якраз падрульваў да перона перад прыгожым будынкам з надпісам "Аўтавакзал".

— Стаянка дваццаць хвілін! — аб'явіў у дынамік вадзіцель.

**Раздзел 5**
**Пачынаюцца загадкі**

У Чэрвені Аксана раптам закапрызнічала. Бацька дастаў бутэрброды з каўбасою, працягнуў адзін дачцэ.

— Я не магу ўсухамятку. Хачу піць. І хачу чагосьці гарачага, хоць піражка з капустаю, ці чэбурэк, ці піццу...

Бацьку давялося хутчэй даядаць бутэрброд і ісці ў вакзальны буфет. Следам выбралася з аўтобуса і Аксана. Агледзелася — ого, аж чатыры міжгароднія аўтобусы, акрамя іхняга, і яшчэ два "пазікі". Абышла ўсе аўтобусы, прачытала ўсе шыльды. Чым бы яшчэ заняцца? Услед за іншымі пасажырамі падалася праз прывакзальную плошчу, за якой віднеўся невялікі крыты базарчык. Паблукала там між радоў, удыхаючы самыя розныя пахі ранняй садавіны і гародніны, ізноў, як і дома ў Мінску, падзівілася — адкуль гэта ўсё? Ну, бананы, вішні, чарэшні, апельсіны, лімоны — гэта, зразумела, прывозяць з поўдня. Але адкуль у бабак, яўна мясцовых, свежыя памідоры і гуркі ў травені месяцы? З парнікоў? Ці проста скупляюць усё на вялікім гарадскім базары і тут перапрадаюць?..

— Колькі каштуе адзін гурок? — спытала яна ветліва. Згорбленая, у чорнай хустцы старая, з валасатымі бародаўкамі на зморшчаным вузкім твары, падобная на чараўніцу з казкі "Карлік Нос", злосна зірнула на яе і нічога не адказала, толькі чамусьці бліжэй да сябе падсунула кош з гуркамі.

— Гурочка хочаш, дзіцятка? — абазвалася збоку другая бабуля, таксама прыгорбленая і таксама ў чорнай хустцы, але зусім не страшная. І голас добры. — А грошыкі ў цябе ці ёсць?

— Няма... Я сірата,— вырвалася ў Аксаны міжволі.— І два дні нічога не ела, — для поўнай перакананасці дадала яна.

— Маё ты дзіцятка... На, еж на здароўе,— бабка выбрала з вядра самы лепшы гурок, абцерла яго фартухом і падала дзяўчынцы.

Малады чалавек у белай кашулі, з кароткай прычоскай, як у завуча Андрэя Адамавіча, купляў побач вішні. Пры словах Аксаны, што яна "сірата", ён з нейкай нядобрай цікавасцю паглядзеў на яе.

Хрумстаючы салодкім гурком, дзяўчынка выбралася з базару, падышла да газетнага кіёска, што стаяў у канцы перона, пачала разглядаць часопісы. Раптам спіною яна адчула на сабе нечы позірк. Павярнулася — за тры крокі ад яе стаіць незнаёмы "завуч" з папяровым пакецікам у руцэ, есць вішні, выплёўвае костачкі сабе пад ногі і моўчкі глядзіць на яе. Ёй не спадабаўся гэты пагляд. Яна адвярнулася да кіёска.

— Дзяўчынка, хочаш вішняў? — ступіўшы бліжэй, сказаў чалавек непрыемным, хрыпатым голасам. Непрыемным гэты голас быў ужо толькі таму, што належаў чужому дарасламу дзядзьку, несімпатычнаму Аксане. Не толькі голас, а і прычоска, і адзенне — усё ў ім здавалася ёй непрыемным.

— Не хачу,— адказала яна. Паблізу, як на тое, нікога не было.

— Дык ты сірата? — не адставаў чалавек.— А дзе ты жывеш?

Аксана прамаўчала, паказваючы, што не мае ніякага жадання ўступаць з гэтым чалавекам у сяброўскія размовы.

— А хочаш на машыне з намі пакатацца? У Мінск?

— Не хачу.

— А можа, хочаш? Падумай. Пакатаешся вось на гэтай машыне, замежнай, прыгожай,— чалавек паказаў на цёмна-сінюю "Аўдзі", што прыткнулася паблізу базарчыка.

Аксана гмыкнула. За каго ён яе прымае? Ды яна яшчэ з першага класа ведае, што ад такіх, як гэты, трэба трымацца далей: не адказваць на пытанні, ніколі не пытацца аб нечым самой, не заходзіць з такімі разам у ліфт, нават у пад'езд... Ды яна, можа, больш за яго ведае розных гісторый, калі дзяўчынак заманьвалі або проста выкрадалі, звозілі некуды... У школе нават спецыяльныя заняткі ёсць, дзе ім,

дзяўчынкам, расказваюць пра гэта і вучаць асцярожнасці з незнаёмымі.

Аксана даела гурок, выкінула хвосцік у сметніцу каля кіёска. Тады, скоса пазіраючы на незнаёмца, дастала з кішэні талер і, каб паказаць, што яна ніколькі нікога не баіцца і таму можа рабіць тое, што рабіла б, калі была б адна, пачала драпаць рубцом талера па драўляным, пафарбаваным у чырвоны колер прылаўку кіёска. На прылаўку хтосьці паспеў пакінуць ужо след — славянскімі літарамі было надрапана "ай лав ю".

— Дзяўчынка, ты што хуліганіш?! — прыкрыкнуў на яе кіяскёр.— Ану, адыдзі!

Аксана неахвотна паслухалася, адступіла, заціснула манету ў кулак.

У машыне між тым апусцілася бакавое шкло, высунулася лысая галава ў цёмных акулярах, і голас крыкнуў, звяртаючыся да незнаёмца:

— Сева, колькі цябе можна чакаць!

Але Сева, убачыўшы манету, застыў як акамянелы. Ён не павярнуўся на вокліч і нават забыў выплюнуць вішнёвую костачку, а калі сабраўся ўрэшце загаварыць, падавіўся і пачаў адплёўвацца.

— Адкуль... гэта ў цябе?! — неяк спалохана спытаў ён, калі адкашляўся, падступаючы да дзяўчынкі.

— Адтуль,— дзёрзка адказала Аксана. Сева аблізаў вусны. — Прадай мне гэтую штуку... Ці хоць бы пакажы. Я табе вось... пяць даляраў дам! — і ён пачаў шнырыць па кішэнях, не зводзячы з дзяўчынкі вачэй.— Хочаш пяць даляраў?

— Не хачу.

— А дзесяць? — і сапраўды, у яго руцэ з'явілася дзесяцідаляравая купюра.

— Не хачу.

— А дваццаць? Дваццаць сапраўдных амерыканскіх "баксаў"!

— Не хачу.

Сева памаўчаў, тады прыжмурыўся, выціснуў праз зубы:

— Ты, я гляджу, хочаш дужа многа...

— Сева!

Лысы, не дачакаўшыся сябра, вылез з машыны і падышоў да кіёска. Быў ён нізкі, тоўсты, у цёмных круглых акулярах і лысы, як бубен.

— Ну, што такое тут?

Сева моўчкі адвёў яго ўбок, за кіёск. Аксане ўдалося пачуць:

— Клянуся... яна з сабою... талер!..

— Быць не можа! — гучна сказаў лысы.— Адкуль? І як ты мог разгледзець? Ты трымаў яго ў руках?

— ...На зрок не скарджуся...

Аксана, у сваю чаргу, не скардзілася ні на слых, ні на зрок, але Сева гаварыў так ціха, ледзь не шаптаў. Затым перайшоў на шэпт і лысы. Але і таго, што дзяўчынка пачула і зразумела, было дастаткова.

Вось дык гісторыя!.. Ясна, гэта няпростая манета... Як яны ўскінуліся! Даваць дваццаць даляраў... А калі б яна запатрабавала больш, далі б, відаць, і больш... Навошта ім гэтая манета? Калекцыянеры? Але ж тата сказаў, што гэта падробка... А калі ён памыліўся? І талер гэты сапраўдны, адзін з тых васьмі, што захаваліся на Беларусі?

Усхваляваная загадкаю, Аксана цяпер пашкадавала, што не захацела даслухаць бацьку. Нічога, яшчэ цэлую гадзіну ехаць, і зараз яна распытае пра ўсё.

Дзяўчынка павярнулася і пайшла да аўтобуса. На паўдарозе азірнулася — незнаёмцы моўчкі, з рашучымі тварамі даганялі яе. Яна нават крыху спалохалася. Але да аўтобуса было зусім блізка. Каля аўтобуса таптаўся бацька з бутэлькаю пепсі-колы і з нейкім пакункам у руках. Ён разгублена круціў галавою, выглядаючы дачку.

У той час, калі Сева збіраўся ўжо схапіць дзяўчынку за плячо, бацька заўважыў яе:

— Дзе ты бадзяешся?! Аўтобус ад'язджае!

Сева з лысым застылі. Дзяўчынка, аказваецца, зусім не бяздомная... І не мясцовая.

Аксана прымасцілася на сваім месцы каля акна. Запіваючы гарачы піражок з капустаю халоднай, смачнай пепсі-колай, адчуваючы тут сябе ў поўнай бяспецы, дзяўчынка незаўважна ад бацькі паказала сваім дзіўным "знаёмцам" язык. Яны стаялі насупраць акна, штосьці ўзбуджана адзін аднаму даказвалі і на яе дзіцячую праяву пагарды да іх не звярнулі ўвагі.

Калі аўтобус крануўся, Аксана ўбачыла, як Сева з лысым подбегам кінуліся да сваёй цёмна-сіняй "Аўдзі".

**Раздзел 6**
**Крыху гісторыі**

Ізноў паплылі за акном аўтобуса зялёныя малюнкі веснавой прыроды. Сонца то хавалася ў рэдкіх светла-шэрых хмарах, то весела выглядала з-за іх, бы гуляла ў хованкі. Манатонна гурчэў матор. І зноў бацька, які і не здагадваўся пра гісторыю з Аксанаю на вакзале, сабраўся падрамаць.

Але цяпер Аксана цвёрда вырашыла даведацца ад яго пра манету ўсё, што можна.

"Расказаць яму пра тых, на вакзале? — падумала яна.— Не, лепш пазней... Бо пачнуцца роспыты — што, ды як, ды чаму... Тады давядзецца расказаць і пра "сірату", і пра гурок, і пра тую нядобрую цікавасць да яе Севы пасля слова "сірата"..."

— Тата, не драмі, калі ласка! — Аксана тузанула яго за рукаво.— Ты недагаварыў!

— А, пра манету? Ну, дай яе.

Дзяўчынка падала яму талер. Бацька паклаў манету на далонь, нібы ўзважваючы.

— Што ж, мне прыемна, калі ты так раптоўна пачала цікавіцца гісторыяй,— сказаў ён.— Можа, менш часу застанецца на розныя глупствы.

Аксана апусціла вочы. На гэты раз яна і не падумала апраўдвацца або крыўдаваць.

— Ты ж ведаеш,— сказаў бацька,— што мая справа найперш — старадаўняя архітэктура, у манетах я невялікі знаўца. Але гэтая гісторыя амаль хрэстаматыйная, яе ведае кожны, хто цікавіцца даўніною. Дарэчы,— прыпомніў бацька,— ты ж можаш звярнуцца да Кацінага бацькі, Ігара Валянцінавіча! Папытайся ў яго, калі вернемся ў Мінск.

— Ён даўно не цікавіцца манетамі,— сказала Аксана.— Аддаў Каці ўсю калекцыю.

— Тады папытайся ў вашага гісторыка, Барыса Рыгоравіча. Вось хто раскажа табе і цікавей, і больш падрабязна, чым я. Помню, некалі ў маладосці, яшчэ студэнтамі, яны з сябрам да таго захапіліся гэтай легендаю, што днямі не вылазілі з архіва...

— Ты сказаў — легендаю?

— Ну, так. Гісторыя з манетамі старадаўняя і даволі таямнічая. Пакуль яна дайшла да нашых дзён, дык праўды ў ёй засталося хіба з палову. А другая палова — розныя здагадкі, дадумкі, малаверагодныя выпадковасці... Дык вось, Барыс Рыгоравіч з сябрам усё вышуквалі ў архіве, у бібліятэках і краязнаўчых музеях розныя дакументы, перамалёўвалі з кніг па нумізматыцы розныя манеты, пісалі запытанні ў архівы і музеі іншых гарадоў, у тым ліку нават у Парыж!..

— І што яны хацелі знайсці?

— Ні многа ні мала — скарб з часоў напалеонаўскага нашэсця. Але самае цікавае, шукалі ў гэтых мясцінах, куды мы зараз едзем, у Паплавах.

— У нашых Паплавах?! Дзе жыве бабуля?

— Уяві сабе. Гісторыя з талерамі заканчваецца менавіта тут. Хоць чаму здзіўляцца? — французская армія, адступаючы з Масквы, аказалася заціснутай рускімі акурат у гэтым трохкутніку, дзе і нашыя Паплавы, — паміж Талачыном, Халопенічамі і Барысавам. І перапраўляліся французы праз Бярэзіну, вядома ж, не ўсе ў адным месцы, а дзе можна і дзе зручней было... Але давай я лепш раскажу па парадку, Аксана, каб самому не заблытацца. Ты не перабівай, калі ласка...

Зацікаўленая, узбуджаная Аксана, аднак, не змагла не перабіць:

— Хіба і цяпер яшчэ ёсць скарбы?

— Былі, ёсць і будуць,— абыякава, бы пра штось будзённае сказаў бацька.— Мы не знайшлі і адной сотай ад тых багаццяў, што схаваны ў зямлі, у вадзе, у балотах адной толькі нашай Беларусі. Ты ведаеш, у нас амаль кожны год знаходзяць да дзесятка буйных скарбаў і незлічонае мноства асобных манет.

— Праўда?! — аж не паверыла Аксана.— А я думала, скарбы гэтыя даўно павыкопвалі і яны засталіся толькі ў кнігах і фільмах.

— Справа ў тым, што зямлі чужога не трэба. Яна выштурхоўвае, выпірае з сябе ўсё, што ёй шкодзіць: каменні, метал — адпаведна, і скарбы... Іншае, скарбы гэтыя не кожнаму даюцца ў рукі. Мне вось ні разу не патрапіўся, хоць я і археолаг, столькі ў зямлі перакапаўся!.. Нават ведаючы месца, дзе прыблізна схаваны скарб, можна гадамі яго шукаць — і ўсё марна; а можна чыста выпадкова, капаючы свой агарод, натрапіць на які гладыш з золатам. Часцей за ўсё так і бывае. Паводле статыстыкі, скарбы знаходзяць або людзі выпадковыя, або дзеці.

Бацька зірнуў на дачку і ўсміхнуўся.

— Не верыш? — спытаў ён.— Вазьмі таго ж Барыса Рыгоравіча. Яны з сябрам распрацавалі нейкі план, склалі нейкія карты, Барыс Рыгоравіч многа разоў прыязджаў сюды, у Паплавы, чагосьці вымяраў, капаўся ў зямлі... Нічога!

— А чаму Барыс Рыгоравіч прыязджаў адзін, без сябра? Можа, проста скарб не даваўся яму ў рукі, а сябру — даўся б?

— Не, сябра не мог. Ён інвалід з дзяцінства, ходзіць на мыліцах... Дарэчы, цяпер ён працуе ў тым жа архіве, дзе некалі студэнтам праседжваў днямі.

Аксана раптам адчула радасць, што Барыс Рыгоравіч з ягоным сябрам так і не знайшлі скарб. Яна паглядзела ў акно. Аўтобус праязджаў мост праз рачулку. З аднаго боку рачулка ўся хавалася ў лазовых зарасніках, перасякала пад мостам шашу і бегла, звіваючыся, зялёным роўным полем, за якім відаць быў лес.

Зусім іншымі вачыма дзяўчынка пазірала на ўсё гэта цяпер, пасля расказу бацькі. Цяпер гэтая рачулка, і поле, і лес, і ўвогуле ўся зямля, па якой яны ехалі, уявіліся ёй нібыта сейфам. Сейфам, які час ад часу адчыняе свае дзверцы выпадковым людзям і дзецям... Дзецям — значыць, і ёй, Аксане!

І дзяўчынцы ўбачылася цёмная ноч... Шчарбаты месяц хаваецца ў аблокі... Крык савы... Прыглушаныя галасы, гучны трэск галінкі пад нагою... Стук рыдлёўкі аб штосьці... Гаршчык, аплецены паржавелым медным дротам, заліты зверху воскам... Бляск залатых манет у слабым месячным святле...

Цэлае лета было наперадзе, а ў далоні быў заціснуты талер, які абяцаў разгадку старадаўняе тайны. У дзяўчынкі соладка, радасна і чамусьці крыху неспакойна білася сэрца.

Наперадзе было цэлае жыццё, якое абяцала такія цікавосткі і прыгоды!..

## Раздзел 7
## Яшчэ крыху гісторыі

— Дык вось, слухай,— пачаў бацька. Голас яго зрабіўся ў нечым падобны да голасу Барыса Рыгоравіча, калі той пачынаў распавядаць ім, вучням, розныя эпізоды з гісторыі, не звязаныя са школьнай праграмаю. Такім голасам — шчырым, даверлівым — звычайна дзеляцца з блізкімі сябрамі чымсьці запаветным, дарагім, бы адкрываюць нейкую сваю таямніцу.

— Калі з трынаццатага па васемнаццатае стагоддзе нашая Беларусь была магутнай незалежнай дзяржаваю, Вялікім Княствам, калі асноўнай моваю была беларуская, калі мы мелі свае законы, сваё войска, у нас, як ні дзіўна, напачатку зусім не было сваіх грошай, калі не лічыць малюсенькія срэбныя манеткі — дэнарыі — вагою менш за адзін грам. Толькі пазней змаглі наладзіць выпуск сваіх талераў, якія чаканіліся ў Гродне. Напачатку ж карысталіся манетамі іншаземнымі, "імпартнымі", якія пастаўляла ў Вялікае Княства амаль уся Заходняя Еўропа,— шылінгамі, дукатамі, дырхемамі, гэтак званымі "чэшскімі грошамі"... І вось настала шаснаццатае стагоддзе — самае цяжкае для Княства. Пачалася Лівонская вайна з Масковіяй, і цягнулася яна з перапынкамі амаль дваццаць пяць гадоў; адначасова вымушаны былі адбівацца ад шведаў і крымскіх татараў. Спачатку нашы ваявалі ўдала, але ворагаў было куды больш. Да таго ж вайна спусташала казну. Тады Жыгімонт ІІ Аўгуст, які стаяў тады на чале Княства, успомніў, што некалі яго маці, неапалітанская прынцэса Бона Сфорца, пазычала іспанскаму каралю Філіпу значную суму дукатаў, але вяртання доўгу не дачакалася, бо памерла. Натуральна, Жыгімонт запатрабаваў цяпер ад іспанскага караля гэтыя грошы. Кароль вярнуў, прычым частка доўгу была вернута вось такімі, як твой, талерамі іспанскага чакану

— Вось адкуль яны ў нас,— прамовіла дзяўчынка.— А я думала, у нас заўсёды былі толькі царскія, рускія грошы. Калі з Кацяю разглядалі калекцыю, я думала, гэта ўсе замежныя манеты. Гэта ж дзе Іспанія, а дзе Беларусь!

— Беларусь, дачка, зусім не такая бедная і не такая простая, як многія, і не толькі дзеці, прывыклі лічыць,— заўважыў бацька, на гэты раз чамусьці з сумам у голасе.— Але паслухай далей! Праз год талеры іспанскага чакану былі цалкам выкуплены ў насельніцтва. Іх пачалі выкарыстоўваць як сыравіну для вырабу сваіх, вялікакняскіх, грошай. Вось першая палова гісторыі, рэальная, пра якую табе можа расказаць кожны нумізмат,

— Ну, а далей? А другая палова?

— Далей акурат і пачынаюцца розныя легенды. Самая распаўсюджаная з іх, якую я, дарэчы, пачуў ад Барыса Рыгоравіча і якая прыводзіць у нашыя Паплавы, такая. Вядома, усе да адзінага талеры скупіць не маглі, сёй-той прыхаваў манеты. Навошта іх пакідалі ў сябе, калі за іх нічога нельга было купіць, невядома, але факт фактам: калі нейкі шляхціц з-пад Вільні, з роду Трушкаў, у якім усе былі заўзятыя калекцыянеры, зацікавіўся раптам менавіта гэтымі рэдкімі талерамі іспанскага чакану і пусціў пагалоску, што заплоціць за кожны сапраўдны талер немалыя грошы, неўзабаве з усіх куткоў Княства да яго паступіла аж каля сотні такіх манет. Сапраўдных, як вядома, аказалася ўсяго восем. Тут варта зазначыць, што род Трушкаў быў зусім не багатым і не знатным. Прадстаўнікі гэтага роду славіліся

сваім патрыятызмам, а таксама зборам рознай старадаўніны, якая б нагадвала пра былую веліч Княства; і ўсё ж найбольшая слава хадзіла аб іх як аб карцёжніках, задзірыстых дуэлянтах, п'яніцах — словам, людзях шырокай душы...

У канцы васемнаццатага стагоддзя ў валоданне родавым памесцем уступае Казімір Трушка, малады шляхціц. У спадчыну яму перайшлі занядбалы, напаўразбураны маёнтак, у пакоях якога пылілася рознае старадаўняе, струхлелае ад часу рыззё, пару дзесяцін неўрадлівай пясчанай зямлі ды столькі ж дзесяткаў сем'яў згалелых ад нястачы прыгонных сялян, акрамя таго — усе якасці "шырокай душы" продкаў Акурат як у свой час і яго бацька, і дзяды, і прадзеды, малады шляхцюк задужа любіў віно, карты, вясёлыя кампаніі і хапаўся за шаблю ці за пісталет з любой прычыны і нават без яе... У 1812 годзе дарэшты збяднелы, даўно прагуляўшы ў карты фальварак, улезшы ў тысячныя даўгі, Казімір, ратуючыся ад крэдытораў, уцякае на вайну, уступае ў адзін з палкоў напалеонаўскага войска і ўдзельнічае ў паходзе французаў на Маскву. З тых часоў сляды яго губляюцца назаўсёды...

— А талеры? — нецярпліва перабіла Аксана, якая слухала гэтую перадгісторыю не зусім уважліва.— Што сталася з талерамі?

— Дойдзем і да гэтага. Дык вось, у сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя на месцы разбуранага маёнтка Трушкаў знаходзяць скарб, дзе сярод іншых манет — пяць талераў іспанскага чакану. Складваецца вопіс, і ўсё гэта адпраўляецца ў Санкт-Пецярбург — тады Беларусь была ўжо ў складзе Расіі...

— А астатнія тры талеры? — Аксана не адступала ад свайго.

Але бацька, зірнуўшы ў акно, спахапіўся:

— Не, дачушка, няма калі, трэба збірацца! Другім разам раскажу.

Сапраўды, за акном паказаліся зялёныя квадраты дачных участкаў лецішчы, а тады і першыя хаты. Аўтобус уязджаў у прыгарадна-дачны пасёлак Паплавы.

## Раздзел 8
## Бабуля

Бацька папрасіў вадзіцеля спыніцца каля крайняй хаты.

Калі Аксана з бацькам выйшлі з аўтобуса, да іх ужо спяшалася бабуля. Анічуць не пастарэлая, лёгкая, басаногая, у белай хустачцы, у сваім любімым чысценькім фартуху, які Аксана бачыла на ёй кожнае лета і які чамусьці ніяк не зношваўся.

Бабуля прыгарнула ўнучку да сябе. На Аксану дыхнула забытым ужо прыемна-вясковым пахам свежай травы...

— А я так чакала вас! — маладым, мяккім голасам хутка загаварыла бабуля. Па яе жвавым твары беглі радасныя зморшчынкі.— І Гаспадар чакаў, мыўся ўсю раніцу!

Яна выпусціла Аксану, пацалавалася з бацькам. Пайшлі да веснічак. У канцы вуліцы паказалася машына. Бабуля, зірнуўшы на ўнучку, раптам усклікнула:

— Што з табою, Аксаначка?!

Дзяўчынка не адказала. Яна не зводзіла вачэй з цёмна-сіняй знаёмай "Аўдзі", якая хутка набліжалася да іх. Параўняўшыся з веснічкамі, машына збавіла хуткасць, паехала цішэй. За цёмным шклом кабіны Аксана ўбачыла сваіх чэрвеньскіх "знаёмцаў".

— Ты ці не хворая? — Бабуля спалохана мацала ёй лоб.

— Сапраўды, — устрывожыўся і бацька,— нават з твару змянілася...

Праехаўшы каля іх, машына зноў дадала хуткасці і паімчалася ў бок горада, знікла за паваротам.

— Не, нічога, — прамармытала дзяўчынка, адводзячы бабуліну руку — Проста закалыхала крыху ў аўтобусе...

— А вы ці елі? Можа, галодныя паехалі?

— Ды снедалі мы,— адказаў бацька, — і ў аўтобусе перакусілі. Відаць, сапраўды закалыхала, бо душна было. Галава баліць, Аксана?

— Нічога страшнага — усё прайшло!

Аксана была ўпэўнена, што машына ехала за аўтобусам знарок, каб высачыць, дзе яна, Аксана, выйдзе. Цяпер дзяўчынка адчула палёгку — машына не спынілася. Ну, і няма чаго пра гэта думаць!.. Паехалі, і хай едуць... Чаго ёй баяцца, што кепскага яна ім зрабіла? Не прадала талер? Няхай не спадзяюцца і надалей. Манета патрэбна ёй самой.

У маленькім, акуратным, зарослым густым мурагом дворыку бацька паставіў сумкі на лаўку пад кустом пахучага сіняга бэзу, сказаў бабулі:

— Вынесі нам, маці, ручнік. Спаласнемся з дарогі, у хату трэба чыстымі заходзіць.

— І праўда, я зараз! — Бабуля кінулася ў хату.

У кутку двара, каля веснічак, быў нізкі калодзеж з калаўротам. Бацька выцягнуў вядро вады, напоўніў рукамыйнік, што вісеў на слупе ля калодзежа. Аксана ўмылася. Калодзежная вада як рукою зняла дарожную ўтому. Яна ледзяніла рукі, твар і пахла, як ні дзіўна, таксама свежаскошанай травою...

Выйшла бабуля з бялюткім ручніком.

— Тата,— закрычала Аксана, забыўшыся выцерціся, — кот траву есць!

Стары рыжы кот пад плотам прынюхваўся і асцярожна, бакавымі зубамі адкусваў травіны, з асалодаю жаваў.

— Стары, лечыцца так,— патлумачыла бабуля. — Ён тут у мяне гаспадар.

— А адкуль ён узяўся? — спытала Аксана. — Тым летам не было.

— Макар прынёс, дзякуй яму. Ён мне ва ўсім памагае. А кот і стары, а бачыш, прыжыўся.

— А як яго завуць?

— Так і завуць — Гаспадар.

Бабуля жыла адна, яна аўдавела пяць гадоў назад. Аксана ледзь помніла дзеда. Помніла, што ён быў добры і падобны на бацьку, толькі меншы ростам і старэйшы. Тады яшчэ дзед з бабуляю жылі зусім у іншай вёсцы, далёка, на Гомельшчыне. Пасля, Аксана ведала з расказаў бацькі, ад блізкага Чарнобыля пайшла радыяцыя. Людзей з тае вёскі выселілі, заплаціўшы ім грошы — "кампенсацыю". Ім прапанавалі на выбар некалькі месцаў для новага жыхарства, у тым ліку і Мінск. Але пра горад старыя не хацелі і слухаць. Ім трэба была хоць якая латачка зямлі. Бацька паклаў усе свае зберажэнні да іхняе "кампенсацыі", і купілі гэтую вось хату, у Паплавах. Аксана яшчэ помніла, як маці тады сварылася, крычала на бацьку... А потым дзед захварэў, паляжаў крыху ў бальніцы ў Бараўлянах і памёр.

А бабуля прывыкла тут. У Мінску, куды яна прыязджала зімою на колькі дзён у госці, яна нудзілася, месца сабе не знаходзіла, сумавала і па той ранейшай вёсцы, і па гэтай новай, Паплавах, успамінала курэй і кабанчыка, за якімі наглядаў сусед дзед Макар... Затое колькі радасці ёй было ўлетку, калі прыязджала Аксана! Для адзінай унучкі яна не шкадавала нічога.

— Можна мне Гаспадара пагладзіць? — спытала Аксана.

— Пагладзь, ён чысты, хоць і стары.

Дзяўчынка прысела каля ката, пагладзіла па сапраўды чыстай, мяккай поўсці. Кот, не звяртаючы на дзяўчынку аніякае ўвагі, прыплюснуўшы вочы, еў траву.

— І ён вас чакаў. А ці надоўга вы? — спытала бабуля ў бацькі, які памыўся, і падала яму ручнік.

— Заўтра ўвечары паедзем.

— Ну і добра. Хадземце ў хату, за стол!

## Раздзел 9
## Двор

На абед была юшка. Самая сапраўдная, са свежае рыбы. Над талеркамі плыў такі водар, што ў Аксаны рот напаўняўся слінаю. У зацягнутым празрыста-залатым тлушчам варыве плавалі жоўтыя лісткі пятрушкі і кропу.

— Хоць у печы звараная, затое са свежай рыбы,— казала задаволеная бабуля, бачачы, што гасцям даспадобы гэты пачастунак.— Дзед Макар сёння раніцаю прынёс.

— Дзед Макар, я гляджу, табе добрая дапамога,— заўважыў бацька.

— А куды ж я адна? Аднаму цяжка, хоць ты разарвіся...

Бацька нічога не сказаў. Аксана сёрбала духмяную юшку, забываючы нават адкусваць хлеб. Калі трапляліся кавалачкі рыбы, дзяўчынка абсмоктвала косткі і давала Гаспадару, які сядзеў пад сталом і мурлыкаў на ўсю хату. Ён адчуваў, што бабуля радая гасцям, і таксама, па-свойму, радаваўся.

— Ты як бы пахудзела крыху,— сказала бабуля Аксане.— Няма маці, няма каму глядзець за табою...

— Я? Пахудзела? Наадварот, папраўілася!

Бацька і на гэтыя словы прамоўчаў. Еў спакойна, бы ўсё гэта яго не тычыцца, і глядзеў у талерку.

Аксана заўважыла: бабуля ўвесь час стараецца звесці гаворку на тое, як цяжка чалавеку аднаму, без жонкі. А ёй, Аксане, без маці. Ну, не! Яшчэ чаго! Не трэба ім з бацькам ніхто!.. Яна, Аксана, сама ўжо вялікая і амаль усё можа рабіць па гаспадарцы.

— А калі ты, унучка, ужо надоўга прыедзеш?

— Праз тыдзень, калі канікулы пачнуцца,— адказаў за Аксану бацька.— Тады і прывязу

— І надоўга?

— Гледзячы, калі сам з экспедыцыі вярнуся. Месяц тут пабудзе ці, можа, паўтара.

— Вось каб была гаспадыня дома ,— нібы сама сабе сказала бабуля,— і за кватэраю было б каму паглядзець. А так паедзеш у сваю экспедыцыю, а кватэру на каго кінуць?

— Не трэба нам ніякай гаспадыні! — не вытрымала, умяшалася Аксана.

— Так, ты паела? — строга сказаў бацька.— Тады ідзі на двор, пагуляй.

Не хочуць, каб яна слухала іхнія дарослыя размовы. Ну і не трэба. Дужа ёй цікава. Дзяўчынка выбралася з-за стала, падзякавала бабулі.

Было гадзіны чатыры дня. Сонца гэтак жа, як і з раніцы, то з'яўлялася, то знікала ў хмарах. І ўсё адно толькі тут, у вёсцы, адчувалася сапраўднае лета. А пахі!.. Пахне зямлёй, травою, кветкамі... Кветак — цэлая градка пад акном прыбудовы-веранды. За хатаю, паміж сцяною і плотам, яшчэ градка — маладога шчаўя. Аксана, хоць і была зусім не галодная, прысела на кукішкі, пачала адпраўляць у рот самыя маленькія, салатавага колеру лісточкі, якія мелі асаблівы кіславаты прысмак. Ела, аж пакуль не набіла аскоміну. Побач хадзілі куры, скоса пазіралі на дзяўчынку і, нібы дражнілі яе, таксама дзюбалі шчаўе.

Аксана ўскарабкалася на плот і агледзела такую знаёмую вуліцу. Колькі розных домікаў! Яшчэ больш стала, чым у тым годзе. Кожны дворык абгароджаны з усіх чатырох бакоў. А колькі розных вулічак, завулачкаў, тупікоў! Шаша "разразае" Паплавы пасярэдзіне. Адна частка, дзе і бабуліна хата, завецца "нізінаю", таму што з гэтага боку шашы завулачкі, хаты, агароды збягаюць усё ўніз і ўніз, аж да самай Бярэзіны. Адсюль ракі нават не відаць. А недзе там за ракою — поплаў, а за ім — балота...

А другая ад шашы частка пасёлка, наадварот, уздзіраецца ўсё вышэй і вышэй. І там, дзе канчаюцца межы апошніх дачных участкаў, адразу пачынаецца лес.

Вось такія іхнія Паплавы. Не зразумееш, ці гэта вёска, ці прыгарад, ці ўчасткі лецішчаў... Яшчэ год назад Аксана зусім абыякава аглядала гэтае наваколле. Але цяпер гісторыя з талерам, што ляжаў у кішэні, не ішла ў яе з галавы. Гэта ж колькі такіх пасёлкаў на Беларусі! І ў кожнага — свая гісторыя, свае, магчыма, таямніцы... Сказаў жа тата, што толькі ў нашай рэспубліцы кожны год знаходзяць каля дзесятка буйных скарбаў. Не ў адным жа месцы гэтыя скарбы схаваныя, а па ўсёй Беларусі...

Дзяўчынка злезла з плота, яшчэ раз уважліва разгледзела талер. Чаму ён такі няроўны? Вось гэтая глыбокая выемка ў рубцы, ці гэта шчарбіна, ці ўмяціна... Нібы выпіленая напільнікам ці выразаная вострым нажом. Трэба не забыць спытаць у таты. Хутчэй бы вечар! Тады тата ўрэшце раскажа гэтую даўнюю загадкавую гісторыю да канца. Колькі яны яшчэ там будуць з бабуляю сакрэтнічаць?

Аксана зайшла ў маленькую, але светлую, утульную веранду. Тым летам, калі было душна ў хаце, бабуля слала ёй вось на гэтай канапе ў кутку. Матрас быў набіты духмяным сенам, падушка — мяккім курыным пухам... Як жа тут соладка спалася!.. І тумбачка каля канапы тая ж самая.

Аксана расчыніла палавінкі тумбачкі. Алей, цукар, пачак гарбаты, міса з яйкамі...

Раптам дзяўчынцы падумалася, што алеем можна паспрабаваць пачысціць талер. Можа, тады на ім штосьці праявіцца? Якіясь таемныя знакі, што адкрыюць месца, дзе закапаны скарб? Вось было б здорава.

Адкаркаваўшы зубамі пляшку, Аксана капнула на палец алею і пацерла манету. Нічога, ніякіх знакаў не праступіла. Толькі на пальцы застаўся брудны сіні след, а сама манета трохі панавела. Можа, мала алею? Аксана, ужо не шкадуючы, нахіліла пляшку, кропнула алею проста на талер... Не, манета якой была, такой і засталася. А вось як цяпер трымаць яе, прапахлую алеем, у кішэні? Аксана, не знайшоўшы нічога пад рукою, хапатліва працерла талер сваёй навенькай насоўкаю. На насоўцы адразу з'явілася сіняя масляністая пляміна, акурат паўтарыўшы контуры талера. Ну вось, ізноў пападзе ад таты... "Скажу, што забыла насоўку ў аўтобусе, а потым, на канікулах, як-небудзь адмыю",— вырашыла Аксана.

Яна зладзеявата азірнулася, ступіла да канапы і запхнула скамечаную брудную насоўку пад матрац, на самае дно.

## Раздзел 10
## Чэсь

Пасля гэтага "граху" дзяўчынцы расхацелася заходзіць у хату. Бацька з бабуляю так умеюць чытаць па вачах... Паклаўшы ў кішэню талер, які і праўда збольшага адчысціўся і ад старадаўняга налёту, і ад сучаснага алею, Аксана зноў выбегла на двор.

— Ксюха! — раптам пачула яна радасны голас— Аксана, калі вы прыехалі?

За плотам стаяў, пазіраючы праз дзіркі між калкоў, хлопчык яе гадоў, Чэсь. Быў ён белабрысы, загарэлы, як бы нават памужнелы за год, пакуль яны не бачыліся. Босы, у джынсавых шортах, у расхлістанай доўгай кашулі з завязанымі на жываце канцамі.

Аксана не верыла сваім вушам. Няўжо гэта той самы Чэсь, забіяка, нахабнік, хуліган, якога яна так баялася тым летам? Які не даваў ёй праходу, цягаў за косы, дражніў: "Ксюха без вуха", які, калі яны

купаліся ў Бярэзіне каля берага, ныраў, пад вадой хапаў яе за нагу і цягнуў на глыбіню... Які аднойчы так напалохаў яе, стрэліўшы за спіною з самапала, пасля чаго бабуля хадзіла сварыцца да яго бацькоў... І вось — калі ласка: ветлівы, такая радасць у голасе!

Зрэшты, дзяўчынка і сама была радая ўбачыць знаёмы твар. За год і не такое забываецца. Да таго ж яна, як ні кажы, госця тут. А Чэсь — мясцовы, значыць, гаспадар. У гасцях мусіш прыхоўваць некаторыя свае антыпатыі.

— Ды не бойся, хадзі сюды! — паклікаў Чэсь.

— Я і не баюся.

Аксана выйшла на вуліцу, на ўсялякі выпадак пакінула веснічкі расчыненымі і стала блізка каля іх.

— Ды не бойся,— паўтарыў Чэсь.— Ты прыехала на ўсё лета? Як у тым годзе?

— На якое ўсё лета, яшчэ тыдзень да канікулаў...— Аксана зірнула на яго і раптам усклікнула, пляснуўшы далонямі, падрабляючыся пад бабулю: — Божа, што гэта з табою?!

Адна шчака ў Чэся была распухлая і адтапырвалася, нібы за ёю ляжаў вялізны круглы ледзянец.

— А, гэта...— Чэсь збянтэжана прыкрыў шчаку далоняю.— Ужо праходзіць! Раней яшчэ не такая была,— пахваліўся ён.

— Зноў у бойку ўлез?

— Не, вочы пакусалі. Звілі на гарышчы гняздо, я іх высачыў, палез — і вось...

— І навошта яны табе былі?

— Як навошта? А мёду набраць?

Аксана здзіўлена паўзіралася ў яго — ці не жартуе? — тады залілася смехам:

— Які ж у восаў мёд? Эх ты, вясковы хлопец, а ("такі дурны",— ледзь не вырвалася ў яе)... а не ведаеш, што восы ніякага мёду не даюць.

— Я не ведаў,— прызнаўся Чэсь. — Думаў, раз яны падобныя на пчол і кублы ўюць, дык павінны быць і соты...

Аксана раптам заўважыла, што ён чырванее. І яшчэ — калі гаворыць і глядзіць на яе, дык стараецца павярнуцца так, каб не было ёй бачна распухлай шчакі. Няўжо саромеецца за такі свой выгляд?

— Аксана, — Чэсь азірнуўся, тады апусціў галаву, пакалупаў вялікім пальцам нагі пясок,— Аксана, — хутка прамовіў ён, — ты прабач... Я больш не буду цябе тапіць...

Вось дык фокусы! Што гэта з ім?

— Добра, глядзі,— жартуючы, паківала яму пальцам Аксана.

— Дык ты не крыўдуеш? — адразу павесялеў Чэсь.— А хочаш, мы гэтым летам будзем сябраваць?

— Як?

— Ну, разам быць... Я пакажу табе вір, дзе ловяцца падлешчы. І будан... не, я хацеў сказаць, пакажу, дзе арэхаў можна будзе назбіраць поўна...

— Пачакай, што за будан?

— Не, нічога. Ніякага будана няма. Я хацеў сказаць, яго можна зрабіць,— з прыкрасцю на сябе, што прагаварыўся, пачаў апраўдвацца Чэсь.

"Я ў цябе ўсё. выпытаю, ты мне ўсё пакажаш, і той будан",— падумала Аксана. Ёй ільсціла прапанова сяброўства, прыемна было — і ўсё ж... Яна са здзіўленнем адчула, што такі Чэсь — пакорлівы, ветлівы, прыніжаны — цікавіць яе менш, чым раней. Калі б ён толькі што не папрасіў прабачэння, ёй, напэўна ж, не захацелася б зараз крышку памучыць яго.

— А я не змагу быць тут улетку,— сумна ўздыхнуўшы, сказала яна.

— Як не зможаш? Чаму?!

— Тату адпраўляюць у экспедыцыю. У... у Бразілію. І ён бярэ мяне з сабою.

Чэсь нават забыў пра шчаку. Ён глядзеў на дзяўчынку ва ўсе вочы, смешны і няшчасны.

— А надоўга? — спытаў ён з рэшткамі надзеі ў голасе.— Можа, хоць у канцы лета прыедзеш?

— Не, наўрад ці. Мы там доўга будзем, у Бразіліі.

— А ты сама хочаш ехаць? — спытаў Чэсь.

— Вядома, хачу. Там так цікава... Па-першае, цэлых дзесяць гадзін ляцець самалётам. Па-другое, там акіян, розныя кракадзілы, джунглі, пальмы, какосавыя арэхі...

— А ў нас хіба нецікава? — вырашыў пакрыўдзіцца Чэсь.

— Параўнаў! Кракадзілаў — і вашыя падлешчыкі, какосы — і вашыя арэхі...

Чэсь быў проста знішчаны. А ён хацеў зацікавіць яе буданом... Будан — і Бразілія!..

Ён пахмурнеў. Разам з тым у яго вачах пачало з'яўляцца штосьці ранейшае, задзірліва-ганарыстае.

**Раздзел 11**
**Міхал**

— Ну і едзь,— панура сказаў Чэсь, з-пад ілба пазіраючы на дзяўчынку.

— Ну і паеду.

— Едзь, едзь...

Помста за ранейшыя крыўды была поўная. Аксана, заахвоціўшыся, нацешыўшыся, зараз жа пашкадавала яго. Толькі яна збіралася прызнацца, што Бразілія — лухта і яна сама не ведае, дзеля чаго выдумала ўсё гэта, як Чэсь падступіў да яе на якіх паўкроку і перакрыў ёй дарогу да веснічак.

— А хочаш, я табе зараз тваю Бразілію пакажу...

Не паспела Аксана адскочыць, як Чэсь схапіў яе двума пальцамі за нос і пацягнуў уверх.

На міг дзяўчынка знямела ад нечаканасці, ад гэтага нахабства; да таго ж так балюча і непрыемна было... Але праз міг, сілячыся вырвацца, яна знянацку паступіла цвёрдай, рыфленай падэшвай красоўкі на Чэсеву босую нагу. Чэсь войкнуў і выпусціў яе нос. Ад злосці Аксана яшчэ раз паўтарыла гэты "прыём", ужо знарок.

— Ты што?! — ускрыкнуў Чэсь і, сагнуўшыся, схапіўся за нагу.

Дужа няўстойлівай, заманлівай была такая яго поза, каб не паспрабаваць перамагчы яго дарэшты... Аксана лёгка штурхнула яго ў плячо. Чэсь згубіў раўнавагу, упаў на спіну, але адразу ж пругка падхапіўся:

— Ну, пачакай!..

Але хуткай і суровай расплаты Аксана чакаць не стала. Не паспеў Чэсь абцерці пясок з шортаў, як яна ўжо сядзела на высокім плоце,— балазе ў красоўках лёгка было ўзабрацца па гладкіх калках, падэшвы не коўзаліся.

Бы кошка, зверху дзяўчынка цікавала за Чэсем, гатовая пры першым яго падазроным руху саскочыць у двор.

— Ах! — усклікнула раптам яна і схапілася за кішэню, стараючыся затрымаць манету, што вывальвалася адтуль.

Але позна! Манета выслізнула з рукі і шпокнула недзе ў траву пад плот. Праз імгненне яна была ўжо ў кулаку ў Чэся. Чамусьці хлопчык таксама, перш чым схаваць манету, схапіўся за сваю кішэню, запусціў туды руку.

— Дзірка,— збянтэжана прамовіў ён.

— Чэсік, аддай! — узмалілася Аксана.

— Яшчэ чаго.

— Аддай, гэта не мая манета!

— Вядома, не твая, а мая.

(Яшчэ б — хто адмовіўся б ад такога трафею, здабытага ў "чэсным баі"?!)

— Чэсік, ну хочаш, я прызнаюся, што наманіла табе?

— Гм... Хачу.

— Тады аддасі?

— Аддам.

— Пакляніся!

— Ну, клянуся.

— Я нахлусіла табе пра Бразілію... Нікуды я не еду, тут буду, у Паплавах. І мы будзем сябраваць, як ты хацеў...

— Вось як? Ну, калі прыедзеш на канікулы, тады і пагаворым.

І Чэсь, спакойна пасвістваючы, павярнуўся да дзяўчынкі спіною з яўным намерам — пайсці.

У галаве ў Аксаны прамільгнула, што трэба прымаць крайнія меры — клікаць на дапамогу бацьку (хоць яна заўсёды лічыла — апошняя гэта справа, скардзіцца бацькам...).

— Аддай! Ты ж пакляўся! — з адчаем крыкнула яна.

— Я ж цябе не прасіў прызнавацца.— Чэсь, аднак, спыніўся.— Ну, хай: я схлусіў, калі кляўся. А ты схлусіла пра Бразілію. Вось мы і квіты. Ты хлусіш, чаму і мне нельга?

Такой жорсткасці дзяўчынка нават ад яго не чакала. Яна ўсхліпнула. Выціраючыся, краем вока ўбачыла, што Чэсь як бы разгубіўся.

— Ды што ты румзаеш? Аксана! З чаго ты ўзяла, што я павінен аддаць табе сваю манету?

— Не, гэта мая! — праз слёзы ўсклікнула дзяўчынка.— Табе яна проста так трэба, гуляцца, а мне... Ты не ведаеш нават!..

— Ды нічога падобнага — гэта мая! Я знайшоў яе ўчора на агародзе... Ты мяне штурхнула, я ўпаў, манета выкацілася праз дзірку, ты яе схапіла — і на плот... Ды, як бачыш, не ўдалося, манета сама ведае гаспадара,— задаволена сказаў Чэсь.

— Як табе не сорамна?!

— Гэта табе павінна быць сорамна. Нарасказвала мне казак пра Бразілію, адтаптала нагу, хацела ўкрасці маю манету, а цяпер плачаш, што не ўдалося...

Аксана, не адказваючы, узіралася ў канец вуліцы. Там ехаў веласіпедам хтосьці вельмі знаёмы... Так і ёсць, гэта Міхал, і едзе да іх! Ну, цяпер можна абысціся і без дапамогі бацькі... Міхал яе ў крыўду ніколі не дасць. І бацька яго ведае, і бабуля любіць і заўсёды наказвае, каб ён глядзеў за ёю, Аксанаю, і абараняў яе. Бацькі Міхала — з той жа вёскі на Гомельшчыне, адкуль і бабуля, а пасля радыяцыі перасяліліся таксама ў Паплавы. Таму і трымаюцца разам, бы радня.

— Міхал! — Аксана замахала рукою, каб хутчэй пад'язджаў.

Міхал паклаў веласіпед узбоч шашы, накіраваўся да іх. Гэта быў высакаваты для свайго ўзросту (а ён быў на год старэйшы за Аксану з Чэсем), чарнавокі сур'ёзны хлопчык. Абуты ў кеды; спартыўныя штаны, закасаныя да каленяў, чорная майка з надпісам на левай грудзіне — "Рассвет".

## Раздзел 12
## Другі талер

— Чэсь, прывітанне! Аксана, калі ты прыехала?

— Ён адабраў у мяне манету! — замест адказу плаксівым голасам паскардзілася Аксана.— І не хоча аддаваць!

— Хлусня,— сказаў Чэсь, не кранаючыся з месца.

— Манету?

Міхал павярнуўся, моўчкі падступіў да яго. Ён быў вышэйшы за Чэся на цэлую галаву. Але Чэсь не спалохаўся, адно аж пабялеў ад несправядлівасці і стаяў, як стаяў.

— Міша, калі хочаш біцца — давай,— прамовіў ён.— Але я не адбіраў у яе нічога. У мяне ў кішэні ляжала манета, выпала праз дзірку, Аксана схапіла, а потым сама выпусціла з рукі... А цяпер канючыць: аддай!

Міхал, са сціснутымі кулакамі, спыніўся ў нерашучасці. Ён ведаў Чэся — той проста так казаць не будзе.

Аксана між тым злезла з плота, смелая, стала за Міхалавай спіною:

— Не вер яму, Міхал,— я прывезла талер з сабою, з Мінска!

— Лухта, я знайшоў яго ўчора на сваім агародзе!

— Ану, пакажы, Чэсь,— загадаў Міхал.

Чэсь неахвотна выцягнуў талер. Раптам твар у яго змяніўся. Чэсь хутка панюхаў манету:

— Што такое?.. Алеем чамусьці пахне... І мая цямнейшая... І нібыта рубец іншы — шчарбіна большая і з другога боку...

— Аксана! — пачуўся з двара бацькаў голас. Скарыстаўшы Чэсеву разгубленасць, дзяўчынка імгненна схапіла талер проста з яго далоні, схавала ў кішэню:

— Міша, дзякуй вялікі! Мне трэба бегчы... Ты мне так памог! Ты нават не ўяўляеш, што гэта за манета... Хочаш, прыходзь сёння ўвечары, тата раскажа...— і, прыгнуўшы Міхалаву галаву, зашаптала яму штосьці, тады нырнула ў веснічкі.

— Дзе ж тады мая?..— разгублена паўтараў Чэсь, лапаючы па кішэнях.— Не прыснілася ж яна мне!..

— Пачакай, давай адыдземся. Вунь бабуля Аксаніна пазірае, топчамся тут каля хаты.

Міхал падняў веласіпед, хлопчыкі завярнулі ў завулак, што спускаўся ў "нізіну", да Бярэзіны, дзе была Чэсева хата.

— Так,— сказаў Міхал,— а цяпер распавядзі толкам, усё па парадку.

— Ды ўчора...— Чэсь усё мацаў кішэні, азіраўся вакол, быццам шукаў манету,— учора бацька абганяў бульбу. Ведаеш, на тых сотках, што каля самай ракі, дзе помнік? Я вадзіў каня, ты ж ведаеш, спёка была, авады, машкарэча, конь хадзіць не хацеў, брыкаўся...

— Ды што мне твой конь? Пра манету расказвай.

— Ну, і бліснула штосьці на свежай зямлі, там, дзе ўжо прайшла сошка. Я падняў на хаду і паклаў у кішэню, нават не разгледзеўшы як след,— не было калі.

— А ўвечары?

—Што?

— Увечары разгледзеў манету?

— Ды я забыў на яе, Міша! Я так натаміўся з тым канём, што ледзь ногі цягаў. Потым яшчэ гэтыя восы праклятыя,— Чэсь дакрануўся да шчакі.— Так балела — пра што хочаш забудзеш...

— Карацей, ты яе згубіў.

— Выходзіць, так,— вінавата патупіўся Чэсь.

— Успомні, дзе ты ўчора ці сёння сядзеў або ляжаў?

— Ды нідзе! Толькі на гарышча злазіў, да восаў, і адразу — спаць. Толькі...— Чэсь прыгадаў, як сёння Аксана ганебна зваліла яго.— Не, нідзе.

— Дзіркі зашываць трэба, лапух,— упікнуў Міхал.— Як у цябе хапіла розуму пакласці манету ў дзіравую кішэню? І як манета не выпала адтуль адразу ж? Ты ж босы быў?

— Босы...— Чэсь раптам спыніўся, паглядзеў на Міхала дзіўнымі вачыма.

— Ну, вось. Калі б манета выпала, яна б табе стукнула па назе. Няўжо ты не пачуў?

— Стой! Усё правільна! — з радасці Чэсь пляснуў сябра па плячы.— Успомніў — ніякай дзіркі ў кішэні не было, бо і шортаў не было! Я ў трыко быў! А ўвечары, калі я ўжо спаў, маці забрала трыко мыць, а мне паклала шорты. Цяпер успомніў: кашуля гэтая самая была, а вось штаны...— усё не мог угаманіцца Чэсь.

— І ты паўдня не ведаў, што ходзіш у другіх штанах?

— Паглядзеў бы я на цябе, каб ты так натаміўся! Ды і восы...

— Добра, хопіць пра восы. Дзе тваё трыко цяпер?

— Відаць, маці памыла ўжо. Вісіць і сохне.

— Ды не трыко,— але зазлаваў на яго тугадумнасць Міхал,— навошта мне тваё трыко? Манета дзе? Можа, маці згубіла яе неяк, калі вытрусвала адзенне!

— Сапраўды, я пра гэта і не падумаў,— спалохаўся Чэсь. Другі раз за адну гадзіну страціць манету было б для яго занадта.

— Сядай! — скамандаваў Міхал.

Ён разагнаў веласіпед, Чэсь, прабегшы крыху збоку, схапіўся за руль і скочыў на раму. Вулічка бегла ўніз. Праз хвілін колькі хлопцы ўжо ўляцелі ў Чэсеў двор.

Пасярод двара стаялі начоўкі, ад якіх падымалася пара. Пахла пральным парашком. Чэсева маці, сагнуўшыся, шчыравала над бялізнаю; кавалак гаспадарчага мыла ў яе руцэ так і шоргаў па рыфленай дошцы. Амаль усе вяроўкі, нацягнутыя ў канцы двара між дзвюма грушамі, былі занятыя вымытай, прапаласканай адзежаю. Каля начовак засталася толькі невялікая кучка нейкага рыззя.

Хлопцы кінуліся туды і — вось радасць! — трыко! І манета на месцы, у задняй кішэні.

Чэсь працягнуў манету сябру:

— Ну, а ты не верыў?

Маці здзіўлена глядзела на іх, тады пачала бурчэць стомлена:

— Колькі разоў казала: правярай кішэні перад мыццём... А калі б размокла тое, што вы шукалі?

— Не, гэта не размокне! — шчаслівы Чэсь паказаў манету і маці.

— Ты б лепш памог, бэйбус, чым гайсаць цэлы дзень...

Хоць бы памытае прапаласкаў, схадзіў бы на раку ці выкруціць памог,— на маці манета не зрабіла ніякага ўражання.

Міхал падзівіўся: нічога сабе, "гайсае цэлы дзень". Гэта было несправядліва. Чэсь, можа, як ніводзін хлопец з пасёлка, ніколі не бегаў ад хатняй работы, заўсёды памагаў дома.

— Давай прапалашчу,— ухапіўся ён і цяпер.

— Ды ідзі ўжо, гуляй. Пакуль дачакаешся, сама хутчэй зробіш. Ды ў восы зноў не ўлезь!

— Чаго гэта маці на цябе? — спытаў Міхал, калі яны адышліся.— Я дома і палавіны не раблю таго, што ты.

— Не, гэта яна так, для "звязкі слоў",— адказаў Чэсь.— Яна добрая.

Яны мінулі двор, зайшлі за паветку, што прыляпілася з краю паплоўчыка, разлегліся на мяккім мурагу. Адсюль адкрываўся від на луг і на красуню Бярэзіну, што рабіла ў гэтым месцы плаўны паварот, — ціхаплынную, шырокую, зарослую з гэтага — нізкага — берага вольхамі і вербамі. Амаль да самай ракі спускаюцца дзялянкі агародаў і сотак. Збоку, на невысокім пагорачку-кургане, віднеецца помнік: звычайная вертыкальная гранітная пліта, па кутках — чатыры бетонныя слупкі, злучаныя прывіслымі пасярэдзіне ланцугамі. На пліце, хлопцы ведалі, залатой фарбаю ззяюць словы:

Русским воинам Отечественной войны

Савецкім воінам Вялікай Айчыннай вайны

Слава героям!

А трохі далей, за паваротам ракі, дзе нізкі бераг пакрысе пачынае падымацца і робіцца высокім, стромкім,— там, на самай строме, надзейна схаваны ў лісці дуба і вольхаў, на галінах, што перапляліся даволі высока над зямлёю,— іхні будан...

Чэсь разглядаў манету.

— Вунь там і знайшоў,— паказаў ён у той бок, дзе быў помнік.— Не, ты глянь, Міхал,— ну, копія як у Аксаны! Не дзіва, што я паблытаў. Толькі ў гэтай манеце шчарбіна глыбейшая... Чаму ж, цікава, Аксана так даражыць гэтым... як яна сказала?

— Талерам.

— Так упрошвала: Чэсік, Чэсік, аддай...

— Як гэта ты так чырванець навучыўся? — насмешліва прыжмурыў на сябра вочы Міхал.

— Ды шчака свярбіць,— яшчэ больш пачырванеў Чэсь.— Паглядзеў бы я на цябе, каб цябе восы пакусалі... А! — успомніў ён.— Скажы лепш, аб чым ты шаптаўся з ёю?

— Я з ёю не шаптаўся.

— Ну, яна з табою — якая розніца? Што яна сказала табе на вуха?

Міхал загадкава пасміхаўся і маўчаў, нібы хацеў набіць цану тым словам, якія можа зараз сказаць сябру, а можа і не сказаць.

— Не забывай, што манета мая,— нагадаў Чэсь.

— Добра. Аксана шапнула, што ў нашых Паплавах схаваны скарб. І разгадка, як яго знайсці, — у манеце.

Чэсь недаверліва гмыкнуў. Ён чакаў зусім іншага... А тут — нейкі скарб... Усё гэта дзіцячае, з кніжак і фільмаў. Калі б пачуў гэта не ад Міхала, а ад кагосьці іншага, дык падняў бы таго на смех. Але Міхал ніколі не хлусіць...

— Ты сур'ёзна? — спытаў Чэсь, прыпадняўшыся на локці.

— Аксане сказаў бацька. А яе бацька, не забывай, вядомы гісторык, археолаг і проста так казкі расказваць не стане.

— А падрабязней? — адразу загарэўся Чэсь.— Што за скарб? Пры чым манета?

— Я ведаю не больш за цябе. Ты ж сам чуў: Аксана абяцала, што сёння ўвечары яе бацька раскажа гэтую гісторыю. Я схаджу, паслухаю, і тады будзем штосьці думаць.

— А чаму ты адзін?

— Таму, што мяне аднаго звалі. Можа, яшчэ ўсёй кампаніяй завалімся — я, ты і Зміцер?

— Так, і Зміцер! Мы павінны быць усе разам. Або мы ідзем усе ўтрох, або... або я зашпурну гэтую манету ў Бярэзіну! — рашуча заявіў Чэсь.

## Часціна другая

## Паплавы

### Раздзел 13
### Будан

Будан быў зроблены на вышыні метраў чатырох, у кронах сярод пераплеценага голля дуба і таўсценных вольхаў, што раслі разам на абрывістым беразе ракі. Вада ціха плыла ўнізе, часам закручвалася ў віры, і тады хвалі плёхалі ў бераг, лізалі жоўты пясок, вымываючы абламаныя, голыя карані дрэў.

Месца для будана недзе з месяц назад выпадкова знайшоў Чэсь. Тады, у канцы красавіка, калі ўсё вакол было ўжо добра зялёным, прыпякала сонца; рыба, найбольш плоткі, нераставала, падымалася са сваіх цёмных глыбокіх ямаў да паверхні, заходзіла ў прыбярэжную шапаткую траву, на мель, дзе хапае ежы і дзе зусім цёпла, дзе можна нават падрамаць, млява варушачы плаўнікамі.

На вуды, аднак, рыба бралася слаба, Чэсь з Міхалам з паўдня цягалі на мелкаце стары дзіравы Міхалаў брэдзень, тады тут жа, ля берага, купаліся, спрабавалі ў каламутнай вадзе лавіць плотак рукамі... Натомленыя, змерзлыя, паленаваліся несці дамоў мокры, цяжкі брэдзень — усё адно, калі такая пагодка пастаіць яшчэ, заўтра зноў захочацца парыбаліць. У прыбярэжных кустах пакідаць брэдзень, які б стары і дзіравы ён ні быў, не адважыліся. Чэсь задраў галаву, палез па крывой, тоўстай, без галін знізу вольсе, дабраўся да густой кроны, нырнуў туды... і прапаў.

— Гэй, сюды! — пачуўся зверху яго голас— Ды тут хату можна пабудаваць, сярод голля!

Апынуўшыся наверсе, Міхал таксама не змог стрымаць захаплення:

— Вось дзіва — галіны самі так растуць, што нібыта шалаш. І відаць адсюль усё. А цябе, Чэсь, нават

знізу, за два крокі ніяк не было відно.

Смела пакінуўшы тут, у "шалашы", брэдзень, на другі дзень хлопцы прыйшлі на гэтае месца не з пустымі рукамі. Яны прыцягнулі некалькі дашчаных скрынак, якія знайшлі на сметніку за мясцовай крамай; акрамя таго, скрутак мяккага алюмініевага дроту, малаток, цвічкі і кавалак руберойду. У той дзень ім было нават не да рыбы. Кіпела работа. На ніжнія паралельныя галіны паклалі дошкі, абплялі дротам — атрымалася "падлога", усцягнулі наверх рубероид — выдатная "столь". Вось толькі на сцены не хапіла дошак. Але нічога, дзён наперадзе многа, як многа і скрынак ля крамы...

На выхадныя прыязджаў з блізкай Бярозы Міхалаў і Чэсеў сябар, Змітрок. У яго бацькоў у Паплавах было лецішча, толькі не ў "нізіне", каля ракі, а пад лесам. Змітрака хлопцы заўсёды ахвотна бралі ў сваю кампанію — таму, што ён гарадскі, а не задаецца, і таму, што ён безадказны, з усім згаджаецца і слухаецца заўсёды як старэйшага, Міхала, так і маладзейшага, Чэся. Цяпер, калі надыходзілі выхадныя, ужо ўсе ўтрох, звязаныя, вядома, найстрогай тайнаю, уладкоўвалі будан. І будан пакрысе набываў усё больш абжыты, нават утульны, як хлопцам здавалася, выгляд. З'явіліся "сценкі", зробленыя з тых жа дошак ад скрынак. На "падлогу" наслалі мяккага сухога моху. Усярэдзіне будан аказаўся даволі вялікі, умяшчальны — усім тром хапала месца, яшчэ і заставалася; можна было ляжаць, можна нават уставаць на ўвесь рост. Праўда, высокаму Міхалу даводзілася прыгінаць галаву. У кутку пры "сценках" збілі дзве палічкі, на якіх расклалі розную драбязу (што за жытло без сякіх-такіх рэчаў?): вудкі, каробачкі з кручкамі, волава на грузікі, рандэлак, адшараваны пяском і ўсё адно са слядамі копаці на баках, чайнік, шкляначкі з соллю, перцам, лістам, запалкі, сцізорык, нават тоўстая парафінавая свечка. На другой паліцы — зброя: паляўнічы нож, самапалы — прымацаваныя да драўлянага ложа медныя трубкі, закляпаныя на канцах. Пад паліцамі ў кутку — вылінялы да белага паходны заплечнік, які аддаў хлопцам Міхалаў бацька, брэдзень, спінінг, гумавыя боты з высокімі халявамі.

Былі ў будане і "дзверы" — густалістая галіна дуба, якая цалкам закрывала ўваход. Галіна спружыніла: адагнеш яе, пралезеш у будан, а яна пырх назад, і "дзверы зачыніліся". І вось ты ў будане. Так здорава тут. Унізе цячэ, плешчацца аб бераг вада. Па гэты бок відаць дарога, Чэсева хата і агарод, іншыя блізкія дамы і агароды, помнік на пагорку. Ты ўсе і ўсіх бачыш, а цябе ніхто. Ніхто і не здагадваецца, што ты тут, на дрэвах, жывеш, нібы птушка ці звер. А найбольш цікава, калі дождж (толькі без маланак, у маланку пад дубам небяспечна). Сядзіш сабе ціха ў будане, кроплі шпокаюць аб рубероид і аб лісце... А тут суха, цёпла, ты забыты ўсім светам, адрэзаны ад людзей, ад звыклага жыцця...

Неўзабаве будан ператварыўся ў "штаб". І старэйшы Міхал, і маладзейшы Чэсь са Змітраком — усе былі адначасова і "радавымі байцамі" і "начальнікамі штаба". Справа ў тым, што вось-вось надыдуць летнія канікулы. Трэба абмеркаваць і зацвердзіць "план дзеяння". План просты: не хадзіць жа цэлае лета, задраўшы галовы, пасвістваць, купацца, загараць і лавіць рыбку. Адно, што надакучыць, а другое — адзінаццаць — дванаццаць гадоў самы ўзрост, каб зразумець, што ў жыцці далёка не апошняе месца займаюць грошы. І багатым быць зусім няблага. Асабліва калі гэта не бацькоўскія, а твае ўласныя грошы. І ты можаш траціць іх на ўсё, што захочаш, не пытаючы ні ў кога дазволу.

Тройка сяброў сабралася ў будане-"штабе". Міхал нават прыхапіў сшытак і агрызак алоўка, каб запісваць самыя цікавыя і, галоўнае, найбольш рэальныя прапановы. Кожны павінен быў выступіць на тэму: "Як ім за лета зарабіць грошай і разбагацець?"

Першы выступіў Змітрок. Міхал запісаў:

1) Змітрок. Мыць машыны, пажадана іншамаркі, на аўтазапраўцы пад Бярозаю. Змітрок ужо спрабаваў. Станоўчае — калі пашэнціць, можна за раз атрымаць да дзесяці даляраў. Недахопы — мыць патрэбна хутка і акуратна, да таго ж прыніжацца, усім дагаджаць. Канкурэнты — мясцовыя і з Бярозы — чужакоў не падпускаюць і блізка. У Змітрака адабралі вядро, навешалі аплявух і паабяцалі, што, калі ўбачаць яго яшчэ раз, надзенуць вядро з мыльнай вадой на галаву.

— І ты так нічога і не зарабіў? — спытаў Міхал.

— Не паспеў... Аднаму так вымыў яго "Вольву", аж блішчэла — не даў нічога. Другі пхнуў у руку нейкую драбязу, кавалак мыла больш каштуе. Толькі дзве машыны і паспеў памыць.

— Адкуль у нас тыя іншамаркі ці багатыя людзі?! — азваўся Чэсь.— Горад маленькі, гэта каб у Мінску, вось там можна было б зарабіць!

Міхал пазначыў унізе: машыны — на крайні выпадак. Чэсь прапанаваў свой самы надзейны варыянт:

— Будзем збіраць грыбы, ягады, арэхі, лавіць рыбу, вазіць у горад на базар і прадаваць. Грошы трымаць у адным месцы, а ў канцы лета падзяліць пароўну — Ягады з'явяцца ў лепшым выпадку праз месяц,— сказаў Міхал,— грыбы пры такой спёцы ці будуць увогуле, арэхі ў канцы лета, і з рыбаю не кожны раз удача. Дый рыбы заўсёды поўна ў горадзе на базары.

— Тады не ведаю. Міхал запісаў:

2) Варыянт Чэся. Станоўчае — надзейнасць. Недахопы — цяжка, доўга, нудна, мала грошай.

— Я прапаную вось што,— сказаў Міхал.— Вы заўважылі: да дзеда Макара ўвесь апошні месяц пачалі прыязджаць нейкія людзі з Мінска — геолагі, як ён кажа. Двое мужчын. Яны ставяць у яго двары машыну, сталуюцца, калі-нікалі начуюць. Няўжо ім не патрэбны памочнікі?

— А што яны робяць? — спытаў Змітрок.

— Ходзяць каля рэчкі, ля помніка, па лузе, штосьці вымяраюць, запісваюць... Апошнім часам пачалі хадзіць нават па агародах і да нас прыходзілі. Тлумачаць гаспадарам, што ім патрэбна браць на пробу зямлю і ваду з розных участкаў нашай ваколіцы...

— Усё зразумела — нафту шукаюць,— умяшаўся Чэсь.

— Можа, нафту, можа, іншыя карысныя выкапні... У іх такая штука, падобная на мінашукальнік — палка з дугою на канцы. Я прапаную падысці да іх і папрасіцца на работу: штосьці падносіць ім, падаваць рулетку, трымаць спіцы-фіксатары... Калі хоць аднаго з нас возьмуць, і то добра. Калі не возьмуць, таксама не бяда, мы нічога не трацім, а вось паспрабаваць варта.

— Быць "на падхваце", на пабягушках? — скрывіўся Чэсь.

— Тады ідзі машыны мыць.

— Машыны мыць — ты сам сабе гаспадар, хочаш — мыеш, а хочаш — не, а тут будзеш бегаць, як сабачка, ніякай волі... Але хай: я згодзен. Толькі разлік — далярамі і ў канцы кожнага дня,— сказаў Чэсь.

— Гэта само сабою. А людзі яны не бедныя, па машыне відаць. Акрамя таго, яны часта з'язджаюць у Мінск, і работа іхняя стаіць. А яны маглі б на гэты час даваць нам заданне — напрыклад, памераць участак, набраць той жа зямлі на пробу.

— Вырашана — запісвай.

— І так, трэці пункт,— запісваў і ўголас чытаў Міхал.— Станоўчае — наяўныя грошы ў канцы дня. Недахоп — ці трэба ім памочнікі?

— І ці не апярэдзілі нас,— прамовіў Змітрок, які заўсёды гаварыў мала, але трапна.— Пра Курта забылі?

Пры слове "Курт" паморшчыліся ўсе ўтрох. Гэта быў дзеда Макара ўнук, які жыў і вучыўся ў школе ў Бярозе, а на выхадныя, як і Змітрок, прыязджаў да дзеда ў Паплавы. Тром сябрам ён прыносіў шмат непрыемнасцей, асабліва калі ўцягнуў іх у адну гісторыю, пра якую і цяпер ім сорамна было ўспамінаць.

Міхал пачухаў кончыкам алоўка патыліцу:

— Гэты паўсюль улезе... Але ўсё ж ён гарадскі, а мы з Чэсем мясцовыя, жывём тут і больш ведаем.

— Нічога,— сказаў Змітрок,— праз тыдзень канікулы, ён таксама будзе жыць у дзеда. Геолагі ў іх спыніліся, сталуюцца, яго яны і возьмуць. Навошта ім мы, чужыя?

— Значыць, трэба паспрабаваць яго апярэдзіць. І пункт чацвёрты,— падагульніў Міхал,— пастарацца дзе-небудзь знайсці грошы. Пільней прыглядацца каля крамы, каля аўтазапраўкі, асабліва ў горадзе па вакзале і ўвогуле на вуліцах... Гэта, Зміцер, цябе найбольш тычыцца.

— Ага,— іранічна пасміхнуўся Чэсь,— там ляжыць сярод вуліцы кашалёк, чакае яго, не дачакаецца.

— Раз хтосьці губляе грошы, значыць, хтосьці павінен іх і знаходзіць,— спакойна адказаў Міхал,— Запішам як варыянт.

Чэсь і Зміцер не мелі нічога супраць такой логікі.

## Раздзел 14
## Геолагі і дзед Макар

— Цяпер трэба запісаць у сшытак: пункт пяты — пошукі скарбу,— сказаў Чэсь, забаўляючыся манетаю.— Хоць і мала верыцца, калі шчыра.

Яны з Міхалам ляжалі на мурагу за Чэсевай дрывотняю, разамлелыя на сонейку, лянівa аглядалі луг, рэчку, пагорак з помнікам.

— Увечары даведаемся, што за скарб. — Міхал пазяхнуў — У любым выпадку скарб — гэта сур'ёзна. Што знайшоў, усё тваё, адразу капітал. Гэта табе не машыны мыць і не чарніцы прадаваць.

— А што да вечара рабіць? Можа, у будан сходзім? — прапанаваў Чэсь.

Міхал, не адказваючы, павярнуў галаву, прыслухаўся. У двары пачуўся голас Чэсевай маці, затым крокі, і з-за дрывотні выйшаў Змітрок. Як заўсёды, сур'ёзны, чысценькі, падстрыжаны, у адпрасаваных штанах, новай кашулі, наваксаваных чаравіках.

— Вось вы дзе! А я ўжо і ў будане вас шукаў. Прывітанне, — спакойна падаў руку аднаму, другому, нібы не бачыліся не цэлы тыдзень, а ўсяго некалькі гадзін, улёгся побач.

— Калі ты прыехаў? — спытаў Міхал.

— Толькі што, дзённым аўтобусам.
— Ну, і якія навіны? — Чэсь з Міхалам перамігнуліся.— Што чуваць пра кашалёк з грашыма? Ці знайшоў?
— Не,— сур'ёзна адказаў Зміцер.
— Ты, мусіць, слаба прыглядаўся.
— Прыглядаўся добра... А ў вас што чуваць?
— Ёсць сёе-тое,— Чэсь падкінуў манету і злавіў яе, паспеўшы, пакуль яна была ў паветры, пляснуць у ладкі.— Увечары даведаешся.
— Што, геолагі бяруць на працу? — абыякава спытаў Змітрок.
— Чаму ты так падумаў?
— Бо бачыў іх сёння. Ішоў з аўтобуса і бачыў: стаіць машына ў дзеда Макара ў двары.
Чэсь з Міхалам, не змаўляючыся, паўскоквалі.
— І ён маўчыць! Разлёгся спакойна тут!..
— Адкуль я ведаў? Вы ж тут жывяце, усё бачыце, я думаў, вы схадзілі даўно... Дарэчы, Вова-Курт прыехаў тым жа аўтобусам, што і я.
Чэсь прысвіснуў:
— Ну, тады можна і не хадзіць!
— Не, сходзім, што мы губляем?
Міхал успомніў пра веласіпед, памкнуўся быў у двор. Чэсь прытрымаў яго:
— Агародамі бліжэй.
Папраставалі адзін за адным вузкімі чужымі разорамі, праступаючы межы, абыходзячы плоцікі і загародкі. Неўзабаве выбраліся на вулічку, паралельную той, дзе жыў Чэсь.
Двор дзеда Макара быў абкружаны "плотам" — прымацаванаю да слупоў металічнай сеткаю, праз якую ўсё відаць. У двары стаяла цёмна-сіняя машына-іншамарка.
Каля яе тупалі дзед Макар і адзін з геолагаў, высокі мужчына ў белай кашулі. Ён штосьці тлумачыў дзеду, стукаў нагою ў колы, паляпваў далоняю зверху па кабіне. Дзед ківаў яму на кожнае слова, паказваючы на твары то здзіўленне, то згоду, то пачцівасць. Другі геолаг, у шапцы-каскетцы і ў цёмных круглых акулярах, голы да пояса, сядзеў пад хатаю на перакуленай, амаль струхлелай лодцы, якая да паловы ўвайшла ў зямлю і служыла дзеду лаўкаю. Раскінуў рукі – загараў.
Хлопцы спыніліся каля нізкіх веснічак, з вуліцы, пачалі перашэптвацца, штурхацца, не адважваючыся зайсці. З двара іх убачылі. Дзед Макар адразу сагнаў з твару пачцівасць, зрабіўся чамусьці строгі, нават сярдзіты. Лёгка, па-маладому тупаючы нагамі ў сваіх кірзавых ботах, якія насіў і ў снег, і ў летнюю суш, і ў веснавую і восеньскую слоту, дзед падышоў да веснічак. Агледзеў кожнага з хлопцаў па чарзе, прамовіў:
— А, піянерыя,— самі, значыць, прыбылі?
Быў ён жылісты, сухі, хуткі на рухі. Калі размаўляў з кімсьці, заўсёды пашчыкваў сівую рэдкую бародку і вусы, парудзелыя ад тытуню.
—А я да вас сам збіраўся быў наведацца, вось як. Хлопцы пераглянуліся. Што такое? Сам хацеў шукаць іх — навошта? Хіба самі геолагі папрасілі яго знайсці ім памагатых? Але чаму ён такі сярдзіты? Звычайна ён любіў пажартаваць з імі, пагаварыць, яны гэтым ганарыліся — яшчэ б, лепшы ў пасёлку рыбак дае ім увагу,ніколі не праганяе ад сябе, нават раз пад добры настрой падказаў ім, дзе на звычайных лугавых конікаў "у праводку" (без паплаўка і грузіка) бяруцца язі, і яны сапраўды злавілі ў тым месцы пяць штук і паспыталі язевай юшкі... Што ж сёння з ім здарылася? Можа, Курт прыехаў і чагось пра іх нагаварыў, абылгаў?..
—Ну, піянеры, што маўчым? — дапытваўся дзед Макар.
Ён і раней зваў іх "піянерамі", але не такім голасам, як цяпер, а жартуючы, лагодна. А такім сур'ёзным хлопцы дзеда яшчэ ніколі не бачылі. Не разумеючы, што яны павінны казаць і ў чым іхняя віна, Міхал усё ж вырашыў трымацца таго тону, што быў паміж імі раней.
— Мы не піянеры, дзед Макар,— сказаў ён весела, адкрыта гледзячы дзеду ў вочы. — Піянераў цяпер няма.
— Яно і відаць,— прабурчэў дзед.
— Мы не піянеры, мы бойскаўты! — падтрымаў Міхала Чэсь. Праўда, ён і сам толкам не ведаў, што гэта за "бойскаўты", выпадкова пачуў ад старэйшых хлопцаў: нібыта ёсць такая дзіцячая міжнародная арганізацыя накшталт колішняй піянерскай.
— Яно і відаць,— ізноў паўтарыў дзед, шчыкаючы сваю бараду і вусы,— няма піянерыі, вось і разбалталіся без прыгляду. Піянеры былі, так не рабілі, як вы робіце. Няхораша гэта.

— Ды што мы рабілі?!
— Вы самі ведаеце. Вы таму і прыйшлі.
— Не ведаем мы нічога!
— Вы ўчора мой "тэлевізар" выцягнулі, каля абрыву. Хацелі рыбы? — ну і забралі б рыбу, я рыбу нікому не шкадую, а "тэлевізар" трэба было назад паставіць. Новенькі "тэлевізар",— дакорліва сказаў дзед.
Вось яно што! Ды як ён мог падумаць?! У пасёлку такога і выпадку не было, каб хтосьці паклаў вока на чужыя рыбацкія прылады!
— Не бралі мы,— панура сказаў Чэсь.
— А дзе ж ён дзеўся? Каму ён трэба з дарослых, у дарослых сваё ёсць. Акрамя вас — ніхто.
— Мы ні ўчора, ні пазаўчора нават не былі каля абрыву!
— Маніце, як не сорамна? Вы там кожны дзень круціцеся, я ж ведаю, бачыў. Прынясіце самі,— папярэдзіў дзед,— бо будзе горш. Бацькам пакуль вашым гаварыць не буду, не прынясеце — скажу.
— Можа, вы прывязалі слаба? — ветліва ўмяшаўся Зміцер, не падумаўшы, як крыўдзіць гэтай заўвагаю старога рыбака.
Дзед Макар чмыхнуў носам і не палічыў патрэбным нават адказваць на гэта.
— Што такое, Макаравіч? — крыкнуў геолаг, які загараў на перакуленай лодцы. Падняўся, памахаў рукамі — рабіў зарадку, лена падышоў да іх, наставіў на хлопцаў свае цёмныя акуляры.
— Ды вось, "тэлевізар" сцягнулі, падшыванцы,— паскардзіўся дзед Макар.— Яшчэ і не прызнаюцца.
— У чым прызнавацца, калі мы нават не бачылі вашага "тэлевізара"? — сказаў Міхал.
— Што?! — Геолаг адразу напяўся, пачаў мацаць зашчапку веснічак.— Тэлевізар?! Вось гэтая шпана? А ў міліцыю?
Хлопцы ўжо гатовы былі даць драпака. Але дзед схапіў геолага за руку:
— Не, не, якая міліцыя!.. Свае людзі... Вы ж не думайце: не той тэлевізар, што кіно паказвае! "Тэлевізар" па-нашаму — такая сетачка... Сетачка, метра паўтара.
— А, сетка.— Геолаг адразу астыў.
— Так! Знізу грузік — які-небудзь металічны прэнт, а зверху — паплавок, палка арэшнікавая... І гэтая сетачка стаіць у вадзе старчма, вертыкальна, рыба заблытваецца, таму і "тэлевізарам" завём...

**Раздзел 15**
**Курт**

Уладкаваліся, называецца, на працу... Хлопцы, павесіўшы насы, моўчкі завярнуліся, пабрылі па вуліцы.
Але тут грукнулі дзверы дзедавай хаты, адтуль выскачыў Вова-Курт, кінуўся да веснічак.
— Хлопцы, пачакайце!
Яны спыніліся. Курт, крыху касалапячы, падбег да іх. На хаду ён дажоўваў штосьці. Маленькі, чарнявенькі, але такі ж, як і дзед, хуткі, рухавы. Глыбокія хітрыя вочкі бегаюць і ўвесь час міргаюць. Адным словам, "курттаты", "курт"... Мянушку гэтую, сам пра тое не здагадваючыся, прыдумаў унуку ягоны дзед Макар. Неяк ля рэчкі прасіў хлопцаў: "Прынялі б вы майго Вовіка да сябе ў кампанію! А то курттаты ён нейкі, адзін і адзін, ніхто яго не хоча". Так і пайшло — Курт. У кампанію яго не прынялі. Можа, дзед ім за тое і помсціць, выдумляе нейкія "тэлевізары"?..
— Прывітанне! З табою, Змітрок, бачыліся ўжо.
Міхал і Чэсь неахвотна парукаліся з ім.
— Твайму дзеду што, рабіць няма чаго? — сказаў Чэсь.— Каму трэба яго "тэлевізар"?
Курт заміргаў вачыма, азірнуўся чамусьці на веснічкі. Геолаг стаяў, як і стаяў, дыміў цыгарэтаю. А дзед Макар вярнуўся зноў да машыны.
— Хлопцы, пры чым тут я? — Курт прыклаў да грудзей рукі.— Я сам толькі што прыехаў, вось Зміцер можа пацвердзіць.
Але выгляд у яго быў такі, нібыта Курт ведае не толькі пра злашчасны "тэлевізар", а і яшчэ пра сёе-тое.
— Ці не тваіх рук гэта работа? — падазрона ўзіраючыся ў яго, спытаў Чэсь.
— Якая работа?
— Наплесці дзеду, што мы маглі пакваліцца на яго "тэлевізар".
— Трэба мне дужа,— пакрыўдзіўся Курт.— Кажу ж, прыехаў толькі.
— Ну, глядзі!
— Гуляй, Вова.
Яны зноў павярнуліся, каб сыходзіць.

— Эх вы,— сказаў ім у спіны Курт.— А я хацеў... Я, можа, працаваць буду ў геолагаў! Не верыце?

Ніхто не азірнуўся.

— Вам жа разбагацець трэба,— сказаў раптам Курт.— Былі б добрыя, я папрасіў бы геолагаў, і вас бы ўзялі.

Чэсь з Міхалам аж спатыкнуліся. Вылупіліся на Змітрака. Трэба ж, вось дык маўчун-ціхоня! Умудрыўся разбалбатаць Курту іхнія планы, пакуль ехаў з ім у аўтобусе!

— Што яшчэ за навіны?! — прашыпеў да Змітрака Чэсь.— Ану, вернемся.

Курту толькі гэта і трэба было. Зацікавіў, вярнуў. Хай не задаюцца, цяпер вымушаны будуць лічыцца з ім.

— Дзесяць даляраў у дзень абяцалі,— пахваліўся Курт і сплюнуў пад ногі.

Хлопцы аж аслупянелі. Такая лічба прымусіла іх нават забыцца на здраду Змітрака. Дзесяць даляраў у дзень — гэта сума.

— Хлусіш,— сказаў Чэсь.

— Я?! Спытайцеся ў лысага... ой, я хацеў сказаць у дзядзькі Жоры... Дзядзька Жора! — азірнуўшыся, крыкнуў ён раптам.— Не выкідайце!

Ён падбег да веснічак і асцярожна прыняў з рук геолага недакурак, зацягнуўся.

— Яны не вераць, што вы мне па дзесяць даляраў у дзень плаціцьмеце.

— Буду,— пацвердзіў геолаг.

— Яны самі да вас наймацца прыйшлі,— ільсціва зазіраючы геолагу ў цёмныя акуляры, хіхікнуў Курт,— ды спазніліся!

Але геолаг раптам праявіў цікавасць:

— Гэта праўда, хлопцы? Вы хочаце памагаць нам?

— Хацелі. Якая цяпер розніца? — сказаў Міхал.

— Ну, чаму. Можа, і вам занятак знойдзецца. Зайдзіце праз тыдзень, калі ў вас канікулы пачнуцца. Мы тут усё лета будзем.

Працаваць разам з Куртам? З гэтым падлізлівым лісам? Як ні стаяла ў вушах у кожнага "дзесяць даляраў у дзень", як ні заманліва гэта было, хлопцы цвёрда ведалі, што да геолагаў больш не прыйдуць.

— Дарэчы, чые гэта соткі ўнізе, каля самага помніка? — спытаў геолаг.

— А што? — азваўся Чэсь.— Ну, мае.

— Нічога. Зямлі адтуль трэба будзе ўзяць на пробу.

Геолаг пазяхнуў:

— Дык праз тыдзень чакаем вас,— паплёўся назад у двор, загараць.

Курт пабег следам. Нарэшце хлопцы засталіся адны. Міхал з Чэсем далі сабе волю, накінуўшыся на пачырванелага разгубленага Змітрака.

— Адкуль гэты Курт ведае, што мы прыходзілі шукаць працу?!

— Адкуль ведае, што мы сабраліся разбагацець?!

— Папытайцеся ў яго самі.

— Дапусцім, пра геолагаў ён сам здагадаўся... але пра нашае "разбагацець" — адкуль?!

— Хлопцы, вы можаце не верыць мне,— справіўшыся з сабою, спакойна адказаў Змітрок,— можаце не сябраваць са мною. Але ў аўтобусе я не сказаў яму ні слова. "Прывітанне — прывітанне", вось і ўсё.

— Ага, значыць, сказаў! "Прывітанне" сказаў жа?

— Не моўчкі ж ехаць. Зрэшты, думайце што хочаце, — махнуў рукою Змітрок.

— Добра. З гэтым мы яшчэ разбярэмся...— Міхал зірнуў на сонца, якое пакрысе садзілася за ракою. — Зараз разбягаемся снедаць, а ўвечары — збор каля Аксанінай хаты.

## Раздзел 16
## Афіцэр напалеонаўскага войска

Вуліца патанала ў ранніх прыцемках. З нізіны, ад ракі, цягнула начным лёгкім ветрыкам. Таўкла мак, звінела машкарэча — настырны гнус не палохаўся ні ветрыку, ні прыцемак. Цэлыя хмаркі яго віліся над галовамі хлопцаў, Аксаны і яе бацькі. Хіба крыху памагалі галінкі бэзу, якімі абмахваліся, ды яшчэ "куродым" — кучка падпаленага старога рыззя, спарахнелага дрэва, кары... Куродым таму так і называецца, што не столькі гарыць, колькі курыцца і адурманьвае гнус.

Бацька з Аксанаю сядзелі на маленькай лавачцы пад плотам, Чэсь, Міхал і Змітрок — паўкругам насупраць, проста на траве. У цэнтры дыміўся, успыхваў рэдкімі агеньчыкамі куродым. Бацька падварушваў яго дубчыкам.

Толькі што бацьку давялося коратка паўтарыць хлопцам тое, аб чым ужо ведала Аксана: пра Вялікае Княства, іспанскага чакану талеры, пра бяспутнага шляхціца Трушку і яго родавую калекцыю манет...

— Вы, можа, не ведаеце, што наш помнік на пагорку каля Бярэзіны,— паказаў бацька дубчыкам сабе за спіну,— проста сімвал. Гэта проста знак памяці салдатам усіх войнаў, якія

закранулі нашу мясціну: напалеонаўскай 1812 года, Першай сусветнай, грамадзянскай, Другой сусветнай... А непасрэдна захаванні былі, вядома, у самых розных месцах. Напрыклад, першае захаванне, яшчэ з часоў адступлення французскага войска, было куды далей ад ракі — прыблізна там, дзе цяпер Чэсевы соткі, а можа, і яшчэ вышэй, вось тут, дзе мы сядзім.

Чэсь уздрыгнуў. Самыя неверагодныя здагадкі кружылі яму галаву. Ён слухаў, забываючы адмахвацца ад машкарэчы, лавіў кожнае слова. У кішэні ён сціскаў знойдзены на сваіх сотках талер.

— Тады як хавалі? — няспешна распавядаў далей бацька.— Часта ўсіх разам — рускіх і французаў, чырвоных і белых, савецкіх воінаў і гітлераўцаў — усіх у адным месцы, ставілі адзін крыж на магіл. Усе людзі, кожнаму страшна паміраць, кожнага дзесьці ў Разані, ці ў Мазыры, ці ў Парыжы хтосьці чакае, моліцца, каб абмінула блізкага чалавека бяда... І вось якая выходзіць цікавая гісторыя. Неўзабаве пасля канца вайны з Напалеонам цар выдае два ўказы, у якіх цывільныя ўлады абавязваюцца збіраць кінутую непрыяцелем амуніцыю, зброю і іншыя трафеі.

Усё гэта не бясплатна. Напрыклад, гармата каштавала аж пяцьдзесят рублёў, ружжо — пяць, халодная зброя — шаблі, цесакі — трохі танней... Сабраць амуніцыю было, вядома, куды больш складана — сяляне яшчэ раней парасцягвалі. І доўга пасля вайны беларускія сяляне францілі ў ботах і ў галоўных уборах усіх еўрапейскіх армій, якія ўваходзілі ў склад вялікай напалеонаўскай арміі. У вёсках на шляхах адступлення, гэта значыць і ў нашых Паплавах, доўга не куплялі жалеза, з шабляў і палашоў мясцовыя кавалі рабілі нажы і сярпы, з кірасаў — патэльні, конаўкі... Гузікі, на якіх часта былі выгравіраваны нумары палкоў, і праз сто гадоў пасля французскага нашэсця ўпрыгожвалі світкі і кажухі беларусаў.

Шукаючы трафеі, заадно раскопвалі старыя, спехам зробленыя магілы, перазахоўвалі іх — ужо ў іншых месцах, урачыста, з пашанаю, малебнам... Прысутнічалі і мясцовыя ўлады. Так была раскапана магіла ў Паплавах. У магіле знайшлі астанкі трох рускіх салдат і французскага афіцэра. Сведкі з мясцовых сялян паказалі: сапраўды, увосень 1812 года каля самай вёскі, на ўзлеску, натыкнуліся на "француза", параненага, абмерзлага, непрытомнага, абвязанага жаночай хусткаю, у нейкіх лахманах зверху падранага ўшчэнт мундзіра... "Француза" занеслі ў бліжэйшую хату, спрабавалі выхаяць, але марна. Паранены нават не варушыўся, дужа шмат страціў крыві на марозе. Уночы ў Паплавы падышоў абоз рускіх. На лафеце везлі трох мёртвых салдат. За ноч ціха, не прамовіўшы ні слова, сканаў і француз. Як свет — абоз рушыў далей, пакінуўшы сваіх нябожчыкаў, і мясцовыя сяляне пахавалі іх разам з французам.

І вось пасля вайны, пры раскопцы той магілы, знаходзяць медную пазелянелую пласцінку, на якой ледзь-ледзь можна разабраць: "Anri B...n ingenir...", два талеры іспанскага чакану, а таксама кавалак звычайнай бяросты, у якую талеры былі ўкручаны. Бяроста хоць і змянілася ад часу, пацямнела, патрэскалася, але захавалася яшчэ даволі добра. На ёй можна было разабраць нейкія лініі, зробленыя рукой чалавека. Але галоўнае, з-за чаго потым усё і закруцілася,— гэта разборлівыя, глыбока выразаныя нажом лацінскія літары: "CLAD..." — "КЛАД". І зверху над словам — маленькі крыжык.

**Раздзел 17**
**Усё сыходзіцца!**

— Чаму ж сяляне не забралі гэтыя рэчы? — усклікнуў Чэсь, аблізваючы ад хвалявання вусны.— Яшчэ тады, калі падабралі гэтага параненага француза?

— У такога небаракі? — Аксана пацепнула плячыма, ці то ад вечаровага холаду, ці ад жалю да француза.

Сапраўды, чалавек у такіх лахманах, што каштоўнага пры ім можа быць,— пацвердзіў бацька.— Відаць, проста ў галаву не прыйшло абшукваць бедака. А можа, пасаромеліся абшукваць, усё ж канае чалавек.

— А пры перазахаванні? — умяшаўся Міхал.— Вось калі раскапалі магілу, няўжо ніхто не пакваліўся на манеты?

— Сяляне мо і пакваліліся б, усё ж срэбра. Але, на радасць ці на гора пазнейшых шукальнікаў скарбу, пры раскопцы аказаўся чыноўнік з мясцовага аддзялення паліцыі, нейкі Панятоўскі, верны слуга цара і Айчыны... Ён, вядома, не мог дапусціць, каб нават крышка "дабра расійскага" абмінула дзяржаўную казну. Дзве манеты, медная пласцінка, бяроста, нават пара ацалелых гузікаў з мундзіра былі спраўна ўпакаваныя і разам з падрабязным вопісам — пры якіх умовах і дзе ўсё гэта было знойдзена —

адпраўлены ў Санкт-Пецярбург...

Бацька падклаў у куродым кавалак кары, падзьмухаў, каб той разгарэўся і задыміў. Было ўжо цёмна, толькі вокны ў хатах свяціліся, нібы арыенціры, пазначалі вуліцу. Бацька зняў пінжак і накінуў на плечы Аксане.

— Далей, тата! — нецярпліва папрасіла дзяўчынка.

— Ну, а далей і раскруцілася карусель... Бяроста сваімі трэшчынкамі-лініямі нагадвала тапаграфічную карту, потым — магічнае слова "КЛАД", крыжык... Француз быў інжынер, значыць, разбіраўся ў тапаграфіі і мог пазначыць на бяросце нейкі геаграфічны маршрут. Разглядалі, вывучалі бяросту і так і сяк — нічога не атрымліваецца. Для тапаграфічнай карты на бяросце не пазначаны арыенціры-прывязкі да пэўнай мясцовасці — якоясьці дрэва, рака, камень. Для звычайнай карты не пазначана, дзе поўнач, дзе поўдзень, словам, круці гэтую бяросту як хочаш. Пачалі меркаваць, ці не ў манетах ключ да разгадкі гэтай "карты"? Сапраўды, рубцы манет былі скрамсаны нажом; несумненна, яны неяк звязаны з бяростаю. Пачалі ўжо круціць манеты і тым і іншым бокам прыкладаць да бярозы... той жа вынік! Нічога не зразумела, нічога не выходзіць. Тады ўзяліся за гузікі, на якіх быў выгравіраваны нумар палка, і раптам супала, што гэта той самы полк, куды паступіў на службу беларускі шляхціц Трушка, і манеты — тыя самыя, з яго родавай калекцыі...

— Але ж манет было восем! — Аксана хуценька падлічыла: — Пяць знайшлі на месцы фальварка, дзве — у афіцэра, а дзе яшчэ адна?

— Акурат у цэль,— пахваліў бацька.— У тым і справа, што ў французскага афіцэра было не дзве, а ўсе тры манеты. Як яны да яго трапілі — невядома, але факт фактам. І шыфраваў ён сваю "карту" — бяросту — таксама пры дапамозе ўсіх трох талераў. Адпаведна, такім жа чынам гэтая "карта" і павінна разгадвацца. Гэта як гульня ў кубікі: аднаго не хапае — і слова ніяк не складзеш.

— І... не знайшлі? — Чэсь праглынуў сліну— Трэцюю манету?

— Не. Хоць шукалі яе не адзін год, перакапалі тут усё наваколле, апытвалі тутэйшы люд... Неаднойчы раскопвалі і саму магілу — патаемна, уночы. А француз, нібы помсцячы за свае пакуты на гэтым свеце, з таго свету пацвельваўся з жывых: "Шукайце, шукайце! Во загадаў вам загадку!" Яшчэ да рэвалюцыі аб'явілі немалую ўзнагароду таму, хто знойдзе і перадасць уладам гэты трэці талер. Тады ж і з'явіліся манеты-падробкі. Праўда, іх лёгка было "раскусіць": фальшываманетчыкі не маглі ведаць, што на сапраўдных талерах — зробленыя нажом насечкі на рубцах. Дарэчы, Аксанін талер хутчэй за ўсё акурат і ёсць адна з тых дарэвалюцыйных падробак.

— Не можа быць! — пакрыўдзілася за сяброўку Аксана.— Кацін тата не стаў бы трымаць у сябе несапраўдную манету.

— Магчыма. Ну, вось такая гісторыя,— нечакана закончыў Аксанін бацька.— Сцямнела зусім, і мошкі нас загрызлі, і куродым наш патух.

— Гэта ўсё?! — у адзін голас усклікнулі Чэсь з Міхалам.

— Вось так заўсёды! — Аксана ад крыўды аж пасунулася ад бацькі на край лавачкі.— Трэці раз бярэшся расказваць, і ўсё нешта перашкаджае!

Бацька здзівіўся:

— Гэта, праўда, усё, што я ведаю.

— Не ўсё, мы і таго не ведаем! — запярэчыла Аксана.

— Дык пытайцеся, я паспрабую адказаць.

Чэсь з Міхалам пачалі перашэптвацца.

— Скажыце, а дзе цяпер тыя дзве манеты і бяроста? — раптам спытаў Змітрок.

Бацька засмяяўся:

— А, вунь яно што! Самі, значыць, вырашылі паспрабаваць? Што ж, паспрабуйце... Толькі ведайце — будзе вам няпроста, таму напярод рыхтуйце сябе да магчымых горычы і расчараванняў...

— Лепш навучы, парай, што нам найперш рабіць? — сказала Аксана.

— Найперш, калі прыедзеш у Мінск, даведайся ў Кацінага таты, адкуль у яго гэты талер, ці не фальшывы ён. Потым: у вас, у Паплавах, у школьным краязнаўчым музеі, наколькі мне вядома, павінна быць копія бяросты...

— У нас? Тут? — аж не паверыў Міхал.

— У вас або ў гарадскім краязнаўчым музеі. Там усе супрацоўнікі ведаюць пра гэтую гісторыю.

— А манеты?

— Павінны быць і копіі манет. Справа ў тым, што перад вайною з Ленінграда ў наш Мінскі архіўны музей былі перададзены гэтыя два талеры і дакладная копія бяросты — ад самой бяросты, вядома, ужо нічога не засталося. А з Мінска копіі рассылаліся ва ўсе краязнаўчыя музеі, якія рабілі запытанні.

— Няўжо так проста ўсё? — уразіўся Чэсь.

— Калі было б проста, гэтую тайну даўно раскрылі б,— заўважыў бацька,— а так з кожным годам, з кожным дзесяцігоддзем усё круціцца, нібы кола: не хапае самага галоўнага — трэцяй манеты. Дзе згубіў ці схаваў яе паранены француз — хто ведае...

"Я ведаю! Яна ў мяне ў кішэні!" — ледзь не ўскрыкнуў Чэсь. Падчас усяго вечара яму карцела прызнацца ў гэтым, пахваліцца сваёй знаходкаю. Але штораз ён адчуваў на сваім локці цвёрды, рашучы поціск Міхалавай рукі. "Маўчы!" — азначаў гэты поціск.

— У крайнім выпадку,— працягваў бацька,— калі вас напаткае няўдача ў школьным або краязнаўчым музеі, магу параіць вам вось што. Я ўжо расказаў Аксане — загадчыкам у Мінскім архіўным музеі працуе знаёмы Аксанінага настаўніка гісторыі, Барыса Рыгоравіча. Я магу пазваніць яму ці напісаць запіску, Аксану пусцяць у архіўны музей, яна паглядзіць усё на свае вочы і выпіша, што трэба.

— А ці маглі б мне на час даць гэтыя манеты? — спытала Аксана.

— Калі толькі на месцы, у архіве, пад наглядам загадчыка... Ага, і яшчэ! — схапіўся бацька.— Я забыў сказаць вам, што сапраўдны талер застаўся толькі адзін — другі знік у час вайны, засталася толькі копія.

— Як... знік?!

— Так, вельмі проста. Ці мала што знікала з нашых музеяў і ў часы акупацыі, і пасля акупацыі... Вось бачыце,— заключыў бацька,— якія перашкоды вас чакаюць? Калі нават дапусціць самае неверагоднае: што ў Аксаны сапраўдны талер, другі — у архіве, усё адно не хапае трэцяга.

Чэсь з Міхалам ледзь стрымліваліся, каб зараз жа не заспяваць, не закрычаць, не затанцаваць ад радасці. Цяпер яны ведалі ўсё.

## Раздзел 18
## "Казачкі"

Раптам хтосьці кашлянуў у цемры, тады пачуўся голас:

— Казачкі расказваеце, Іванавіч?

Аксана ад нечаканасці міжволі ўскрыкнула. Хлопцы паўскоквалі на ногі.

Ад плота аддзялілася постаць, ступіла бліжэй. Усе, пазнаўшы, уздыхнулі з палёгкаю. Гэта быў дзед Макар. Як ён умудрыўся так ціха падысці, што ніхто не пачуў? І колькі часу стаяў так, маўчком, слухаючы? Навошта яму гэта?

— Што ж вы дзяцей спалохалі? — незадаволена сказаў бацька.

— Дзяцей? Гэта добрыя дзеці...

Дзед Макар пакасіўся на хлопцаў. Відаць, яму хацелася расказаць пра ўкрадзены "тэлевізар". Але прамаўчаў. Прысеў на кукішкі, адшукаў у патухлым куродыме кавалачак кары, доўга дзьмухаў на яе. Дабіўся-такі іскрынкі, прыкурыў. У агеньчыку цыгарэты на міг дзіўна бліснулі яго глыбокія вочы.

Аксана прытулілася да бацькі.

— Чуў я,— прамовіў дзед, пыхкаючы дымам таннай цыгарэты.— Казачкі ўсё гэта... Нашто тлуміць малым галаву? Хай бы лепш работу якую рабілі, бацькам памагалі... Карысць была б, і не цягаліся б абы-дзе.

— Казачкі? — перапытаў бацька.— Вось такі ж хлопчык, як гэтыя, з-пад Барысава, неяк заўважыў птушку, якая насіла ў сваё гняздо штосьці бліскучае. У гняздзе аказалася груда манет шаснаццатага стагоддзя — прускіх, польскіх і расійскіх. Другі такі ж хлопчык — з Навагрудчыны — выпадкова капнуў зямлю палкаю і натыкнуўся на скарб польска-літоўскіх манет семнаццатага стагоддзя. Вось вам і казачкі.

— Дык і ў нас капаюць, бы краты, а што толку? Адно, не даюць зямельцы спакою... Вось яна і радзіць перастае, зямелька наша.

— Што вы, дзед Макар! — запярэчыла Аксана. — Наадварот! Зямлі чужога не трэба, яна выштурхоўвае з сябе розныя камяні, жалеза... Праўда ж, тата?

Але бацьку, відаць, не дужа хацелася ўступаць у палеміку з няпрошаным госцем. Ён неахвотна пацвердзіў:

— Праўда... Усё, дачка, пара спаць,— і падняўся.

— Грэх зямельку чапаць, — гнуў сваё дзед. — Капаюць, рыюць штолета, а чаго рыюць, што шукаюць? Усё нечага не хапае людзям. А я так думаю: калі б было што ў зямельцы нашай, даўно знайшлі б. Правільна я разумею?

Ніхто яму не адказаў.

— Іванавіч! — звярнуўся раптам дзед да бацькі.— Вось вы, я ведаю, крыўдуеце на мяне. Пагаварыць не хочаце. Дзецям і то ўвагу далі, а я, значыць, нічога не разумею, стары пень... Так выходзіць?

— Не, не так, — адказаў бацька. — Калі бы вы не стаялі цішком ля плота, а падышлі да нас, і вы паслухалі б. Ды вы і так слухалі...

— Крыўдуеце, — паўтарыў дзед. — А за што? Плот вашай маці зрабіў? Зрабіў. Дрывамі памог? Памог. Рыбкаю, грыбамі...

— За гэта я вас паважаю,— суха адказаў бацька,— а крыўдую трохі толькі за адно: вы робіце ўсё гэта, а потым хваліцеся ўсяму пасёлку, які вы добры.

— А як жа інакш? — шчыра здзівіўся дзед Макар.— Я ж стары, вось і люблю пагаварыць. І вы, Іванавіч, будзеце старымі, і яны вось, дзеці... Тады пабачыце, што за радасць.

— Добрай ночы,— кінуў бацька.— Хадзем, Аксана.

Бацька пайшоў у двор.

Чэсь кінуўся, перад веснічкамі злавіў за руку Аксану і шапнуў:

— Выйдзі заўтра на вуліцу... Мы пакажам табе будан. У нас ёсць трэцяя манета!

## Раздзел 19
## Планы

Дзень абяцаўся быць пагодным.

На чыстым сінім небе ні хмурыначкі. Сонца паднялося ўжо даволі высока, а на траве, на ствалах дрэў, на лісцях — усё яшчэ раса. Ззяе, пераліваецца, успыхвае ў промнях мірыядамі зорак-кропелек па ўсім поплаве. У нізінах, каля прырэчнага кустоўя, яшчэ сінеюць рэшткі начнога туману.

Ціхая, павольная, паўсонная вада Бярэзіны плешчацца ў бераг. Ад ракі патыхае ранішняй свежасцю. То тут, то там чуюцца ціхія гукі: шпок! буль! шпок! — нібы хто кідае ў ваду маленькія каменьчыкі. Гэта невялікія рыбкі палююць на насякомых. Нездагадлівая машкарэча таўчэцца над самай вадою шэрымі хмаркамі, радуецца сонцу, раніцы і нават не падазрае, што служыць некаму ўсяго толькі сняданкам...

Чэсь з Аксанаю спыніліся на абрыве, пад самымі вольхамі і дубам.

— А цяпер паглядзі ўважліва,— сказаў Чэсь. Аксана паазіралася:

— Ну і што? Давай, вядзі, дзе той ваш будан?

— А мы прыйшлі. Над тваёй галавою.

— Там? На дрэвах? Вось гэта здорава... Аніколі не здагадалася б.

Уверсе, у кронах дрэў, штосьці зашамацела.

— А як узбірацца? — спытала Аксана.

— Па гэтай крывой вольсе. Хочаш, падсаджу? — пачырванеўшы, прапанаваў Чэсь.

Дзяўчынка сярдзіта бліснула на яго вачыма:

— Яшчэ чаго!

Бы кошка, абхапіла гладкі, адпаліраваны нагамі ствол, уміг апынулася наверсе, схавалася ў лістоце.

Радасны настрой у Чэся раптам прапаў ад гэтага сярдзітага "яшчэ чаго". А так добра пачалася была раніца! За ноч пухліна прайшла, шчокі сталі аднолькавыя. Ён мог ужо не саромецца Аксаны. Ён нават падрыхтаваў ёй падарунак, які, загорнуты ў шчыльную паперу, ляжыць у нагрудная кішэні кашулі... І вось — "Яшчэ чаго!". Чэсь няўклюдна, стараючыся не прыціснуцца да вольхі грудзямі, пакарабкаўся следам за дзяўчынкаю.

Хлопцы абодва былі ўжо тут. Зміток ляжаў на мяккім імху, падпёршы локцем падбародак, флегматычна глядзеў праз сетку лістоты на ўсход сонца. Міхал выглядаў занепакоеным. Ён стаяў на каленях у кутку каля палічак, перабіраў іхні скарб.

— Здаецца, быў тут хтосьці чужы,— сказаў ён Аксане і Чэсю замест прывітання.— А ўсё на месцы...

— Ды кажу ж табе, я гэта быў,— азваўся Зміток.— Учора, калі прыехаў з горада, шукаў вас і ў будан залазіў.

— Ну, добра,— сказаў Міхал.— Уладкоўвайся, Аксана! Як табе тут падабаецца?

— Здорава! Проста цуд нейкі.— Аксана, праўда, была ў захапленні.— Аж не верыцца, што ты — на дрэве, высока над зямлёю... А колькі рознага дабра ў вас тут!.. Чайнік нават ёсць. Няўжо і гарбату тут грэеце?

— Навошта тут? Спускаемся ўніз, да ракі, там кастрышча і галля сухога поўна,— адказаў Міхал.

Ён расклаў на каленях сшытак, дастаў аловак, прыняў важны, нават урачысты выгляд.

— Так, Чэсь, Аксана, давайце сюды талеры... Ну, вось. Цяпер ты зразумела, Аксана? Учора Чэсь зусім не квапіўся на тваю манету, у яго свая была, амаль такая ж на выгляд. Ён знайшоў яе на сваіх сотках, акурат на тым месцы, дзе магло быць першае пахаванне французскага афіцэра. Бачыш, якія падобныя?

— Праўда,— прашаптала Аксана.— Хлопчыкі, дык гэта ж значыць...

— Гэта значыць, скарб наш,— панура перабіў Чэсь.— Дастаем копію бяросты, ты просіш у архіве на час трэці талер — і ўсё.

— І ўсё! — не могучы стрымаць радасць, Аксана абняла ўсіх па чарзе.

Панурасць з Чэся як рукою зняло.

—Чаму ж вы ўчора ўвечары маўчалі? Трэба расказаць пра ўсё тату, — вырашыла Аксана, — ён параіць...

Усе ўтрох ускінуліся:

— Ну, зараз!

— Яны, дарослыя, сто гадоў шукалі, не знайшлі!

— Раскажам, а сюды наедзе розных экспедыцый, выкапаюць золата, а нам і дзякуй ніхто не скажа!

— Добра, добра,— пакорліва згадзілася дзяўчынка.— Я ж нічога... Калі вы ўсе супраць, давайце шукаць самі.

— Так,— сказаў Міхал,— я люблю ва ўсім парадак і яснасць... Давайце найперш запішам... пункт пяты, галоўны і асноўны: пошукі скарбу.

— А што за пункты? — зацікавілася Аксана.— І чаму пяты? А якія яшчэ чатыры?

— Так, драбяза...

Міхалу цяпер проста сорамна было за тыя чатыры "метады здабывання грошай". Асабліва за "пункт чацвёрты", які прыдумаў ён сам. Падумаць толькі, якое глупства — "пастарацца знайсці грошы на вуліцы"!..

— Аксана,— строга, каб прыхаваць няёмкасць, звярнуўся да дзяўчынкі Міхал,— мы прынялі цябе ў кампанію. Цяпер ты ведаеш, дзе будан, можаш прыходзіць сюды ў любы час, калі захочаш, робішся, як і мы, поўнай гаспадыняю ўсяго тут. Дай слова, што будзеш маўчаць, як рыба.

Ніхто — ні бацька, ні бабуля, ні самая блізкая сяброўка — не павінен ведаць ні пра будан, ні пра скарб.

— Даю слова,— адразу ж лёгка згадзілася Аксана.

— Цябе гэта таксама тычыцца, маўчун ты наш. Зміцрок толькі махнуў рукою. Маўляў, што дарэмна апраўдвацца, усё адно не паверыце, што нічога ён Курту не казаў...

— Так, распісваем кожнаму заданні. Сёння — дваццаць пя тага травеня. Я думаю, да канікулаў няма чаго рыпацца. Трэба спакойна давучыцца гэты тыдзень. Скарб, можна сказаць, у нас у руках, нікуды не дзенецца. Раней ці пазней яго выкапаем — не так важна.

Чэсь прапанаваў:

— Міхал, можа, адразу падумаем, як будзем дзяліць?

— Вядома, пароўну! — сказала Аксана.— І яшчэ Каці.

— Якой Каці?!

— Сяброўцы. Яна падаравала мне талер, з гэтага ўсё і пачалося.

— Аксана, ты дала слова! — нагадаў Міхал.— Ніякіх сяброўак! Дзяліць будзем на чатыры часткі. Трэць — Чэсю з Аксанаю, адну чацвёртую — нам са Зміцраком. Талеры вашыя, гэта будзе справядліва. А потым кожны можа распараджацца сваёй доляю, як захоча, у тым ліку і дзяліцца з Кацяю.

Ніхто не запярэчыў. Усе з павагаю зірнулі на Міхала. Не часта даводзіцца бачыць людзей, якія з такой рашучасцю гатовы абдзяліць самі сябе.

— Значыць,— сказаў Міхал,— пачнем па алфавіце. Аксана, табе самае цяжкае і самае важнае заданне. Першае — распытаць, адкуль талер, ты забярэш яго з сабою ў Мінск. Другое — сходзіш у архіўны музей, даведаешся ўсё падрабязна, па магчымасці возьмеш копію бяросты. Хоць з копіяй, я думаю, праблем не будзе, раз яна ёсць нават у нашым школьным музеі... Пажадана было б неяк выпрасіць у архіве на тыдзень-другі іхні талер.

— Я паспрабую,— кіўнула Аксана.

— Зміцрок — тое ж самае. Сходзіш у гарадскі краязнаўчы музей, даведаешся пра ўсё падрабязна, паспрабуеш выпрасіць у іх копіі. Мы з Чэсем будзем круціцца тут, на месцы, і чакаць вас. Усё ясна? Хто яшчэ што хоча сказаць?

— Я,— Аксана, як на ўроку, падняла руку— Калі мы ехалі з татам сюды, у Чэрвені на аўтастанцыі ў мяне хацелі адабраць талер. Я... проста дастала яго з кішэні. А яны заўважылі.

— Хто яны?

— Два мужчыны. Аднаго завуць Сева, а другі — лысы. У іх яшчэ машына. І яны ехалі за нашым аўтобусам да самых Паплавоў.

— Я думаю, нічога страшнага,— сказаў Міхал.— Калі гэтая гісторыя з талерамі такая вядомая, дык нічога дзіўнага, што многія цікавяцца ёю... Аднак пільнасць не пашкодзіць. Надалей ні Аксана, ні ты, Чэсь, ніколі не даставайце манеты без патрэбы. І яшчэ: каб не ўзнікала да нас падазронасці, будзем

гаварыць: "Нам далі на лета заданне — збіраць матэрыялы пра гісторыю Паплавоў". Усё зразумела?

— Зразумела.

— Тады — купацца! — весела закончыў Міхал.— Каля берага вада ўжо цёплая.

Хутка спусціліся ўніз.

Аксана раптам спынілася:

— Не, я не магу. Я забыла купальнік.

— Збегай, мы пачакаем.

— Ды ў Мінску забыла! Думала, яшчэ холадна купацца, і не ўзяла...

Чэсь здзіўлена зірнуў на яе.

— Хочаш — адыдзі ніжэй, за паварот,— сказаў ён.— Мы не будзем падглядваць, чэснае слова.

— Не, другім разам пакупаюся.

Міхал са Змітраком, на хаду скідваючы адзенне, кінуліся да ракі. Чэсь затрымаўся. Дастаў з кішэні падарунак, працягнуў Аксане:

— Гэта мёд. Табе.

— Сапраўды? — Яна хуценька разгарнула паперу і ўбачыла зусім чорны, круглы, бы яйка, шарык. Гэта былі соты, поўныя бурштынавага духмянага мёду.

— Няўжо ад тых восаў?! — уразілася яна.

— Ад восаў. А ты не верыла... Не, жартую! — засмяяўся Чэсь.— Гэта бацька ўчора знайшоў на лузе. Чмяліны мёд.

— Што ў вас за сям'я, адны пчаляры нейкія...

Аксана раптам успомніла, што яна непрыгожая, і замоўкла.

— Дзякую,— суха сказала яна.— Пабягу, збірацца трэба. Да сустрэчы праз тыдзень.

— Аксана! — паклікаў Чэсь услед. Дзяўчынка спынілася:

— Што?

— Не, нічога... Пакуль!

## Раздзел 20
## Лета

Апошні тыдзень здоўжыўся, як ніколі. І вось нарэшце — лета! Канікулы! Цэлых тры месяцы: чэрвень, ліпень, жнівень! Нават самі словы гэтыя гучаць, бы музыка. За адно лета ты сталееш на цэлы год. Ты не без лёгкага суму здаеш у школьную бібліятэку падручнікі, да якіх так прывык за дзевяць месяцаў. Хаваеш на дно шафы стары дзённік і стос сшыткаў з дыктантамі і сачыненнямі. У першы ж дзень канікулаў абуваеш кеды або красоўкі, адзяеш якія-небудзь шорты, зробленыя са старых джынсаў, майку — усё гэта будзе з табою цэлае лета, абносіцца, палюбіцца... І ў гэтай зручнай, лёгкай апратцы, якую не баішся запэцкаць ці падраць, ты радасна пераходзіш мяжу і ўступаеш на тэрыторыю іншай краіны, з кароткаю назваю Лета. Краіны яркага сонца, цёплых дажджоў і навальніц, грыбных туманаў, краіны футбола, ранішняй і вечаровай рыбалкі, арэхаў і ягад, паходных вогнішчаў, краіны цікавых кніжак і першага кахання, краіны загадак і адкрыццяў...

Міхал з Чэсем вылезлі з рэчкі, пакідаючы за сабою на мокрым узбярэжжы глыбокія вузкія сляды, якія адразу ж напаўняліся вадою. Упалі на гарачы пясок. Адразу ж скура ў абодвух пачала пакрывацца цыпкамі. Па целе прабягалі дрыжыкі.

— Сёння... трэцяга... чэрвеня, — сказаў Чэсь непаслухмянымі ад холаду вуснамі, — а ні Аксаны... ні Змітра.

— Затое... Курт... заявіўся дзень у дзень,— гэтаксама азваўся Міхал. — Сёння я бачыў... коз пас на выгане...

Дзед Макар трымаў казу з казляняткам; заўсёды яны пасвіліся і прыходзілі дамоў самі, а тут Курт, відаць, дзеля "спартыўнай цікавасці", раптам загарэўся за імі глядзець.

Міхал з Чэсем даўно выканалі сваё "заданне". Ці, лепш сказаць, яны яго не выканалі. Нічога не ўдалося дабіцца. Школьны "гістарычна-краязнаўчы куток" аказаўся шафаю з вялікім навясным замком. Шафа стаяла ў глухім канцы калідора, і на яе ніколі не звярталі ўвагі. Маладая, толькі што з універсітэта, настаўніца гісторыі доўга не магла зразумець, чаго ад яе хочуць.

— Нам на лета задалі заданне, — тлумачыў Міхал, — даведацца як мага больш пра гісторыю нашага пасёлка.

Пачалі шукаць ключ ад замка. Ён аказаўся ў школьнай прыбіральшчыцы бабы Ніны. Адамкнулі — у шафе, паверх груды запыленай, пажоўклай макулатуры ляжала папка з надпісам — "Нашы славутыя

землякі". У папцы — некалькі газетных выразак пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнцаў гэтых мясцін.

— І гэта ўсё, увесь музей? — расчаравана спытаў Чэсь. Настаўніца чамусьці пакрыўдзілася.

— А што вам яшчэ трэба?

— Штосьці больш даўняе, звязанае з гісторыяй,— сказаў Міхал.

— Гэта і ёсць гісторыя вашага пасёлка,— адказала настаўніца.— Што вам яшчэ?

Умяшалася баба Ніна. Яна, з ключом у руцэ, стаяла побач і чакала, калі папку пакладуць на месца і зноў можна будзе начапіць на "школьны музей" замок.

— А вы схадзіце да Ірыны Леанідаўны,— параіла яна.— Старая настаўніца, ужо дзесяць гадоў на пенсіі. Да яе ўсе ходзяць, каму гісторыя трэба.

Схадзілі да Ірыны Леанідаўны, якая жыла адна, у хаце ў самым канцы Паплавоў, пад лесам. Настаўніцы не засталі дома. Суседка патлумачыла нам, што яна паехала ў госці да сына, вернецца недзе праз тыдзень.

Усё. Заставалася толькі адно — чакаць Аксану, Змітрака, а цяпер ужо і настаўніцу Ірыну Леанідаўну.

На чацвёрты дзень канікулаў прыехаў урэшце Змітрок.

— Нічога не атрымалася,— спакойна аб'явіў ён.— Краязнаўчы музей не працуе, зачынены на рамонт.

— І на колькі?

— Яны самі не ведаюць. Сказалі — надоўга. Там будынак стары, ледзь ліпіць, усе сцены патрэскаліся.

— І ты моўчкі завярнуўся і пайшоў?

— Не. Пачаў прасіць: кажу, мне на лета задалі заданне па гісторыі Паплавоў, пра помнік...

Зміцер замоўк, успамінаючы.

— Ды не цягні ты! А яны?

— Параілі з'ездзіць у Паплаўскую школу, у вашую, значыць. Там, сказалі, добры школьны музей.

— Добры,— пасміхнуўся Чэсь. — Бачылі мы той музей... А можа, нам не ўсё паказалі, Міхал?

— Навошта ім штосьці хаваць, — адказаў Міхал. — Хутчэй за ўсё, тая адзіная папка і ёсць уся "гісторыя".

## Раздзел 21
## Шпіён

За пасялковай крамаю быў сметнік. Тут хлопцы знаходзілі скрынкі для ўпарадкавання будана. А за сметнікам — пустэча, зарослая па краях быльнягом і крапівою, у цэнтры вытаптаная капытамі кароў, якіх гналі праз гэтую пустку на пашу. Сюды Курт выводзіў сваіх коз.

Козы не звярталі на пастуха ніякай увагі, хадзілі, дзе хацелі, а Курт з важным выглядам, з пугаю ў руцэ тупаў следам, пакрыкваючы на іх. Відаць, яму, гарадскому хлапчуку, бачылася ў гэтым занятку нават нейкая рамантыка. Ды і што яму яшчэ рабіць? Плаваць не ўмее, у кампанію не прымаюць... Хвалёныя геолагі, што абяцалі яму працу, паехалі ў Мінск.

Чэсь, Міхал і Змітрок сядзелі каля крамы, на траўцы. Яны пацягвалі з бутэлек цёплую "Фанту" і абмяркоўвалі Курта і яго коз. Дзіўна было, як ён зусім не саромеецца. Не баіцца яшчэ адной мянушкі, якая можа прыліпнуць да яго. Хоць што яму губляць, усё адно ніхто не сябруе з ім... Чэсь аж пашкадаваў яго.

— Вова! — крыкнуў ён, каб завязаць гутарку.— Колькі даляраў ты ўжо зарабіў? На "Фанту" хопіць?

Курт ляснуў пугаю — навучыўся! Спакойна адказаў:

— Прыедуць геолагі — зараблю. І не толькі на "Фанту", "Фанты" я вашай не бачыў, шчасце такое!..

— Калі яны прыедуць? Калі каза на выгане свісне? — не сунімаўся Чэсь.

— Не чапай, ну яго,— сказаў Міхал.

Курт прыжмурыўся.

— Прыедуць, калі вы скарб свой знойдзеце! "Шукацелі"... Бярозту яны шукаюць, талеры... Лепш "тэлевізар" вярніце! — і, азіраючыся, хутка падаўся бліжэй да агародаў.

Міхал з Чэсем аж падавіліся "Фантаю".

— Чорт вазьмі — Змітрок, як гэта разумець?! — Міхал, кашляючы, схапіў Змітра за каўнер чысценькай кашулі.

— Адпусці, — спакойна, цвёрда папрасіў Змітрок. — Вось так... І вось што я вам скажу: калі не будзеце верыць мне, застанецеся ўдвух.

— Напалохаў!

Чэсь раптам пакруціў галавою, прамовіў з дакорам:

— Усё зразумела... Не чапай яго, Міхал. Ты сам ва ўсім вінаваты.

Міхал задыхнуўся.

— Я?!

— Ты. Ты ж заўсёды любіш парадак, каб усё было падрабязна распісана... Ну, здагадаўся?

Міхал уставіўся на Чэся дзіўнымі вачыма, трасянуў чупрынаю.

— Сшытак,— падаўлена сказаў ён.— Гайда ў будан!

У будане ўсё нібыта ляжала так, як хлопцы і пакідалі ў апошні раз. Але Міхал да драбніц ведаў тут месца кожнай рэчы. Ён адразу кінуўся ў куток.

— Сшытак разгортвалі... Спінінг знік, нож паляўнічы... Астатняе, здаецца, усё на месцы.

—Добра, што манету тут не пакінулі,— сказаў Змітрок.

Чэсь нагадаў:

— Вось адкуль ён ведаў, што мы хацелі разбагацець — помніце? І што да геолагаў прыйдзем прасіцца.

— Але чакайце,— сказаў Міхал.— Значыць, ён ужо даўно ведае, дзе будан?

Цяпер надышла чарга пачырванець Змітраку.

—Гэта я вінаваты, хлопцы,— пакорліва схіліў ён галаву— Я шукаў вас тады, калі з горада прыехаў, і ў будан лазіў... А Курт мяне высачыў.

Міхал махнуў заціснутым у руцэ, скручаным у трубку сшыткам.

— Ды што ўжо... Цяпер не важна. Важна, што ты не здраднік і не балбатун, як мы на цябе падумалі.

Усё адно ва ўсіх прыкра было на душы. Ад нядаўняе прысутнасці тут чужога чалавека сам будан здаваўся ўжо нейкім чужым. Нават калі б Курт нічога не ўзяў — і тады было б прыкра. А тут — крадзеж сярод белага дня... Як гэта брыдка, сорамна.

Чэсь парушыў цішыню:

— Самае крыўднае — мы нічога не можам даказаць. Ну, пойдзем мы да дзеда Макара разбірацца. Курт скажа, я вашага будана ў вочы не бачыў, а вось вы "тэлевізар" укралі!

## Раздзел 22
## Помста

Міхал пругка падняўся на ногі, агледзеў сцены будана, правёў рукою па рубероідным "даху".

— Шкада шалаша... Цяпер мы не зможам хаваць тут нічога каштоўнага... Вось што, хлопцы,— зробім так. Толькі дапамажыце мне. Я хачу забрацца ў дзедаў хлеўчык і зрабіць там рэвізію. Усе яго рыбацкія прылады ў хлеўчыку, я ведаю,— у хаце ён нават кручка не трымае. Можа, знайду нож і спінінг. А галоўнае, хачу знайсці той пракляты "тэлевізар". Тады не пасаромеюся — пайду ў хату і кіну яму пад ногі...

— А ў чым табе дапамагчы? — спытаў Чэсь.

— Будзеце сачыць за Куртам і дзедам. Трэба падпільнаваць, калі іх не будзе дома, хоць бы на гадзінку...

— Згода.

Выпадак надарыўся дні праз два, пад вечар.

Міхал памагаў бацьку рабіць летнюю кухню. Яго бацька, вясёлы, дужы, практычны чалавек, здавалася, зусім не перажываў, калі разам з сям'ёю выселіўся пасля радыяцыі з роднай вёскі на Гомельшчыне. Ён і тут, на новым месцы, хутка звыкся, палюбіў гэтыя мясціны, Бярэзіну, тутэйшых людзей. Абжываўся надоўга, усё рабіў па-сялянску няспешна, але карпатліва, грунтоўна. Асабліва яму падабалася рознае будаўніцтва ў двары. На працу быў падкі і настолькі звыкся спраўляцца з усім адзін, што нават крыху раўнаваў гэтую працу да памочнікаў. Па гэтаму ў Міхала заўсёды было шмат вольнага часу.

Калі-нікалі маці ўпікала:

— Ты ж вялікі ўжо, сын,— памог бы трохі бацьку!

Бацька рашуча заступаўся за сына:

— Што мне памагаць — хай лепш урокі вучыць ці пагуляе. На яго век працы хопіць,— і накіроўваўся пад паветку, дзе ў яго быў цэлы склад розных інструментаў.

Сёння, пад вечар, бацька скончыў класці ніжні зруб кухні. Цяпер абчэсваў бервяно для другога раду, смачна гэкаў сякераю. Увесь увайшоў у працу, напяваў сабе пад нос.

Міхал стаяў побач. Яго "дапамога" заключалася ў тым, каб збіраць і складаць пад паляніцу дроў доўгія трэскі, што вылятаі з-пад сякеры.

Чэсь са Змітраком убеглі ў двор. Яны добра ведалі Міхалавага бацьку і не баяліся яго. Міхал падышоў да іх.

— Дзед з Куртам збіраюцца ўвечары на рыбу! — задыхана паведаміў Чэсь.— Дзед канапаціць лодку каля масціка...

— А Курт капае на выгане чарвякоў, — дадаў Змітрок.

— Давай, калі сцямнее, возьмем ліхтарык і пойдзем усе ўтрох, — прапанаваў Чэсь.

— Не, аднаму зручней. Пайду адзін і цяпер. Бацька! — паклікаў Міхал. — Можа, ты сам справішся? Мы на рыбу сходзім!

— Вядома, ідзіце, — адказаў бацька, не адрываючы вачэй ад сякеры, — тут мне і аднаму няма чаго рабіць.

Ён паляпаў далоняю па гладкім, роўна абчэсаным баку бервяна, палюбаваўся, тады пачаў перабіваць скабу, каб перавярнуць бервяно.

Хлопцы пайшлі вуліцаю. Каля павароткі ў завулак, што вёў да Макаравай хаты, Міхал спыніўся.

— Будзьце тут, далей я адзін. Калі што — свішчыце. Я па стараюся хутка.

Ён няспешна, бы на пагулянцы, пазіраючы па баках, адфутбольваючы з дарогі каменьчыкі, падаўся ў канец завулка. Хлопцы бачылі, як ён нейкі час пастаяў каля веснічак. Тады хутка адкінуў зашчапку, шмыгнуў у двор.

— Глядзі! — раптам усклікнуў Чэсь.

З-за павароту выскачыла цёмна-сіняя машына. Хлопцы засвісталі. Машына наблізілася, прытармазіла каля іх, павярнула ў завулачак.

— Што ж рабіць?! Як яго папярэдзіць?..

Свіст зліваўся з гулам матора. З-пад колаў вылятталі каменьчыкі, стукалі ў дно кабіны. Машына спынілася каля хаты.

— Можа, яны ненадоўга, Чэсь?

— Якое ненадоўга — вунь вароты адчынілі, машыну ў двор заганяюць... Вось зловяць яго, што будзе? — скрушна прамовіў Чэсь.

Але гэта было яшчэ не ўсё. Да хаты з другога канца завулачка, ад ракі, спяшаліся дзед Макар з Куртам.

## Раздзел 23
## Пастка

Міхал не паспеў агледзецца ў хлеўчыку, як пачуў гул матора. Кінуўся назад да дзвярэй. Позна! Машына ўехала ў двор.

Хлопчык стаіўся каля вушака, асцярожна выглянуў. Акурат у гэты час з машыны вылез геолаг, які абяцаў узяць іх у памагатыя. У тых жа цёмных круглых акулярах, але цяпер без шапкі-каскеткі... і зусім лысы! Ад гладкай, бы паліраванай галавы, здавалася, нават адбіваецца зыркае вечаровае сонца...

"Адзін — Сева, другі — лысы,— імгненна ўсплылі ў памяці Аксаніны словы.— Ехалі за намі да самых Паплавоў!.." Як жа яны раней не здагадаліся?! "Геолагі"... Усё нешта шукаюць... Пыталіся, чые соткі каля помніка... А Чэсь талер знайшоў на тым месцы...

Сева — высокі, у джынсах і белай кашулі — пакратаў замок на дзвярах хаты.

— Дзе яго нялёгкая носіць? Сказана ж было, увечары прыедзем!

— Пачакаем,— адказаў лысы. Паглядзеў праз акуляры на сонца, прымасціўся на сваім любімым месцы — перакуленай лодцы.

У хляве, калі звыкліся вочы, было не так і цёмна. Заходзячае сонца сачылася праз шчыліны дзвярэй, праз няроўна падагнаныя дошкі фаціяту, праз дзіравы, крыты руберойдам дах. Каб не губляць часу, Міхал адважыўся абследаваць хлеўчык — ці няма дзе другога выхаду?

Пасярэдзіне, ад дзвярэй да сцяны — вузкая паласа глінянага току. Злева складзена сена. Цяпер, увесну, яго засталося мала, усяго на які метр ад падлогі... Справа — сцяна з нячэсанага бярвення, са шчылінаў тырчыць мох... У сцяне — дзверцы, гэта катух для казы з казлянём. Да сцяны прыстаўлена лесвіца.

Міхал асцярожна падняўся, зазірнуў на вышкі. Вышкі пустыя, голыя жэрдачкі, ні снапоў, ні сена... Хоць, калі б захацеў, у тым цёмным кутку можна схавацца...

Міхал злез, агледзеў левую частку хлеўчыка, дзе сена. Таксама сценка з такога ж нячэсанага бярвення, але невысокая, акурат у край з сенам. Калі б сена было больш, пад самы дах, можна было б залезці наверх і паспрабаваць выламаць пару тонкіх дошак з фаціяту, выбрацца на дах свінюшніка... А так — высока. У кутку на сене штосьці бялеецца. Міхал памацаў — падушкі, коўдры, посцілка...

На таку зваленыя ў кучу рыбацкія прылады: таптуха, венцеры, брэдзень, "крыга"... Да сцяны прыстаўлены штук дваццаць даўжэзных сухіх вудзільнаў, побач — вёслы... На ўбітых у сцяну цвіках вісяць сеткі, і долу валяюцца сеткі...

З двара пачуўся голас. Міхал зноў сігануў да прачыненых дзвярэй, прыляпіўся да шчыліны.

— А, госці дарагія!

Дзед Макар, і "геолагі", і Курт... У Міхала прабеглі па спіне дрыжыкі. Вось дык выбраў час "рабіць

рэвізію" ў хлеўчыку!.. Вось табе і нікога няма дома. Чэсь са Змітрам таксама добрыя, не змаглі неяк папярэдзіць... Цяпер думай, як адсюль выбрацца!

— Акурат падгадалі прыехаць,— казаў дзед Макар.— Усё гатова!

— Што гатова? — спытаў Сева.

— Лодка, сетачка, жыўцы, чарвякоў накапалі... Усё, як дамаўляліся.

— Я і забыў ужо.

— Ну, як жа: вы мінулы раз прасілі, каб я рыбалку вам сарганізаваў...

Умяшаўся лысы:

— Ды не, мы жартавалі. Не да рыбкі цяпер. Работы многа, заўтра ўставаць з раніцы.

— Начаваць у мяне будзеце?

— Будзем.

Вось дык патрапіў! Што ж рабіць? Няўжо яны так і будуць тырчэць тут, у двары, да самай ночы?.. Няўжо не зойдуць у хату, хоць бы павячэраць?

Міхал ліхаманкава абдумваў, як быць. Нават калі яны зойдуць у хату — з вокан праглядаецца ўвесь двор... Яго, Міхала, калі ён паспрабуе толькі высунуцца з хлява, адразу ўбачаць і пазнаюць. Значыць, трэба дачакацца прыцемкаў. Нядоўга засталося, сонца хутка сядзе. У хлеўчыку ўжо цёмна.

Каля веснічак замэкала каза — прасілася ў двор.

— Вова, загані!

Міхал замітусіўся. Ток увесь адкрыты. Перш падскочыў да лесвіцы, што вяла на гарышча, тады перадумаў, палез на сена, дзе была пасцель "геолагаў".

Курт ляснуў зашчапкай, прыкрыкнуў на коз. Загнаўшы, чамусьці пастаяў яшчэ, бы прыслухоўваўся да нечага. Тады выйшаў.

Праз секунду Міхал ужо стаяў на сваім "назіральным пункце" каля дзвярэй.

— Дзед, а чаму дзверы ў хлеўчык былі адчыненыя? — гукнуў Курт.

Дзед Макар з Севам заходзілі ў хату. Дзед прыпыніўся.

— Мо ты сам і не зачыніў.

— Зачыняў, я помню.

— Дык што, злодзеі залезлі? — засмяяўся дзед.— Што там браць? Ну ідзі глянь, ці ўсё на месцы.

Ах, каб на цябе!.. Ізноў трэба хавацца! Толькі не ў куток — гэты праныра ўсё разгледзіць... На вышкі — позна, дый таксама небяспечна... Праз край ніжняй сценкі звешвалася сена, амаль да самага току. Нядоўга думаючы, Міхал апусціўся на карачкі, падпоўз пад сена, лёг. Стаіўся, як мыш.

Але Курт чамусьці не пайшоў правяраць. Магчыма, адчуваў штось і проста спалохаўся.

"Набрацца нахабства — і выйсці зараз да іх! — думаў Міхал.— Скажуць — злодзей, мала таго, што "тэлевізар" украў, дык яшчэ па чужых хлявах лазіць! І як потым хлопцам расказваць? Спалохаўся, не вытрымаў... Не, трэба цярпець, ляжаць тут хоць да раніцы... І не проста ляжаць, а слухаць. Калі яшчэ такі выпадак надарыцца?"

Аднак да дзвярэй падыходзіць больш не адважыўся. Падцягнуў кучу старых сетак, падмасціў пад сябе. Хоць мулкавата, але ўсё зручней, не на голым халодным таку.

З двара пацягнула цыгарэтным дымам.

— Ну, што ў тваіх сяброў новенькага? — данёсся голас лысага. (Аказваецца, і тут някепска чуваць, і да дзвярэй падыходзіць не трэба!) — Ці знайшлі скарб?

Курт ільсціва захіхікаў.

— Не! Калі б знайшлі, у сшытак запісалі б.

"Вось гад, шпіён! Мала таго, што сам чытае, дык яшчэ даносіць зусім чужым людзям! Добра, хапіла розуму не запісаць, што ў нас ёсць дзве манеты... А цяпер — няхай шукаюць!" — са зларадствам і пра Курта, і пра "геолагаў" думаў Міхал.

— Яны не скарб, а нейкую бяросту шукаюць... Напісалі, знайсці яе можна ў школьным музеі або ў горадзе ў краязнаўчым.

Лысы закашляўся ад дыму.

— Нават... кгэ-кхэ... так?

— Так было напісана. А вы абяцалі мне дзесяць даляраў,— нагадаў Курт.

— Дзесяць? А можа, адразу сто? — іранічна спытаў лысы.

— Тады я не буду вам нічога расказваць! — пакрыўдзіўся Курт.

— Добра, я жартую. Чытай іхні сшытак і далей. І калі што новае — адразу нам, зразумеў?

— Зразумеў. А дайце дзесяць даляраў.

— На... вось, адзін даляр. Пакуль хопіць з цябе.

**Раздзел 24**
**Ноч у хлеўчыку**

Сцямнела, з'явіліся камары. Міхал ляжаў у сваім "логаве", час ад часу прабіраўся да дзвярэй і выглядаў.

Зайшлі ў хату "геолагі" — Курт круціцца ў двары... Знік Курт — тупае да хлеўчыка дзед Макар, даіць казу... Назад у схованку, пад сена!..

Зацыркала малако ў парожнюю даёнку. Каза, відаць, чула, што ў хлеўчыку — чужы, не хацела стаяць.

— Не круціся ты, — казаў дзед. — Чужых чуеш, не падабаюцца госці... Яны і мне не падабаюцца. Але што ты зробіш — грошы даюць? Даюць. Вось куплю табе хлеба, мукі... Казляняці твайму таксама. На пенсію не пражывеш... — А госці паедуць хутка, не палохайся... Знойдуць, што ім трэба, і паедуць...

Выйшаў дзед — і зноў крокі, на гэты раз "геолагі". Пачалі слаць пасцелі. Уключылі ліхтарык. У хляве пасвятлела. Міхал напружыўся. У любы момант ён гатовы быў кінуцца ў прачыненыя дзверы — туды, у цемру, дзе двор і свабода...

Пачуўся пляскат далоні па шчацэ.

— Камарэча праклятая! Спаць не дадуць...

Міхал угадаў голас Севы.

— Ідзі ў машыну,— азваўся лысы.

— Не, тут хоць выцягнуцца можна. Перабудзем як-небудзь.

— Я не наеўся,— сказаў лысы.— Адна рыба і рыба ў гэтага дзеда.

— Кансервы адчыні.

Па хлеўчыку паплыў пах кілек у тамаце. У галоднага Міхала пацяклі слінкі. Еў лысы доўга, чмокаў, высмоктваў рэшткі ежы з зубоў... Наеўшыся, кінуў проста на ток пустую бляшанку.

— Жывем, як сабакі,— прабурчэў Сева,— ні паспаць, ні паесці па-людску... Адно матаемся паміж Мінскам і гэтымі Паплавамі, праваліцца б ім!..

Лысы засмяяўся.

— Нічога, пацярпі! Адкапаем золата, маханём адразу на Польшчу, тады — па ўсёй Еўропе... Там і выспімся, і наядзімся, і нагуляемся.

— А Павуку?

— Павуку? Навошта яму золата, грошы — інваліду? Дый што з яго карысці? Мы цягнем усю чорную работу, нават малую вунь адшукалі з талерам... А Павук сядзіць сабе ў Мінску ў цяпле, у дабры.

Сева запярэчыў:

— Не скажы — ён нябось больш за нас разбіраецца ва ўсёй гэтай справе. Разумны, шэльма.

— А што нам з яго розуму? — пачаў гарачыцца лысы.— Разумны... І я быў бы разумны, каб столькі кніг прачытаў. Круціць ён нешта, Павук гэты! Чаму ён не паказвае нам копію бяросты? Можа, талеры тут ні пры чым, а ўся разгадка ў бяросце.

— Яму лепш ведаць.

— Сева, паслухай: не падабаецца мне ўсё гэта! Нашто нам Павук? Копію бяросты мы можам раздабыць і без яго. Гэты Куртаты, дзедаў унук, сказаў, што копіі ёсць нават тут, у Паплавах, у школе. Можа, ніякіх трох талераў зусім не існуе? Ужо другі месяц шукаем і ніякага толку. Давай проста паспрабуем самі, без камандаў Павука?

— Паспрабаваць можна,— згадзіўся Сева.

— І яшчэ: давай пакуль не казаць Павуку пра малую з талерам. Дастанем бяросту з'едзім у Мінск, знойдзем малую...

"Гэта ж яны пра Аксану!" — здрыгануўся Міхал у сваёй схованцы.

— А як ты яе знойдзеш, малую гэтую?

— Лёгка, праз дзеда. Ён ведае яе бабулю, сходзіць, папросіць адрас.

— Малая, яна шустрая,— сказаў Сева.— А калі не захоча аддаць?

— Перш паспрабуем дабром — ветліва папросім, прапануем грошы. Не атрымаецца — што ж, тым горш для яе...

— Э-э, пачакай! — устрывожыўся Сева.— Такой дамовы не было!

— Не бойся. Я сам раздабуду гэты талер,— сказаў лысы.

Міхал баяўся нават паварушыцца. Сетка намуляла бок, камары абкусалі твар, рукі, плечы...

Калі яны ўжо нагаворацца, захочуць спаць?

— А што з падшыванцамі рабіць? — спытаў раптам Сева і засмяяўся.— Можа, сапраўды ўзяць іх у памагатыя? Канкурэнты, таксама золата шукаюць!

— Вось няхай самі і шукаюць. Нам жа лепш — нашую работу робяць.

— Зрэшты, малым шэнціць... А што, калі, дапусцім, знойдуць раней за нас трэцюю манету?

— На здароўе. Знойдуць, запішуць у сшытак. Мы даведаемся праз Курта, пакажам ім даляраў пяць — дзесяць, яны нам гэтую манету ў зубах прынясуць. А не прынясуць... а-а! — пазяхнуў лысы,— давядзецца крыху напалохаць... Рака блізка, няшчасныя выпадкі бываюць кожнае лета. Лодка можа перакуліцца, у вір можа зацягнуць...

Сева зноў спалохаўся.

— Ты мяне ў гэта не ўблытвай! Калі што — не ведаю ні цябе, ні Павука, адразу змываюся!

— Сказаў жа, я бяру ўсё на сябе... А-а-а! — лысы ізноў пазяхнуў.

Абодва замоўклі. Праз нейкі час Сева захроп. Лысы круціўся, шэптам праклінаў камароў. Урэшце да храпу далучылася тонкае пасвістванне носам. За сцяною шамала саломаю, уздыхала, бы чалавек, каза.

Міхал паўзком дабраўся да дзвярэй, азірнуўся. "Геолагі" спалі. Ён ціхенька прачыніў дзверы, выскачыў на светлы ад яснага месяца двор і з усіх ног кінуўся дамоў.

## Раздзел 25
## "Канкурэнты"

У хаце гарэла святло. Ніхто не спаў: бацька, маці і нават меншы Міхалаў брат сядзелі ў верандзе, чакалі. Брат дзюбаў носам.

Маці кінулася да Міхала.

— Ты ведаеш, якая цяпер гадзіна?

Адкуль ён мог ведаць? Міхал паціснуў плячыма, стараючыся трымаць нявінны выгляд.

— Дзе ты ходзіш? Мы тут Бог ведама што перадумалі!

— На рыбу хадзіў...

— Я была ў Змітра, была ў Чэся! Яны спяць ужо, сказалі, не бачылі цябе!

"Вось дурні, не маглі прыдумаць штосьці..."

— Я знайшоў... харошае месца,— сказаў Міхал.— Не хацеў дзяліцца з імі, адзін вырашыў...

— І дзе рыба?

— Не клявала.

— Табе цяжка было хоць папярэдзіць? Бацька падняўся з табурэткі, пазяхнуў.

— Добра, не сварыся ўжо так на яго, маці... Прыйшоў — і добра.

— Табе ўсё добра! Сам і распусціў яго... Маці, аднак, крыху астыла. Паківала пальцам.

— Апошні раз!

Міхал хуценька распрануўся, упаў у мяккі ложак. Нават есці не хацелася... Заснуў бы забіты.

Назаўтра з раніцы хлопцы сустрэліся каля рэчкі. У будан не палезлі — стаяла такая пагодка, што грэх было прапускаць сонца. Распрануўшыся, ляжалі на спінах на пяску, загаралі.

Сёння быў Міхалаў дзень.

— Тады Сева пытае,— расказваў ён, міжволі перабольшваючы небяспеку, якая ўчора вісела над ім:— "А з падшыванцамі што рабіць?" А лысы дастае нож... вялікі такі нож, з бліскучым лязом, доўгім, вострым...

— Як ты мог убачыць нож? — перабіў Чэсь.

— Значыць, убачыў! Не верыце — магу не расказваць.

— Ды верым, верым! Што далей?

Міхал памаўчаў, успамінаючы. Версію з нажом развіваць не стаў:

— Ладна, не важна... Галоўнае, цяпер ведаем: гэта такія ж геолагі, як мы — бойскаўты. Шукаюць яны скарб. Дзед Макар з унукам — з аднае з імі кампаніі, а галоўны ў іх —нейкі Павук. Ведаюць яны мала, гэты Павук не паказаў ім нават бяросту. Згоды між імі няма. "Геолагі" толькі і мараць знайсці золата і, ні з кім не дзелячыся, "зрабіць ногі" за мяжу.

Змітрок пасміхнуўся.

— Перш чым знайсці золата, ім патрэбна знайсці тры манеты. А манеты ўсе — у нас.

— Ну, па-першае, пакуль не ўсе, а толькі дзве. Па-другое, яны, "геолагі", на ўсё пойдуць, нават на злачынства, каб раздабыць Аксанін талер. Помніце, яна расказвала пра Чэрвень? Яе трэба папярэдзіць, і я сам вазьмуся за гэта.

Чэсь падняўся на ногі і сказаў хутка:

— Не, я вазьмуся за гэта!

Міхал насмешліва ўставіўся на яго.

— І як ты збіраешся гэта рабіць? Ты што, ведаеш яе адрас ці нумар тэлефона?

— А ты ведаеш?
— Для мяне прасцей простага даведацца. Пайду да бабулі і спытаю. Свае людзі. А ты зможаш пайсці і спытаць? Ды яна, глядзі, цябе яшчэ на парог не пусціць, нагадае, як "ты ўнучку тапіў тым летам!"
Чэсь, пакрыўджаны, не адказаў.
— А што з Куртам? — нагадаў Змітрок.— Трэба, відаць, знішчыць сшытак...
— Наадварот! — Міхал падзяліўся з сябрамі планам, які прыйшоў яму ў галаву яшчэ тады, уночы, калі ён хаваўся ў хлеўчыку пад сенам:— Не толькі не знішчым, а будзем рабіць запісы кожны дзень і класці сшытак на самае прыкметнае месца! Зразумелі? Мы ж можам пісаць розную лухту і так іх заблытаем, што яны не рады будуць ні гэтаму сшытку, ні свайму інфарматару Курту!
— Сапраўды...
— Здорава прыдумана! — вымушаны быў пахваліць і Чэсь, забыўшы на крыўду— Напрыклад запішам: "Скарб ляжыць на могілках пад дубам". Курт прачытае...
— Не,— умяшаўся Змітрок,— лепш запішам: "Скарб на дне Бярэзіны, у глыбокім віры..."
Міхал спыніў іхнія фантазіі:
— Добра. Значыць, заўтра з раніцы я еду ў горад. Заадно спытаю ў Аксаны, чаму яна так доўга затрымліваецца. Вы круціцеся ў "геолагаў" і ў Курта на вачах, купайцеся, лавіце рыбу — як і звычайна... Толькі нікуды не ўсуньцеся самі, без мяне, старайцеся не гаварыць з імі, каб нават выпадкова не прабалтацца...
Міхал знарок сёе-тое з учарашняга ад сяброў утаіў. У горадзе, пасля званка Аксане, ён намерыўся схадзіць у краязнаўчы музей і любымі праўдамі і няпраўдамі выпрасіць дазволу, каб хоць краёчкам вока зірнуць на копію бяросты. З галавы не ішлі словы лысага, якія той паўтарыў аж двойчы: "Можа, талеры тут ні пры чым?" І другі раз: "Ды, можа, ніякіх трох манетаў зусім не існуе?"
Міхалу таксама здавалася, што галоўнае ў гэтай гісторыі не столькі манеты, колькі таямнічая бяроста, на якой крыжык і лацінскае слова "CLAD"... Каб хоць разок глянуць на гэтую копію бяросты, патрымаць у руках! Музей на рамонце — ну і што? Там жа не адны рабочыя. Павінны быць і супрацоўнікі, трэба ж некаму хоць бы пільнаваць экспанаты.

**Раздзел 26**
**"Самастойнасць" Змітрака і Чэся**

Увечары Міхал забег да Аксанінай бабулі. Павітаўся, стаў у парозе, зусім не ведаючы, што прыдумаць. Не прыдумаў лепшага, як прытворна здзівіцца:
— Хіба Аксана яшчэ не прыехала?
— Няма, Міхалка, — ні самой, ні пісьма, ні вестачкі! І чаму яна не едзе, ужо ж лета даўно!
— А вы напішыце ёй, спытайце.
— Пакуль тое пісьмо дойдзе... Вось каб пазваніць, — бабуля зірнула на Міхала з надзсяю.— Але ж гэта ў горад трэба ехаць ды заказваць, а з мяне такая "заказчыца"...
Вось так! Усё само сабою зрабілася. Цяпер не трэба ламаць галаву, можна сказаць бацькам чыстую праўду. Сказаць, баба Ганна папрасіла, каб ён з'ездзіў у горад і пазваніў Аксане.
Хутка ў Міхала ў кішэні ляжала паперка з шасцю лічбамі.
— Ох, дзякуй табе, унучак,— зрабі ты мне такую работу...
Толькі ён сабраўся выходзіць, як у верандзе пачуліся цяжкія крокі. У хату ўсунуўся дзед Макар. Не чакаў убачыць тут Міхала, непрыязна кінуў на яго позірк.
Міхалу закарцела сказаць дзеду штосьці з'едлівае. Але, як на тое, нічога не прыйшло на розум. Злуючы на сябе, вымушаны быў развітацца.
— Я да цябе, Ганна, з такой просьбаю... — пачуў ён, калі зачыняў за сабою дзверы.
Адрас прыйшоў браць... Вось здзівіцца баба Ганна!..
Назаўтра ранішнім аўтобусам Міхал адправіўся ў горад.
Без свайго камандзіра хлопцам не было чаго рабіць. Ды яшчэ надвор'е сапсавалася: пахмурна, ні пазагараць, ні пакупацца. Прайшліся туды-сюды па вуліцы. Пастаялі каля пустой школы. На дзвярах — замок. Ад калодзежа ідзе з вядром вады школьная прыбіральшчыца цётка Ніна.
Чэсь штурхануў Змітрака ў бок, прашаптаў:
— А давай папросім ключ ад шафы? І яшчэ раз добра там пакапаемся.
— Міхал сказаў, нічога без яго не рабіць.
— Ды што за камандзір Міхал? Урэшце я, а не ён, знайшоў манету. Ён і так дужа многа на сябе ўзяў, паўсюль паспець хоча... А мы? Цётка Ніна! — гукнуў Чэсь. — Вы не адчыніце нам школу?

— Школу? — прыбіральшчыца спынілася. — Навошта вам? Таксама прыдумалі... Ідзіце, ідзіце адсюль, гуляйце! То вас сілком у школу не загоніш, а то сярод лета прыдумалі...

Яшчэ пабадзяліся па вуліцах. Спусціліся да ракі.

— Калі ведаеш, што гэты Курт сюды лазіць, — сказаў Чэсь, паказваючы на схаваны ў голлі будан, — дык самому неахвота ў яго залазіць.

І сапраўды, у будане было цемнавата, сыра, неяк няўтульна.

Чэсь быў сярдзіты сёння. Яго нібы ўвесь час падмывала даказаць і сабе, і Змітраку, ШТО яны роўныя з Міхалам, у іх такія ж правы на пошукі скарбу, як і ў яго. Падумаеш, забраўся ў хлеўчык, падслухаў "геолагаў"! Проста пашэнціла.

Чэсь разгарнуў сшытак, узяў аловак, задумаўся.

— А Міхал сказаў...

— Ды што ты з гэтым Міхалам! Я сам сабе Міхал! — І напісаў: "Раздабыць копію бяросты, якая знаходзіцца ў шафе, што стаіць у кутку школьнага калідора".

Каб Чэсь ведаў, якую шкоду гэты запіс прынясе ўсёй кампаніі, ён, вядома, цяпер не пасміхаўся б так задаволена.

— Хай пашукае!

Усё, больш не было чаго рабіць. Часу многа — а толку?

— Хадзем паабедаем, а там відаць будзе,— сказаў Чэсь. Толькі Зміцер увайшоў у свой двор, як ззаду пачууся свіст.

Ляціць Чэсь.

— Настаўніца прыехала! Не будзем траціць час, пазней паабедаем — бо раптам яна зноў кудысь знікне?

## Раздзел 27
## Настаўніца

Худзенькая, ростам не вышэй за хлопцаў, настаўніца была зусім не падобная на вясковую пенсіянерку. У сінім спартыўным касцюме, у кедах, на галаве — прычоска-завіўка. Толькі змаршчыністая шыя, вузлаватыя спрацаваныя пальцы, ды яшчэ бялёсыя, бы стомленыя жыццём вочы, што запытальна-строга ўставіліся на хлопцаў, выдавалі, колькі гэтай жанчыне на самай справе гадоў.

У меншай хаце, дзе стаялі ў парозе хлопцы, было чыста, светла і пахла чамусьці бальніцаю. Завешаная фіранкамі печ, пабеленыя сцены, вышараваная падлога. З мэблі — толькі тумбачка, стол каля шырокага акна і тры табурэткі. Над сталом — два чорна-белыя партрэты, Леніна і Машэрава.

Не запрашаючы хлопцаў, настаўніца прысела сама, падперла галаву кулачкамі.

— Я слухаю вас,— сказала строгім і разам з тым прыемным, як умеюць толькі настаўнікі, голасам.

Чэсю раптам здалося, што яго выклікалі да дошкі, а ён зусім не ведае ўрока. Страсянуў галавою, каб прагнаць гэтую ілюзію, набраўся рашучасці:

— Нам сказалі... вы можаце памагчы па гісторыі... Настаўніца здзівілася, аж пляснула ў ладкі.

— Я?! Па гісторыі? Вось сапраўды гісторыя... Дзесяць гадоў нікому не трэба была — а тут... А ў школе вам не могуць памагчы па гісторыі?

— Там толькі шафа,— чамусьці вінавата адказаў Чэсь.— А ў шафе — тонкая папка.

— Значыць, дажыліся. "Перабудаваліся". Цяпер і Ірына Леанідаўна спатрэбілася. Вядома, пры Ірыне Леанідаўне была не шафа з папачкаю, а такі краязнаўчы куток, што нават з Мінску людзі прыязджалі, хвалілі... Вядома, вам цяпер трэба да Ірыны Леанідаўны!

— А дзе жыве гэтая Ірына Леанідаўна? — ляпнуў раптам Змітрок.

Чэсь аж закашляўся. Настаўніца звузіла вочы:

— Не зразумела.

Змітрок наіўна паўтарыў:

— Ну, гэтая Ірына Леанідаўна, пра якую вы ўвесь час згадваеце, дзе яна жыве?

— Ірына Леанідаўна — гэта я,— ледзяным голасам адказала настаўніца.

Так усё сапсаваць! У Чэся свярбелі кулакі. Цяпер яму хацелася толькі аднаго: хутчэй выйсці на вуліцу і спагнаць на Змітраку злосць.

А той, як ні ў чым не бывала, ветліва папраўіўся:

— Прабачце, Ірына Леанідаўна. Я не мясцовы і не ведаю тутэйшых настаўнікаў.

Хлопцы сабраліся выходзіць.

— Пачакайце,— змякчэла настаўніца.— Вы нават не сказалі, што вы хацелі.

— Копію бяросты, знойдзеную пры раскопцы,— сказаў Чэсь. І, спахапіўшыся, дадаў: — Не

назаўсёды, толькі паглядзець!

— Так я і ведала! — усклікнула настаўніца.— Гісторыяй у нас пачынаюць цікавіцца толькі тады, калі з гэтага можна мець нейкую выгоду, калі грашыма запахне. І што за часы такія насталі? Амаль сорак гадоў я вучыла дзяцей, а цяпер, можа, вы, маладыя людзі, растлумачыце мне: што адбываецца ў свеце?

"Маладыя людзі" не ведалі. Яны моўчкі стаялі ў парозе. Ірына Леанідаўна паднялася, расчыніла дзверы ў другую, большую палавіну хаты.

— Прашу вас.

Хлопцы зайшлі і ахнулі. Яны нібыта патрапілі ў музей.

Уздоўж усёй глухой сцяны цягнуліся палічкі, застаўленыя і заваленыя самым розным дабром. На адной паліцы — посуд з пацямнелай гліны, гаршчыкі, місы, гладышы, цэлыя і пабітыя, і нават проста чарапкі... На другой — каменьчыкі, меншыя і большыя, гладка-круглыя і вышчарбленыя, шэрыя, белыя, жоўтыя, блакітныя, з зіхоткімі ніткамі на разломах... На трэцяй паліцы — ссохлыя пучкі розных кветак, траў, лісця... Цяпер хлопцы зразумелі, адкуль у хаце гэты пах бальніцы.

На ўвесь прасценак, ад акна да акна, красавалася карта Беларусі. Усе шэсць абласцей былі размаляваны кожная ў свой колер.

Настаўніца падышла да паліцы з кнігамі, выцягнула з-паміж кніг нейкі тоўсты сшытак. Пагартала яго, тады раптам схапіла за "карэньчык" і патрэсла. Са сшытка вылецеў ліст паперы і, марудна кружачыся, пачаў апускацца на падлогу. Настаўніца спрытна падхапіла яго яшчэ ў паветры.

— Вось ваша копія бяросты. Вазьміце. І не думайце кепскага пра Ірыну Леанідаўну...

Няўжо ўсё так будзённа?! Чэсь асцярожна, нібы ліст мог рассыпацца, узяў яго і адразу ўпіўся ў яго вачыма.

— Што вы, як можна,— прамармытаў ён, не хаваючы радасці.— Дык мы пайшлі... пайшлі, Змітрок!

Ён адступаў да дзвярэй і цягнуў за сабою сябра. Але Змітрок нечакана праявіў самастойнасць.

— Пачакай, адпусці мяне. Вялікі дзякуй вам, Ірына Леанідаўна,— ветліва сказаў ён.— Вы нас так выручылі!

— Нічога, мне не шкада. Вы добра ведаеце гэтую гісторыю з талерамі і з бяростаю?

— Ведаем, ведаем... Пайшлі, Зміцер!

— Тады вы павінны ведаць і тое,— спакойна працягвала настаўніца, бы не заўважаючы Чэсевага нецярпення,— што, каб адшукаць гэты самы "КЛАД", патрэбны ўсе тры манеты. Без іх копія бяросты — звычайная паперка, не больш...

— Мы ведаем, Ірына Леанідаўпа! Пайшлі, Зміцер!

— Ды пачакай ты. Скажыце, Ірына Леанідаўна, як да вас патрапіла гэтая копія?

— Гэта вас не тычыцца,— у голасе настаўніцы раптоўна зноў з'явіліся халодныя ноткі.

— Прабачце,— падаўся назад Змітрок.

— А зрэшты...— Ірына Леанідаўна прыкрыла на міг далоняю вочы, нібы ўспамінаючы штосьці вельмі даўняе.— Зрэшты, вялікай тайны тут няма. Да мяне чамусьці рэдка хто заходзіць, і раз вы прыйшлі і цікавіцеся гэтым... Да вайны ў мяне быў блізкі сябар. Мы разам вучыліся ў педагагічным тэхнікуме. Пасля перапісваліся... Я працавала тут, настаўніцаю, а ён — у Мінскім архіўным музеі. Ад яго я і пачула гісторыю з талерамі, ад яго атрымала копію бяросты і апісанне, як выглядаюць дзве манеты...

Чэсь са Змітрам у адзін голас усклікнулі:

— Дзе?! Дзе гэтае апісанне?

— Усё загінула ў час вайны,— адказала Ірына Леанідаўна.— Школа гарэла... дый увогуле — вайна! — тут не да краязнаўства. Толькі гэтая копія і засталася.

— Аднак у вас тут цэлы музей,— заўважыў Чэсь, паказваючы на паліцы.

— Усё гэта збіралася пасля вайны. Быў час, была маладая, кожнае лета з мужам выпраўляліся ў вандроўку, абхадзілі ўсю Беларусь. Няма такога раёна, дзе б мы не пабылі. Вось, да прыкладу... — Ірына Леанідаўна ўзяла з паліцы звычайны шэры камень, — вось славуты мікашэвіцкі граніт. Хто б мог надумаць, што ў нас цэлыя залежы гэтага граніту? А цяпер паў-Еўропы яго купляе, усё Мінскае метро ім выкладзена...

— Прабачце,— перабіў Змітрок,— вы сказалі — з мужам? Гэта той самы... ваш сябар?

— Не, не той,— коратка адказала Ірына Леанідаўна.

— Ваш сябар... загінуў?

— Горш.

Хлопцы пераглянуліся.

— Пры немцах ён не эвакуіраваўся,— патлумачыла настаўніца.— Не паспеў. У яго была ўжо сям'я, ён вымушаны быў яе карміць. Працаваў у Мінску. Пасля вайны яго арыштавалі як ворага народа і, здаецца,

прысудзілі да вышэйшай меры... І я спалохалася, бо была блізка знаёмая з ім. Я знішчыла ўсе пісьмы ад яго, фотакарткі, на якіх мы былі разам... А пры Хрушчове яго рэабілітавалі. Ён быў, аказваецца, ні ў чым не вінаваты. Вось тады мне зрабілася сорамна і балюча, як ніколі ў жыцці; я зразумела, што пабольш бы такіх "ворагаў", дык народу і сяброў не трэба...

Старая настаўніца правяла хлопцаў на двор.

— А можна яшчэ адно пытанне? — сказаў Чэсь.— Чаму вы не здадзіце свае экспанаты ў школу? Хай бы ўсе глядзелі.

— Каб у хуткім часе ад гэтых экспанатаў засталася адна шафа з запыленай папкаю? Тут больш надзейна. Я нічога ні ад кога не хаваю. Вось вы захацелі, прыйшлі — і атрымалі, што вам трэба было. І кожны так можа.

## Раздзел 28
## У горадзе

У гэты самы час Міхал на гарадскім паштамце размаўляў па тэлефоне з Аксанаю. Кабінка была ізаляваная. Міхал не баяўся, гаварыў гучна. Адно стараўся не расцягваць, каб хапіла грошай, гаварыў амаль "тэлеграфным стылем":

— Аксана, прывітанне, гэта не геолагі, а твае "чэрвеньскія знаёмыя", яны ведаюць твой адрас, беражыся сама і глядзі талер! Бабуля цябе не дачакаецца, калі прыедзеш? Калі, кажу, прыедзеш?

Адказ уразіў яго. Бестурботны, вясёлы голас:

— Міхал, перадай бабулі, што прыеду хутка, адразу, як Каця выздаравее!

— Пры чым тут зноў Каця? Ты хіба доктар?

— Міхал, як ты можаш? Мы разам з ёю прыедзем. Галоўнае, не было часу ні пакрыўдзіцца, ні абдумаць усё гэта.

— Ты была ў архіве?

— Пакуль не. Толькі не злуй, усё будзе добра. Тата заўтра едзе ў экспедыцыю, ён напісаў запіску ў архіў, мяне пусцяць туды. А вы як гуляеце?

— Аксана! — закрычаў Міхал.— Што ты гаворыш, якія гулянні?! Я знарок тэлефаную, каб папярэдзіць цябе: беражыся! Абяцай, што не будзеш трымаць пры сабе манету!

— Добра, не хвалюйся. Тата заўтра едзе, і я буду жыць у Каці, пакуль яна выздаравее. Тады яе бацька прывязе нас машынаю ў Паплавы.

Толькі недаўменне было на душы пасля гэтай размовы. Ізноў нейкая Каця!.. І Аксана — весяліцца, нібы дзіця, нібы не разумее нічога...

Разам з тым Міхал не мог не прызнаць, якая значная роля Аксаны ва ўсёй гэтай гісторыі. Дзяўчынка павінна зрабіць больш, чым яны ўсе разам узятыя: неяк раздабыць і прывезці сюды два талеры і копію бярosты.

Міхал выйшаў з паштамта. Так і не распагодзілася. Пахмурна, над горадам нізкія хмары, нават, здаецца, патроху пачынае накрапваць дожджык. Трэба хутчэй вырашаць усе справы і вяртацца дамоў. Міхал зарыентаваўся, у якім баку вуліца, на якой размяшчаецца краязнаўчы музей. Змітрок казаў, недалёка ад паштамта. Горад невялікі, тут амаль усе "важныя" будынкі лепяцца каля цэнтральнай плошчы. Не, лепш не траціць дарэмна часу, трэба спытацца ў кагосьці.

Побач, на лаўцы ля аўтобуснага прыпынку, сядзелі нейкія мужчыны. Гучна размаўлялі, курылі... Да такіх лепш не падыходзіць. На другім баку плошчы быў блакітны кіёск "Марожанае". Лепш спытаць у кіяскёркі.

Міхал перасёк круглую брукаваную плошчу, і калі наблізіўся да кіёска, убачыў каля яго хлопчыка і дзяўчынку прыкладна сваіх гадоў. Яны куплялі марожанае. Дзяўчынка была крыху падобная на Аксану, толькі чарнявая, у сіняй сукеначцы, з белым касніком на галаве. Высокі хлопчык — у паношаным трыко, абвіслым на каленях, у стаптаных кедах на босую нагу. Ён непрыязна праз плячо зіркнуў на Міхала.

Гэта былі мясцовыя, гарадскія дзеці (па-хатняму апранутыя — значыць, жывуць непадалёку), таму Міхал і звярнуўся да іх "па-гарадскому" — па-руску:

— Скажите, как пройти к краеведческому музею?

Хлопчык аблізаў квадрат марожанага, яшчэ раз непрыязна агледзеў Міхала.

— Вярніся назад да паштамта, завярні за вугал,— сказаў ён,— убачыш шпіль. Там твой музей. Толькі цяпер ён па рамонце.

У Міхала аж адвісла сківаца. Ва ўсе вочы ён глядзеў на хлопчыка. Гарадскія, чыста па-беларуску — ніяк не ўкладвалася ў галаве...

— Табе паўтарыць? — адставіўшы руку з марожаным, бо з яго капала, спытаў хлапчук.

Дзяўчынка засмяялася.

— Яму, відаць, перакладчык патрэбен! Вернись на ту сторону, за углом увидишь шпиль — пику такую. Там музей.

Аблізваючы марожанае, яны пайшлі, як ні ў чым не бывала, па вуліцы. Нават не азірнуліся на Міхала. А таму карцела пабегчы за імі следам, пазнаёміцца, распытаць... Хто яны, дзе вучацца?..

Але абдумаўся: навошта? Хай так і застаюцца незнаёмымі. Што ў гэтым урэшце дзіўнага? Раз людзі жывуць у Беларусі, значыць, і размаўляюць па-беларуску. А хіба ён, Міхал, або Чэсь у школе на ўроках не адказваюць на чыста беларускай мове? Адказваюць. І ніхто з гэтага не дзівіцца. Вось толькі на вуліцы, па-за сценамі школы... "Рэбята, зачэм драцца?.." "Чэсь, хадзі сюда, раскажу адну вешч"... Жахліва! Аксана мінская, а і то размаўляе чысцей за іх, лічы, вясковых.

"Прыедзе Аксана, трэба будзе дамовіцца размаўляць так, як гэтыя гарадскія дзеці — на чыстай роднай мове",— падумаў Міхал.

Ён нават не падазраваў, што пазней менавіта гэты эпізод стане галоўным для разгадкі гісторыі з талерамі.

## Раздзел 29
## Участковы

Краязнаўчы музей, аднапавярховы будынак з чырвонай цэглы, быў увесь абплецены рыштаваннямі. На дзвярах шыльда: "Рамонт" і вялікі замок. Ні на рыштаваннях, ні вакол не было ніводнага чалавека. Міхал, здзіўлены, пайшоў у абход будынка. Пад нагамі хрупала пабітая цэгла, аскепкі шкла, зацвярдзелыя цэмент і вапна. І тут нікога. Зараснікі крапівы і татарніку, побач — сляды чалавечых нечыстотаў. Міхал гідліва паморшчыўся.

Выйшаў з-за вугла, з другога боку музея... і раптам аслупянеў, а тады хутчэй назад, за вугал. Каля ганка стаяла цёмна-сіняя машына "геолагаў". Лысы з Севам прагульваліся побач, задраўшы галовы, разглядалі рыштаванні.

— З такімі музеямі,— пачуў Міхал голас Севы,— няма чаго здзіўляцца, што дзвесце гадоў золата знайсці не могуць!

— Так, гэты рамонт надоўга,— пацвердзіў лысы.

Сэрца ў Міхала забарабаніла, як і тады, у хлеўчыку. А што, калі яны зараз надумаюцца таксама пайсці ў абход? Куды яму ўцякаць? Ззаду высокі плот, злева глухая сцяна, уперадзе — вуліца, адразу ўбачаць, дагоняць... "Няшчасныя выпадкі кожны год бываюць!" — успомніў ён словы лысага і пахаладзеў.

Але ў "геолагаў", відаць, не было часу.

— Паехалі! — сказаў лысы.— Цяпер толькі школа застаецца.

— Школа. А не атрымаецца — патрасём Павука!

Ляснулі дзверцы машыны, загурчэў матор. Паехалі.

Міхал выцер з ілба халодны пот. "Што ж мне так шэнціць на сустрэчы з імі? Хоць што: адну справу робім, адно і тое шукаем, па адных мясцінах ходзім..."

Калі Міхал рэйсавым аўтобусам вярнуўся ў Паплавы, пайшоў дробны дождж. Усё неба было зацягнутае хмарамі, шэрае, без прасвету. Міхал забег да бабулі Ганны, перадаў, што Аксана хутка прыедзе. Самому не цярпелася хутчэй сустрэцца з хлопцамі, расказаць апошнія навіны. Але дождж узмацніўся, тады паліў як з вядра. Калюжыны пеніліся бурбалкамі, якія не лопаліся,— пэўная прычына, што непагадзь надоўга.

Так Міхал нікуды і не пайшоў. Прасядзеў увесь вечар дома, чытаў, глядзеў тэлевізар. А назаўтра раніцаю, гадзін у восем, яго разбудзіў чужы мужчынскі голас на кухні і стук цяжкіх ботаў аб палавіцы. Бацька на працы — хто гэта можа быць? Міхал ускочыў, хуценька апрануўся. Толькі паспеў зашнураваць красоўкі, як дзверы адчыніліся, увайшоў участковы ў форме, а следам — устрывожаная, спалоханая маці.

— А, не спіш? — сказаў участковы, грузны сівы дзядзька. Прысеў на табурэт, уставіўся ў Міхала.— Дзе быў сёння ўночы?

— Спаў. А што?

"Дзед Макар данёс пра "тэлевізар"!" — мільганула думка.

— Спаў ён, праўда! — заступілася маці.— Я магу пацвердзіць!

— А сябры твае?

— Якія сябры?

— Не прыкідвайся — я задаю пытанні! — павысіў голас участковы.— Чэсь і гэты гарадскі, Зміцер.

Што яны ўночы рабілі?

Міхал, які перш не на жарт спалохаўся, асмялеў. Ды якое ён мае права? Маці стаіць, а ён рассеўся тут. Голас яшчэ павышае...

— Ідзіце спытайцеся ў іх,— смела падняў ён вочы.— А я іх не бачыў з пазаўчарашняга дня. Я ў горад ездзіў, любы можа пацвердзіць.

Участковы падняўся.

— Хадзем са мною.

— Што ж гэта робіцца?! — замітусілася маці.— Куды вы яго? Я не пушчу!

— Не бойцеся, сядзіце дома. А яго забяру,— цвёрда сказаў участковы.— Мне патрэбна правесці адзін эксперымент.

Маці накінула куртачку, выскачыла следам за імі.

## Раздзел 30
## Эксперымент следчага

Уночы дождж скончыўся. Цяпер пахла ранішняй свежасцю. Платы, трава, дрэвы — усё было мокрае. Пясок прыставаў да падэшваў. Але Міхалу было не да гэтага. Куды яго вядуць, бы злачынцу? І маці, бедная, ззаду... Добра, хоць вуліца пустая.

Затое каля школы ўжо стаялі чалавек колькі. Міхал яшчэ здалёк пазнаў Чэся, Змітрака, Чэсеву маці, прыбіральшчыцу цётку Ніну...

— У школу лазіў уночы? — ціха спытаў участковы.

Вось яно што! Цяпер Міхалу ўсё было ясна. "Але пакуль ні слова, маўчы!" — загадаў ён сабе.

— Думайце, што хочаце.

Перад участковым усе расступіліся. Прыціх гоман. Міхалава маці павіталася, ёй адказалі, апрача Чэся са Змітрам. Тыя баяліся адарваць ад долу вочы.

Участковы агледзеўся.

— Эх, патапталі!.. Прасіў жа і блізка да сцяны не падыходзіць. Цяпер слядоў не знойдзеш.

— А ніякіх слядоў і не было,— сказаў Змітракоў бацька, якога Міхал адразу і не заўважыў. Такі ж, як і сын, чысценькі, акуратны. У касцюме з гальштукам, у акулярах, з бародкаю, стаіць сабе збоку, бы яго нічога і не тычыцца.— Якія сляды могуць быць пасля такога дажджу?

Участковы скоса на яго зірнуў.

— Я вас тут усіх сабраў, — сказаў участковы, — каб паведаміць наступнае. Сёння ўраніцы прыбіральшчыца, вось гэтая цётка Ніна, што сярод нас знаходзіцца, заявіла мне, што ўночы хтосьці лазіў у школу. Вунь праз тое акенца, над дзвярыма, — участковы паказаў на акенца на вышыні метры два з паловаю ад ганку. — Шыбку, адразу відаць, выцягвалі. Пакуль невядома, што ўкралі ў школе. Вось зараз гэта і высветлім.

— У пасёлку поўна дзяцей,— і зноў умяшаўся Змітраў бацька.— Чаму вы падазраяце нашых?

— Вы, грамадзянін, як я пагляджу, дужа нецярплівы. Усяму свой час. Ніна,— звярнуўся ўчастковы да прыбіральшчыцы,— раскажы, што было ўчора?

— А што ўчора? Іду, нясу вядро з вадою. А яны стаяць каля школы, вось гэтыя, Чэсь і... не ведаю, як завуць, і кажуць: "Адчыніце нам школу".

— А вы?

— Насварылася на іх. То, кажу, сілком не загоніш, а то ўлетку школа вам трэба...

Міхала аж трэсла ад злосці. Казаў жа, прасіў — не лезьце самі нікуды!..

— Ах ты, гад,— Чэсева маці шмарганула сына за вуха.— А я была паверыла! Ты ж быў увесь вечар дома — калі ж ты паспеў?

— Не лазіў я нікуды,— панура сказаў Чэсь, паціраючы вуха.— Пра школу пытаўся ў цёткі Ніны, а не лазіў.

— Я свайму сыну веру,— сказаў Змітракоў бацька,— і гатовы паклясціся, што ён ні ўвечары, ні ўночы не адлучаўся ні на хвіліну. Увогуле: мой сын — і нейкая шыбка, нейкі крадзеж... Такое ў прынцыпе немагчыма!

— І я гатова за свайго паклясціся,— прамовіла Міхалава маці.

— Бацькі не могуць быць сведкамі,— строга заўважыў участковы.— Зараз я вам сёе-тое пакажу, і вы самі пераканаецеся... Замок на дзвярах цэлы? — Участковы падняўся на школьны ганак і пакратаў замок.— Цэлы. Вокны цэлыя? Цэлыя. Пытанне: калі б дарослы чалавек захацеў пранікнуць у школу? Вядома, ён найперш паспрабаваў зрабіць гэта праз дзверы і вокны.

— Логіка! — гмыкнуў Чэсеў бацька.— Дзеці таксама маглі б спрабаваць праз вокны і дзверы.

— Вы дарэмна, грамадзянін, весяліцеся. Яшчэ невядома, што там у школе ўкралі. Дык вось, малому ўзламаць такі замок проста не пад сілу, гэта першае. Другое — вокны высокія, шырокія, шыбіны вялікія. Не кожны дарослы такую шыбіну выцягне і ўтрымае ў руках, не пакалечыўшыся. А яшчэ назад паставіць трэба... Далей — глядзіце: я мужчына высокі, а і то ледзь-ледзь дацягваюся да краю,— участковы прыўзняўся на дыбкі і сапраўды толькі крануўся кончыкамі пальцаў рамы таго акенца, праз якое, як ён стараўся даказаць, лазілі ў школу.— Я ўжо не кажу, што дарослы ў такое вузкае акно проста фізічна не здолее прасунуцца.

— А як, па-вашаму, дацягнуліся да яго дзеці? — іранічна спытаў Змітракоў бацька.— Лесвіцу прынеслі? Ці падскоквалі так высока?

— Не лесвіцу. Робіцца гэта так,— сказаў участковы.— Ану вы, утрох, ідзіце сюды.

Міхал, Чэсь і Змітрок падышлі.

— Так, ты, Міхал, самы большы,— нагніся. Упірайся рукамі ў вушак. Чэсь, выцеры добра ногі, насуха... вось так. Залазь на балясіну, станавіся яму на спіну. Ты,— да Змітра,— выцер ногі? Бачыш, сам здагадаўся... Зноў-такі давай на балясіну, на спіну Чэсю... Вось так... Ну?

Верхні, Змітрок, апынуўся акурат на ўзроўні акенца.

— Злазьце,— скамандаваў участковы.

Ён ссадзіў Змітра, Чэсь саскочыў сам, Міхал разагнуўся. Участковы, выціраючы далоні, задаволена, пераможцам пазіраў на ўсіх.

— Гэтая егіпецкая піраміда яшчэ ні пра што не кажа! — заявіў Змітракоў бацька.— Мы нават не ведаем, у чым правіннасць нашых дзяцей? Нават у школу яшчэ не зайшлі, а розныя эксперыменты тут ладзім...

— Цішэй, не трэба гарачыцца. Ніна, адмыкай. Толькі асцярожна, я зайду першы — там павінны застацца сляды.

Цётка Ніна зняла замок, прапусціла ў калідорчык участковага.

— Цёмна, дзе тут выключальнік... А, вось. Уключылася святло. З глыбіні калідора патыхнула нежылым духам. Збоку ад дзвярэй, пад вакенцам, стаялі лескі, заляпаныя мелам, на падлозе ляжалі газеты.

— Гэта я бяліла столь,— пачала апраўдвацца цётка Ніна,— не паспела прыбраць...

Участковы агледзеўся.

— Сапраўды, у гэтым брудзе слон мог бы прайсці, і той слядоў не пакінуў бы... Карацей, ясна,— участковы зірнуў на хлопцаў.— Той, хто лез, навіс на руках і саскочыў на падлогу, а калі выбіраўся назад, падцягнуў пад вакенца лескі. Ніна, правер, ці цэлыя замкі ў кабінетах.

Прыбіральшчыца пайшла па калідоры, шморгаючы за ручкі дзвярэй класных пакояў. Усе дзверы былі замкнутыя. Участковы ішоў следам. У канцы калідора, дзе стаяла шафа, цётка Ніна ахнула.

— Вось, сюды!

Шкло ў адной з палавінак дзвярэй шафы-"музея" было выбіта, відаць, ударам нагі.

— Так! — участковы хуценька падбег да шафы, пад чаравікамі захрабусцелі аскепкі.— Зараз будзем складаць пратакол! Ніна, што тут было, у гэтай шафе? І што прапала?

Цётка Ніна зазірнула праз дзірку.

— Ды, здаецца, нічога... Уся макулатура на месцы.

— Якая макулатура?

— Такая. Паглядзіце самі. Тут розная непатрэбшчына ляжыць. Газеты адсюль бяру, падлогу засцілаць... Вядро, швабру сюды стаўлю, анучы хаваю...

Цяпер надышла чарга збянтэжыцца ўчастковаму. Ён зняў фуражку, выцер далоняю лоб і скроні.

— Нічога не разумею.

— Крадзеж стагоддзя! — насмешліва сказаў Змітракоў бацька.

Чэсь з Міхалам, якія стаялі ззаду ўсіх, пераглянуліся. Ледзь варушачы вуснамі, Чэсь прашаптаў: "Папкі няма!" Міхал прыклаў да вуснаў палец.

— Усё, цяпер вы адпускаеце нашых дзяцей? — спытала Міхалава маці.

— Пакуль не. Міхал, растлумач, чаму ўсё ж вы сюды лазілі? Што шукалі?

— Мне ўсё гэта надакучыла! — раптам гучна заявіў Міхал.— Яшчэ раз вам паўтараем, пры сваіх бацьках і пры цётцы Ніне: мы нікуды не лазілі!

— Бач ты, надакучыла яму... Не лазілі — дакажыце. Я паказаў там, на ганку, як вы гэта рабілі?

І Змітрок, і Чэсь памкнуліся былі ўперад, але Міхал спыніў іх.

— Я сам. Бачыце вунь тое акно ў канцы калідора, за шафаю?

— Ну-ну, не забывай, з кім гаворыш, — зрабіў заўвагу ўчастковы. — Ну, бачу.

Міхал падышоў да акна.

— Тады скажыце, навошта нам рызыкаваць, караскацца адзін аднаму на плечы, у цемры, у дождж, калі мы ў любы час і вельмі лёгка маглі б залезці ў калідор вось праз гэтае акно? Яно нізка ад зямлі, шырокае. Глядзіце, тут няма шпінгалета. Дастаткова пальцам піхнуць гэтае акно з вуліцы — і яно расчыніцца насцеж!

— Праўда, яно лёгка адчыняецца, — вінавата пацвердзіла цётка Ніна.— Колькі разоў прасіла дырэктара: зрабіце вы гэты шпінгалет...

Участковаму, пад насмешлівымі позіркамі бацькоў, ізноў давялося зняць фуражку і выцерці лоб. Зміртрок і Чэсь з гонарам глядзелі на Міхала, свайго камандзіра.

— Пачакайце, тады выходзіць...

— Выходзіць, у школу лазілі чужыя, хто не ведаў пра акно, — дакончыў за ўчастковага Змітракоў бацька.

— Можа, ведаеце хто?

— Не ведаю. А можа, вы ведаеце — калі ўрэшце скончыцца гэты "следчы эксперымент"? Нашы дзеці тут ні пры чым, гэта даказана імі самімі.

— Добра,— здаўся ўчастковы.— Хоць тут і хуліганства ў наяўнасці: пабітае шкло. Але раз нічога не ўкралі, пратакол складаць не буду. Вам, — павярнуўся ён да цёткі Ніны, — сёння ж дамовіцца з дырэктарам, уставіць шпінгалеты, закратаваць акенца над уваходам, заадно знайсці грошы на шкло ў дзверы гэтай шафы. Вам,— да хлопцаў,— раблю пакуль вуснае папярэджанне!

Усе ўтрох ускінуліся.

— Чаму?

— За што?

— Дыму без агню не бывае,— загадкава адказаў участковы.— Цяпер давядзецца глядзець за вамі больш пільна. Тое ж самае прапаную рабіць і грамадзянам бацькам.

## Раздзел 31
## Што мы маем ?

Апошнія словы ўчастковага найбольш прыйшліся да душы Чэсевай маці.

— Усё, адгуляўся, — заявіла яна дома сыну — Цяпер забудзь пра вуліцу, будзеш сядзець у мяне як мыш пад венікам.

— Мама, ты ж усё чула! Я нікуды не лазіў!

— Ну і што, што не лазіў? За табою не прападзе: яшчэ паспееш і залезці. Вунь вядро, насі ваду і палівай грады...

— Якія грады?! Учора толькі дождж быў!

— Тады збірай з бульбы жукоў каларадскіх.

Так Чэсь і не выйшаў у той дзень гуляць. Не было яго і на другі дзень, з раніцы.

Міхал са Змітраком праверылі будан, ці не падцёк у час дажджу. Тады ўзялі вудкі, разуліся. Сядзелі на абрывістым беразе, звесіўшы ногі. Добра, цёпла...

У Міхала даўно прайшла ўся злосць на сяброў. Ён расказаў Змітраку, як з'ездзіў у горад, змаўчаўшы толькі пра гарадскіх хлопчыка з дзяўчынкаю, якія так свабодна, так прыгожа размаўлялі на роднай мове.

— Я адразу зразумеў, чыіх гэта рук работа,— сказаў Міхал.— Калі ўбачыў, што ўчастковы вядзе мяне да школы, так і цюкнула ў галаву — лысы сказаў: "Цяпер толькі школа застаецца". Але вам чаму не сядзелася? — спытаў ён.— Я ж папярэджваў: нічога не рабіце самі!

Змітрок уздыхнуў вінавата.

— Ты яшчэ не ўсё ведаеш... Мы запісалі ў сшытак: "Копія бяросты знаходзіцца ў шафе, што стаіць у школьным калідоры". Курт, вядома, прачытаў — і вось...

— Малайцы! З вамі толькі скарбы шукаць.

— Чаму — сёе-тое і мы раздабылі.

— Напрыклад?

— Копію бяросты.

У Міхала ледзь вудзільна не выпала з рук.

— Ну, маўчун! Дзе, як?!

— У старой настаўніцы, Ірыны Леанідаўны.

— І дзе копія?

— Усё ў Чэся: і талер, і бяроста. Ды мы спрабавалі ўжо — ніяк, нічога не зразумець. Трэба тры манеты.

Міхал, аднак, уміг павесялеў.

— Ну, гэта ўжо нешта... Чэся адпусціць маці да вечара ці сам уцячэ... Тады яшчэ паспрабуем. Ага! — успомніў Міхал.— Помніш, учора ўчастковы сказаў: "Дакажыце, што не вы лазілі?" Чаму ты памкнуўся даказваць разам з намі? Мы з Чэсем ясна — мы ведалі пра акно на калідоры. А ты?

— А я след бачыў.

— Які след? Чый?

— Ну, калі абціраў ногі. Каб Чэсю на плечы залезці. Там пры ганку анучка, яна ссунулася крыху, а пад ёю — след вялізнага бота.

— І што? Там столькі людзей тапталася...

— Боты ўлетку ў вас толькі адзін чалавек носіць,— важна сказаў Змітрок.— Да таго ж, над ганкам — стрэшка, значыць, след застаўся з ночы...

— Дзед Макар! — усклікнуў Міхал і адразу чамусьці напусціўся на Змітра: — І што з цябе ўсё абцугамі трэба выцягваць! А калі б я не спытаў, ты прамаўчаў бы і пра след, і пра бяросту?

— Не ведаю,— паціснуў плячыма Змітрок. — Зрэшты, яшчэ не позна — можа, пайсці і расказаць пра след участковаму.

— Ты сур'ёзна?

— Чаму не? Тады "здадзім" усіх адразу: і дзеда з унукам, і "геолагаў" — ніхто нам больш не будзе шкодзіць.

— Паслухай. Па-першае, само па сабе гэта брыдка — "здаваць" каго б там ні было... Па-другое, ты, Змітрок, чалавек гарадскі, а тут свае законы. Ты падумаў, як пасля жыць і глядзець гэтаму дзеду Макару ў вочы? А ці падумаў ты, як збіраешся расказваць таму ж участковаму: пра "геолагаў", што яны тут шукаюць, пра талеры, бяросту, скарб...

Змітрок вінавата пашкроб патыліцу.

— Дапусцім, участковы нам паверыць,— працягваў Міхал,— і ўсіх іх арыштуюць. Ну і што? У школе нічога не прапала, а больш за імі ніякага злачынства няма! Складуць пратакол і адпусцяць. А мы такіх ворагаў нажывём, што мала не здасца...

— Тады што цяпер рабіць? — спытаў Зміцер.

— Што рабіць? Нічога без Аксаны мы не зробім... А калі яна прыедзе і што там, у Мінску, раздабудзе — невядома,— Міхал раптам шырока ўсміхнуўся: — Таму прапаную — гуляць! Чорт з ім, з гэтым скарбам! Лета стаіць! Будзем гуляць у футбол, лавіць рыбу, сходзім у паход — не на адным скарбе свет клінам сышоўся!

## Часціна трэцяя

## Нечаканы саюзнік

### Раздзел 32
### Званок

Усё складвалася проста цудоўна.

Паслязаўтра тата ад'язджае ў экспедыцыю. Ён патэлефанаваў у архіўны музей, дамовіўся з загадчыкам. Той запэўніў, што Аксана можа прыйсці ў любы час, ён падрыхтуе для яе ўсе неабходныя паперы і экспанаты.

Але галоўнае, у Паплавы адпускаюць Кацю! Праўда ненадоўга. У ліпені яны ўсёй сям'ёю збіраюцца ў Егіпет, турыстычнае падарожжа, але да ліпеня яшчэ далёка. І Каця гэты час можа пабыць у вёсцы, разам з Аксанаю. Вось здорава!

Добра было нават тое (хоць Аксане сорамна было прызнацца ў гэтым), што Каця нечакана захварэла. У такую цеплыню ёй аблажыла горла, яна сядзела дома, піла розныя лекі і адвар з маліны. Пакуль яна выздаравее, Аксана акурат паспее схадзіць у архіў.

Таму дзяўчынка так легкадумна аднеслася да тэлефоннай размовы з Міхалам, у якой ён папярэджваў пра "геолагаў". Яшчэ чаго — будзе яна баяцца! "Геолагі" далёка... Талер, аднак, дома больш не трымала, пакінула ў Каці.

Бацька пакрысе рыхтаваўся да экспедыцыі. Ён адпусціў бараду — барадатаму чалавеку менш дакучаюць камары, і каб потым не траціць час на галенне. Заплечнік, што стаяў у пярэдняй, з кожным днём усё больш "распухаў". Адзін выгляд яго — пацёртага-паношанага, вылінялага на сонцы, у чорных плямах прапалінаў, будзіў уяўленні пра лес і чыстае поле, рэчку, палатку, начное вогнішча, узыходы і

заходы сонца...

Аксана была ўдзячная бацьку. У гэтыя апошнія дні ён не чытаў ёй натацый — як паводзіць сябе ў Паплавах. І ні разу не спытаўся, як ідуць справы з "пошукам скарбу".

Але Аксана яшчэ не ведала: дзякуючы бацьку, яны, "шукальнікі скарбу", набылі сабе моцнага саюзніка. Неяк, калі яна гуляла ў Каці, бацька набраў нумар тэлефона свайго старога сябра, настаўніка гісторыі Барыса Рыгоравіча.

— Вось добра, што застаў цябе.— сказаў бацька.— Барыс Рыгоравіч, у мяне дзве просьбы: лёгкая і цяжкая. З якой пачынаць?

— Давай з цяжкай,— засмяяўся Барыс Рыгоравіч.

— Дзе ты сабраўся адпачываць улетку?

— На Гаваях! А калі сур'ёзна, з маімі сродкамі давядзецца гэтае лета праседзець у горадзе. У лепшым выпадку выберуся на Мінскае мора ці ў Дразды...

— А помніш, раней ты ці не кожнае лета ездзіў у Паплавы?

— Даўно тое было. Малады быў, лёгкі на зборы.

— А ты вазьмі дый успомні маладосць,— параіў бацька.— Не хочаш пажыць у Паплавах, хоць месяц?

— Неяк не думаў пра гэта...

— А ты падумай. Мясціны там цудоўныя, людзей тамтэйшых ты ведаеш, і яны цябе. Зняў бы паўхаты ў якой-небудзь бабулі, вялікіх грошай на гэта не трэба, у Мінску больш растраціш. Сям'і ў цябе няма, лецішча таксама. А там лавіў бы рыбу, піў сырадой, прачынаўся з пеўнямі...

— А што — трэба падумаць,— загарэўся Барыс Рыгоравіч.— Ты так распісваеш...

— Я чаму, Барыс Рыгоравіч, "распісваю": дачка там будзе, у бабулі. Ты ж ведаеш Аксану, яна табе куды хочаш улезе... Але, па маё шчасце, яна раптам зацікавілася гісторыяй з талерамі. Помніш? Пра скарб французскага афіцэра?

— Як не помніць? Сам шукаў калісь. А толькі пустое гэта. Трэба сабраць разам тры манеты і копію бяросты, а гэта немагчыма.

— Ведаю,— сказаў бацька,— але раз яны цікавяцца — на здароўе. Яны — гэта Аксана і яшчэ тры мясцовыя хлопчыкі. Чым у якую шкоду лезці, хай шукаюць, цікавяцца гісторыяй... Дык вось, прашу цябе: едзь, пажыві які месяц у Паплавах, паглядзі Аксану. Паможаш ім, падкажаш... Больш за цябе пра гэтую гісторыю ніхто не ведае.

— Падумаю, падумаю,— паўтарыў Барыс Рыгоравіч.— А якая другая, лёгкая просьба?

— Ты некалі сябраваў з загадчыкам архіўнага музея. Ці не можна папрасіць яго памагчы Аксане? Яна хоча там паглядзець розныя дакументы, копіі... Я, праўда, нядаўна сам званіў яму, але перастрахавацца ніколі не лішне...

Барыс Рыгоравіч раптам перабіў суха:

— Гэтая "лёгкая" просьба, на жаль, цяжэйшая за першую. Мы не сябруем ужо гадоў пятнаццаць. У мяне не можа быць нічога агульнага з чалавекам, які працуе загадчыкам у архіўным музеі і разам з тым не любіць беларускай гісторыі, не прызнае самабытнасці яе, дазваляе сабе пасмешкі з беларускай мовы, называючы яе "скверным диалектом"!

— Вось як? — разгубіўся бацька.— Я не ведаў, прабач.

— А ў Паплавы — паеду! — сказаў Барыс Рыгоравіч.— І буду памагаць Аксане з яе сябрамі, чым змагу. Абяцаю.

Надышоў дзень развітвацца з бацькам. Да дома пад'ехаў старэнькі пашарпаны "рафік", у якім сядзелі вясёлыя, барадатыя, як і бацька, людзі, з такімі ж вялізнымі, выцвілымі на сонцы заплечнікамі. Аксана з бацькам яшчэ раз праверыла, ці адключаны халадзільнік, тэлевізар, ці не гарыць дзе святло, не капае з кранаў вада...

Па дарозе Аксану адвезлі да Каці. Цяпер яна пажыве тут, пакуль сяброўка паправіцца.

— Вось табе тэлефон,— сказаў бацька на развітанне і працягнуў Аксане лісток з нататніка.— Калі штосьці здарыцца — пазвані гэтаму чалавеку.

— А хто гэта?

—Сакрэт,— усміхнуўся бацька.— Ты проста набярэш нумар і скажаш: Аксана.

## Раздзел 33
## У Каці

— Табе не расказваў тата, як да яго патрапіў талер?

— Не,— адказала Каця.— Я і не пыталася... Ён апошнімі днямі позна прыязджае дамоў. У іх у фірме

нейкія непрыемнасці.

Каця, прыгожанькая і смешная, падобная на ляльку, з абвязаным тоўстай хусткаю горлам ляжыць на канапе пад пледам. Побач — столік з лекамі і табурэт, на якім свеціцца экранам маленькі пераносны камп'ютар.

Дзяўчынкі да болю ў вачах нагуляліся ў розныя камп'ютарныя гульні. Надакучыла глядзець мультфільмы па відэамагнітафоне.

— Давай выключым усё,— прапанавала Аксана, — і запалім лямпу.

Так і зрабілі. За акном — шэрань змяркання. Пахмурна, дажджліва. А ў пакоі — утульна свеціцца лямпа-начнік. Калі паварушыцца, па кутах і на стале таксама варушацца цені. Дзяўчынкі адны. Толькі раз за вечар у пакой зазірнула Кацiна матуля, зусім маладая, як старшакласніца. Яна была з завітымі мокрымі валасамі і трымала перад сабою растапыраныя пальцы — сушыла лак на пазногцях.

— А, гуляеце? — толькі і спытала яна. — Ну, гуляйце...

Яна выйшла, а тады ўспомніла штось, вярнулася зноў.

— Як ты сябе адчуваеш, Кацярына?

— Я зусім здаровая, мама!

— Тэмпературу памерай.

— Толькі што выцягнула градуснік: трыццаць шэсць і восем.

— Вось бачыш, яшчэ высокая. Трэба ляжаць...

Матуля выйшла, асцярожна локцем прычыніўшы дзверы. Каця чамусьці ўздыхнула. Аксана прысела да яе на канапу.

Дзяўчынкі прытуліліся адна да адной і абедзве маўчалі. Аксана згадала тату: дзе ён цяпер? Мусіць яшчэ ў дарозе. Імчыцца недзе па цёмнай шашы "рафік", стукаюць у шкло кроплі дажджу... Потым яна падумала пра Кацю. Каця багатая, прыгожая. У яе ўсё ёсць. Бацькі нічога не шкадуюць для яе. Але ўсё адно яна часта бывае такая задумлівая, сумная. І дзіўна: Аксана ніколі не зайздросціла яе багаццю, ніколі нават у думках не хацела памяняцца з ёю месцамі.

Аксана ўспомніла вечар у паплавах, калі бацька расказваў гісторыю параненага французскага афіцэра, палілі куродым, а Чэсь такімі дзіўнымі вачыма глядзеў на яе... А на другі дзень пачаставаў чмяліным мёдам. Не, усё гэта цікавей, неяк цяплей, жывей за самыя прыгожыя камп'ютарныя гульні.

— Заўтра я вылечуся, — сказала Каця, нібы ўгадаўшы яе думкі, — і тата ўрэшце адвязе нас да тваёй бабулі. Хутчэй бы!

— Не! — спалохалася Аксана. — Заўтра ты, калі ласка, яшчэ не вылечвайся! Я ж нічога не паспела, так і не схадзіла ў архіў... Пахварэеш яшчэ дзянёк?

— Добра, — пакорліва згадзілася Каця.

У пярэдняй пачуліся галасы. Неўзабаве ў пакой заглянуў Кацін тата. Сёння ён вярнуўся рана і быў вясёлы: відаць, справы ў фірме пайшлі на лад. Высокі, маладжавы не па гадах, з бародкаю. Бародку ён адпускаў не для зручнасцей паходнага жыцця, як Аксанін бацька, а для прыгажосці.

— Не спіце яшчэ? — весела паціраючы рукі, сказаў ён. — А чаму гэта толькі лямпа ў вас? А відзік чаму не глядзіце? А ў камп'ютэр чаму не гуляеце?

І, не чакаючы адказу, прысеў на канапу. Паклаў дачцэ на лоб далонь.

— Як ты?

— Зусім здаровая.

Аксана знайшла пад пледам Кацiну нагу і сціснула яе. Але сяброўка нічога не зразумела.

— Дык што — заўтра можна везці вас? Я якраз вольны да абеду. Паспею адвезці і вярнуцца.

— Не, Ігар Валянцінавіч! — запярэчала Аксана.— Каця яшчэ слабая, хай паляжыць дзяннёк...— і, карыстаючыся яго добрым настроем, папрасіла: — Ігар Валянцінавіч, раскажыце, як да вас патрапіў талер? Той, што вы Каці падаравалі?

— А, талер, —Ігар Валянцінавіч наморшчыў лоб.— Гэта талер яшчэ з вайны, застаўся пасля майго таты, а Кацінага, значыць, дзеда...

— Чаму ты раней не казаў нічога? — спытала Каця.

— Гм, раней... Ці зразумела б ты? Ды я і сам наўрад ці змог бы расказаць як след... Не прынята было такое расказваць, гэта магло б табе пашкодзіць. Справа ў тым, што дзед у час вайны жыў у акупаваным немцамі Мінску. А ўжо адно гэта ставілася тады ў віну чалавеку. Пасля вайны яго арыштавалі, як ворага народа, і ён загінуў у лагерах. І хоць пры Хрушчове яго цалкам рэабілітавалі, усё адно— пляма сям і "ворага народа"...

— А як да яго патрапіў талер? — нецярпліва спытала Аксана.

— Бацька працаваў у архіўным музеі і крадком выносіў адтуль усё, што мог, — каб не дасталося

немцам. Маці расказвала — пры вобыску ў нашай кватэры знайшлі многа каштоўных гістарычных дакументаў і экспанатаў. А гэты талер нейкім цудам захаваўся.

— Значыць, ён сапраўдны, — прамовіла Аксана.— Адзін з тых трох...

Ігар Валянцінавіч паглядзеў на яе, потым — на Кацю.

— Так, адзін з тых трох,— пацвердзіў ён.— Вас, бачу, зацікавіла гісторыя французскага афіцэра, бяроста, скарб і таму падобнае? Дык ведайце, дзяўчаткі,— гэта лухта. З гэтай гісторыяй разбіраліся вучоныя, цэлыя экспедыцыі пошукавыя ладзілі — не знайшлі.

**Раздзел 34**
**Старонка з дзённіка**

Каця глядзела ў адну кропку.

— Тата, а раскажы яшчэ пра дзеда? — ціха папрасіла яна.

— А што я сам помню? Я ні разу не бачыў свайго бацьку. Калі яго арыштавалі, маці была цяжарная мною. Адзінае, што засталося... ды я зараз прынясу...

Ігар Валянцінавіч выйшаў і вярнуўся, трымаючы ў руцэ невялікую картонную скрыначку.

— Вось,— ён паставіў скрыначку на канапу каля Каці.— Паглядзіце, толькі асцярожна: паперы старыя, яшчэ рассыплюцца ў руках... А я пайду. Трэба зрабіць колькі важных званкоў.

Зверху ў скрыначцы ляжалі пісьмы — у казённых, пажоўклых ад часу канвертах. Асобна — шэрая паперка з адбітым на машынцы тэкстам: даведка аб рэабілітацыі. На самым дне — фотакартка. Малады чалавек, зняты на ўвесь рост, у дыхтоўным плашчы, капелюшы, ссунутым на патыліцу, твар адкрыты, смелы, толькі ў круглых, як у Каці, вачах штосьці сумнаватае.

Аксана распраміла паперку, у якую была ўкладзена фотакартка. З другога боку паперка ўся была спісана драбнюткім размытым почыркам.

І раптам слова "Паплавы" кінулася ў вочы. І яшчэ ў адным месцы. І нейкія даты збоку, на палях...

— Каця, гэта ж дзённік! — усклікнула Аксана.— Старонка з дзённіка!

Яна паднесла ліст бліжэй да лямпы.

— Амаль нічога не разабраць, акрамя асобных слоў...

— Чытай, чытай хутчэй,— прасіла Каця.

— Так... "Першага жніўня сорак трэцяга года... крыху бульбы. Куды падзецца, хіба да Арыны, у Паплавы... Ці прыме? І як дабрацца?" Далей неразборліва. А вось, слухай!

"Трэцяга, дзевяты месяц... удалося талер... На выхадзе абшуквалі, цудам не папаўся. Заўтра паспрабую другі..."

"Адзінаццатага, дзевяты месяц. Архіў закрылі... немцам не да музеяў цяпер. Няма працы, голад. Паплавы?"

— Далей!

— Далей усё размыта,— сказала Аксана.— Толькі апошні радок: "...фашысты лютуюць. Учора расстралялі... Хутчэй бы нашыя!" Ну, Каця, цяпер усё зразумела. Адзін талер твой дзед вынес, другі не паспеў — музей закрылі.

Аксана задумалася.

— Арына з Паплавоў... Міхал казаў, у Паплавах жыве старая настаўніца — Ірына, здаецца, Леанідаўна... Арына і Ірына — адно імя?

Але Каця не слухала сяброўку.

— "Хутчэй бы нашыя",— паўтарыла Каця апошнія словы з дзённіка.— А нашыя прыйшлі... і забралі!

**Раздзел 35**
**Загадчык архіўнага музея**

Назаўтра зранку Аксана ўжо выходзіла з тралейбуса на прыпынку "Верхні горад".

Пасля начнога дажджу распагоджвалася. Тратуар, часопісны кіёск на рагу, машыны, сцены і дахі дамоў — усё бачылася неяк ярка, кантрасна — бы глядзіш на гэта праз чыста вымытае акно.

Дзяўчынка лёгка адшукала ў дварах Верхняга горада прыгожы, крыты чырвонай чарапіцай будынак архіўнага музея. Але галоўныя дзверы былі зачынены. Аксана абышла будынак, з другога боку ўбачыла яшчэ адны, маленькія дзверы. Смела ўвайшла і апынулася ў светлым доўгім калідоры, заваленым пачкамі нейкай паперы. Стаяла цішыня, нікога нідзе не было.

Лавіруючы між гэтых пачкаў, Аксана мінула калідор, па лесвіцы паднялася наверх, і тут, на першых

жа дзвярах, убачыла шыльду — "Загадчык".

Аксана пастукала, адчыніла дзверы.

У невялікім кабінеце стаяла шафа, стол, тры крэслы. За сталом сядзеў маленькі, сівенькі чалавек і штосьці пісаў, нязграбна, як робяць дзеці, водзячы ручкаю.

Убачыўшы Аксану, чалавек паварушыўся, нібы хацеў прыпадняцца з ветлівасці. Але затым чамусьці перадумаў.

— А вы, наверное, Оксана? — хутка сказаў ён і склаў свае тонкія бяскроўныя вусны ў нейкае падабенства ўсмешкі.— Да, мне звонили. Знаю, знаю и вашего отца, прекрасного археолога, и вашего учителя истории, Бориса Григорьевича...

Аксана, з малых гадоў прывучаная (дома з бацькам і з яго сябрамі яна размаўляла па-беларуску, а ў школе і на вуліцы трэба было "перабудоўвацца"), не здзівілася. Яна лёгка магла пераходзіць з аднае мовы на другую.

— Я ведаю нават Кацю Аляшкевіч, вашую сяброўку,— нечакана дадаў загадчык.

— Кацю?! Адкуль?

— А я нядаўна выступаў у вашай школе. Праўда, у старэйшых класах. І ў настаўніцкай выпадкова ўбачыў разгорнуты журнал вашага пятага "А". Мяне адразу зацікавіла гэтае прозвішча, Аляшкевіч. Некалі да вайны ў архіве працаваў гісторык з такім прозвішчам. Пасля яго рэпрэсавалі... Гэта быў вядомы нумізмат. А я, прызнацца, таксама люблю збіраць розныя манеткі... Я спытаў у вашага завуча, Андрэя Адамавіча, і мы разам высветлілі, што сапраўды — Аляшкевіч — гэта дзед вашай сяброўкі Каці.

Загадчык гаварыў і ўвесь час не спускаў з Аксаны вачэй. Было відаць, ён чакаў, калі дзяўчынка сама загаворыць пра Кацю, пра калекцыю манет... А адкрыта спытаць аб гэтым не адважваўся.

Аксана, якой гэты загадчык з яго балбатлівасцю і ўсёведаннем чамусьці адразу не спадабаўся, маўчала. "Каго ж ён нагадвае мне?" — думала яна і ніяк не магла ўспомніць.

— Паехаў бацька? — спытаў загадчык.

— Так, учора.

— І дзе вы цяпер?

— Адна жыву... Не — у Каці,— вырашыла не хлусіць на гэты раз Аксана.

— Ну што ж,— сказаў загадчык.— Вас, як я зразумеў, цікавіць гісторыя напалеонаўскіх скарбаў? А чаму цікавіць, калі не сакрэт?

— На лета нам далі заданне: апісаць гісторыю якогась помніка. Я выбрала помнік у Паплавах. Там жыве мая бабуля.

— Ага. Ведаю і вашыя Паплавы, і той помнік,— задумліва прамовіў загадчык. Тады, нязграбна вывернуўшы худую руку, неяк не ўзяў, а падчапіў са стала папку, падаў Аксане.— Тут вы знойдзеце ўсё пра ваш помнік, і нават больш. Вось толькі з сабою даць не магу. Сядайце, калі ласка, сюды, за шафу,— паказаў ён на другі край свайго шырокага стала,— працуйце. Сшытак, ручка ёсць?

— Ёсць.

Аксана абмінула стол і тут, за шафаю, убачыла прыхінутую да сцяны мыліцу. "Сябра Барыса Рыгоравіча — інвалід з дзяцінства, яму цяжка хадзіць",— успомніла Аксана бацькавы словы.

Яна дастала з пакета сшытак, ручку. З заміраннем сэрца разгарнула папку.

Загадчык схіліўся над сваімі паперамі.

— Калі што будзе незразумела — пытайце,— сказаў ён, не падымаючы галавы.

## Раздзел 36
## Артыкул

У папцы ляжалі ксеракопія нейкага часопіснага артыкула і, асобна сашчэпленыя, тры лісткі, на якіх коратка апісвалася гісторыя горада Бярозы і яго ваколіц.

Аксана ледзь не ўскрыкнула ад расчаравання. А дзе ж копія бяросты, дзе калі не самі талеры, дык хоць бы малюнкі іх?!

Але нельга было выдаваць сябе. Яна ж робіць "заданне на лета". А для задання матэрыялу тут, сапраўды, больш чым дастаткова.

Дзяўчынка пачала чытаць артыкул і захапілася. Нават выпісала пачатак, каб паказаць потым сябрам:

"Мінула амаль 180 гадоў, як скончылася інтэрвенцыя французаў у Расію. Гэтая тэма ў гістарычнай літаратуры лічыцца найбольш распрацаванай. Тым не менш пра скарбы, вывезеныя французамі з Масквы, не перастаюць спрачацца і сёння. У перыядычным друку легенда пра "скарб Напалеона" атрымала "права грамадзянства" нароўні з агульнапрызнанымі: ордэна Тампліераў (у Францыі), інкаў (у

Паўднёвай Амерыцы), англійскіх піратаў (у Карыбскім моры), нацыстаў Гімлера (у Штырыйскіх Альпах) і іншымі. Склалася думка, што скарбы ёсць, яны вялізныя і шукаць іх трэба ў межах Беларусі. Хапае і энтузіястаў. На працягу некалькіх гадоў арганізаваныя брыгады і адзіночкі вялі пошук у Сямлёўскім возеры (бліз Вязьмы), у возеры каля гарадскога пасёлка Крупкі, на рацэ Бярэзіна і нават у Літве. Раён пошуку пашыраецца да няпэўнасці, але энтузіязм не згасае. Шукаюць зімой і летам. З'явіліся элементы авантурызму. Газетныя нататкі пра "скарб Напалеона" выразаны амаль ва ўсіх бібліятэках Мінска (уключаючы і бібліятэку імя Леніна). Ствараюцца новыя брыгады, з'яўляюцца новыя версіі, расце нездаровы ажыятаж. Але ніхто як след не ведае, на што можна разлічваць пры ўдачы і дзе яе шукаць..."

"Аўтамабілі з маскоўскімі нумарамі ўсё яшчэ і сёння круцяцца кожнае лета каля аршанскіх і барысаўскіх азёр. Усім карціць знайсці скарб з золатам і срэбрам. Пошукі пастаўлены на навуковую аснову. З кожнага возера бяруць пляшку вады і на спектраскопах у Маскве правяраюць наяўнасць атамаў золата і срэбра. Дзе яго больш, там абавязкова павінен быць скарб..."

Далей ішоў раздзел пад загалоўкам "Легенды пра скарбы". Адна з легендаў была ўжо знаёмая Аксане: французскі афіцэр, пахаваны ў Паплавах разам з рускімі салдатамі — пазелянелая медная пласцінка, два талеры іспанскага чакана, кавалак бяросты з крыжыкам унізе і слова "CLAD)"...

"І гэтая загадка пакуль не разгадана,— канчаўся раздзел.— Зямля ўмее хаваць свае таямніцы".

Дзяўчынка звярнула ўвагу, што ў артыкуле чамусьці ні слова не сказана: а дзе цяпер гэтыя дзве манеты і копія бяросты?

— Скажыце,— парушыла яна цішыню,— хто аўтар гэтага артыкула?

— Я,— адказаў загадчык.

— Можна вас папрасіць... Пакажыце, калі ласка, мне талеры, пра якія пішаце ў сваім артыкуле. І копію бяросты.

Загадчык не здзівіўся. Ён развёў маленькімі, скалечанымі рукамі.

— З вялікай радасцю паказаў бы — але няма!

— Як няма? — сумелася Аксана.

— Так. На вялікі, велізарны жаль. Усё знікла ў вайну. Што згарэла, што прапала, што немцы вывезлі... Няма!

— Але тата казаў, у вайну знік усяго адзін талер! А другі і копія бяросты захоўваюцца ў архіўным музеі...

— Ваш тата памыліўся,— спакойна паведаміў загадчык.— Ваш тата — археолаг, і проста не ведае ўсіх дэталяў. Гэтыя манеты, копіі, экспанаты, звязаныя са скарбамі... Цяжка, скажу вам, зберагчы такія рэчы нават у архіўным музеі. Вы ж самі чыталі: газетныя нататкі — і тыя выразаюць па ўсіх бібліятэках.

Загадчык гаварыў спакойна і глядзеў на дзяўчынку з прыязнасцю. Але Аксана ўжо не сумнявалася — ён хлусіць ёй. Ён проста не хоча нічога паказваць. Яму трэба, каб як найменш людзей ведалі пра гэтыя талеры.

## Раздзел 37
## Сева

Пачууся стук у дзверы.

— Калі ласка! — сказаў загадчык.

Аксана сядзела на другім баку стала, за шафаю, адкуль не магла бачыць дзвярэй і таго, хто зайшоў у кабінет. Але па твары загадчыка яна зразумела: госць быў непажаданы.

— Я ж прасіў перш званіць, а тады прыходзіць! — рэзка сказаў загадчык і пакасіўся на Аксану.

— Тэлефон быў заняты,— адказаў наведнік.

Які знаёмы голас! Аксана асцярожна выглянула з-за шафы — і адразу ж падалася назад. Ёй захацелася забіцца ў самы куток. Вось дык сустрэча! Чэрвеньскі "знаёмы", Сева!..

— У мяне тут людзі,— сказаў, нібы папярэджваючы Севу, загадчык. І да Аксаны: — Вы скончылі? Усё выпісалі?

Яму яўна хацелася, каб Аксана зараз сабралася і пайшла. Але дзяўчынка ў адказ адмоўна хіснула галавою. Яна баялася, што калі загаворыць, Сева пазнае яе па голасе.

Загадчык памуляў вуснамі.

— Ну што ж — працуйце... Тады мы з прыяцелем не будзем перашкаджаць вам. Падайце, калі ласка, мыліцу.

Узяў мыліцу пад паху, выграбся з-за стала. Падцягваючы адну нагу, падаўся да дзвярэй. Пры хадзе ён віхляўся ўсім целам, свабодная рука балансавала... "Каго ж ён мне нагадвае?" — ізноў прамільгнула ў

Аксаны.

Дзяўчынка сядзела, як на цвіках. Раптам ёй здалося, што яна чуе галасы. Так і ёсць. Загадчык, выходзячы ў калідор, пакінуў дзверы на шчылінку прыадчыненымі.

Аксана паднялася і асцярожна, на дыбачках, падышла бліжэй. Кожную хвіліну яна гатовая была кінуцца назад, за шафу. "Калі зойдуць, убачаць — прыдумаю што-небудзь... Прысяду, скажу: ручка некуды закацілася, не магу знайсці..."

Загадчык з Севам стаялі адразу каля дзвярэй, таму чуваць было кожнае слова.

— Што здарылася? — гнеўна шыптаў загадчык. — Я забараніў вам прыязджаць сюды без крайняга выпадку!

Сева адказаў пасля паўзы, і голас у яго быў нейкі збянтэжаны:

— Акурат такі выпадак... Мы з лысым пагаварылі, і вось... Нам здаецца, ты ад нас штосьці хаваеш.

— Хрысціцца трэба, калі здаецца! Яны, бачыце, пагаварылі!

Сева сказаў мірна:

— Не злуйся, Павук... Зразумей і нас. Нікому неахвота быць дурнем. Чаму ты нам не ўсё расказваеш? Мы робім усю чорную работу, сядзім у гэтых Паплавах...

"Павук!" — нарэшце здагадалася Аксана. Худыя вывернутыя рукі загадчыка, яго маленькая галава на тонкай шыі, віхлянне ў баку пры хадзьбе... Усё гэта сапраўды нагадвала павука з вядомага дыснееўската мультфільма, які яны ўчора глядзелі з Кацяю.

— І што вы ад мяне хочаце?

— Копію бярosты. І пакажы...— Сева пакашляў вінавата.— Пакажы, што нам з гэтай праклятай бяростаю рабіць!

— Можа, мне яшчэ завезці вас у Паплавы і тыцнуць насамі ў той метр квадратны зямлі, дзе закапана золата? Дурні, крэціны — іншага слова не знаходжу! Раз вы паверылі мне, дык верце да канца!

— Ды я веру, супакойся. Гэта лысы...

Але Павук гарачыўся:

— Навошта вам гэтая копія? Сцены абклейваць замест шпалераў? Ды зараз зойдзем, там у мяне на стале ляжыць кніга, у ёй дзесяць гэтых копіяў!

— Цішэй, супакойся. Ты ж ведаеш, я твайму кожнаму слову веру.

— Калі верыш, дык перадай лысаму: вы ведаеце роўна столькі, колькі вам патрэбна ведаць. І робіце чорную работу, бо ні на што больш не вартыя. Хіба яшчэ мянялamі тырчэць каля абменных пунктаў... Ды калі б не гэта,— Павук стукнуў аб паркет мыліцаю,— вы мне сто гадоў не трэба былі б. Я і так, з гэтых чатырох сцен не выходзячы, больш за вас зрабіў. Галоўнае, знайшоў другі талер.

— Праўда?! У сэнсе, трэці? Другі ж у малой, якую мы бачылі ў Чэрвені!

— На жаль, менавіта другі. Ён знаходзіцца ў прыватнай калекцыі нейкага Ігара Валянцінавіча Аляшкевіча, якога ў дадзены момант цікавіць не нумізматыка, а дробны бізнес. Цяпер з гэтым талерам гуляюцца дзеці — яго, Аляшкевіча, дачка Каця і яе сяброўка, дачка аднаго археолага... "Чэрвеньскі" талер і талер з калекцыі Аляшкевіча — адна і тая ж манета. Дарэчы,— сказаў раптам Павук, прыцішыўшы голас,— твая "чэрвеньская" малая сядзіць зараз у мяне ў кабінеце.

— Тут?! — ахнуў Сева.

— Цішэй,— цяпер ужо Павук яго супакоіў— Яна тут "працуе". Таксама шукае скарб, відаць, бацька расказваў сёе-тое.

У Аксаны за дзвярыма аж задрыжэлі каленкі. І ўсё ж яна, бы загіпнатызаваная ўсёведаннем гэтага Павука, не магла крануцца з месца.

— Але ты адкуль ведаеш? — спытаў Сева акурат тое, што найбольш цяпер хацелася пачуць і Аксане.

— Усё проста. У адрозненне ад вас з лысым у мяне ёсць крыху розуму і назіральнасці... Нядаўна выступаў у школе, дзе вучыцца гэтая малая. У настаўніцкай, у разгорнутым класным журнале, выпадкова ўбачыў прозвішча Аляшкевіч, яно мяне зацікавіла — быў такі вядомы гісторык. Распытаў іхняга завуча: што за Каця, з кім сябруе, што за бацька ў яе... Папрасіў тэлефончык, увечары пазваніў, "узяў на пушку": так і так, архіўны музей хоча набыць у вас талер. Есць, кажа, талер, толькі я падараваў цяпер дачцэ. А дачка падаравала сваёй сяброўцы. А тут і вы з вашымі звесткамі пра "чэрвеньскую" малую... Вось і ўсе праблемы.

— Талер у яе! — рашуча сказаў Сева.— Трэба зараз жа забраць!

— Спакойна, хутчэй за ўсё няма ў яе ніякага талера. А калі і ёсць, дзяцей крыўдзіць нельга. Яе бацька паехаў учора ў экспедыцыю, яна жыве цяпер у сяброўкі — у Аляшкевіча, значыць. Там будзе і талер. Вам давядзецца размаўляць непасрэдна з гаспадаром. Сёння ж з лысым матайце да гэтага Аляшкевіча на кватэру, рабіце, што хочаце, але каб талер заўтра-паслязаўтра быў у мяне.

— А калі ён занаравіцца, гэты Аляшкевіч? Нумізматы ўсе ненармальныя, я ведаю,— сказаў Сева.— Трасуцца за кожную сцёртую капеечку.

— Паабяцайце добрыя грошы. Мне вас нават гэтаму вучыць трэба? Прыгразіце — вы ж рэкет, а ў яго бізнес. У крайнім выпадку, калі пачне ўпірацца, абмяняеце яго талер на наш. Яны амаль ідэнтычныя.

— Павук, ты ў сваім розуме?! Аддаць яму адзіны талер? А калі ў яго фальшыўка?

— Рабіце тое, што вам загадана. Тут галоўнае не талеры, разумнаму чалавеку дастаткова толькі патрымаць іх у руцэ... Карацей, так і быць: дастаньце мне манету, і я скажу, у чым справа.

— Добра,— Сева памаўчаў, тады нібы ўспомніў штосьці.— Але калі ты круціш...

— Ды вы без мяне — чурбакі! — злосна сказаў Павук.— Запомніце: калі задумалі рабіць штось самі — усё прапала!

— Добра, добра, я ж нічога... Гэта лысы ўсё,— ільсціва загаварыў Сева.— Кажа, Павук дурыць нас, не паказвае бяросту. Мы нават у гарадскі краязнаўчы музей з'ездзілі — праўда, ён на рамонце,— і ў школу ў Паплавах лазілі...

— Ідыёты, навошта?!

— Копію бяросты шукалі. Унук дзеда, у якога мы спыніліся, уночы пралез у акенца, выцягнуў папку з шафы... А ў папцы,— Сева сплюнуў,— біяграфіі славутых людзей раёна, выразкі з газет!

— У мяне не хапае слоў...

Зразумеўшы, што размова канчаецца, Аксана, стараючыся ступаць ціха, кінулася да стала. Прысела на сваё месца, тады ўспомніла: "У мяне там кніга, у ёй дзесяць гэтых копій!" Хуценька пачала гартаць тоўстую кнігу, што ляжала з краю стала. Ёсць! Сапраўды, цэлы стос копій... Схапіла адну, схавала ў сшытак. І своечасова. Зачыніліся дзверы, прыклыпаў загадчык.

— Не даюць працаваць,— паскардзіўся ён Аксане,— гэта студэнт-завочнік, збірае матэрыял для аўтарэферата. Ну, а ў вас што? Усё выпісалі?

— Не яшчэ.

— Я рады, што мой артыкул так вас зацікавіў,— сказаў загадчык. Аднак у голасе яго вялікай радасці не адчувалася.

Аксана пасядзела крыху. Калі, паводле яе разлікаў, Сева ўжо выйшаў з музея, паднялася.

— Вялікі вам дзякуй.

— Прыходзьце яшчэ. Упэўнены, што пры такой стараннасці вы атрымаеце пяцёрку з плюсам,— іранічна сказаў Павук, праводзячы Аксану вачыма.

## Раздзел 38
## Страта манеты

Самае крыўднае, што нельга было пазваніць, каб папярэдзіць Кацю або Ігара Валянцінавіча: не было абанентнае карткі.

Калі праз гадзіну Аксана тралейбусам дабралася з Верхняга горада ў Сухараўку, яна ўбачыла, як ад пад'езда Кацінага дома ад'язджае знаёмая цёмна-сіняя "Аўдзі". Спазнілася! Відаць, Каця аддала талер, які хавала за кнігамі на паліцы.

Адчыніў Аксане сам Ігар Валянцінавіч. Ён быў устрывожаны.

— Аксана, у цябе талер?

Значыць, Каця нічога не сказала! Не пабаялася нават рэкеціраў! Цяпер у Аксаны з'явілася надзея, што ўдасца пераканаць і Ігара Валянцінавіча.

— Талер у Каці... Але, Ігар Валянцінавіч, я ўсё ведаю, да вас толькі што прыязджалі гэтыя... Не аддавайце ім, калі ласка, талер!

Ігар Валянцінавіч узяў яе за плячо, зазірнуў у вочы, сказаў рашуча, строга:

— Аксана, я паважаю твайго бацьку і да цябе стаўлюся, як да дачкі. Таму мушу зрабіць табе сур'ёзную заўвагу. Перастань сама ўблытвацца ў дарослыя справы і ўблытваць Кацю. Ты ўсё зразумела?

Дзяўчынка моўчкі кіўнула. Толькі цяпер да яе дайшло, што яна ў чужой сям'і, якімі б блізкімі сяброўкамі яны з Кацяю не былі.

У пярэднюю выбегла Каця, вясёлая, ужо без хусткі на горле. Убачыўшы засмучаную Аксану, зірнуўшы на строгі бацькаў твар, яна ўсё зразумела і таксама павесіла нос.

— Вось што, дзяўчынкі,— сказаў Ігар Валянцінавіч.— Буду гаварыць з вамі, як з дарослымі. Я добра ведаю гэтых людзей. Калі ім штосьці спатрэбіцца, яны здабудуць гэта з-пад зямлі, любымі сродкамі... І таму я не проста прашу, а загадваю: выкіньце з галавы нават думкі пра гэтыя скарбы! Пакуль вы гулялі самі па сабе, я не ўмешваўся. Але раз вашымі гульнямі зацікавіліся гэтыя людзі — усё, гульня скончана.

Раз ім так закарцела раздабыць гэтую манету, значыць, тут запахла сур'ёзным. А вам знойдзецца занятак і акрамя талера. Гуляйце вунь у камп'ютэр, схадзіце на двор, з'ездзіце ў цырк, у Батанічны сад... А можаце збірацца ў вёску. Заўтра я вас, канечне, туды адвязу. А цяпер — аддадзіце мне талер, Каця? — звярнуўся ён да дачкі.

Зайшлі ў пакой. Каця адсунула кнігі на паліцы, знайшла талер, моўчкі падала бацьку.

Ігар Валянцінавіч затрымаўся.

— Вы, відаць, лічыце, што я раблю кепска,— сказаў ён.— Разумею: талер — памяць пра Кацінага дзеда... Але іншага выйсця няма. Да таго ж я не прадаю яго, а толькі мяняю. Яны даюць мне ўзамен акурат такі ж талер.

Дзяўчынкі маўчалі. Ігар Валянцінавіч пастаяў крыху і выйшаў. Аксана абняла сяброўку.

— Каця, не перажывай так! Павер, я не магла цябе папярэдзіць! Я ведала, што яны прыедуць, але спазнілася...

І Аксана падрабязна расказала пра сваё наведванне архіўнага музея, пра Павука, Севу, копію бяросты ў кнізе...

— Галоўнае, тут справа нават не ў талерах,— закончыла яна. — Пасля таго як манета пабудзе ў гэтага Павука ў руках, яна робіцца больш непатрэбная ім.

— Гэта памяць,— ціха сказала Каця. Аднак расповед Аксаны крыху суцешыў яе.

— Ты таксама не перажывай, што не змагла папярэдзіць нас, Аксана. Усё адно тата аддаў бы ім. Але якія яны нахабныя, асабліва лысы! Яны нічога не баяцца. Гаварылі з татам пры мне і пры маме. Спачатку тата не хацеў і слухаць. Тады яны назвалі нейкія прозвішчы. Тата прыцішэў. А мама аж заплакала. Лысы сплюнуў проста на падлогу і кажа: "Падумай пра свой бізнес, хлопец! Заўтра ты можаш прачнуцца жабраком". А Сева штурхнуў яго пад бок, кажа лагодна: "Не варта пужаць людзей, хай сабе робяць бізнес. Ёсць іншыя варыянты. Калі ты, Ігар Валянцінавіч, не хочаш прадаваць талер, мы гатовы абмяняцца на такі ж самы. Гарантуем, што сапраўдны. Караце́й, падумай да заўтра. А калі надумаеш раней — вось табе тэлефончык..."

— Тэлефончык? — Аксана раптам успомніла штосьці.— Пачакай, я на хвілінку...

Яна выбегла ў пярэднюю, дзе вісела яе джынсавая куртка. З дзвярэй залы пачуўся голас Ігара Валянцінавіча: "Я згодзен на абмен, прыязджайце!.." — і гук пакладзенай на апарат слухаўкі.

Аксана вярнулася, трымаючы штось у сціснутым кулаку.

— І далей?

— Далей — яны пайшлі. А маці яшчэ больш заплакала. І сказала тату: "Зараз жа аддай усё, што яны просяць! Мы ледзь-ледзь узбіліся на грошы — і трэба траціць усё з-за нейкай паганай манеткі?! Я сама адвыкла жыць бедна і не хачу, каб Каця была беднаю". Тады тата сказаў: "Супакойся, я зраблю, як ты хочаш. Ні ты, ні мая дачка беднымі не будзеце". І маці супакоілася, выцерла слёзы і пацалавала тату.

— А дзе цяпер яна?

— Паехала ў цырульню рабіць педыкюр,— адказала Каця і чамусьці ўздыхнула.— Можа, мы таксама пойдзем гуляць?

— Не,— сказала Аксана.— Ігар Валянцінавіч толькі што тэлефанаваў ім. Хутка яны павінны прыехаць, прывезці свой талер. Твайму бацьку ён не патрэбен, папросім, каб аддаў нам. Тады паглядзім.

— Добра. А чаму ты выходзіла ў пярэднюю? — спытала Каця.

Аксана расціснула кулак. На далоні ляжала паперка з шасцю лічбамі — нумар тэлефона, які пакінуў бацька пры развітанні.

— Мы заблыталіся,— сказала Аксана.— Мы ні ў чым самі не разбярэмся.

**Раздзел 39**
**Барыс Рыгоравіч**

Як і меркавала Аксана, "госці" прыехалі хутка.

Дзяўчынкі таксама выглянулі на калідор. Сева з лысым распраналіся, стаялі ў пярэдняй. Убачыўшы Аксану, Сева з іранічнай галантнасцю, бы старой знаёмай, пакланіўся ёй.

— Пакажыце спачатку свой талер,— сказаў Ігар Валянцінавіч.— Я павінен праверыць, ці сапраўдны.

— Не сумнявайся,— лысы скоса зірнуў на дзяўчынак. Тады працягнуў Ігару Валянцінавічу штосьці, загорнутае ў паперку.

Ігар Валянцінавіч выйшаў. Сева падміргнуў Аксане.

— Што, не захацела тады, у Чэрвені, атрымаць дваццаць даляраў? На жаль, цяпер позна. Шкадуеш?

Аксана прамаўчала. Вярнуўся Ігар Валянцінавіч, сказаў коратка:

— Сапраўдны. Што ж, трымайце, — і перадаў свой талер лысаму.

Лысы падкінуў манету і злавіў яе.

— Цяпер, спадзяюся, усё? — спытаў Ігар Валянцінавіч.

— О'кей, не хвалюйся, — адказаў лысы, — рабі свой бізнес. Мы любім згаворлівых людзей і не чапаем іх.

Абодва, не развітаўшыся, зніклі.

Ігар Валянцінавіч стаяў і глядзеў на зачыненыя дзверы.

— Падыдзі,— прашаптала Аксана сяброўцы.

Каця смела наблізілася да таты, пацягнула за рукаво.

— Табе патрэбен гэты талер, тата?

Ігар Валянцінавіч няўцямна зірнуў на дачку. Відаць, ён думаў ужо не пра "гасцей", не пра талер, а пра свой бізнес.

— Што? —перапытаў ён.— Не — навошта мне талер?.. На, вазьмі. Толькі трымай пры сабе. Ці мала што — раптам ім спатрэбіцца яшчэ і гэты?

— Не спатрэбіцца,— сказала Аксана. Ігар Валянцінавіч паківаў ёй пальцам.

— Аксана, я цябе папярэдзіў! Не суньrequire ў гэтую гісторыю!

— Добра, Ігар Валянцінавіч,— пакорліва згадзілася дзяўчынка.— А можна, мы патэлефануем?

— Вядома, можна. Толькі нядоўга, мне яшчэ трэба абзваніць некаторых важных людзей...

Аксана, гледзячы ў паперку, заціснуўшы трубку між шчакою і плячом, набрала нумар.

— Гэта Аксана,— сказала яна, дачакаўшыся "алё".

Якое ж было яе здзіўленне і нават расчараванне, калі яна пазнала ў трубцы голас... настаўніка гісторыі Барыса Рыгоравіча! Адразу знікла ўся таемнасць гэтых шасці лічбаў, на якія Аксана так спадзявалася яшчэ хвілін колькі назад. Ёй нават захацелася пакласці трубку.

— Я цябе слухаю, Аксана! Што здарылася? — дапытваўся між тым настаўнік.— Ты ў Мінску?

Аксана прыкрыла далоняю трубку і запытальна зірнула на Кацю, якая стаяла побач. Але што магла параіць ёй наіўная Каця?..

— Нічога не здарылася, Барыс Рыгоравіч,— ціха сказала Аксана.— Хоць, зрэшты, здарылася... У нас непрыемнасці. Мы заблыталіся.

— Што такое?

— Я не магу сказаць па тэлефоне.

— Адкуль ты звоніш?

— Ад Каці Аляшкевіч.

— Дзе гэта?

— Сухарава.

— Дык гэта ж зусім блізка! А я жыву на "Захадзе", вы можаце зараз пад'ехаць або падысці. Тут ад вас два прыпынкі аўтобусам ці пешкі праз лес. Каця павінна ведаць.

— А якая ў вас кватэра?

— Я пачакаю каля пад'езда, бо вы не зможаце патрапіць у дом — там замок з кодам...

## Раздзел 40
## Кватэра на "Захадзе"

Каця добра ведала свой раён. Праз лес, які клінам урэзваўся ў гарадскія пабудовы, дзяўчынкі хутка дабраліся да шырокай, даўжэзнай вуліцы Лабанка. Адсюль пачынаўся мікраён "Захад-3".

Стаяў ясны дзень. Зусім распагодзілася. Пахла блізкім лесам і мокрай травою. Неба было чыстае і сіняе, сонца старанна высушвала з асфальту рэшткі дажджу.

— А там, за лесам, ёсць возерка,— паказала Каця.— Можа, сходзім?

Аксана ад нечаканасці аж спынілася.

— Якое возерка, Каця?! Нас чакаюць! Мы страцілі талер, заблыталіся, нічога не ведаем — а ты... Зразумей, Барыс Рыгоравіч — гэта адзіная магчымасць разабрацца ў гэтай гісторыі!

— Я проста так сказала,— апраўдвалася Каця.— Лета на дварэ...

— Лета яшчэ ўсё наперадзе, нагуляемся. Скажы, няўжо табе нецікава? — спытала Аксана.— Толькі шчыра. Няўжо нецікава разгадаць тайну талераў, бяросты, знайсці скарб, атрымаць за яго грошы?

— У таты і так іх многа,— наіўна адказала сяброўка.

Аксана гмыкнула.

— Хіба грошай бывае многа? Іх заўсёды мала. Дый тут іншае зусім: гэта будуць нашыя грошы, і

нічые больш. Можна будзе купіць сабе, што захочаш, паехаць куды хочаш...

— Мне і так усё купляюць, і возяць, куды я захачу.

— І падабаецца табе гэта?

— Падабаецца,— прызналася Каця.— Толькі не заўсёды.

— Вось бачыш. Свае грошы — гэта зусім іншае, гэта самастойнасць, воля...

— Аксана, я проста так пра возера сказала! Мне цікава шукаць скарб, я ж не супраць і буду з табою да канца.

— Далёка яшчэ ісці?

— А мы прыйшлі,— Каця кіўнула на цагляны дванаццаціпавярховы дом пры самым лесе.

Проста ля пад'езда раслі дубы, вольхі, елкі. Сярод дрэў віднеўся зялёны дах альтанкі.

Калі дзяўчынкі наблізіліся, з альтанкі выйшаў і падаўся ім насустрач невысокі сівы чалавек, адзеты па-хатняму: у клятчатай кашулі, зашпіленай на ўсе гузікі, у спартыўных, адвіслых на каленях штанах з бел-чырвона-белымі лампасамі, у стаптаных пантофлях на босую нагу. Гэта быў Барыс Рыгоравіч.

Дзяўчынкі ніколі не бачылі настаўніка ў такім выглядзе. Пераглянуўшыся, яны ледзь стрымаліся, каб не пырснуць смехам.

Барыс Рыгоравіч зразумеў прычыну іхняе весялосці. Ён пераступіў нагамі ў сваіх пантофлях і збянтэжана сказаў:

— Прашу ў паненак прабачэння — не паспеў пераапрануцца... Як толькі вы пазванілі, адразу спусціўся ўніз.

Цяпер дзяўчынкі далі волю смеху. Паненкі! Першы раз у жыцці іх так называюць!

Настаўнік таксама засмяяўся.

— Бачу, што ў паненак не такі кепскі настрой, як я быў падумаў. Прашу! — паказаў ён на дзверы пад'езда.

Да гэтага дня дзяўчынкі бачылі настаўнікаў толькі ў школе і ні разу ніводнага настаўніка — у звычайных побытавых абставінах. І Аксана, і Каця думалі, што настаўнікі жывуць неяк інакш, чым усе людзі. Таму цяпер яны звярталі на ўсё асаблівую ўвагу.

У калідоры скрынка паштовая абпаленая... У ліфце кнопкі таксама чорныя, абпаленыя... І сцены ўсе спісаныя словамі, у тым ліку і брыдкімі.

Барыс Рыгоравіч угадаў думкі сваіх вучаніц.

— І ў нашым доме, як і паўсюль,— уздыхнуўшы, сказаў ён.— Чалавека можна навучыць усяму, можна зрабіць з яго выдатнага мастака, скрыпача, матэматыка, касманаўта, бізнесмена... Але навучыць яго элементарнай побытавай культуры немагчыма. Гэта даецца або ад нараджэння, або не даецца зусім... Ну, мы прыехалі.

Маленькая аднапакаёўка Барыса Рыгоравіча нагадвала не кватэру, а хутчэй бібліятэку ці кнігарню. Аксане, якая не так даўно была ў архіўным музеі, на імгненне падалося, што яна нейкім чынам перанеслася туды. Стосы кніг ляжалі нават у маленькай — тром чалавекам не павярнуцца — пярэдняй, пад вешалкаю для адзення. У пакоі кнігі займалі цэлую сценку — ад падлогі да столі. Ляжалі яны і на часопісным століку, што стаяў пасярод пакоя, і на двух мяккіх крэслах, і на маленькім тэлевізары ў кутку, і на шафе...

Барыс Рыгоравіч хуценька прыбраў кнігі са століка і з крэслаў

— Прабачце, мілыя паненкі,— развёў ён рукамі.— Дужа нечаканым быў ваш званок, таму нічога не паспеў... А гаспадыні ў мяне няма, самі бачыце! — сказаў ён вясёлым голасам, аднак на яго высокім чыстым ілбе адразу з'явілася сетка зморшчынак.— Развялася са мною гаспадыня, і цяпер далёка адсюль... Словам, сядайце, будзьце як дома, а я зараз гарбаткі зраблю.

Толькі цяпер дзяўчынкі здагадаліся, чаго ў гэтай кватэры не хапае — жаночай рукі. І ўсё адно з Барысам Рыгоравічам было лёгка, як і ў школе на ўроках.

Настаўнік, відаць, цудоўна арыентаваўся сярод сваіх кніг. Выцягнуў адну з паліцы, падаў Аксане.

— Вось, пагартайце пакуль. Вас гэта павінна зацікавіць. Сам адчыніў шафу, пакапаўся там, узяў штосьці пад паху, выйшаў.

## Раздзел 41
## Расказ Аксаны

Тоўстая кніга называлася "Аб чым распавядаюць манеты". Аксана адшукала раздзел "Манета і скарб", забыўшы на ўсё, упілася вачыма ў тэкст.

— У таты ёсць такая кніга,— абыякава сказала Каця.

— Не, пачакай, паслухай! — усклікнула Аксана і зачытала: "У адрозненне ад археалагічных матэрыялаў, якія здабываюцца шляхам планамерных раскопак, ператварэнне скарбу ў знаходку — вынік супадзення незлічоных шчаслівых выпадковасцей... Таму грамадзянскі абавязак кожнага, хто знайшоў скарб ці даведаўся аб яго адкрыцці,— сабраць максімальную колькасць манет, зберагчы посуд, ці хаця б яго абломкі, для перадачы яго ў бліжэйшы дзяржаўны музей. Раскраданне скарбу або нават самыя нязначныя "выняткі" з яго складу з'яўляюцца парушэннем заканадаўства..." Як табе гэта?! Мы столькі б'емся, рызыкуем сваімі жыццямі — каб знайсці золата і адразу аддаць яго нейкаму чужому дзядзьку, які не вылазіць з кабінета якога-небудзь архіўнага музея!

— Пакуль мы не знайшлі ніякага золата,— заўважыла Каця.

— Абсалютна правільна,— сказаў Барыс Рыгоравіч, які зайшоў у пакой і ўсё чуў.

У руках настаўнік трымаў паднос, на якім дыміліся кубкі з гарбатаю, стаяў сподачак з варэннем, ляжала горка шакаладных цукерак.

Але найбольш уразіла дзяўчынак, што Барыс Рыгоравіч паспеў пераапрануцца. Ён быў у сваім шэрым касцюме, знаёмым ім яшчэ па школе, нават гальштук не забыўся павязаць. Вось дзіўны чалавек! А яны думалі: ён жартаваў, калі называў іх паненкамі і прасіў прабачэння за свой выгляд.

Барыс Рыгоравіч паставіў паднос на столік, зноў выйшаў і вярнуўся са старэнькім кухонным табурэтам — для сябе.

— Усё, частуйцеся! — весела прапанаваў настаўнік, падсеўшы да століка.

Каця адразу ўзялася за варэнне.

— Гэта праўда, Барыс Рыгоравіч, што скарб належыць здаваць дзяржаве? — спытала Аксана і пацягнулася да шакаладных цукерак.

— Па закону — так,— пацвердзіў настаўнік.

— Усё зразумела! — усклікнула Аксана.— Значыць, калі б...

— Ну і цудоўна, раз вы ўсё зразумелі,— не даў ёй дагаварыць настаўнік.— А ў цэлым мне больш імпануе рэпліка Каці — спачатку трэба штосьці знайсці... І так, мілыя паненкі, калі я вас правільна зразумеў, вы марыце знайсці скарб напалеонаўскага афіцэра?

— Так. Зараз я вам усё раскажу,— заспяшалася Аксана.

— Не, пачакай. Справа сур'ёзная, таму і падыходзіць да яе трэба па-сур'ёзнаму. Давай спярша абумовім сякія-такія пункты. Вы, шукальнікі скарбу,— гэта хто?

Аксана пачала загінаць пальцы.

— Я, Каця, Чэсь, Зміцер, Міхал...

— Пяць чалавек. Дык вось, перш чым расказваць мне, падумайце. Расказаўшы мне, вы ж прымаеце ў долю шостага.

— Ну і што? — здзівілася Аксана.— Але ж мы без вас нічога не зробім.

Барыс Рыгоравіч схіліў галаву ў пачцівым паклоне.

— Дзякую. Толькі добры я быў бы настаўнік, калі б увайшоў у хаўрус са сваімі вучнямі! — засмяяўся ён, не вытрымаўшы да канца гэтай ролі.— Таму даю вусную клятву: буду памагаць вам усім, чым змагу, але ад сваёй долі адмаўляюся катэгарычна. А цяпер — расказвайце. Я вас уважліва выслухаю, і тады памяркуем разам, як быць.

Аксана, штораз асцярожна сёрбаючы гарачую гарбату, пачала:

— Помніце, Барыс Рыгоравіч, калі я зайшла да вас на ўрок і папрасіла адпусціць Кацю?

— А як жа,— насмешліва пацвердзіў настаўнік.— Ты яшчэ тады развіталася назаўсёды... Усё, маўчу, маўчу, больш перабіваць не буду.

— Дык вось, тады Каця падаравала мне талер, з якога ўсё і пачалося...

І Аксана падрабязна распавяла: як яны з татам ехалі ў аўтобусе, як яна падумала, што згубіла манету, як, убачыўшы талер, у Чэрвені кінуліся за ёю Сева з лысым, а потым ехалі на "Аўдзі" за аўтобусам да самых Паплавоў, як яна пабілася з Чэсем — з-за талера, а ў Чэся аказаўся свой, знойдзены на сотках каля помніка...

Дасюль Барыс Рыгоравіч слухаў дзяўчынку, ківаючы, і ледзь прыкметна ўсміхаўся. Але ў гэтым месцы расказа ён раптам усміхацца перастаў.

— Так, так, далей!

— Далей тата расказаў нам легенду пра таго французскага афіцэра, а потым мы стварылі "штаб", у будане, і кожны атрымаў заданне. Мне было даручана схадзіць у архіўны музей...

Калі Аксана дабралася да сваёй сустрэчы з загадчыкам, распавяла пра падслуханую гутарку загадчыка з Севам, Барыс Рыгоравіч зноў не стрымаўся:

— Дык вось з кім ён цяпер водзіць кампанію!.. Я заўсёды здагадваўся, што дабром ён не скончыць.

— А вы даўно з ім знаёмыя, Барыс Рыгоравіч? — упершыню за час бяседы спытала Каця.

— Ці даўно? Так, з другога курса універсітэта,— настаўнік пабарабаніў пальцамі па стале.— Мы тады хоць і былі ўдвая старэйшыя за вас, але таксама захапіліся гэтай гісторыяй, з талерамі...

— А з-за чаго вы перасталі сябраваць?

— Я зразумеў, што патрэбен яму толькі як рабочая сіла. Ён не давяраў мне. Але калі быць да канца шчырым, найбольш мне не падабалася ў ім, што ён проста варожа ставіўся да роднай мовы, лічыў яе дыялектам рускай. Нават на ўроках беларускай літаратуры прынцыпова адказваў толькі па-руску. Дарэчы, вучыўся ён увогуле кепска. Але выкладчыкі шкадавалі яго — усё ж калека. Гэта, вядома, грэх, але мы, студэнты, ды і некаторыя выкладчыкі за вочы дражнілі яго Павуком.

— Сева яго гэтаксама зваў, толькі ў вочы,— сказала Аксана.

— Дажыўся, значыць,— паківаў галавою Барыс Рыгоравіч.— Але так, так — далей!

Аксана ўздыхнула.

— А далей прыехалі Сева з лысым, і Кацін тата абмяняў наш талер на іхні. І мы заблыталіся і не ведаем, што рабіць.

## Раздзел 42
## Трэці талер

— Значыць, іхняя манета цяпер у Кацінага таты? — хутка спытаў Барыс Рыгоравіч.

— Не, у нас.

— Сапраўды?! Можа, вы нават прыхапілі яе з сабою?

— Так, вось яна, — Каця падала настаўніку манету. Барыс Рыгоравіч падхапіўся з табурэта, пакруціў талер у пальцах, тады падышоў да акна і, схіліўшы набок галаву, уважліва пачаў разглядаць манету.

— Талер сапраўдны, без сумнення! — усхвалявана прамовіў ён. — Гэта той самы талер, які знаходзіўся ў музеі.

— Тады чаму Павук распараджаецца музейным талерам, бы сваім уласным? — спытала Аксана.

— Хутчэй за ўсе ў музеі цяпер ляжыць падробка,— патлумачыў Барыс Рыгоравіч.— Розніцы аніякай: каму прыйдзе ў галаву разбірацца, сапраўдная манета пад шклом на стэндзе ці фальшывая? Ну, мілыя дзяўчынкі,— весела сказаў ён, аддаўшы талер Каці і паціраючы рукі,— віншую вас! Бы хоць самі здагадваецеся, якую важную справу зрабілі? Усе тры манеты знойдзены! Адна ў нас, другая ў гэтага хлопчыка з Паплавоў і трэцяя — у Павука!

— Вось іменна — у Павука, а не ў нас,— сказала Аксана, не падзяляючы радасці Барыса Рыгоравіча.

— Гэта нават не важна. Галоўнае, усе тры манеты існуюць, у прынцыпе, яны знойдзены!

Каця паціснула плячыма.

— Але чаму яны... ну, Сева з лысым, аддалі тату сапраўдны талер?

— Я гэтага таксама не разумею,— падтрымала яе Аксана.

Барыс Рыгоравіч хітравата прыжмурыўся.

— Усё проста. Талер ім цяпер не патрэбен, як не патрэбен у хуткім часе ён будзе і нам. Хіба для калекцыі... Зараз я вам пакажу.

Настаўнік выкалупнуў з паліцы якуюсь тоўстую кнігу, пагартаў яе і выцягнуў з-паміж старонак... акурат такую ж копію бяросты, якую Аксана з рызыкай для сябе здабыла ў кабінеце загадчыка архіўнага музея.

— Глядзіце,— Барыс Рыгоравіч адсунуў кубак з гарбатаю, паклаў копію на столік.— Каця, дай, калі ласка, талер... А ты, Аксана, знайдзі там, каля тэлевізара, аловак. Ага, дзякую... Дык вось, дарагія паненкі, галоўнае тут — не самі талеры, а іх абрысы. У прыватнасці, гэтыя вось шчэрбіны, зробленыя на талеры нажом. Французскі афіцэр, як вядома, быў інжынер-тапограф і такім чынам — робячы нажом зазубіны на баках манет — у пэўным маштабе зашыфраваў незнаёмую яму мясцовасць, выкрэсліў маршрут да "КЛАДА", гэта значыць, скарбу. Талеры прыкладаюцца да бяросты-схемы, і маршрут становіцца вядомым. Вядома, пакуль у нас толькі адна манета,— сказаў Барыс Рыгоравіч, скончыўшы чарцёж,— таму я дзве другія малюю адвольна, на схеме яны могуць размяшчацца крыху ў іншым парадку. Але цяпер, думаю, вам усё зразумела...

— Як жа мы не здагадаліся абвесці талер? — з жалем прамовіла Каця.— Ён жа быў у нас столькі часу!

— Так,— пагадзіўся настаўнік.— Дастаткова было толькі пакласці манету на чысты аркуш паперы і абвесці контур. Аднак не перажывайце дужа — вы не маглі гэтага ведаць. Ды і бяросты ў вас не было, каб здагадацца.

**Раздзел 43**
**Новыя загадкі**

Аксана раптам запляскала ў ладкі.

— Успомніла! — ускрыкнула яна.— Барыс Рыгоравіч, успомніла! Скажыце, а калі на насоўцы пляма ад алею? Яна можа выдыхацца, ці выпарыцца?

— Не думаю. Але пры чым тут...

— Я, калі была ў бабулі, капнула на талер алею! Хацела паглядзець, што будзе, а потым выцерла новенькай насоўкаю, і на ёй засталася брудная пляма — контур манеты! А потым,— дзяўчынка пачырванела, аднак даказала да канца,— а потым я схавала насоўку пад матрац.

— Тады гэта проста цудоўна,— сказаў Барыс Рыгоравіч.

— Выходзіць, у нас цяпер усе тры манеты,— сказала Каця.— Застаецца толькі перамаляваць іх контуры на бяросту-схему...

— Калі толькі бабуля не знайшла насоўку і не памыла яе,— заўважыў настаўнік.

Аксана спалохана закрыла сабе далоняю рот, тады прамовіла:

— Не павінна знайсці, я добра схавала.

Барыс Рыгоравіч з Кацяю засмяяліся.

— Не, мілыя дзяўчынкі, на жаль, нават калі ў нас ёсць усе тры манеты, гэта яшчэ не ўсё,— сказаў настаўнік.— Вядома, цяпер разгадка нашмат бліжэй. Але і загадак пакуль не меншае.

— Якія яшчэ загадкі? — спытала Аксана.

— Напрыклад, слова "КЛАД", напісанае лацінкаю. Чаму афіцэр не напісаў гэтае слова на сваёй мове, па-французску — tresor?

Дзяўчынкі задумаліся. Аксана няпэўна сказала:

— Можа, яго сумленне замучыла? І ён схаваў скарб менавіта для рускіх, і таму напісаў па-руску — "КЛАД", каб рускія здагадаліся?

— Цікава! — здзіўлена зірнуў на яе Барыс Рыгоравіч,— Аднак мала верагодна. Справа ў тым, што даўно, калі я яшчэ быў захоплены гэтай гісторыяй, я здагадаўся зрабіць пісьмовы запыт у Парыжскі Нацыянальны архіў. І што вы думаеце? — у хуткім часе прыйшоў адказ: сапраўды, служыў у напалеонаўскай арміі інжынер-тапограф Анры Бокль, які загінуў у Расіі і там пахаваны. Чамусьці ім упарта хочацца блытаць Беларусь з Расіяю,— заўважыў настаўнік.— Дык вось, з характарыстыкі гэтага чалавека я пераканаўся, што сумленне наўрад ці магло мучыць яго. Анры Бокль быў прыкладна такога ж разгульнага нораву, як і шляхціц Адам Трушка, і не дзіва, што яны сышліся. Хутчэй за ўсё і рэдкія калекцыйныя талеры Бокль проста выйграў у Трушкі ў карты.

— Тады што ж выходзіць? — спытала Аксана.

— Самае верагоднае — Бокль баяўся, каб яго шыфроўкай-картаю не пакарысталіся ні рускія, ні французы. Таму і напісаў рускае слова лацінкаю. Але другая, самая цяжкая загадка,— павярнуўся Барыс Рыгоравіч да Каці,— вось у чым. Нават калі Аксаніна бабуля яшчэ не знайшла насоўкі і не памыла яе, нават калі ў нас будуць контуры ўсіх трох манет, мы мала што зразумеем.

Настаўнік падняўся, падышоў да шафы, прынёс тоўстую ручку з чатырма рознакаляровымі стрыжнямі. Высунуў зялёны і на сваім малюнку паказаў пункцірам звілістую лінію з аднаго боку манет, затым чырвоным стрыжнем — з другога боку. Над пункцірам паставіў пытальнікі.

— Бачыце, пункціры нагадваюць рэчышча якойсьці невялікай рачулкі? І гэта самае лагічнае. Паранены француз у зусім незнаёмых мясцінах прабіраўся ўздоўж рачулкі. Магчыма, скарб быў пры ім. Было гэта ў кастрычніку, а мароз у тым годзе,— а значыць, і снег — пачаўся толькі ў канцы лістапада. Значыць, рачулка не была замерзлая і не была замеценая снегам. Адчуўшы, што з кожнай хвілінаю слабее, Бокль вымушаны прыхаваць скарб, каб потым вярнуцца сюды і забраць,— вядома, ён верыў, што выжыве! Як тапограф, ён арыентуецца выдатна: робіць на манетах засечкі, якія ў маштабе азначаюць згібы рачулкі...

— Але чаму ён не выдрапаў нажом адразу на бяросце рэчышча? — перабіла Аксана.

— Я думаю, Бокль усё ж адчуваў, што ў самым лепшым выпадку, калі застанецца жывы, здолее наведацца сюды не скора. А бяроста — рэч ненадзейная, недаўгавечная, да таго ж можа вельмі проста патрапіць у чужыя рукі.

— Дык у чым тут загадка, Барыс Рыгоравіч? — здзівілася Аксана.— Гэта ж працсей простага! Возьмем карту Бярозы і ваколіцаў — падрабязную, вялікага маштабу, адшукаем на ёй рачулку, падобную на контуры манет, зарыентуемся, у якім месцы стаіць крыжык,— значыць, там француз і схаваў скарб! Прыходзь і выкопвай.

Настаўнік выслухаў дзяўчынку з усмешкаю.

— Не, Аксана, гэта далёка не так проста. Я даўным-даўно перагледзеў тапаграфічныя карты той мясцовасці,прычым карты розных гадоў. Падобнай рачулкі няма не толькі ў раёне Паплавоў, яе няма ўвогуле ў пойме ракі Бярэзіны... Калі гэтая рачулка, можа, і была некалі, дык за сто восемдзесят гадоў магла перасохнуць, знікнуць, змяніць рэчышча, як гэта часта здараецца з такімі невялічкімі рачулкамі...

— А можа, француз зашыфраваў у сваім плане зусім не рэчку? — уставіла Каця.— А якуюсьці лясную звілістую дарогу?

— Усё можа быць,— пагадзіўся настаўнік.

— Дык што: гэтая бяроста зусім нам не згадзіцца? — расчаравана ўздыхнула Аксана.— Выходзіць, яна непатрэбная?

— Яшчэ і як згадзілася б,— сказаў настаўнік,— калі б мела адну маленькую, але самую неабходную для тапаграфічнай схемы рэч,— прывязку.

— А, ведаю! — Аксана ўспомніла бацькаў расказ і яго тлумачэнне слова "прывязка".— Гэта каб на бяросце было абазначана нейкае дрэва, ці вялікая рака, ці камень...

— Так, або геаграфічныя напрамкі: поўнач-поўдзень, усход-захад. А без гэтых прывязак мы можам круціць бяросту, як нам хочацца, і ўсё без толку. Ды і Каця правільна сказала, а калі гэта зусім не рачулка? А калі і рачулка, адкуль мы ведаем, што яна паблізу Паплавоў? Гэта можа быць адна з тысяч рачулак ад Масквы да Бярозы, і няма гарантыі, што яна не перасохла або не змяніла рэчышча... У тым і хітрасць француза, знаходка яго: ён адзін ведаў нейкі арыенцір-прывязку, ад якой і трэба "танцаваць".

— І ўсё ж гэта несправядліва,— сказала Аксана.— Усё пад рукою — тры талеры, бяроста — і нічога нельга адшукаць!

— Вось вам і давядзецца гэтым заняцца,— сказаў Барыс Рыгоравіч.— Трэба, як рабіў некалі я, пахадзіць па вакольных вёсках, распытаць старых людзей: ці не помняць яны каля Бярэзіны маленькіх рачулак, якія цяпер зніклі... Трэба яшчэ і яшчэ перагледзець усе тапаграфічныя карты, і не толькі ваколіц Бярозы, а і ўсіх больш-менш значных паселішчаў на старым смаленскім шляху, кудою адступалі французы.

— Вось каб вы з намі паехалі, Барыс Рыгоравіч! — прапанавала Аксана.— У бабулі вялікая хата, усім месца хапіла б... Вы столькі ўсяго ведаеце, можаце падказаць... А то што мы самі зможам?

— Аксана,— пасміхнуўся Барыс Рыгоравіч,— мушу табе прызнацца: я збіраўся ехаць у Паплавы нават без тваёй просьбы. Нядаўна мне тэлефанаваў твой тата, папрасіў, каб памог вам, чым змагу. Ды я і так даўно не быў у тых мясцінах, хачу пажыць на прыродзе, схадзіць на рыбалку, у грыбы... А спыніцца мне ёсць дзе.

— Вось здорава!

— Вы можаце паехаць заўтра разам з намі на машыне,— сказала Каця.

— Не, дзяўчынкі, мне яшчэ трэба пару дзён пабыць у горадзе. Да таго ж, калі шчыра, хачу праехацца аўтобусам, я люблю дарогу, новых людзей, люблю выйсці на прыпынку, патупаць каля аўтобуса...

Праводзячы павесялелых дзяўчынак, Барыс Рыгоравіч даваў апошнія ўказанні:

— Копія бяросты ў вас ёсць, беражыце гэты талер, у Паплавах, Аксана, расшуквай сваю насоўку і перамалёўвай контур плямы... І чакайце мяне. Да сустрэчы ў Паплавах!

## Часціна чацвёртая

## Скарб

### Раздзел 44
### Паход

Пасля гісторыі з участковым хлопцы неяк астылі да пошукаў скарбу. Дый сапраўды: як і дзе яго шукаць, той скарб?.. Аксаны ўсё няма. А лета праходзіць. Так, чаго добрага, і нагулялцца не паспееш...

Найперш хлопцы як след праканапацілі старую і нічыйную лодку. Нагрэлі ў бляшанцы піку — чорнага будаўнічага гудрону — і абмазалі ім днішча. У лодку панасілі сена, зверху паклалі пару старых ватовак, кавалак брызенту. Вуды без вудзільнаў, шнуры, ежу, прыправу для юшкі ўпакавалі ў Міхалаў вялікі заплечнік. Чэсь не забыў нават мазі ад камароў.

— Не сварылася маці? — спытаў Міхал, тужэй зацягваючы шворку на заплечніку.

— Не, наадварот! — адмахнуўся Чэсь.— Сказала, даўно трэба было чым людскім заняцца, чым тут, па сяле, швэндацца ды шкоды шукаць.

Адплываць вырашана было заўтра з раніцы.

Міхал крыху прыпазніўся. Калі ён подбегам, пацепваючы плячыма ад ранішняй свежасці, наблізіўся

да ракі, Чэсь са Змітраком ужо былі на месцы. Над вадой вісеў белы туман. Ледзьве можна было разгледзець лодку і хлопца ў ёй.

Міхал залез у лодку, адштурхнуўся вяслом ад цупкага, мокрага ад расы берага. Карма паволі ссунулася ў ваду, лодка загайдалася. Паехалі!..

— Дай я першы павяслую,— мосцячыся на лавачцы пасярэдзіне, прапанаваў Чэсь.— Хоць сагрэюся.

Плёхнулі апушчаныя ў ваду вёслы, зарыпелі ўключыны. Чэсь, азіраючыся, павёў лодку паўз самы бераг, уверх па цячэнні. Такі быў іхні план: пакуль свежыя сілы, плыць у

вярхоўе ракі, туды, дзе ў Бярэзіну ўпадае Уша. Вядома, грэбці супраць цячэння запарышся, затое назад будзе лёгка. Нават вёслы не спатрэбяцца — сядзі сабе на карме ды кіруй.

Які гэта цуд — сустракаць новы летні дзень у лодцы на рацэ! Толькі-толькі вузкай палоскаю пачынае ружавець усход. Рытмічна плёхаюць вёслы, ціха гамоніць вада, разбіваючыся аб нос хуткай лодкі. У тумане праплываюць зарослыя аерам, чаротам, захінутыя густым кустоўем берагі. Нясмела яшчэ шчабечуць раннія птушкі. Зрэдку каля берага ці пасярэдзіне знянацку плёхне вялікая рыбіна. Нават камарыны звон не раздражняе, а, здаецца, толькі дапаўняе гэтую гармонію летняй раніцы...

Ва ўсіх трох настрой быў лірычны. Чэсь без утомы працаваў вёсламі і ўсміхаўся нейкім сваім думкам. Змітрок, седзячы на карме, нізка схіліўся, апусціў у ваду руку. Міхал не зводзіў вачэй з ружовай палоскі на ўсходзе, адкуль вось-вось павінны былі пырснуць першыя залатыя промні. Толькі калі зусім блізка бухала рыбіна, ён уздрыгваў. Дужа вялікая была спакуса спыніцца зараз — хоць бы вунь там, каля падковы высокага аеру, дзе карчы схіліліся над самай вадою, разматаць вуды...

Але хлопцы яшчэ раней дамовіліся не спыняцца. Хай, будзе яшчэ часу і парыбачыць. Вось дабяруцца да знаёмага "паўвострава", размесцяцца, уладкуюцца...

— Давай падмяню, — спахапіўшыся, прапанаваў Міхал.

— Я не стаміўся, — Чэсь, аднак, адразу ж саступіў сябру месца. — Што задумаўся? — штурхнуў ён Змітрака.

Той выцягнуў з вады руку, абцёр аб брызент.

— Ды ўсё думаю пра крыжык і слова "КЛАД", — прызнаўся ён. — Чамусьці, здаецца, у гэтым слове — уся загадка... Нібы слова, якое забыў: круціцца на языку, і ніяк не ўспомніш...

— Дык у мяне з сабою ёсць і талер, і копія бяросты,— пачаў быў Чэсь, але Міхал прыкрыкнуў на іх:

— Хлопцы! Мы дамовіліся: ніякіх скарбаў! Едзем проста гуляць, купацца, адпачываць, вудзіць рыбу.

## Раздзел 45
## Паўвостраў

Да выбранага месца дабраліся надзіва хутка. Памагло, відаць, яшчэ і тое, што не было ветру, рака была ціхая, плынь — павольная. Але сонца даўно паднялася, рассеяўся туман, зніклі камары, перастала гуляць рыба.

Міхал адкасаў рукаво велікаватай яму бацькавай гімнасцёркі і зірнуў на гадзіннік.

— Адзінаццаць усяго! — сам здзівіўся.— Ну, паказалі мы рэкорд...

— Нічога дзіўнага,— сказаў Чэсь, налягаючы на вёслы (яму зноў надышла чарга грэбці).— Мы расцем, дужэем, вось і пачалі даплываць хутчэй. Глядзіш, да канца лета і ў Барысаў будзем даплываць за пару гадзін!

Лодка з размаху, шкрабнуўшы па пяску, усунулася носам на нізкі бераг. Хлопцы, размінаючы зацеклыя ногі, узяліся за работу.

Бярэзіна ў гэтым месцы падзяляецца на два рукавы. Першае — гэта "жывое" асноўнае рэчышча, і другое — старык, вялікая глухая затока. Паміж імі — каса-пагорак метраў дваццаць у шырыню і з кіламетр у даўжыню. Вядома, не востраў (астравоў на Бярэзіне амаль няма), аднак менавіта гэтая мясціна заўсёды прываблівала хлопцаў. Рамантыка! Хоць на нейкі час можна ўявіць сябе рабінзонамі, або проста старымі вопытнымі рыбакамі, якія робяць усё спаважна, няспешна, якія ведаюць, што недзе ў Паплавах іх чакаюць галодныя сем'і, таму хоць разбіся, а без рыбы дамоў не вяртайся...

Адзін бераг паўвострава — з боку старарэчышча — быў высокі, цупкі, зарослы муражком. А там, дзе высадзіліся хлопцы, з боку Бярэзіны — бераг пакаты, з чыстым жоўтым пясочкам — сапраўдны пляж.

Хлопцы выцягнулі на бераг лодку, разгрузіліся. Міхал дастаў з заплечніка вялікі нож-цясак. Агледзеўся. Непадалёку, акурат на самым высокім месцы паўвострава раскінуўся вялікі, падобны на шар, куст вербалозу. Міхал пакіраваўся да яго.

Змітрок з Чэсем таксама дасталі з кішэняў свае складанчыкі і памкнуліся былі памагаць сябру.

— Асцярожна,— спыніў іх Міхал,— у такіх карчах можа быць гадзюка!

Ён ссек доўгі дубец, абышоў з ім вакол карча, варушачы сухое лісце. Тады смела ўламаўся ўсярэдзіну. З-пад цесака пасыпаліся, бы салдаты непрыяцельскага войска, ссечаныя галіны... Хутка шалаш быў гатовы. З бакоў, як сцены,— зялёныя галіны; наверх Змітрок з Чэсем усцягнулі брызент. На вострыя сучкі нагрэблі тоўсты пласт лісця, перанеслі з лодкі сена, заслалі зверху ватоўкамі.

— Хутка і добра,— сказаў Міхал, адышоўшы далей і любуючыся на жытло.— І суха, і не відаць нічога... А на ноч абкружым куст вяроўкаю, ніводная гадзюка праз вяроўку не палезе.

Цяпер заставалася толькі нарыхтаваць дроў — і абедаць, бо ўсе ўжо прагаладаліся.

Углыб паўвостраў быў скрозь зарослы шывельгай і вербалозам, сярод якіх траплялася шмат сухастою. Неўзабаве хлопцы прынеслі па добрай ахапцы сухога хмызззя.

— Пакуль хопіць,— сказаў Міхал, ладзячы агеньчык.— А на ноч з'ездзім на той бок Бярэзіны, назбіраем добрых тоўстых дроў.

Сушняк хутка ўхапіўся агнём, весела затрашчаў. Разлёгшыся непадалёку, хлопцы ўзяліся абедаць. На разасланай газеце перад імі ляжалі прыпасы: сала, хлеб, вараныя яйкі, катлеты, кавалак каўбасы, некалькі корчыкаў маладой цыбулі, радыскі... Падрыхтавалі і бульбы — каб напячы потым у прысаку.

Нейкі час усе моўчкі прагна елі.

— Шкада, юшкі няма,— уздыхнуў Змітрок, смачна заядаючы хлеб з салам зялёнай перынаю цыбулі.

— Паспытаем яшчэ і юшкі,— супакоіў яго Чэсь.— Цяпер, удзень, нічога брацца не будзе. Я вось іншаму здзіўляюся — чаму на прыродзе ўсё заўсёды такое смачнае?

— Знайшоў чаму здзіўляцца,— гмыкнуў Міхал, налягаючы на катлеты.— Паветра свежае, вось і здаецца, што зусім іншы смак. Я яшчэ люблю есці, калі фільм гляджу, або кніжку чытаю, у якіх людзі ядуць. Тады прыбяру ў жывот усё, што пад рукамі, і не заўважу...

— Не, гэта не так проста,— сказаў раптам Змітрок.— Я чытаў, што на прыродзе ў чалавеку абуджаюцца даўнія інстынкты, абвастраецца пачуццё небяспекі. Ён міжволі пачынае есці хутка, баючыся, каб не адабралі. Таму і здаецца ўсё смачным, бо не зважаеш на розную драбязу, як, скажам, на гэты пясок, што прыліп да хлеба.

Міхал з Чэсем здзіўлена на яго зірнулі.

— Філосаф,— пазяхнуўшы, прамовіў Міхал.— Усё, хлопцы, не ведаю, як вы, а мне бульбы расхацелася...— Ён перакуліўся на спіну, раскінуў рукі.— Так і ляжаў бы, здаецца, да самага вечара!

— А я пайду купацца,— заявіў Чэсь, таксама лягаючы на спіну,— а потым абследаваць востраў. Грэх прапускаць такую пагодку: раз ужо вырваліся сюды, дык варта пажыць уволю...

— Я таксама з табою,— сказаў Зміцер. І ніхто з трох не крануўся з месца.

Так, у паўдрымоце, распрануўшыся, праляжалі мо гадзіны дзве. Тады раптоўна, бы па камандзе, усе разам ускочылі і кінуліся да цёплай рачной вады. Купаліся, плавалі наперагонкі, гулялі ў "шчупака". Міхал, які нырaў лепш за ўсіх, падняў з самага дна нейкую карчажыну, падцягнуў у вадзе да берага, пачаў абмацваць яе, шнырыць пальцамі ў карычневым слізкім імху... Потым разагнуўся і ўрачыста паказаў хлопцам паржавелую блешню з абарваным кавалкам лёскі.

— Выкінь ты яе,— абыякава сказаў Чэсь, выбіраючыся на бераг.

Але Міхал моўчкі пачаў шморгаць блешняю аб пясок, спрабуючы адчысціць яе, аж пакуль не абламаў вялікі, з'едзены іржою кручок. Хлопец размахнуўся і са злосці шпурлянуў блешню далёка ў раку.

Гэты гук-шпоканне нібы ацверазіў сяброў, ураз нагадаў ім, што самае цікавае — рыбалка — яшчэ наперадзе. Сонца ўжо спусцілася амаль да самага лесу. Наставаў вечар, таму мацнейшымі зрабіліся пахі. Увогуле рака, асабліва цёплымі летнімі вечарамі, мае той своеасаблівы, свежы, радасна-непаўторны водар, з якім не параўнаецца ні лясное паветра, ні горнае, ні марское...

Чэсь з Міхалам абуліся, пайшлі зноў у глыб паўвострава, адшукалі некалькі раўнейшых, даўжэйшых вербалозін на вудзільны. Змітрок тым часам успорваў трэскаю дзёран, выбіраючы чарвякоў. Нарэшце прыладзілі вудкі, сабраліся, прычым кожны захацеў рыбачыць сам па сабе. Зміцер выбраў месца тут жа, непадалёку ад шалаша, на высокім беразе старарэчышча, прысеў, адразу ж закінуў вудку ў нерухомую, зарослую гарлачыкамі і трыліснікам ваду. Міхалу выпала самае нецікавае, але і неабходнае,— злавіць хоць колькі жыўцоў. Таму ён таксама далёка не адыходзіў. Адзін Чэсь усё не мог нідзе прымасціцца. Перш пастаяў каля Міхала, тады пасядзеў побач са Змітраком. Урэшце пакіраваўся пясчаным берагам касы некуды далёка, уніз па цячэнні. Там былі перакаты і віры, Бярэзіна там шырэла і крыху запавольвала плынь.

У Змітрака зялёны, бы жалудовая шапка, паплавок як стаяў сярод трылісніку, так без аніякай паклёўкі і патануў.

— Ёсць! — ціха выгукнуў Зміцер і, трымаючы за лёску, паказаў Міхалу невялікага, з далонь акунька.

Міхал аднак не адчуў да сябравай "удачы" зайздрасці. Ён ведаў, як звычайна клюе рыба ў старыках,

дзе стаячая вада: толькі вось такія дурныя акунькі, што адразу заглынаюць нажыўку, і будуць брацца, дый то не часта.

Міхалу не шэнціла. Клявалі адны верхаводкі — рыба, якая зусім не падыходзіць для жыўцоў: і велікаватыя, і, галоўнае, выцягнутыя з вады, не жывуць доўга, ператвараюцца ў кісель...

Міхал зматаў вуду і пайшоў да Чэся, спадзеючыся там, на перакатах, дзе чыстае пясчанае дно, нацягаць хоць печкуроў.

Першае, што кінулася яму ў вочы, калі ён выйшаў з-за павароткі, было сагнутае ў дугу Чэсева вудзільна... Міг — і вудзільна са свістам разагнулася, выкінуўшы на бераг шырокую тоўстую плотку. Рыбіна забілася на пяску. Яна хаўкала і варушыла прыгожымі залацiста-чырвонымі плаўнікамі.

— Ух ты,— прысвіснуў Міхал, падбягаючы да сябра.— Якія тут ловяцца!

— Цішэй,— Чэсь прыклаў да вуснаў палец,— плоткі пужлівыя... Ужо тры такія,— пахваліўся ён.

Зняўшы з кручка рыбіну, Чэсь пусціў яе ў невялікую ямку, выкапаную трэскай. Начапіў свежага чарвяка, закінуў вуду і застыў у чаканні.

Міхал нагнуўся над ямкаю. Сапраўды, у неглыбокай каламутнай вадзе стаялі адна каля адной і лянiва варушыліся тры доўгія чорныя спіны.

— Як ты іх ловіш? — шэптам спытаў Міхал, адразу забыўшы на печкуроў— Якое дно?

— Ды ніякае... У правес...

"У правес" — гэта значыць, паплавок падцягваецца да самага кончыка вудзільна, а грузік, наадварот, апускаецца да кручка. Добра лавіць так, калі на рацэ моцнае цячэнне, якое намывае водмелі, а пасля адразу — яма або вір. Тады вада апускае лёску на дно, а паплавок на кончыку вудзільна пад невялікім вуглом прагінае гэтую лёску — як бы "правісае" яе. Нацягнулася лёска, "выпраміўся вугал" — усё, падсякай і выцягвай, рыба на кручку...

Тым часам у Змітрака, што сядзеў на беразе старарэчышча, раптам пачало так кляваць, што ён ледзь паспяваў змяняць нажыўку. Толькі крануўшыся вады, паплавок пачынаў калывацца, вытанцоўваць і даваў нырца. Усё было б цудоўна... калі б хоць раз злавілася штосьці людскае!.. А то — акунькі і плотачкі з палец. Здымаючы з кручка чарговую "кільку", Змітрок крадком азіраўся і ў душы быў рады, што сябры адышліся далёка і нічога не бачаць. Самых жвавых плотачак пускаў у кансервавую бляшанку з вадою — "скажу, знарок хацеў жыўцоў налавіць!"

Урэшце надакучыла, плюнуў на ўсё, зматаў вуду, аднёс да шалаша бляшанку з жыўцамі, захінуў травою. Вечарэла, больш з'явілася камарэчы. Сонца апусцілася да самых вершалін дрэў зарэчнага лесу. "Пайсці пашукаць хіба хлопцаў?" — занепакоіўся Зміцер.

Але тут пачуліся галасы, крокі, і паказаліся Чэсь з Міхалам. Чэсь аберуч, прыціскаючы да жывата, нёс нейкі мех. Гэта была яго майка са звязанымі рукавамі. Падышоў да шалаша і моўчкі высыпаў на траву з добрае вядро рыбы, адных плотак, тоўстых, шырокіх, ці не па локаць.

— Эх, вы,— Зміцер адступіўся, стараючыся непрыкметна адсунуць нагою далей у траву бляшанку са сваім "уловам",— не маглі пазваць!

Але Міхал убачыў, нагнуўся, схапіў бляшанку.

— Што тут, жыўцы? Вось малайчына!

Так Змітраку і не давялося апраўдвацца. Усе былі задаволены.

— Хлопцы, вечарэе,— зірнуўшы на лес, у якім да палавіны схавалася сонца, сказаў Міхал,— а работы яшчэ непачаты край. Давайце ў лодку, перапраўляйцеся на другі бок і збірайце дровы. А я пастаўлю шнуры.

— А давай наадварот,— прапанаваў Чэсь.

— Калі ласка. Толькі не забывай, што паставіш шнуры, а іх усяго чатыры, і будзеш чысціць рыбу.

— Ну і што? Я люблю.

Аднак і ўвечары паспытаць юшкі ім не давялося.

Пакуль хлопцы з'ездзілі і вярнуліся з-за ракі, пакуль Чэсь цягаўся па беразе, выбіраючы лепшае месца для шнуроў, пакуль, ужо ўсе ўтрох, перанеслі дровы з лодкі да кастрышча — зусім сцямнела. Паспелі яшчэ пачысціць па адной рыбіне, тады Чэсь, выціраючы аб траву слізь і луску з пальцаў, сказаў:

— Ай, надакучыла... Плоткі яшчэ жывыя, давайце складзем іх у сетку ды пусцім у ваду каля берага, хай плаваюць да заўтра,— і ён шырока, на ўвесь рот пазяхнуў.

"А як жа "я люблю чысціць?"" — хацеў нагадаць Міхал, але паленаваўся, бо і сам ужо быў добра натомлены. Словам, ніхто не запярэчыў Чэсю. Жывых плотак у сетцы апусцілі ў раку, прывязаўшы канцы сеткі да лазовай галіны, пачышчаных — пераклалі ў вядры крапівою, якая расла тут скрозь і яе лёгка было нарваць нават у цемры. Вячэралі моўчкі, хутка, адной печанай бульбай з соллю. Тады, пазяхаючы, адзін за адным забраліся ў шалаш. Апошні, Міхал, не забыў нават абкружыць жытло вяроўкаю — ад гадзюк.

**Раздзел 46**
**Ноч**

Уночы Чэсю захацелася на двор. Ён адхінуў галіны, што служылі заместа дзвярэй, і вылез з шалаша.

Зябка, цёмна... Толькі высока ў небе слаба свецяцца рэдкія чэрвеньскія зоркі. Вогнішча даўно патухла. Зусім блізка рака, пераліваецца, звініць, плёхае ў бераг...

Чэсь падкінуў на кастрышча сушняку, прылёг і па-трошку пачаў раздзьмухваць сівы лёгкі прысак — аж пакуль не заблішчэлі іскрынкі, а потым — заскакалі языкі вясёлых агеньчыкаў. Адразу выступілі з цемры і наблізіліся бліжэй да цяпла і святла вычварныя абрысы кустоў, нібы ім таксама было холадна і адзінока гэтай ноччу.

Абняўшы рукамі калені, Чэсь глядзеў на агонь. Успомнілася Аксана... Дзе яна, што з ёю? Чаму не прыязджае? А маглі б вось цяпер сядзець разам каля начнога вогнішча... Як здорава было б!

І раптам за яго спіною, у старарэчышчы, штосьці моцна і гучна плёхнула, бы хто кінуў у ваду цяжкую паляняку. Уміг парушылася начная цішыня, залопалі крыламі, загергеталі, узлятаючы ў паветра, дзікія качкі, што начавалі ў старарэчышчы ў прыбярэжных чаратах. Ад неспадзеўкі Чэсь аж падскочыў. Закалацілася сэрца, па спіне прабеглі дрыжыкі. Што гэта?! Вось зноў — плёх! Рыба? Не, здаецца, рыба плёхае зусім інакш... Бабёр? Ці гэта... вялізная вадзяная змяя?

Адразу ўзнік перад вачыма эпізод з тэлеперадачы "У свеце жывёлаў". Маленькае афрыканскае балотца пасярод высахлай саваны, да якога сыходзяцца па вадапой звяры, злятаюцца птушкі, на вадзе плаваюць качкі... Потым, вось як цяпер, качкі закрычалі, узляцелі, але адна залапатала крыламі, б'ючыся ў вадзе, і пачала тануць, а з вады высунулася квадратная пашча анаконды, акурат бы ва ўдава з мультфільма "Маўглі", заварушыліся доўгія сківіцы — коўць, коўць, і качкі як і не было. Нават па тэлевізары страшна глядзець такое.

Чэсь схамянуўся. Герой! Ды якія тут у нас, у Беларусі, анаконды! А яшчэ пра Аксану думаў! А што, калі б яна сапраўды была зараз тут? І ўбачыла, як ён спалохаўся? Абаронца... А калі яна сама спалохалася б і прытулілася б да яго? І адчула, як ён калоціцца?

Чэсь выхапіў з кастрышча галавешку з агнём. Трымаючы яе перад сабою, смела наблізіўся да старыка.

Пасвяціў, пачаў углядацца. Ціха, нідзе нічога не відаць, толькі водбліскі агню на вадзе. Павярнуўся, каб ісці, зноў — плёсь!

Штосьці валтузілася там, пасярод затокі,— і не рыба, не звер, а незразумелае штосьці... Чэсь хуценька вярнуўся да вогнішча. Хлопцаў хіба пабудзіць? Засмяюць, калі акажацца, што гэта звычайны бабёр ці проста вялікі шчупак. Пайсці спаць? Страшнавата... Так і стаіць у вачах той вадзяны пітон, які заглытвае качку... А што, калі гэтая пачвара надумаецца раптам вылезці на бераг? Не, лепш сядзець тут і пільнаваць агонь, дроў хапае, а агню ўсялякая жывёла баіцца...

Так і прасядзеў да світання, балазе летняя ноч кароткая. Неўзабаве на ўсходзе пасвятлела. Неба ў тым баку проста на вачах пачало налівацца ранішняй чырванню. Прачнуліся, яшчэ нясмела зашчабяталі птушкі. А тое, у затоцы, жыло — плёхала, плавала, уздыхала... І ўсё на адным і тым месцы, нібы прывязанае.

"Хай добра развіднее, тады разбуджу хлопцаў",— думаў Чэсь, прыслухоўваючыся.

З шалаша паказалася Міхалава галава, а потым і ўвесь ён, заспаны, пазяхаючы, вылез і падышоў да кастра. Пацёр далоні.

— Вось малайчына, здагадаўся агонь распаліць,— сказаў хрыпатым пасля сну голасам і пракашляўся.

— Каб не гэты агонь, дык нас, можа, ужо ў жывых не было б.— Чэсь коратка расказаў сябру пра начныя страхі.

— Гэта здаецца толькі,— Міхал прытупваў каля агню, паварочваўся да яго то адным, то другім бокам.— Халаднавата з раніцы! А ўночы заўсёды гукі здаюцца больш рэзкімі. Я неяк...

— Здаецца? — перабіў Чэсь.— Тады памаўчы з хвілінку, сам пачуеш. Ну? — прашаптаў ён, калі праз секунд колькі ў затоцы зноў плёхнула.

— Сапраўды...

І раптам да іх слыху данёсся скрып уключынаў. Хтосьці плыў у лодцы з вярхоўя. Хлопцы пераглянуліся, тады падбеглі да ракі, да таго куста, дзе была прывязана іхняя лодка.

— Рыбакі? — запытальна зірнуў на сябра Чэсь.

— А хто ж яшчэ. Не хацелася б, каб яны тут спыняліся,— Міхал прысеў на кукішкі і пачаў узірацца ў густы туман, што клубамі віўся над ранішняй ракою.— Такое выдатнае месца адкрылі! А яны, вядома ж, прагоняць нас...

— Навошта ім нас праганяць? — засумняваўся Чэсь.— Рака ж вялікая.

— Убачаць вогнішча — абавязкова падчаляць. Ды і дым ужо, мабыць, унюхалі.

Міхал не памыліўся. Лодка была зусім блізка. Па скрыпу ўключынаў хлопцы вызначылі, што яна зараз перасякае раку, кіруючыся акурат на іхняе вогнішча.

Калі да берага засталося метры чатыры, лодка вынырнула з туману, потым торкнулася носам у сыры прыбярэжны жвір. Чалавек, што кіраваў лодкай, седзячы спіною да хлопцаў, падняў вёслы, устаў сам, павярнуўся тварам...

Яшчэ раней, чым пазнаць яго вачыма, хлопцы ўцягнулі насамі знаёмы, асабліва востры раніцаю пах патухлага тытуню. Знаёмы кашаль... Дзед Макар! І тут знайшоў, высачыў іх!..

Дзед, папраўляючы на плячах ватоўку, чвякнуўшы вадою з-пад падэшваў сваіх нязменных кірзавых ботаў, выйшаў на бераг і тут заўважыў хлопчыкаў. Перш насцярожыўся, тады ступіў бліжэй, прыгледзеўся.

— А, піянерыя! — пазнаўшы, прамовіў узрадавана.— А я думаю, хто гэта тут, на маім месцы, у такую рань агонь паліць. Ану, хлопцы, памажыце лодку вышэй усцягнуць,— папрасіў ён.

Хлопцы нават не зварухнуліся.

## Раздзел 47
## Дзед Макар

Дзед Макар сам падцягнуў лодку вышэй. Ці ён сапраўды не пакрыўдзіўся, ці толькі зрабіў выгляд, але твар у яго быў зусім не сярдзіты. Наадварот, як падалося хлопцам, на яго твары была нават вінаватасць.

— А вы што ж, усё золата шукаеце? — нечакана спытаў дзед.— Ці проста ў паход выбраліся? На рыбалачку, на прыроду?

Адказу ізноў не дачакаўся.

— Так-так... Пайсці пагрэцца хіба,— сказаў дзед самому сабе і патэпаў да вогнішча, пакідаючы на расе сляды цяжкіх ботаў.

Хлопцы пасунуліся за ім. Прынесла госця... Нічога, акрамя новых непрыемнасцей, ад гэтага чалавека яны не чакалі.

Дзед Макар прысеў каля кастрышча, падкінуў голля, падзьмухаў. Вогнішча адразу ажыло. Дзед выцягнуў з агню тонкую галінку, чырвоную на канцы, і прыкурыў недапалак.

— Шалаш нават зрабілі,— паказаў ён галінкаю на куст.

— А што, нельга было? — не вытрымаў маўчання Чэсь.— Мы не ў вашым агародзе. Ні гэтую рэчку, ні яе берагі вы пакуль што не купілі!

— У нас канікулы, і мы можам рабіць усё, што нам хочацца,— дзёрзка сказаў і Міхал.

— Што вы, што вы! — замахаў на іх рукамі стары.— Я ж нічога, я так сабе кажу! Гуляйце на здароўе — лавіце рыбку, купайцеся, шукайце тое ж золата... Абы шкоды не рабілі.

Хлопцы здзіўлена пераглянуліся. Што ўсё гэта значыць? Нібы апраўдваецца... Не, дужа падазрона ўсё гэта. Міхал сказаў:

— Дзякуем, што дазваляеце. Толькі пры чым тут золата?

— Можа, вы самі яго шукаеце? — з'едліва ўставіў Чэсь. Дзед Макар засмяяўся, выпусціўшы з рота клуб дыму.

— Э-э, якое золата? Каб яно тут было, яго даўно выкапалі б. Я вось, здаецца, ведаю ў гэтых мясцінах кожнае дрэва, кожную сцежку, кожны вір на рацэ, а хоць бы раз якую манетку знайшоў. Дый нашто яно мне, тое золата, калі б і знайшоў? Хіба што зубы наставіў бы.— І ён, адцягнуўшы пальцам губу, сапраўды паказаў хлопцам пачарнелыя, з'едзеныя тытунём і карыесам зубы.

— Чаму ж вы тады заладзілі: золата, золата? — груба спытаў Міхал.

Дзед ізноў не пакрыўдзіўся.

— Ды ўспомніў проста. Учора ўнучка Ганніна прыехала, а цяпер вас вось убачыў,— і згадалася, як яе бацька расказваў пра французаў, пра золата... Помніце тады, каля куродыму? Яшчэ на мяне, старога чалавека, лічы, дзеда, насварыўся тады. А за што?

— Аксана прыехала?! — радасна ўскрыкнуў Чэсь.— Калі?

— Учора пад вечар. Ды не адна, а з сяброўкаю. Машынай легкавою іх прывезлі. А я ў Ганны старой сядзеў. Рыбы прынёс...

— І што? Як яна?

— Рыба? — спытаў дзед Макар.

— Якая рыба — Аксана!

— А-а. Спытала, дзе вы. А я кажу, што на рыбу паехалі. Я бачыў, кажу, як яны раненька ў лодцы пагрэблі.

— Вы ўсё ўбачыце,— прабурчэў Міхал,— што трэба і што не трэба...

Цяпер ён пазіраў сярдзіта ўжо на абодвух: і на Чэся, і на дзеда Макара. Але Чэсь нічога не заўважаў. Ад радасці за навіну ўсе яго крыўды на дзеда, было відаць, зніклі без следу.

**Раздзел 48**
**"Злодзей"**

З шалаша вылез Змітрок. Прыставіў да ілба далонь брылькам, паглядзеў на сонца, якое ўвачавідкі падымалася, рассейваючы ружовы туман. Ужо можна было распазнаць не толькі бліжнія кусты, а і асобныя дрэвы ў лесе на тым беразе ракі.

— Давай сюды, у нас госці! — назваў Чэсь.— Зараз юшку будзем варыць.

Міхал гмыкнуў. Зміцер падышоў, блізарука прыжмурыўся. Пазнаўшы дзеда Макара, застыў.

— Гэта... госці?

Міхал адказаў на поўным сур'ёзе:

— Татары неяк пакрыўдзіліся на прымаўку: "Няпрошаны госць горш за татарына" і паслалі пісьмо начальству... Начальства прысылае адказ: "Мы згодныя, прымаўка крыўдная. Цяпер яна будзе гучаць так — няпрошаны госць лепш за татарына".

Дзед Макар зарагатаў, аж закашляўся.

— Ну, навошта ты? — сказаў Чэсь.— Не слухайце яго, дзед Макар.

— Ды я, хлопцы, паеду зараз... Пагрэўся — вось і дзякую. О-ох,— крэкчучы, дзед абапёрся рукою на калена, устаў.

— Вы нас таму і шукалі, каб сказаць, што Аксана прыехала? — не сунімаўся Міхал.

— Я вас зусім не шукаў... Убачыў агонь, вось і падплыў. І яшчэ...

Дзед пакашляў збянтэжана, падняў на хлопцаў вочы і сказаў рашуча, сур'ёзна, бы перад ім былі дарослыя:

— Раз ужо мы ўсе разам тут — пакаяцца хачу, прабачэння папрасіць у вас. За "тэлевізар" той... Невінаватыя вы.

Калі б з гэтага яснага ранішняга неба грымнуў гром і лінуў дождж, і то, мабыць, для хлопцаў гэта было б меншай нечаканасцю.

— Я знайшоў "злодзея" — сом гэта...

— Сом?!

— Вялізны. Во,— дзед Макар развёў рукі ў бакі,— як калода. Заблытаўся жабрамі ў сетцы, абарваў вяроўку і сплыў разам з "тэлевізарам". Я бачыў яго, ён хутка плыць не можа — то нырне, то зноў усплывае. Ганю яго ад самых Кладаў. Ніяк ад "тэлевізара" адчапіцца не можа, моцна ўблытаўся...

Чэсь раптам ляснуў сабе па ілбе — ці то камара забіў, ці ўспомніў штосьці.

— Цяпер зразумела,— хутка сказаў ён.— Вунь ён, ваш "злодзей",— паказаў ён на затоку.— Цэлую ноч плёхаў.

— Па праўдзе?

— Я яшчэ падумаў, можа, бабёр ці шчупак на качак палюе...

Пра анаконду Чэсь змоўчаў.

Дзед Макар хуценька патрусіў да берага, хлопцы — за ім.

Туман над вадою зусім растаў. Спакойная, зарослая каля берагоў трыліснікам і раскаю, вада затокі была роўная, бы люстэрка.

— Сплыў,— Чэсь вінавата зірнуў на дзеда.

— Цішэй, я яго бачу.

Аднак хлопцы, як ні ўзіраліся, нічога не заўважылі.

— Ву-у-унь,— паказаў дзед крывым доўгім пальцам,— каля таго берага, дзе лазовы корч... Пастойце тут. Можа, яшчэ ваша дапамога спатрэбіцца.

Дзед Макар асцярожна спусціў на ваду лодку, сеў перадам і адным вяслом спрытна і хутка выруліў у затоку. Бясшумна прымінаючы раску, лодка набліжалася да таго берага. Хлопцы, стаіўшы дыханне, назіралі.

Раптам каля лазовага куста, на які нядаўна паказваў дзед, вада крутанулася вірам. Мільганула ў тым месцы штосьці белае, вялікае — і зноў ціха.

— Ух ты! — выгукнуў Чэсь.— Сом!..

Дзед Макар, асцярожна паклаўшы вясло, ссунуўся на карму, пачаў штосьці шукаць пад лаўкаю. Калі разагнуўся, у руках яго была стрэльба. Стоячы на коленцах, дзед прыпаў шчакою да прыклада, доўга

цэліўся... Ляснуў стрэл, з рулі вылецеў дым, па лесе пракаціўся пошчак. З крыкам, з лопаннем узляцелі над затокаю .дзікія качкі. Вада ў тым месцы, дзе паказваўся сом, успенілася ад шроту.

— Ёсць! — крыкнуў дзед, калі дым рассеяўся, і памахаў хлопцам стрэльбаю.— Давайце сюды!

Хлопцы кінуліся да лодкі.

Сом усплыў жоўтым чэравам уверх. Ён быў яшчэ жывы, акрываўленыя каля галавы плаўнікі і шырокі хвост варушыліся. У скалечаную жабру моцна ўпілася сетка "тэлевізара", які і загубіў вольную рыбіну. У бурай ад крыві вадзе каля сома пстрыкалі дурныя верхаводкі — ласаваліся.

— Прабач, гаспадар рачны,— з нейкай фальшывай весялосцю ў голасе прамовіў дзед Макар. Відаць, яму таксама, як і хлопцам, было не па сабе — што вось прыплыў сюды і пазбавіў жыцця жывую істоту— Усё адно ты не выжыў бы, не змог бы корму здабыць... Ану, памажыце, хлопцы! — распарадзіўся дзед.

Сома перакулілі ў лодку. Чэсь асцярожна дакрануўся да гладкай скуры, пагладзіў рыбіну па пляскатай галаве, пабітай шротам у частыя дзірачкі, з якіх сачылася кроў. Сом абыякава пазіраў на людзей круглымі блакітнымі вочкамі. Зміцер нагнуўся і пакратаў яго за доўгі абвіслы вус. Сом раптам пазяхнуў і вяла стукнуў хвастом аб дно лодкі. Зміцер спалохана адняў руку.

Усе засмяяліся.

— І як гэта ён умудраўся цягаць такое? — спытаў Міхал, маючы на ўвазе "тэлевізар". Ён смела павярнуў рыбіну на бок і вызваліў разрэзаную напал жабру ад сеткі. "Тэлевізар" быў зусім цэлы, з грузікам знізу і з палкай-паплаўком зверху. Міхал працягнуў яго дзеду Макару.

— Так і цягаў..— Дзед са злосцю кінуў "тэлевізар" у нос лодкі.— Ні нырнуць яму не давала, ні ўверх падняцца. Ды і за карчы чапляўся ўвесь час, высільваўся.

— І куды вы яго? — спытаў Чэсь.

— Адвязу ў Паплавы, раздам людзям, хто захоча... Не прападаць жа мясу, раз так здарылася. Хоць ён і стары, нясмачны — а ўсё ж свежая рыба.

Сома падцягнулі на карму, дзед накрыў яго кавалкам брызенту. І толькі цяпер, калі рыбіна схавалася з вачэй, хлопцы адчулі палёгку.

— Гадзін сем ужо,— дзед Макар зірнуў на сонца.— Самы час падмацавацца. У мяне ёсць хлеб з маладой цыбуляю, сала насмажым на агні...

— Сала! — гмыкнуў Чэсь.— У нас поўна рыбы, адныя плоткі.

— Ну? Вось малайцы. Я заўсёды хвалію вас — разумныя хлопцы, сапраўдныя мужчыны, не тое, што мой "куртаты"... Анічога яму не цікава: ні рака, ні рыба, ні ў футбол пагуляць... Вярнуся — адпраўлю назад у горад, да маці!

## Раздзел 49
## Юшка

На беразе, калі падчалілі і прывязалі лодкі, адразу разабраліся, каму што рабіць. Дзед Макар ахвотна ўзяўся за самае нуднае, нецікавае — чысціць плотак. Ён прысеў каля вады, усё пахвальваў хлопцаў і іхні ўлоў, чысціў і адразу абмываў рыбін. Луска так і ляцела з-пад вострага сцізорыка. Чэсь са Змітрам прыстроіліся непадалёку — абіралі бульбу. Міхал сунуў у кішэню пакет і адправіўся правяраць шнуры.

— Давай я пайду,— крыкнуў услед Чэсь,— я ж іх ставіў! Ты ці знойдзеш?

— Знайду,— адказаў Міхал, не азіраючыся.

Штосьці не давала яму спакою. Хацелася хоць крыху пабыць у адзіноце, таму ён, на правах галоўнага, і прызначыў сам сябе на праверку донак. Ён паціху ішоў берагам ракі, уважліва ўзіраўся, стараючыся не прапусціць Чэсевых пазнак, і разам з тым узнаўляў у памяці ўсе падзеі сённяшняй раніцы. Прыезд дзеда Макара... Вінаватасць яго перад імі... Навіна, што прыехала Аксана з сяброўкаю... Забойства сома... Нібыта ўсе гэтыя падзеі разам, і ўсе яны называюцца нейкім адным словам, якое круціцца ў галаве і не ўспамінаецца... А слова надзвычай важнае! Хто яго мог прамовіць? Чэсь? Дзед Макар? Што гаварыў дзед? "Французы... золата... пакаяцца хачу... сома гнаў..." Не тое, не тое!..

Палачка першай донкі была ўтыркнута ў пясок акурат на тым месцы, дзе яны ўчора вудзілі плотак. Рыбацкі азарт узяў сваё. Тут было ўжо не да нейкага важнага слова. Міхал хутка выцягнуў палачку, пашморгаў на сябе. Пуста? Не можа быць, такое харошае месца... Няўжо шчупак перакусіў павадок? Міхал пачаў зматваць шнур на дошчачку — і раптам лёска напялася, пачала ірвацца з рук. Ага, ёсць — шчупачок! Малады яшчэ, а хітры, падплыў пад самы бераг, таму і лёска спачатку здавалася абарванаю...

З астатніх донак, якія стаялі непадалёку, Міхал зняў з кожнай па вялікім паласатым акуні. На беразе яны растапырвалі плаўнікі і пагрозліва падымалі калючкі на гарбатых спінах.

Калі Міхал вярнуўся, над вогнішчам ужо вісела вядро, з якога падымалася пара. Дзед дачышчаў

апошнюю плотку.

— Ну трэба ж,— здзівіўся ён і Міхалаваму ўлову.— Вось малайцы!

Усе разам начысцілі і акунёў са шчупаком.

— Зварыцца бульба, з гэтымі вось прыправамі,— дзед Макар усыпаў у варыва солі, перцу, лаўровага ліста,— упусцім туды перш плотак, затым, для кампаніі, акунёў, а апошняга, для самага смаку, шчупачка... Трайная юшка!

— Трайная зусім інакш варыцца,— запярэчыў Чэсь.— Я бачыў і еў.

— Па-рознаму можна, можна і так, як мы... Колькі я пераспытаў гэтых юшак — смак адзін. А міскі ў вас ёсць?

— Няма.

— Нічога, з вядра будзем. Так яно смачней, калі з вядра... Дзед Макар выразаў чатыры роўныя дубчыкі, злупіў з іх паскі кары, якою прывязаў да дубчыкаў лыжкі.

Паспела юшка. Чэсь са Змітрам на палцы аднеслі вядро да ракі, паставілі на мокры пясок, далі крыху астудзіцца і прынеслі назад. Усе абселі вядро, ад якога ішла такая духмяная пара, што забудзеш пра ўсё на свеце... Дзедавыя "чарпакі" атрымаліся хоць куды. Праўда, доўгія, і пакуль данясеш лыжку да рота, трэба аберуч перабіраць дубчык,— але хлопцы, згаладалыя, сёрбаючы гэткае смакоцце, на розную драбязу не звярталі ўвагі.

Спачатку елі ў поўным маўчанні. Чулася толькі сёрбанне, шморганне насоў ды стук лыжак аб вядро. Затым пачалі выбіраць з юшкі лепшыя, як здавалася, самыя смачныя кавалкі. Урэшце дзед Макар, які ўвогуле еў мала, пачаў адвязваць сваю лыжку ад дубчыка.

— Вось дзякую, хлопцы...— Ён ікнуў— Добра мне з вамі! А таму "куртатаму" нічога не трэба,— і зноў успомніў унука.

Дастаў "астрыну", прыкурыў ад галавешкі. Вырваў пук травы і выцер з бота кавалачак рыбы. Змітрок чамусьці таксама перастаў сёрбаць, паглядзеў перш на дзеда, тады — на боты, бы ніколі раней не бачыў. Раптам хітраватая ўсмешка прабегла па яго твары.

— Дзед Макар,— сказаў ён,— дык вы ўжо не лічыце нас злодзеямі?

— Што вы, хлопцы! Больш ніколі — верце — не падумаю на вас.

Міхал прасачыў Змітракоў позірк, усё зразумеў і таксама ўключыўся ў гульню.

— А вось участковы думае на нас.

— Я яму нічога не казаў,— здзівіўся дзед.

— Ён думае, што мы ў школу лазілі.

— А-а, гэтае... Ну, калі і лазілі — на тое вы хлопцы... Я сам, помню, у вашых гадах...

— Мы нікуды не лазілі,— перабіў Міхал. Пераглянуўся з сябрамі — казаць ці не? — Але той, хто лазіў, цяпер сярод нас,— сказаў ён.

## Раздзел 50
## Слова

Дзед Макар падавіўся дымам.

— Вы што, хлопцы,— пра мяне? — спытаў праз кашаль.— Я... у школу? Лазіў? Стары я ўжо для школы, забыў, як буквы пісаць,— няўдала пажартаваў ён.

— Мы бачылі след вашага бота,— гледзячы ўбок, прамовіў Чэсь.— Пад анучкаю на ганку... Тады ўночы дождж ішоў, а ганак — пад стрэшкаю, вось след з ночы і застаўся.

— Але нашто мне гэта трэба было?! Мала хто там мог хадзіць!

— Боты такога памеру толькі ў вас. Ды і ведаем мы ваш след...

— Не, хлопцы, пачакайце,— дзед Макар зрабіўся сур'ёзны,— за ўсё жыццё я чужога цвіка не падабраў. Давайце разбірацца. Так, сапраўды, дождж быў — прыгадваю... Геолагі тады яшчэ ў мяне начавалі, на сене... Ах, вунь яно што! Цяпер зразумеў, успомніў! Яны гэта, геолагі, толькі яны! Мне ўночы на двор захацелася, стаў шукаць — а ботаў няма. Босы

выйшаў, а калі вяртаўся, помню, памыў ногі ў тазе, дажджавой вадою...

— Дык вы што, не чулі, як нехта зайшоў у хату і ўзяў боты? — спытаў Міхал.

— Я і так сплю моцна, а тады натаміўся за дзень...

— Ды Курт гэта! — усклікнуў Чэсь.— Без яго ніяк, бо замок на школе цэлы, а акенца вузкае, толькі малому пралезці. Ён жа і боты вынес.

Дзед Макар вінавата заморгаў вачыма.

— Праўда — я чуў праз сон, як ён выходзіў... Ай-яй, яшчэ і малога ўцягнулі! Хай які б ён ні быў, але

ж не злодзей...

— Ага, не злодзей,— не вытрымаў Міхал.— А хто ў нас нож і спінінг з будана ўкраў? Вярніце, кажа, "тэлевізар", тады і я аддам...

— Ай-я-яй,— заківаў галавою дзед,— вось дык расказалі вы мне... Але не думайце, хлопцы,— я разбяруся! І з геолагамі — што яны за такія геолагі, і з Вовам. Калі ён узяў — рэменя ўсыплю, аддасць!

— Аддасць, як жа,— уставіў Зміцер.

— Калі недзе дзеў — тады заплачу вам, не думайце! Спінінг свой аддам, новенькі, а за нож заплачу.

Міхал успомніў той новенькі дзедаў спінінг. Ён бачыў яго ў хлеўчыку, дзе прасядзеў амаль цэлую ноч, падслухоўваючы "геолагаў". Дзед Макар і не здагадваецца... Усё ж і яны не святыя.

— Не трэба нічога, дзед Макар,— сказаў Міхал.— Нож зламаны быў — лязо кепска выходзіла, і ў спінінга катушка заядала... Навошта вы будзеце плаціць? Лепш раскажыце, як вы сома высачылі,— папрасіў ён, каб перавесці гаворку на іншае.

Але дзед не пачуў, ён усё не мог адысці ад такіх навінаў — прыгорбіўся, неяк яшчэ больш пастарэў. Міхалу давялося паўтарыць.

— А, сома? — рассеяна, неахвотна адказаў дзед.— Знянацку высачыў... Плыў вунь там, вышэй, каля кладаў, чую — боўць, боўць. Я глянуў — а ён, сом, зачапіўся "тэлевізарам" за траву і шморгаецца. Сетка ў жабру ўпілася, не пускае. Я бліжэй — а ён як ляснуў хвастом і знік пад вадою разам з "тэлевізарам". Але я ўжо бачу, што нікуды ён ад мяне не дзенецца, і паплыў за ім...

— Пачакайце! — Міхал наморшчыў лоб.— Яшчэ раз, дзед Макар,— у якім месцы вы яго ўбачылі?

— Каля кладак старых — ну, кладаў па-нашаму. Вы праміналі тое месца, калі сюды плылі...

— Цэлую раніцу! — усклікнуў Міхал.— Цэлую раніцу не мог успомніць! Ну, вядома, кладак! Вядома, кладаў!

Ён, такі сур'ёзны заўсёды, раптам утыркнуўся галавою ў траву і, нібы жук, пабег па крузе. Дзед з хлопцамі нічога не разумелі, пазіралі на яго са здзіўленнем.

— Ах, і дурні ж мы! — падымаючыся, задыханы, з бліскучымі ад радасці вачыма сказаў Міхал.— Дзякую, дзед! — схапіў дзеда Макара за руку і пачаў трэсці яе.

— Што з табою, Міша? — аж злякаўся дзед.

— Са мною? Усё добра! Усё проста цудоўна... Дык вы кажаце, там кладкі былі? Вы іх бачылі? Дзе яны цяпер? — закідаў ён дзеда пытаннямі.

— Ляжаць у рацэ на дне. Вось будзеце назад плыць, патыркайце вяслом каля берагу.

— А з чаго яны, гэтыя кладкі?

— З дубоў. Дубы як жалеза парабіліся.

— І даўно яны ляжаць?

— Э-э, хто ж табе скажа? Я сам, калі ў вашых гадах быў, пачуў, што старыя людзі так завуць тое месца, а зверху кладак ужо ніякіх не было. Гэта, відаць, даўным-даўно Бярэзіна ў тым месцы вузейшая была, вось яе і перакрылі, каб перабірацца... Паклалі дубы — таму і кладкі.

— Скажыце, дзед Макар, а там паблізу ручая ці рачулкі няма?

— Не, там суха, пагорак. А мо і была калі даўным-даўно рачулка... Цяпер, колькі сябе помню, там укруг усё суха — пясчаныя пагоркі, сосны, а далей, за лесам — поле, жыта расце...

## Раздзел 51
## Аб карысці роднай мовы

Дзед Макар пачаў развітвацца.

— А вы ці надоўга тут? — спытаў ён.— Што бацькам сказаць, калі ўбачу?

— Скажыце, каб не турбаваліся,— адказаў Міхал, усміхаючыся на ўвесь рот.— Сёння ў абед або пад вечар мы таксама будзем у Паплавах.

Не паспела схавацца за паваротам ракі лодка з дзедам Макарам, як Міхал, радасны, загадаў Чэсю:

— Ты казаў, што прыхапіў з сабою талер і копію бярозы,— давай, нясі хутчэй сюды!

— Міхал,— той глядзеў на сябра з насцярогаю,— ды растлумач, што з табою?

— Нясі хутчэй, зараз даведаешся. Зараз і з табою тое ж будзе.

Чэсь кінуўся да шалаша. Прынёс.

— Найперш адкажыце,— урачыста пачаў Міхал,— як будзе "клад" па-беларуску?

Хлопцы задумаліся. Змітрок паглядзеў уверх, нават злёгку пастукаў сябе па галаве, паказваючы, што ведаў, але забыўся. Чэсь хутчэй успомніў:

— Скарб.

— А тут як напісана? Схіліліся над копіяй бяросты.

— Ну і што? — усё ніяк не мог даўмецца Чэсь.— Тут напісана "CLAD" — "КЛАД". Ты хочаш сказаць, што французскі афіцэр павінен быў напісаць па-беларуску "СКАРБ"? — пасміхнуўся ён.

— Дарэмна смяешся — акурат гэта я і хачу сказаць. Гэтае слова трэба перакладаць не з рускай і не з французскай моў, а з беларускай. Клад — ніякі не скарб, а ўсяго толькі кладкі. Француз пачуў, як мясцовыя жыхары называлі тое месца, так і выдрапаў яго на бяросце, толькі лацінскімі літарамі. Разумееце? Тут гульня слоў, з-за гэтага так доўга і золата не могуць знайсці, бо нікому ў галаву не прыходзіць: як гэта так, каб амаль дзвесце гадоў назад еўрапеец, француз, мог скарыстаць мясцовую гаворку і менавіта беларускім словам зашыфраваць свой план на бяросце!

Зміцер моўчкі пацiснуў Міхалу руку, тады сказаў проста:

— Малайчына ты,— але нават па голасе яго адчувалася, што яго павагі да Міхала яшчэ паболела.

Затое Чэсь, здаецца, і не здзівіўся, і не ўзрадаваўся.

— Гэта яшчэ трэба даказаць,— прабурчэў ён, узіраючыся ў копію бяросты. На самай справе яму было проста зайздросна. Як жа ён сам, вясковы хлопец, беларус,— і не здагадаўся раней за Міхала! Тады, магчыма, і Аксана зусім інакш да яго ставілася б...

Міхал усё яшчэ быў як п'яны ад свайго адкрыцця. Чэсевыя словы ён пакінуў без адказу.

— Помніце, я ездзіў у горад, званіць Аксане? Дык вось, падыходжу я да хлопчыка з дзяўчынкаю, недзе нашых гадоў, пытаю, дзе краязнаўчы музей? Па-руску, вядома, пытаю. А яны мне адказваюць чыста па-беларуску! Уяўляеце, гарадскія!

— Я ведаю такіх,— пацвердзіў Зміцер.— Гэта з беларускай гімназіі.

— Я ўсё збіраўся прапанаваць вам зрабіць тое самае — пачаць гаварыць толькі на роднай мове. І сам пачаў вучыцца... вось размаўляю з вамі, а ў галаве перакладаю, як гэта можна сказаць чыста па-беларуску...

— Добра,— перапыніў Чэсь.— Калі табе паверыць, і клад — гэта папраўдзе клады, дык тады яшчэ больш усё заблытваецца. Раней мы думалі, што дзе крыжык, там і золата. А цяпер? Атрымліваецца, клад — гэта не скарб?

— Ніякі не скарб,— упэўнена адказаў Міхал.— Шукаць яго трэба ў любым іншым месцы, толькі не там, дзе крыжык. Няўжо вы не зразумелі? Крыжык — гэта не канец, а пачатак. Помніце, Аксанін тата расказваў, што на тапаграфічных картах абавязкова павінна быць прывязка — арыенцір? Крыжык і слова "КЛАД" — кладкі — і ёсць толькі прывязка. А ўсе шукалі не з таго боку, не з пачатку, а з канца.

— Хітры француз! — пакруціў галавою Змітрок.— Надзейную прывязку выбраў! Калі б, скажам, арыенцірам было якое дрэва, дык яго спілаваць могуць, калі камень — маглі б прыбраць і звесці кудынебудзь... А гэтыя дубы праляжалі ў вадзе, на адным месцы, столькі гадоў, і нічога не сталася ім — яшчэ мацней, відаць, зрабіліся.

— Дубы з ракі таксама маглі б выцягнуць,— запярэчыў Чэсь.— Гэта проста шчаслівы выпадак, што яны захаваліся. Але добра, нават калі па-вашаму, я ўсё адно не разумею — чаму тут радавацца? Ну, ведаем мы прывязку, далей што?

— Прыкладзем да копіі бяросты талеры, абвядзем контуры і ўбачым маршрут, па якім рухаўся француз,— адказаў Міхал.— Дзе скончыцца контур апошняга талера, там і скарб.

— А ў нас ёсць гэтыя талеры? Ты ўпэўнены, што Аксана раздабыла трэці? Мы нават не ведаем, ці прывезла яна свой!

— Калі не прывезла, нічога страшнага,— сказаў Змітрок.— Маршрут можна ўгадаць зусім без талераў. Француз дзе пахаваны? У нас, у Паплавах. Ад кладак да Паплавоў кіламетраў восем—дзесяць, вось на гэтым адрэзку дзесьці золата і прыхавана.

— Я таксама думаю,— кіўнуў Міхал.

— Ды француз мог ісці ад гэтых кладак на ўсе чатыры бакі! — Не здаваўся Чэсь, які ніяк не мог прымірыцца, што ў яго перахопліваюць ініцыятыву разгадкі.— Ён мог схаваць скарб за дваццаць кіламетраў да Паплавоў, у любым месцы — хоць бы вось тут, на нашым паўвостраве, ці вунь у лесе на тым беразе. А потым зашыфраваў гэтае месца на бяросце, павярнуўся на сто восемдзесят градусаў і пайшоў у Паплавы, дзе яго і падабралі, знясіленага!

— Таксама можа быць,— згадзіўся Міхал. Відаць, ён не так верыў у версію Чэся, як хацеў і яму даць права на сваю думку.— Дык тады хто што прапануе? Вернемся ў Паплавы і паглядзім, што раздабыла Аксана, раскажам ёй пра ўсё? Ці даплывем да кладаў і пашукаем самі?

— Самі, вядома! — адразу сказаў Чэсь.

Зміцер адмоўчаўся, паказваючы, што яму ўсё роўна, абы быць разам з сябрамі.

Зборы былі нядоўгія. Сцягнулі з шалаша брызент, кінулі ў лодку ватоўкі, сена, прыкапалі зямлёю

галавешкі, не забыліся на вядро з астылай юшкаю — разагрэюць у абед...

"Бывай, цудоўная мясціна! І дзякуй табе за ўсё!" — звярнуўся ў думках Міхал да іхняй выспачкі, калі ўсе сядзелі ў лодцы. Чэсь адштурхнуўся вяслом ад берага.

**Раздзел 52**
**Крыўда**

Тым часам Аксана з Кацяю, у адных купальніках, сядзелі на высокім, зарослым травою пагорку каля будана, загаралі і кідалі ў раку каменьчыкі, якіх тут, у траве, было скрозь. Летні вецярок час ад часу набягаў з лугу цёплымі хвалямі, прыносіў з сабою пах кветак, ледзь чутна шапатаў лістотаю прыбярэжных вербаў, моршчыў ваду пасярэдзіне ракі. Смаліла сонца, лёгка прабіваючыся праз белыя кучаравыя воблачкі, што чарадою плылі па небе.

— Не шкадуеш, што прыехала? — спытала Аксана.

— Тут так здорава, я і не чакала!..

— Вядома, здорава — тут табе не Егіпет.

У самой Аксаны настрой быў цудоўны. Яна зрабіла ўсё, што абяцала, нават больш. У яе былі выпіскі з артыкулаў, якія даказвалі, што скарб несумненна існуе, была копія бяросты, быў талер "чэрвеньскіх знаёмых". Учора, як толькі Кацін бацька прывёз іх у Паплавы, яна адразу кінулася ў веранду, да канапы. Скамечаная насоўка ляжала пад матрацам. Пляма ад алею не высахла. Дзяўчынкі паклалі насоўку на паперу і старанна, па міліметры іголкамі перакалолі пляму па контуры. Тады абвялі дзірачкі алоўкам — і атрымаўся дакладны абрыс манеты.

Галоўнае ж, што дзякуючы Барысу Рыгоравічу яны цяпер ведаюць, што з гэтымі талерамі і з бяростаю рабіць. Трэба толькі ўзяць у Чэся трэцюю манету і...

Аксана ўскочыла, прыслухалася.

— Здаецца, плыве хтосьці — можа, нашыя хлопцы? Сапраўды, з-за паварота ракі паказалася лодка.

— Не, гэта дзед Макар,— расчаравана прамовіла Аксана, зноў сядаючы.

Лодка параўнялася з пагоркам, на якім загаралі дзяўчынкі. Дзед Макар убачыў іх, сказаў весела, голасна:

— А-а, чакаеце? А я ведаю, дзе вашыя хлапчукі!

— Ведаеце? — ускінулася Аксана.— Дзе ж яны? Калі вернуцца?

— Го, яны далёка забраліся, аж за клады! Цэлы лагер сабе зрабілі на востраве, рыбы поўна навудзілі, юшку вараць... Увечары, казалі, вернуцца!

— А яны ведаюць, што мы прыехалі?

— Ведаюць, я ім сказаў.

Лодка пачала аддаляцца, дзед кіраваў яе ўніз, да масткоў, дзе была пасялковая "прыстань".

— Калі хочаце, ідзіце за мною! — крыкнуў дзед напаследак.— Пакажу, якога сома ўпаляваў!

— Хадзем, Аксана? Я ніколі сома не бачыла.

— Што на яго глядзець? Рыба як рыба...

Аксана не хавала крыўды. А яна думала, іх чакаюць тут. Нахвалілася Каці, як іх будуць тут сустракаць.

— Што ж — няхай, абыдземся без іх. Калі іх не цікавіць гэта, самі знойдзем скарб. Сёння прыедзе Барыс Рыгоравіч, і пачнем шукаць. У нас амаль усё ёсць, а ў іх няма нічога, акрамя Чэсевага талера. Зараз пазагараем, пакупаемся, маліны пойдзем есці...

Але ўсё адно дзяўчынкам чамусьці зрабілася сумна.

**Раздзел 53**
**Папярэджанне**

На "прыстані" дзед Макар абкруціў ствол вярбы ланцугом ад лодкі, прымкнуў вісячым замком, абмыў боты, ускінуў на плячо цяжкія мокрыя вёслы. Хата хоць і была не вельмі далёка, але дарога адсюль забірала ўгару, дый натаміўся — цяжкавата ісці. А дома трэба браць тачку, зробленую са старой дзіцячай калясачкі, і адразу вяртацца назад, на сома.

Дзед паазіраўся навокал — ці не бегае дзе ўнук? Як трэба, дык яго ніколі не будзе. І злосць на ўнука, што была ўлеглася ад работы вёсламі, ажыла зноў. У каго ўдаўся такі?.. Мала ўсяго — яшчэ і красці навучыўся... Ну, паспытае ён сёння папругі!.. А ўчастковаму трэба сказаць, каб не чапаў хлопцаў.

Ідучы агародамі да хаты, дзед Макар сваім вострым зрокам яшчэ здалёк разгледзеў, што каля варот стаіць матацыкл з каляскаю. Участковага матацыкл!.. Вось так, праўду кажуць: пра каго доўга думаеш,

таго неўзабаве і сустрэнеш.

Участковы стаяў у двары, перад ім — Курт, якога ўчастковы трымаў за плячо. У другой руцэ ў яго была нейкая сіняя папка, пакарабачаная ад вільгаці і сонца. Участковы размахваў ёю і дапытваўся:

— Дык ты не бачыў? А хто бачыў? Курт маўчаў, толькі шморгаў носам.

— Што тут такое? — устрывожана спытаў дзед, подбегам уваходзячы ў двор; прыставіў да сцяны вёслы.

Участковы азірнуўся, адпусціў Курта.

— А, рыбак паявіўся. Ты б лепш унука глядзеў, а не па рацэ дзень і ноч шастаў!

— Ды што такое? — не на жарт спалохаўся дзед.

— А вось што. Гэтую папку бачыш?

— Ну, бачу.

— Яна валялася ў канаве, вось тут, акурат каля вашай хаты!

— Ну дык што? — аніяк не разумеў дзед.— Тут мпога чаго валяецца...

— Гэтая папка месяц назад прапала са школьнай шафы-музея. Бачыш надпіс — "Нашы славутыя землякі"? Як яна апынулася каля вашай хаты? Не ведаеш? А я ведаю. Твой унук лазіў тады ў школу. І ён быў не адзін, а з кімсьці дарослым.

Дзед Макар выцер з ілба пот. Ён баяўся падняць на ўчастковага вочы.

— Можа, не ён? За руку ж не злавілі...

— Я не лазіў,— падбадзёраны дзедавай падтрымкаю, азваўся Курт.

— Тады адкуль гэтая папка ўзялася каля вашай хаты?

— Падкінулі,— буркнуў Курт.

— Не дуры мне галавы! — павысіў голас участковы.— Лепш ідзі, пагуляй пакуль. Мне з тваім дзедам трэба пагаварыць.

— Ідзі, Вова, з-пад страхі тачку здымі... Паглядзі, ці калёсы яшчэ не адваліліся.

Курт пайшоў, завярнуў за вугал хаты, спыніўся і прыпаў да вушака, каб пачуць што-небудзь. Але ўчастковы з дзедам накіраваліся з двара, да матацыкла.

— Няўжо такая важная папка? — Дзед Макар тыцнуў пальцам у брудны аблезлы картон.

— Якая важная, макулатура... Але спатрэбілася ж некаму на нешта,— участковы прысеў бокам на сядзенне матацыкла.— Мяне, дзед, не столькі папка цікавіць, колькі твае госці з Мінску. Кватаранты твае. Даўно ўжо да іх прыглядаюся. Што яны тут шукаюць? Чаго яны тут лазяць паўсюль?

— Халера іх ведае. Можа, золата шукаюць,— пажартаваў дзед.— Вось прыедуць, сам спытай.

Аднак участковаму, відаць, дзедавыя словы не здаліся жартам.

— Золата, кажаш? — Ён перакінуў з-за спіны сабе на калена тонкую сумку, разгарнуў яе, дастаў паперу і ручку— А як іх прозвішчы, кватарантаў тваіх?

— А ты пратакол сабраўся складаць? — у сваю чаргу спытаў дзед Макар.

— Які пратакол, проста запішу, для сябе.

— Тады ў нас не будзе ніякай размовы.

— Як так?

— Так. Я сам разбяруся — і з унукам, і з кватарантамі, без пратаколаў... Адно скажу — за руку не злавіў, не злодзей.

— Ну, глядзі, дзед! — Участковы зашморгнуў сумку, закінуў праз сядзенне нагу, узяўся за ручку "газа".— Калі што — крыўдуй на сябе. Папярэджваю! Не падабаецца мне гэтая ваша гоп-кампапія.

## Раздаел 54
## Сустрэча

Хлопцы прыплылі ў Паплавы позна ўвечары.

Перад гэтым яны лёгка знайшлі затопленыя дубы — "клады", высадзіліся на бераг, прыхавалі ў кустах лодку і разышліся ў розныя бакі, спадзеючыся адшукаць старое рэчышча ці хоць бы старую дарогу. Пошукі аказаліся марнымі. Мясціна, як і казаў дзед Макар, сухая, пагорыстая. Дарогі, праўда, былі, але не старыя, а нядаўнія: працярэбленая прасека, сцежкі, якімі ганялі на вадапой скаціну... Зміцер шукаў каля ракі, Чэсь забраўся далёка ў лес, Міхал пайшоў па прамой — перпендыкулярна рацэ, і неўзабаве, праз які кіламетр, апынуўся на шырокім полі — таксама высока, жыта расце і сям-там дубы сярод жыта.

Але няўдача зусім не сапсавала настрою. На другі дзень з раніцы тройца сяброў ужо таўклася каля хаты Аксанінай бабулі.

— А схадзі пазаві,— прапанаваў Міхалу нецярплівы Чэсь.

— Няёмка, там Каця гэтая, чужая... Міхал заклаў у рот пальцы і звонка свіснуў.

— А каб на вас — напужалі! — пачуўся голас бабулі з агарода.— Спяць яны яшчэ!

Але ў верандзе пачулі. На ганак выйшла босая, заспаная Аксана.

— Што рассвісталіся? Мы вас два дні чакаем, а вы дзесяць хвілін не можаце? Ідзіце на раку, да будана, мы зараз памыемся, паснедаем і прыйдзем,— і схавалася ў верандзе.

— Што гэта з ёю? — здзівіўся Міхал.

— Яна ж не ведае, што мы не проста гулялі,— радасна сказаў Чэсь.— Я б таксама злаваў на яе месцы... Пайшлі, хлопцы!

Усю дарогу ён балбатаў без супынку. Першы кінуўся да пахіленай вярбы, ускарабкаўся па ствале, нырнуў у вецце.

— Нічога сабе! — пачуўся з будана яго голас— Вось дык навіны! Залазьце хутчэй сюды.

Міхал, за ім Зміцер забраліся ў будан. Чэсь трымаў у руках... нож і спінінг.

— Курт прынёс! Стрымаў, значыць, дзед слова. Здзіўленыя, вясёлыя хлопцы, перабіваючы адзін аднаго, пачалі фантазіраваць, як усё магло адбывацца: дзед Макар "размаўляў" з унукам, "усыпаў яму папругі"... Нікому не было шкада Курта. Чэсь штораз рассоўваў вецце і пазіраў на дарогу, якая вяла з пасёлка да ракі.

— Ідуць! — аб'явіў ён урэшце і прычасаў далонню непакорныя бялявыя віхры.

Хлопцы хутка спусціліся долу.

— Раскажам пра клады? — спытаў Змітрок.

— Не, перш іх паслухаем — што яны зрабілі,— адказаў Міхал.

Аксана пачала здалёк:

— Мы думалі, яны чакаюць нас, дзяжураць каля аўтобуснага прыпынку, а яны сабе ў паходы ходзяць!.. Знаёмцеся, гэта Каця,— сказала яна, калі падышлі, і злёгку падпіхнула сяброўку ўперад.

Хлопцы назвалі свае імёны. Прыгожанькая, як лялька, сарамлівая Каця ў сваёй кароткай сіняй сукенцы, што так пасавала ёй, адразу спадабалася ім; нікому і ў галаву не прыйшло тое, аб чым думалі перад гэтай сустрэчай і гаварылі ўслых — "нейкая Каця... лішні канкурэнт!"

Аксана раптам залілася смехам.

— Якую карціну мы толькі што бачылі! Дзед Макар нясе сумку вялікую і вядзе Курта за руку — ідуць на аўтобусны прыпынак. Курт трэ вочы кулаком... Ну, мы з Кацяю следам — цікава, як яны будуць развітвацца?

— І што? — смеючыся, спытаў Чэсь.— Даў яму дзед аплявуху на развітанне?

— Не, наадварот, абняў, пасадзіў у аўтобус...

— Нарабіў гэты Курт нам клопатаў,— уздыхнуў Міхал.— Як толькі ты паехала...

І Міхал, спачатку не зусім ахвотна, а потым захапіўшыся, расказаў усё па парадку: як Курт выцікаваў іхні будан, як прачытаў дзённік, украў нож і спінінг, як ён, Міхал, забраўся ў хлеўчык і падслухаў "геолагаў", як затым ездзіў у горад, хадзіў у музей, каля якога зноў сутыкнуўся з Севам і з лысым, як у тую ноч са школьнай шафы выкралі папку "Славутыя землякі" і ўчастковы праводзіў "следчы эксперымент"...

Чэсь умешваўся, перабіваў, дапаўняў. Урэшце дабіўся свайго — Міхал пакрыўдзіўся і змоўк, Чэсь пачаў гаварыць адзін. Асабліва рассмяшыў дзяўчынак эпізод, калі хлопцы хадзілі да старой настаўніцы, і Зміцер спытаў: "А што гэта за Ірына Леанідаўна, якую вы ўвесь час згадваеце?" Коратка распавёў Чэсь і пра іхнюю вандроўку, пра скалечанага сома, якога застрэліў дзед Макар,— пра "клады", вядома, не сказаў ні слова. Не ён жа, Чэсь, нершы здагадаўся, а Міхал...

— Вось і атрымалася: сказаў дзед "адпраўлю Курта ў горад, да бацькоў" — так і зрабіў,— закончыў Чэсь.

— Дык і ў вас, аказваецца, падзей поўна было!

— А што ў цябе, Аксана? — спытаў Міхал.— Цяпер ты расказвай.

— Зараз,— адказала дзяўчынка і азірнулася на дарогу— Пачакаем Барыса Рыгоравіча, ён вось-вось павінен падысці, тады раскажу.

— Што?! — у адзін голас ускрыкнулі хлопцы.

## Раздзел 55
## Працяг папярэдняга

— Пачакаем Барыса Рыгоравіча,— спакойна паўтарыла Аксана,— нашага настаўніка гісторыі.

— А-а,— здагадаўся Чэсь,— мне маці казала. Нейкі дзядзька прыехаў вячэрнім аўтобусам і спыніўся

ў крайняй хаце, паблізу ад Ірыны Леанідаўны.

— Які дзядзька, які настаўнік?! — Міхал аж схапіўся за галаву,— Аксана, колькі можна? Навошта нам яшчэ дарослыя? Кожны з нас хоць штосьці зрабіў: Каця, напрыклад, падаравала табе талер, ты гэтую справу раскруціла, Чэсь знайшоў другі талер, я здагадаўся... ну, пра гэта пазней. А гэты твой Барыс Рыгоравіч, што ён зрабіў?

— А я? — ціха спытаў Змітрок.

— Пры чым тут ты?

— Я таксама нічога не зрабіў.

— Сапраўды, Міхал,— умяшаўся Чэсь,— так мы далёка зойдзем.

— Ды пры чым тут Зміцер? Я меў на ўвазе дарослых — іх не будзе!

— Паслухайце. Мы з Кацяю слухалі вас, дайце і мне сказаць. Ці вас цікавіць толькі тое, як дзяліць скарб, якога мы пакуль не знайшлі? Вы ж нават не ведаеце, як нам памог Барыс Рыгоравіч! Без яго мы нічога не знойдзем...

— Знойдзем!

— Міхал, памаўчы, дай ёй сказаць,— папрасіў Чэсь. Аксана, хоць і падзьмулася крыху, пачала расказваць. Неўзабаве хлопцы ведалі ўсё: пра яе візіт у архіўны музей, пра Павука і яго артыкулы, пра Севу, пра тое, як пагражалі Кацінаму бацьку і ён змушаны быў абмяняцца талерамі, а потым Барыс Рыгоравіч растлумачыў, што справа тут не ў талерах, а ў абрысах іх контураў...

— Тады я ўспомніла, што ў Паплавах капнула на талер алею, а потым выцерла насоўкаю і засталася пляма. Мы з Кацяю перакалолі пляму, і вось, глядзіце! — Аксана ўрачыста выцягнула з кішэні талер, потым шчарбаты кружок з картону і згорнутую копію бяросты.— Цяпер у нас усё ёсць. Чэсь, давай сваю манету.

Чэсь даў. На здзіўленне Аксаны, хлопцы праявілі і да яе расказу, і да гэтых каштоўных рэчаў нейкую незразумелую абыякавасць. А Міхал нават, як ёй падалося, пасміхаўся. У яго быў такі выгляд, што ўсё гэта яму даўно вядома.

— І далей, Аксана? — спытаў ён, пасміхаючыся.— Як і да чаго ты збіраешся прыкладваць талеры?

— У тым і справа,— уздыхнула Аксана.— Няма прывязкі! Цяпер нам трэба падрабязная карта нашай мясцовасці...

— Ды ёсць прывязка,— перабіў Чэсь,— Міхал, ну нашто Цвяліцца — давай раскажам.

Раней Міхал са Змітраком, якія, вядома, пра ўсё здагадваліся, рабілі выгляд, што нічога не заўважаюць. Але цяпер Міхал не вытрымаў:

— Табе трэба быць далей ад Аксаны. Бо калі блізка, ты сам сябе не помніш.

Чэсь густа пачырванеў і толькі адкрыў рот, не знаходзячы слоў. Але тут ужо Аксана яго выручыла.

— Барыс Рыгоравіч ідзе,— паказала яна на дарогу. Хлопцы з цікавасцю пачалі разглядаць чалавека, што набліжаўся да іх. Сталы мужчына, у пінжаку, у кепцы, у старым трыко, на нагах кеды, у руцэ вудка... Нават на дачніка не падобны, звычайны вясковы дзядзька.

— Гэта ваш настаўнік? — спытаў Міхал ціха, бо Барыс Рыгоравіч быў ужо блізка і мог пачуць.

— А як ты хацеў, каб ён адзеўся? — заступілася Аксана.— Чалавек ідзе вудзіць рыбу.

Настаўнік паклаў пад вярбу вудку, падышоў да кампаніі.

— Добры дзень, давайце знаёміцца,— і зняў кепку.— Толькі не называйце сябе, я паспрабую ўгадаць.

## Раздзел 56
## Прымірэнне Міхала

Аказваецца, ён ведаў іхнія імёны. Змітрака ён угадаў адразу, а Чэся з Міхалам паблытаў. Усё адно Міхалу спадабалася, што Барыс Рыгоравіч, перад тым як знаёміцца, зняў кепку. Дый увогуле — гарадскі чалавек, мінскі настаўнік, а першы падае ім руку...

Неўзабаве Барыс Рыгоравіч сваімі простымі паводзінамі і разумнымі словамі зусім абяззброіў яго.

— Я ведаю, што вы шукаеце скарб,— сказаў настаўнік, сядаючы на траву. Усе таксама прыселі наўкола. — І я не сумняваюся, што вы яго знойдзеце. Зрабілі вы ўжо многа, і мне зразумелая ваша радасць, ваш гонар, вашае жаданне быць першымі і адзінымі. Што да мяне... Вам, спадзяюся, дзяўчынкі пра мяне крыху расказалі?

— Так,— кіўнула Аксана.

— Таму вам, мабыць, цікава ведаць, буду я ўмешвацца ў вашыя справы ці не, а тым больш прэтэндаваць на долю таго, што бясспрэчна належыць толькі вам? Дык вось, сябры мае,— настаўнік прыклаў далонь да левай грудзіны, — даю слова: я прыехаў у Паплавы толькі ў адпачынак! Калі вам

спатрэбіцца дапамога — знайсці мяне можна лёгка і ў любы час. Калі ж вы адчуваеце, што справіцеся самі, абяцаю — ні замінаць вам, ні ўмешвацца ў вашыя справы не буду. Таму давайце адразу высветлім — на цяперашні час я вам трэба?

Хлопцы пераглянуліся, прамаўчалі.

— Вядома, трэба! — сказала Аксана.— Вось, паглядзіце, Барыс Рыгоравіч, што ў нас ёсць... Усё ёсць: тры талеры і копія бяросты!

Настаўнік асцярожна ўзяў у пальцы картонны кружок, засмяяўся.

— Значыць, не паспела бабуля вымыць насоўку? Ну што ж, віншую вас! Я, калі шчыра, нават не чакаў... Проста выдатна, сябры мае! І нічога страшнага, што мы не ведаем пакуль самага галоўнага — прывязкі...

— Ведаем! — не вытрымаў нарэшце Міхал.— Крыжык і слова "CLAD" — гэта і ёсць прывязка,— сказаў ён, знарок марудна расцягваючы словы.— "КЛАД" — звычайныя кладкі, мост цераз Бярэзіну. Старыя людзі і цяпер называюць тое месца Кладамі.

Барыс Рыгоравіч раптам падхапіўся. Сцягнуў з галавы кепку і зноў надзеў. Узяў аркушык паперы з копіяй бяросты, разгарнуў дрыготкімі пальцамі, пачаў углядацца. Потым перавёў вочы на Міхала. І ўсё гэта моўчкі.

— Дык вось чаму вы гаварылі ўвесь час, што ўсё ведаеце! — Аксана запляскала ў ладкі. — Ах, якія малайцы!

— І вы ведаеце, дзе гэтыя кладкі? — перасеўшым голасам спытаў настаўнік.

— Ведаем. Кіламетраў восем — дзесяць адсюль, уверх па рацэ, — сказаў Міхал. У яго быў выгляд пераможцы.

— Гэта пад Ушою... Усё правільна, усё так, там стаялі французы... Але расказвайце далей! — спахапіўся Барыс Рыгоравіч.— Ці захаваліся самі кладкі?

— А што ім зробіцца, ляжаць на дне,— будзённа сказаў Чэсь.— Калі пры беразе паторкаць у ваду вяслом, звіняць, бы жалеза. Яны з дубоў.

— А вы не абследавалі тую мясціну? Ці няма там...

— Старога рэчышча? — падхапіў Міхал, пасміхаючыся.— Не было. Мы аблазілі ўсё кругом — там суха, пагоркі.

— І ўсё адно, усё адно,— паўтарыў Барыс Рыгоравіч.— Як можна было адразу не здагадацца?.. Столькі гадоў біліся... Вось што значыць не давяраць роднай мове...

Раптам ён ступіў наперад, парывіста абняў Міхала, прыгарнуў да сябе.

— Дарагія мае, каб вы толькі ведалі, якое адкрыццё зрабілі!

Адпусціў хлопца, адвярнуўся, нейкую хвіліну пастаяў так. Тады дастаў насоўку і хутка выцер куточкі вачэй. Павярнуўшыся да ўсіх, загаварыў ціха, вінавата, нібы прасіў прабачэння за сваю слабасць:

— Вось навука — і мне, і ўсім. Якая гэта сіла — родная мова, як яна можа аддзячыць за вернасць, за любоў, за веру ў яе. Які цікавейшы выпадак! Гэта ж вельмі можа быць, што мова золатам заплаціць за любоў да сябе, у прамым сэнсе!

## Раздзел 57
## Версія настаўніка

— Вы сказалі "можа быць"? — заўважыла Аксана.

— Так, сябры мае,— каб пасля не было расчаравання, давайце падрыхтуемся і да такога варыянту: што скарбу можа не аказацца. Але гэта толькі як варыянт! — усклікнуў настаўнік, убачыўшы, як захваляваліся хлопцы.— Аднак давайце разбярэм і яго, тым больш сама логіка падказвае... Перанясемся ў той далёкі год, у лістапад месяц. Акружаныя ў раёне Барысава, Крупак і Талачына французы нечакана наносяць рускім контрудар і прарываюцца, хоць з трыццаці тысяч іх застаецца ўсяго тысяч дзесяць. "Наш" афіцэр быў паранены і хутчэй за ўсё свядома адстаў ад сваіх, каб здацца ў палон, але заблудзіўся. А тут снег, слота, баліць-знясільвае рана... Разумееце маю думку?

— Разумеем,— сказаў Чэсь. — Паранены чалавек па снезе не змог бы доўга несці цяжкае золата.

— Абсалютна правільна!

— А калі ён быў не адзін, а з невялікім атрадам? — запярэчыла Аксана.

— Мала верагодна. Дзяліцца з кімсьці не ўваходзіла ў яго планы.

— Тады ўжо я не разумею,— пацiснуў плячыма Міхал.— А як ён нёс золата да гэтага? І што — яго таварышы нічога не бачылі, не ведалі?

— Не бачылі і не ведалі, бо хутчэй за ўсё каштоўнасцей пры ім, калі яго параніла, проста не было,— адказаў настаўнік. — Яны былі схаваны раней, у іншым месцы, а пры афіцэры была толькі карта з

пазнакаю таго месца. Так рабілі многія французы пры адступленні — хавалі ў самых розных мясцінах нарабаваныя каштоўнасці і пазначалі іх на картах, спадзеючыся хутка вярнуцца сюды зноў. Нават у Барысаве, з усіх бакоў акружаны, Напалеон і думкі не дапускаў, што вайна ім прайграная, і салдаты, вядома, верылі свайму геніяльнаму камандуючаму... Дык вось, заблудзіўшыся, афіцэр адчуў, што слабее ад раны, замярзае; ён спалохаўся і, пакуль пры памяці, вырашыў схаваць і карту з пазнакаю скарбу. Ён успомніў, як мясцовыя людзі называюць вузкі мост праз раку... а далейшае вы ведаеце.

— Тады мы знойдзем карту, а па ёй — скарб, — сказала Аксана. — Так нават цікавей.

— Калі тая карта не рассыпалася даўно ў пыл, — уставіў Зміцер.

— Наўрад ці. Наш француз быў чалавек разумны, хітры і сквапны, таму, я ўпэўнены, абярог карту як след, каб яна надоўга захавалася,— сказаў Барыс Рыгоравіч.— Робіцца гэта проста: карта пакрываецца гарачым воскам і змяшчаецца ў якісь посуд — вазу, гляк, гладыш, адтуліны якія таксама замазваюцца воскам або смалою. Пры такой кансервацыі паперы нічога не пагражае. Я думаю, француз насіў з сабой карту менавіта ў такім выглядзе — падрыхтаванаю для схарону.

— Але ж вы казалі, гэта толькі версія,— нагадаў Міхал. — Можа, француз закапаў у нашых мясцінах не карту, а каштоўнасці.

— Вядома, вядома,— адразу згадзіўся настаўнік, — і такое можа быць. Аднак давайце ж паглядзім, што ў нас атрымліваецца.

Ён, на ўсіхняе здзіўленне, дастаў з нагруднай кішэні пінжака ручку, прысеў па кукішкі. Прыклаў талеры і картонны кружок да копіі бяросты, "патасаваў" іх, як даміно, пакуль шчэрбіны на манетах шчыльна не зайшлі адна ў адну.

— Ёсць! — усклікнуў настаўнік.

Ён абвёў унутраныя контуры талераў. Атрымалася звілістая лінія, якая пралягла ад крыжыка ўверх і крыху ўправа. Там, дзе яна канчалася, Барыс Рыгоравіч паставіў кропку і падкрэсліў яе двойчы.

— Вось недзе тут і трэба шукаць. На жаль, маштаб дужа малы, але сёе-тое ўгадаць можна нават цяпер. Думаю, даўжыня гэтай лініі ад крыжыка да кропкі не больш паўтара-двух кіламетраў. Ну як, хлопцы, вы мясцовыя: куды прыблізна яна можа вывесці?

— На поле, да дубоў,— сказаў Зміцер.

— Не, па полі я быў,— не пагадзіўся Міхал.— Яна забірае ўправа — значыць, шукаць трэба ў лесе.

— Толькі не ў лесе! — рашуча заявіў Чэсь.— Раз маштаб маленькі, дык яна, гэтая лінія, можа цягнуцца і ўздоўж Бярэзіны.

Настаўнік засмяяўся.

— Зразумела — кожны называе не тое месца, якое сам абследаваў!

— Дык што гадаць,— сказала Аксана.— Цяпер, калі мы ўсё-ўсё ведаем, застаецца толькі абшукаць тое наваколле ў радыусе двух кіламетраў.

## Раздзел 58
## Хітрасць Аксаны

Хлопцы і Каця падтрымалі Аксану. А Барыс Рыгоравіч моўчкі чамусьці задраў галаву і паглядзеў на неба. Яно было чыстае, бялёсае, без адзінай хмурыначкі. Разам з тым нават цяпер, з раніцы, у паветры адчувалася духата. Прыпарвала. З надрэчнага лугу даносіліся пахі траў і кветак, якія сёння, здавалася, пахлі мацней, неяк больш густа. Звонка трашчалі, аж заліваліся конікі, а птушкі, наадварот, ціўкалі прыцішана, бы неахвотна.

— Будзе лівень,— сказаў настаўнік і выцер насоўкаю лоб.— Пад вечар ці мо нават у абед.

— Па радыё перадавалі,— пацвердзіў Міхал, не здагадваючыся, на якую думку паводзіць іх настаўнік.

— У Мінску я жыву ў новым мікрараёне,— працягваў нібыта без аніякай сувязі з пагодаю Барыс Рыгоравіч.— Вось Каця з Аксанаю былі ў мяне, ведаюць. Некалі на тым месцы быў лясок, цякла рачулка... Лясок высеклі, рачулку знішчылі, у зямлю наклалі труб, залілі ўсё асфальтам, бетонам — як жа, "гаспадары" прыроды! "Прырода не храм, а майстэрня"! Але што цікава: варта пайсці ліўню ці проста добраму дажджу, як каля нашага пад'езда з-пад пліт тратуара пачынае праступаць, высочвацца вада. Прычым высочваецца не паўсюль, а ў пэўных месцах, звіліста. Відаць, недзе ў зямлі ўсё ж уцалела крынічка і цяпер пульсуе, імкнучыся паўтарыць шлях свайго раўчука. А можа, крынічкі няма, а дажджавая вада сама шукае ранейшае рэчышча... Зразумелі цяпер?

— Што тут разумець? — сказаў кемлівы Чэсь.— Дачакаемся дажджу, убачым рэчышча, уздоўж якога ішоў француз,— вось і ўсё.

— Ну, гэта была б удача! — усміхнуўся настаўнік.— Адно, як вы кажаце, там пагоркі, і я не ўпэўнены,

ці затрымліваецца там вада нават у самы моцны дождж.

— Адзін бераг там нізкі, балацяністы, — сказаў Міхал, — а Другі, у бок поля, — пясчаны, круты.

— Цудоўна. У час дажджу ручайкі будуць збягаць па тым крутым беразе ў раку, вось і глядзіце.

— Барыс Рыгоравіч,— Аксана зірнула на настаўніка з падазронасцю, — вы так кажаце, нібыта зусім не збіраецеся быць з намі?

— Я даў слова, што замінаць вам не буду. Вы ўсё разгадалі самі, мая дапамога амаль не спатрэбілася... Вам жа цікава будзе самім дайсці да канца гэтай гісторыі.

Хлопцы пераглянуліся. Яны былі згодныя з настаўнікам, такі варыянт цалкам іх задавальняў. І разумны ж, сапраўды, гэты Барыс Рыгоравіч,— проста ўгадвае іхнія думкі.

— Тады і мы з Кацяю не зможам пайсці,— уздыхнула Аксана.— Бабуля не пусціць...

Дзяўчынка разлічыла правільна. Цяпер ужо забунтаваў Чэсь.

— Як так? Чаму не пусціць? Хіба гэта так далёка?

— "Чаму, чаму",— перадражніла Аксана.— Сам здагадайся... Яна і так сварыцца, што я ў адной кампаніі з вамі, але ж гэта ў Паплавах, ва ўсіх на вачах. А ў лес, ды з хлопцамі... Можна, вядома, пайсці без дазволу, але тады нам усім горш будзе.

— Не, без дазволу не трэба,— прамармытаў Барыс Рыгоравіч.— Сапраўды, як гэта я не падумаў...

— Вось каб вы, настаўнік, былі з намі,— гнула сваё Аксана.

— Ну, што ж — раз такія справы... Як, хлопцы, бераце мяне?

— Вядома, Барыс Рыгоравіч! — адказаў за ўсіх адразу павесялелы Чэсь.

— Тады дамовіліся. Сёння ж пагавару з бабуляю. Але ці адпусціць яна, нават калі са мною?

— Адпусціць! Дзякуй, Барыс Рыгоравіч!

— А цяпер пакажыце мне, хлопцы, дзе самая большая рыба бярэцца...

— Перад дажджом яна ўсюды бярэцца,— сказаў Міхал.— Дзе бачыце, там і закідвайце. Але калі ж мы выправімся да кладак, Барыс Рыгоравіч?

— Я прапаную заўтра з раніцы. Нават калі дождж будзе нядоўгі, за ноч зямля высахнуць не паспее, хоць якія сляды застануцца. Тады і паспрабуем адшукаць на вашых пагорках нізкае месца.

## Раздзел 59
## Сакрэт Чэся

Міхал са Змітрам павялі настаўніка паказаць вір, дзе, калі пашэнціць, можна злавіць ляшча. Чэсь прымарудзіў, застаўся з дзяўчатамі.

— Аксана, можна цябе на колькі слоў?

— Даганяй іх, Каця, я зараз.

Аксана проста гарэла ад цікаўнасці. Столькі навінаў адразу! Столькі хлопцы самі разгадалі! І вось, аказваецца, гэта не ўсё. Яна нават не дужа здзівілася б зараз, калі б пачула ад Чэся, што ён ужо знайшоў скарб.

— Я ведаю, дзе нізкае месца каля кладак,— азірнуўшыся, ціха сказаў Чэсь.— Калі мы ўчора рабілі там разведку, я крыху заблудзіўся ў лесе і натыкнуўся на калодзежык. Даўні, закінуты, зарослы травою — ну, проста ямачка ў зямлі. Я выламаў палку, тыркнуў у дно — і праступіла вада. Уяўляеш, у такую суш там не перасохла!

— І ты нічога не сказаў хлопцам?!

— А раптам я памыляюся? Добра, калі гэта і ёсць тая крынічка, з якой некалі выцякала рачулка. А можа, проста гарэлку гналі, вось і выкапалі. Такіх калодзежыкаў поўна па лесе.

— Трэба абавязкова праверыць заўтра, ці разліваецца той калодзеж у дождж.

— Аксана, толькі давай не казаць пакуль нікому. Заўтра адстанем ад іх, я цябе завяду туды. А потым пазавем астатніх.

— Я згодна. Толькі, Чэсь, — гарэзна зіркнула вачыма дзяўчынка, — чаму ты мне гэта расказаў і нікому больш?

— А ты не здагадваешся?

— Не.

— Таму, што мне падабаецца твая сяброўка Каця,— дасціпна пажартаваў Чэсь і адразу пачырванеў.

**Раздзел 60**
**Клады**

Настаўнік Барыс Рыгоравіч і радыё памыліліся: дажджу ў той дзень не было. Але ў абед спахмурнела, зрабілася яшчэ больш душна. Стала ціха-ціха, неба пакрысе пачало зацягвацца шэрымі хмарамі. Увечары, як сцямнела, далёка, недзе пад Барысавам, пачало грымець. Раз-пораз неба асвятлялі яркія прыгожыя зарніцы. А тут, над Паплавамі, ні грому, ні маланак, ні кропелькі дажджу.

Аксана з Кацяю прыпалі да шыбаў веранды.

— А можа так быць, што хмары пранясе і дажджу зусім не будзе? — спытала Каця, уздрыгваючы, калі загаралася чарговая зарніца.

— Будзе ўночы!

Бабуля, якая баялася такой нагоды, прачыніла дзверы на веранду, паклікала дзяўчынак у хату. Але яны не захацелі.

— Як жа вы заўтра пойдзеце куды? А як лівень дасць з раніцы?

— Бабуля, як ты не разумееш: нам і трэба, каб дождж быў! Цяпер жа лета, хіба мы растанем?

Яшчэ ўдзень Барыс Рыгоравіч, як і абяцаў, упрасіў бабулю адпусціць іх. Бабуля здзівілася і ўзрадавалася, што ён ведае яе сына — Аксанінага тату. Пра Аксану Барыс Рыгоравіч сказаў: "Па маім прадмеце, гісторыі, яна самая лепшая вучаніца!" Бабуля зусім растала, адразу паверыла і палюбіла яго за гэтыя словы.

— Вы ж толькі скажыце, ці далёка сабраліся?

— Блізка, на Клады — ведаеце?

— Я ж нетутэйшая, гэта Макар стары будзе ведаць...

— Там блізка поле жытнёвае, дубы сярод яго.

Калі Барыс Рыгоравіч ведаў бы, чым усё скончыцца, ён, вядома, не тлумачыў бы бабулі так падрабязна. Ён бы адмаўчаўся, вядома, або нават схлусіў бы, назваўшы іншае месца.

— А-а, поле ведаю! — згадала бабуля.— Летась нам салому выпісвалі, дык я хадзіла на тое поле грэбці. А што вы там забыліся?

— Мясціна там гістарычная, прыгожая. Хай паглядзяць гарадскія дзеці...

— А тут, блізка, хіба не тое самае? — наіўна спытала бабуля.

— Трохі не тое,— засмяяўшыся, адказаў настаўнік. Уночы нарэшце пачаў накропваць дождж. Без маланак і грамоў, ціхі, роўны, які не мацнеў і не сціхаў, але ўпарты, аблажны, як людзі кажуць. Такія дажджы бываюць суткамі, і нават больш, і могуць прынесці шкоды паболей, чым які моцны, але кароткі лівень.

Гадзін у восем раніцы ўсе сабраліся каля будана. Настаўнік, у доўгім плашчы з башлыком, у высокіх гумавых ботах, здзіўлена агледзеў "амуніцыю" сваіх вучаніц і хлопцаў: на кім лёгкая балоневая куртка без капюшона, на кім джынсавая, хто ў кедах, хто ў красоўках... Нібы сабраліся не ў паход, а на прыемны шпацыр.

— Намокнем, сябры мае,— сказаў настаўнік з дакорам.— Восем кіламетраў туды, восем назад...

— Якія кіламетры — менш чым за паўгадзіны па рацэ дабярэмся,— адказаў Міхал.— У нас у лодцы ўсё, што трэба.

— Вось як!

Спусціліся ўніз, да ракі, дзе ў чаратах стаяла лодка. Стала ясна, што ўчора хлопцы дарма часу не гублялі. Чэсь выцягнуў з кустоў чатыры доўгія лазовыя пастарчакі, падсунуў канцы пад спецыяльна прыбітую да борта лодкі дошку, выгнуў, прымацаваў другія канцы пад такою ж дошкаю з другога борта. Зміцер накінуў зверху плёнку, нацягнуў яе на каркас — атрымалася сапраўдная кібітка.

— З вамі не прападзеш, сапраўды,— настаўнік асцярожна, адною нагою ступіў у лодку— А не перакуліцца?

— Не перакуліцца, у ёй капу сена перавезці можна,— адказаў Міхал.— Толькі сядзець трэба ціха, не калывацца.

Расселіся. Хлопцы пачалі спрачацца, каму першаму быць на вёслах. Выпала Міхалу. А дождж тым часам і не думаў сціхаць. Сонна, аднастайна шумела над кроплямі вада ракі; таксама аднастайна стракатала поліэтыленавая "кібітка"... Усе маўчалі, усіх апанаваў нейкі ўрачысты, лагодны супакой.

Неўзабаве хлопцы памяняліся, і калі чарга зноў выпала Міхалу, ён падгроб да берага, павёў лодку цішэй, узіраючыся ў дно. Затым падняў вёслы і гукнуў:

— Усё, прыехалі!

— Так хутка? — здзівіўся настаўнік, вылез з-пад плёнкі. Міхал пашнырыў вяслом у вадзе. Пачуўся

стук у штосьці моцнае і цвёрдае.

— Каб не была вада такая каламутная,— сказаў Чэсь, які перавесіўся праз борт і таксама ўзіраўся,— маглі б убачыць кладкі.

Міхал развярнуў лодку, пагроб да другога, вышэйшага берага.

**Раздзел 61**
**Пень на мяжы**

Дождж шчодра паіў раку. Абрывісты, пясчаны, зарослы зверху соснамі бераг быў скрозь паточаны ручаінкамі. Яны сачыліся ў жоўтым бярэжным пяску змейкамі, вымывалі карані соснаў — некаторыя дрэвы стаялі пахілыя. Край дзёрана зверху прасеў і апоўз бліжэй да ракі. Відаць, падчас кожнага дажджу рака ў гэтым месцы адваёўвала ў берага новую тэрыторыю.

Настаўнік з дзецьмі наўскасяк, чапляючыся дзе-нідзе за карані, падняліся наверх, пад сосны. З дрэў капала. Ігліца пад соснамі, пясок, трава таксама былі мокрыя. Аднак тут, на цупкім месцы, нават слядоў ручаін-змеек не было відаць.

— Цікава! — сказала Аксана.— Адкуль тады бяруцца ручайкі, што сцякаюць па абрыве?

— Відаць, вада збіраецца пад ігліцаю,— патлумачыў настаўнік.— Трэба прайсці глыбей у лес — не можа быць, каб не было нідзе ніякага знаку.

— А куды спяшацца? — Чэсь падміргнуў Аксане.— Давайце крыху пачакаем, раскладзем агеньчык, абсохнем... Тым часам дождж будзе ісці, вады стане больш.

Ніхто не быў супраць. Барыс Рыгоравіч пачаў падрыхтоўваць месца для кастра — разграбаць мокрую ігліцу

Астатнія разбрыліся ў пошуках больш-менш сухога галля. Сабраліся — няма ні Чэся, ні Аксаны. Першай устрывожылася Каця, за ёй — Барыс Рыгоравіч. Ён нават пагукаў — ніхто не адазваўся.

— Не старайцеся,— бесклапотна параіў Міхал, падпальваючы знізу сушняк.— Хітруе гэты Чэсь. Тут заблудзіцца немагчыма. Відаць, яшчэ тады адшукаў штосьці і не сказаў нам, каб перад Аксанаю пахваліцца.

— А як даказваў учора, што ў лесе няма нічога,— усміхнуўся Зміцер.— Хітрue, вядома!

— А, раз так — нічога страшнага. Мы будзем толькі радыя, калі яны з Аксанаю адшукаюць скарб раней за нас. Праўда ж?

— Па шыі б яму надаваць, вось гэта была б праўда,— прабурчэў Міхал.

Пагрэліся, абсохлі. Дождж не пераставаў. Дым ад вогнішча слаўся нізка над зямлёю, знікаў у лесе, раствараўся ў шэрай зморасі.

— Не, так мы нічога не вычакаем,— рашуча сказаў настаўнік.— Трэба ісці.

— Заадно і Аксану з Чэсем знойдзем! — падтрымала Каця.

Барыс Рыгоравіч дастаў з цэлафанавага мяшэчка копію бяросты з выкрэсленай на ёй тлустай лініяй — маршрутам, якім рухаўся француз. Міхал тым часам збегаў да лодкі, вярнуўся з рыдлёўкаю і з доўгім завостраным прэнтам.

— Вось гэта я разумею! — пахваліў Барыс Рыгоравіч.— Не, з вамі, сябры мае, не прападзеш — я ўсё больш пераконваюся. Значыць, так. Лінія на карце вядзе на поўдзень і робіць тры павароты-зігзагі. На поўдзень і пакіруемся.

Пайшлі гужам. Барыс Рыгоравіч пракладаў шлях — прадзіраўся праз густы мокры хмызняк, рассоўваў галіны, часцяком прытрымліваў іх, прапускаючы дзяцей уперад. Неўзабаве хмызняк скончыўся, пайшло рэдкалессе: хвоі, бярозкі, сям-там латкі зялёнага моху, чарнічніку, багуну, кусты буякоў...

Барыс Рыгоравіч спыніўся, прадэкламаваў:

Настаўнік з дзецьмі наўскасяк, чапляючыся дзе-нідзе за карані, падняліся наверх, пад сосны. З дрэў капала. Ігліца пад соснамі, пясок, трава таксама былі мокрыя. Аднак тут, на цупкім месцы, нават слядоў ручаін-змеек не было відаць.

— Цікава! — сказала Аксана.— Адкуль тады бяруцца ручайкі, што сцякаюць па абрыве?

— Відаць, вада збіраецца пад ігліцаю,— патлумачыў настаўнік.— Трэба прайсці глыбей у лес — не можа быць, каб не было нідзе ніякага знаку.

— А куды спяшацца? — Чэсь падміргнуў Аксане.— Давайце крыху пачакаем, раскладзем агеньчык, абсохнем... Тым часам дождж будзе ісці, вады стане больш.

Ніхто не быў супраць. Барыс Рыгоравіч пачаў падрыхтоўваць месца для кастра — разграбаць мокрую ігліцу.

Астатнія разбрыліся ў пошуках больш-менш сухога галля. Сабраліся — няма ні Чэся, ні Аксаны.

Першай устрывожылася Каця, за ёй — Барыс Рыгоравіч. Ён нават пагукаў — ніхто не адазваўся.

— Не старайцеся,— бесклапотна параіў Міхал, падпальваючы знізу сушняк.— Хітруе гэты Чэсь. Тут заблудзіцца немагчыма. Відаць, яшчэ тады адшукаў штосьці і не сказаў нам, каб перад Аксанаю пахваліцца.

— А як даказваў учора, што ў лесе няма нічога,— усміхнуўся Зміцер.— Хітруе, вядома!

— А, раз так — нічога страшнага. Мы будзем толькі радыя, калі яны з Аксанаю адшукаюць скарб раней за нас. Праўда ж?

— Па шыі б яму надаваць, вось гэта была б праўда,— прабурчэў Міхал.

Пагрэліся, абсохлі. Дождж не пераставаў. Дым ад вогнішча слаўся нізка над зямлёю, знікаў у лесе, раствараўся ў шэрай зморасі.

— Не, так мы нічога не вычакаем,— рашуча сказаў настаўнік.— Трэба ісці.

— Заадно і Аксану з Чэсем знойдзем! — падтрымала Каця.

Барыс Рыгоравіч дастаў з цэлафанавага мяшэчка копію бяросты з выкрэсленай на ёй тлустай лініяй — маршрутам, якім рухаўся француз. Міхал тым часам збегаў да лодкі, вярнуўся з рыдлёўкаю і з доўгім завостраным прэнтам.

— Вось гэта я разумею! — пахваліў Барыс Рыгоравіч.— Не, з вамі, сябры мае, не прападзеш — я ўсё больш пераконваюся. Значыць, так. Лінія на карце вядзе на поўдзень і робіць тры павароты-зігзагі. На поўдзень і пакіруемся.

Пайшлі гужам. Барыс Рыгоравіч пракладаў шлях — прадзіраўся праз густы мокры хмызняк, рассоўваў галіны, часцяком прытрымліваў іх, прапускаючы дзяцей уперад. Неўзабаве хмызняк скончыўся, пайшло рэдкалессе: хвоі, бярозкі, сям-там латкі зялёнага моху, чарнічніку, багуну, кусты буякоў...

Барыс Рыгоравіч спыніўся, прадэкламаваў:

Сеткі паўсюль павуціння абвіслыя,
Мокрыя, ліпнуць да курткі і рук.
Дзесь у кары або ў скручаным лісціку
Да непагоды схаваўся павук.

Усё як у нас цяпер... Ну, куды далей, сябры мае? Акурат у гэтым месцы павінна быць першая заваротка.

— Сюды, Барыс Рыгоравіч! — пачуўся ўсхваляваны голас Змітрака. Хлопец перад гэтым адарваўся ад усіх і ішоў сабе адзін, збоку.— Тут калюжыны нейкія!

Кінуліся туды. Так і ёсць: сярод буяковых кустоў, у імху — прадаўгаватая калюжына, поўная жоўтай дажджавой вады. Далей — яшчэ адна калюжына, і яшчэ...

— Мы знайшлі, знайшлі! Гэта тое самае рэчышча, несумненна! — радасна паўтараў настаўнік, штораз зазіраючы ў сваю карту.— Калі дождж будзе ісці доўга, калюжыны запоўняцца вадою, разальюцца, злучацца і паўтораць лінію на нашай схеме. Глядзіце: гэтая нізінка цягнецца зараз на паўднёвы ўсход, але хутка яна выправіцца і пакіруе на поўдзень!

Радасны настрой Барыса Рыгоравіча перадаўся іншым. Ледзь не бягом кінуліся ўперад. Нізінка ўсё не канчалася. Праз якую сотню метраў настаўнік, які апынуўся цяпер апошнім, паклікаў дзяцей:

— Трэба зварочваць, сябры мае! — і рашуча падаўся ўправа, у такія ж зараснікі, з якіх нядаўна выбраліся.

— Не можа быць! — не паверыў Міхал.— Навошта зварочваць, вось у нас пад нагамі нізіна, яна і ёсць старое рэчышча!

— Калі я памыліўся — вернемся,— адказаў настаўнік. Міхал, Зміцер і Каця з неахвотаю вярнуліся, зноў гужам пайшлі за настаўнікам. На гэты раз ішлі, кружлялі доўга. Нізінак больш не траплялася. Міхал пачаў упрошваць Барыса Рыгоравіча вярнуцца, але той быў непахісны.

— Недзе тут другая паваротка, паверце!

І вось зноў рэдкалессе, чарнічнік, буякі, зноў зачвякаў пад нагамі зялёны мокры мох, які любіць расці па нізінках...

— Ну, што я казаў?! — усклікнуў настаўнік.— Глядзіце! Адсюль, з гэтай нізіны, пачыналіся акурат такія ж калюгі, толькі ўжо злучаныя між сабою; ужо нават можна было вокам ухапіць звілісты абрыс колішняга раўчука; здавалася, што пеністая дажджавая вада ў гэтых злучаных ямках не стаячая, а крыху рухаецца, цячэ назад, да Бярэзіны.

— А я ж быў тут, бачыў гэтыя высахлыя ямкі,— у засмучэнні прамовіў Міхал.— Чаму не звярнуў увагі?.. Падумаў, што гэта стары засыпаны акоп... Далей я ведаю, куды ісці — зараз пачнецца поле...

— Не, рэчышча яшчэ раз паверне,— стрымаў яго Барыс Рыгоравіч.— Давайце ўжо пройдзем гэты шлях да канца.

Цяпер ніхто і не падумаў пярэчыць, усе безумоўна паверылі настаўніку.

Доўга кружляць не давялося. Старое рэчышча напаўнялася вадой з кожнай хвілінаю, шырэла і вяло іх беспамылкова. Але вось нізінка, а разам і рэчышча, скончыліся, прапалі гэтаксама раптоўна, як і пачаліся. Зусім непадалёку, між дрэў, убачыўся прасвет. Гэта было поле.

— А цяпер — праменька на поўдзень,— бадзёра сказаў настаўнік.— За мной!

Выйшлі на адкрытае месца і ўбачылі, што дождж нібыта прыцішэў. А мо гэта толькі здалося, бо з дрэў не капала. Шырокае жытнёвае поле з раскіданымі па ім выспачкамі кучаравых дубоў перасякала ўезджаная дарога. Па ёй настаўнік і павёў дзяцей. Міхал на хаду сарваў каласок жыта, паспрабаваў расцерці. Куды там, рана яшчэ, колас толькі вылез з трубачкі, нават малаком не наліўся.

Настаўнік ішоў моўчкі, засяроджана, нібы лічыў у думках свае крокі. Вось спыніўся, падумаў, павярнуў назад.

— Здаецца, тут,— абвёў ён рукою вакол сябе, быццам акрэсліў круг. Яшчэ раз зазірнуў у карту.— Лінія наша канчаецца тут. Глядзіце — і канаўка нейкая паўз дарогу...

— Тут жа роўнае, гладкае месца,— Міхал паглядзеў навокал.— А можа, гэта на полі, сярод жыта?

— Тады давядзецца чакаць восені і капаць па зжатым. Бо хто ж нам дасць цяпер жыта глуміць?

Міхал адышоў да мяжы — нешырокай утравянелай паласе, што падзяляла дарогу і поле, кінуў прэнт, з размаху ўвагнаў у зямлю рыдлёўку. Але рыдлёўка стукнула ў штосьці і ўглыб не пайшла.

—Ага, пачакайце... Тут штосьці ёсць!

Міхал схапіў прэнт, пачаў тыркаць у зямлю. Прэнт увесь час упіраўся ў нешта. Зміцер тым часам рыдлёўкаю сашкроб дзёран мяжы.

— Пень! — аб'явіў ён.— Вялізны стары пень.

— Вось такі,— Міхал прэнтам пакрэсліў сапраўды вялізнага дыяметру няроўны круг, які адным краем залазіў на дарогу, другім — у жыта, але асноўная частка была акурат пасярэдзіне — на мяжы.

Хлопцы паглядзелі на Барыса Рыгоравіча.

Настаўнік, абняўшы Кацю за плечы, моўчкі, з ціхай усмешкаю назіраў за імі, і Міхалу падалося, што па твары настаўніка сцякаюць не адны толькі кропелькі дажджу.

— Я ганаруся вамі,— прамовіў урэшце Барыс Рыгоравіч.— Вы знайшлі яго. Ды я і не сумняваўся, што знойдзеце — з такімі хлопцамі грэх сумнявацца... Аднак дзе ж Аксана з Чэсем? Як шкада! Такі гістарычны выпадак, а яны не бачаць!

— Няхай не будзе дужа хітрым,— сказаў Міхал.— Адно і праўда шкада — Аксану звёў

## Раздзел 62
## Тым часам у пасёлку

Цёмна-сіняя "Аўдзі", перавышаючы хуткасць, пранеслася па мокрай асфальтавай дарозе, звярнула ў завулачак і рэзка піскнула тармазамі каля хаты дзеда Макара.

З будынку сельсавета выйшаў на ганак участковы без шапкі, паглядзеў услед машыне.

Дзеда Макара дома не было. Машына развярнулася, панеслася ў другі канец Паплавоў — да таго доміка, у якім пасяліўся на час адпачынку настаўнік з Мінску. Няма настаўніка, домік на замку.

— Да каго, вы казалі, малая прыязджае? — спытаўся чалавечак на заднім сядзенні, з заціснутымі між ног мыліцамі. Гэта быў Павук.

— Да бабулі,— адказаў лысы, што сядзеў за рулём.— Толькі я хаты не помню. Недзе ў самым пачатку.

— Я ведаю,— Сева апусціў бакавое шкло.— Чацвёртая з краю.

Ізноў паімчаліся ў пачатак пасёлка, мінулі сельсавет. Ізноў выйшаў на ганак участковы і паглядзеў ім услед. Цяпер ён быў у фуражцы, у доўгай шырокай накідцы, завязанай пад шыяю матузкамі.

— Тут?

Сева кіўнуў, лысы спыніў машыну. Бабуля была ў двары, падышла да плота. Сева высунуўся ў акенца, бабуля пазнала кватарантаў дзеда Макара.

— Вы старога шукаеце? Дык ён не так даўно да ракі пайшоў, з вёсламі!

— Я сам пагавару,— сказаў Севу Павук, выграбся з машыны, выцягнуў мыліцы.— Можа, вы, бабуля, ведаеце, дзе цяпер можа быць настаўнік, Барыс Рыгоравіч з Мінска? Ён учора прыехаў,— Павук падклыпаў да плота з гэтага боку.

— А што такое? — насцярожылася бабуля.

— Мы разам працуем, калегі,— ахвотна патлумачыў Павук.— Знарок з Мінска прыехалі, каб забраць

яго на важны навуковы сімпозіум. Барыс Рыгоравіч будзе выступаць там з дакладам.

— А як жа вы яго знойдзеце? Ён з дзецьмі ў паход пайшоў!

— У паход? Калі?

— Сёння раніцаю.

— Ага, дык далёка яны не адышлі... У нас жа машына, нам і з'ездзіць нядоўга. А дзе, у якім месцы іх шукаць?

— Казаў, на поле нечага пойдуць, гэта пад Вушою, па той бок ракі,— ахвотна растлумачыла бабуля. — Там дубы яшчэ сярод жыта.

— А як туды бліжэй праехаць?

— Ніяк: тут жа ні моста, ні парома, усе лодкамі перапраўляюцца. Гэта вам трэба ў Бярозу, а там цераз мост і назад паўз раку — на поле.

— Я ведаю! — азваўся з машыны Сева, які ўсё чуў у адчыненае акенца.

— Ну, бабка, дзякуем! Мы паехалі, — Павук паклыпаў назад, уваліўся ў машыну.

— Пачакайце! — схамянулася бабуля.— Яго вы заберайце, а як жа дзеці?

— І іх забярэм,— супакоіў Павук.— Машына вялікая, усе памесцімся... Давай! — нецярпліва скамандаваў лысаму.

**Раздзел 63**
**Участковы**

Не паспела бабуля зайсці ў хату, як з вуліцы яе зноў пазвалі. Участковы, без матацыкла. Адчыніў фортку, увайшоў У двор:

— Што яны хацелі, Сцяпанаўна?

— Настаўніка пыталі,— адказала старая, адчуўшы невядома з якой прычыны трывогу.— Я сказала, ён у паход з дзецьмі выправіўся, на поле пад Вушою, дык яны цяпер туды паляцелі... А што такое?

— Што такое... Жульё яны — вось што такое.

— А Божухна! — пляснула рукамі, адразу змянілася з твару бабуля.— Там жа дзеці!

— Вось іменна. Вы ведалі гэтага пастаўніка? Чаму адпусцілі дзяцей з ім?

— Як жа не адпусціць — ён унучку маю вучыць, сына знае, такі харошы, добры чалавек...

— Добры... Хто цяпер добры? Можа, з аднае хеўры з гэтымі.

— Дык і гэтыя ж цэлую вясну ў Макара круціліся, ты ж сам іх бачыў кожны дзень, чаму не арыштаваў?!

— Фактаў не было. Цяпер з'явіліся. Дарэчы, раз ужо Макара згадалі — дзе ён можа быць цяпер?

— На раку ішоў... А Божа ж мой!..

Вохкаючы, божкаючы, яна кінулася ў хату, павязала хустку, усунула босыя ногі ў боты, выскачыла на двор. Участковы яшчэ не пайшоў, прыкурваў, захінаючыся ад зморасі.

— Рабіце што-небудзь, вы ж міліцыя!

— Рабіце... Я ж такую машыну не даганю на сваім драндулеце. Хадзем!

Бабуля нават не спыталася куды. Па вуліцы даўгалыгі ўчастковы ступаў звычайнымі сваімі крокамі, а яна амаль бегла за ім. Ішлі да ракі.

На шчасце, дзед Макар быў на "прыстані", корпаўся пры лодцы. Убачыў участковага з Ганнай, застыў, насупіўся, угадваючы, што не з дабром да яго гэтыя адведзіны.

— Я цябе папярэджваў? — пачаў участковы, падышоўшы. Кінуў пад ногі недакурак і ўціснуў ботам у мокры пясок.

Дзед Макар — дужы, каржакаваты, аднаго з участковым росту — разагнуўся.

— Не крычы,— сказаў спакойна.— І не пужай жанчыну, вунь збялела ўся. Кажы, што здарылася?

На ўчастковага падзейнічала.

— Здарылася... Жулікі твае кватаранты — вось што здарылася. Машына ў іх крадзеная. Я іх даўно падазраваў, не паленаваўся, навёў даведкі — і калі ласка, пацвердзілася: гэтая "Аўдзі" паўгода, як у вышуку.

— А я тут пры чым? Хіба на ёй напісана, што яна крадзеная? Вы, міліцыя, даведаліся пра гэта — вы і лавіце, вам за гэта грошы плацяць.

— Мы то зловім,— сказаў участковы.— Я ўжо званіў у Бярозу, там ведаюць, ужо абвешчаныя ўсе пасты і дарожныя "даішнікі" — так што нідзе твае кватаранты не дзенуцца. Іх то мы зловім, але каб яны каго раней за нас не злавілі! Настаўніка шукаюць, што ўчора з Мінска прыехаў, а настаўнік з дзецьмі ў паход пацёгся, аж на поле пад Вушу. Прыспічыла ў самы дождж. Трэба яшчэ разабрацца, што ён за настаўнік, чаму з тваімі кватарантамі шашні водзіць, навошта ім спатрэбіўся?

— А Божа... А я ж, дурная, яму паверыла,— адразу забожкала бабуля.
— Не палохай чалавека, кажу! — павысіў голас дзед Макар.— Ну і што, што ў паход пайшлі? Ды там адзін Міхал усё навылет ведае! Як іх знойдуць? Хіба яны на адным месцы стаяць будуць?
— Ох, на адным, Макарка! Той настаўнік сказаў — мясціна там, кажа, рэдкая... Я пытаю — а тут, блізка, хіба кепскія вам мяста? А ён зноў — не, тут не такія, там мяста гістарычныя. На полі яны будуць!
— Я зараз паеду ў Бярозу,— участковы выцягнуў з-пад накідкі правую руку, пастукаў па цыферблаце гадзінніка, прыклаў руку да вуха.— Калі тваіх кватарантаў не затрымалі на шашы ці на мосце, усё адно да поля яны дабяруцца не скора. Дарога там кепская, гразкая, дый чужакі яны, не ведаюць тых мясцінаў... Зразумела, дзед? Пакуль яны даедуць, табе тут напрасткі хвілін пятнаццаць — дваццаць. І глядзі! — папярэдзіў: — Твае кватаранты; калі не дай Бог, што з дзецьмі здарыцца...
— Памаўчы,— дзед Макар чырвонымі ад халоднага дажджу пальцамі ўжо ўстаўляў вёслы ва ўключыны.— А ты не мокні, Ганна, ідзі дамоў. Не бойся.
Лёгкая лодка, паслухмяная звыклым вёслам і дужым рукам гаспадара, развярнулася і імкліва пайшла па самай быстрыні, туды, да Кладаў, каля якіх жытнёвае поле з дубамі.

## Раздзел 64
## Заблудзіліся

Чэсь і быў у гэтым лесе ўсяго адзін раз — калі яны, вяртаючыся з рыбалкі, высадзіліся тут "дэсантам". Але тады было сонечна, ясна, лес быў нейкі іншы, не такі, як цяпер: мокры, пануры, цёмны, хоць на гадзінніку ўсяго адзінаццаць раніцы.
Спачатку Чэсь упэўнена павёў Аксану ў самую чашчобу. Яны прадзіраліся кустоўем, кружлялі, выходзілі на палянкі і зноў апыналіся ў нейкіх зарасніках. Калодзежык не знаходзіўся, як і не было яго. Мокрыя, натомленыя, са слядамі ліпкага павуціння на руках і тварах яны выбраліся на чарговую палянку. І раптам пачулі галасы хлопцаў, Каці, настаўніка, убачылі між дрэў чырвань агеньчыка, унюхалі гаркавы пах дыму...
— Як жа так? — разгублена прашаптаў Чэсь.— Няўжо мы ўвесь час ішлі па крузе?
Затым сказаў цвёрда:
— Прабач, Аксанка, Ідзі да іх, пагрэйся, адпачні, толькі не кажы, дзе я. Я вярнуся ў лес і сам паспрабую знайсці.
Але ён забыўся, што Аксана ўпартая не менш за яго.
— Не, пойдзем разам. Я зусім не стамілася і мне не холадна.
Цяпер Чэсь ступаў памалу, уважліва зіркаў па баках, стараючыся не прамінуць ніводнай помнай яму прыкметы.
— Тут я галіну абламаў — вось яна, бачыш? Зараз павінна быць прасека, а там ужо рукой падаць...
Была абламаная галіна, была прасека — калодзежыка не было. Ці то пагода так змяніла лес, ці проста Чэсь, да вялікага сораму свайго, забыў якісь самы галоўны арыенцір і цяпер заблудзіўся.
— Не магу больш,— прызналася нарэшце Аксана.— Каб хоць крышачку адпачыць!
Як ні было прыкра на душы, якая ні разбірала злосць на самога сябе, Чэсь вымушаны быў здацца.
— Што ж, вернемся да іх... Толькі не сядай, пацярпі трохі,— папрасіў ён,— бо калі вяртацца, дык трэба хутчэй. Яны могуць без нас пайсці і тады ўжо іх давядзецца шукаць. Можаш пацярпець яшчэ трошкі?
Аксана кіўнула. Пайшлі зноў, у другі бок — туды, дзе, на думку Чэся, была рака. Каб лягчэй было Аксане, Чэсь стараўся мінаць кустоўе, вёў дзяўчынку рэдкім лесам, выбіраў чыстыя мясціны, палянкі. І вывеў... Не да вогнішча, нават не да ракі, а зноў на прасеку, амаль на тое самае месца, адкуль выправіліся.
— Ды што гэта са мною сёння?!
Аксана моўчкі прытулілася да сухога ствала разлапістай хвоі, прысела, заплюшчыла вочы. Чэсь пастаяў, патаптаўся, затым сеў побач. Плечы іх датыкнуліся, Аксана ўздрыгнула, але так і засталася сядзець, нават вачэй не расплюшчыла. Чэсь з жалем і адначасна з любоўю глядзеў на яе. Стомленая, ціхмяная, з мокрымі пасмачкамі белых валасоў, што выбіліся з-пад капюшона, з ямачкамі па круглых шчоках,— такою дзяўчынка здалася яму прыгожай, як ніколі.
Ён нечакана для сябе хутка прасунуў далонь пад капюшон і пагладзіў Аксану па галаве. Ізноў дзяўчынка толькі ўздрыгнула і не адсунулася.
— Прабач, Аксанка,— сам заблудзіўся і цябе звёў... Мне так сорамна. Засмяюць... А галоўнае, цябе шкада. Яны, мабыць, знайшлі ўжо скарб, а ты і не пабачыш.
— Не выдумляй,— Аксана раскрыла вочы, мякка адвяла яго руку, паправіла валасы.— Я ні аб чым не шкадую. Наадварот, цікава! Я і цяпер, калі б усё паўтарылася, пайшла б з табою...

— Праўда?

— Хіба я не бачыла, што ты знарок ішоў сушэйшымі мясцінамі, каб мне лягчэй было? А тое, што заблудзіліся — ну і што? У лесе любы можа заблудзіцца, бо левая нага робіць крыху большыя крокі, таму і атрымліваецца круг. Нам у школе расказвалі.

— Ды і нам расказвалі, толькі я не верыў, пакуль на сабе не пераканаўся!

Усю ўтому з Чэся як рукою зняло. Спалі з душы прыкрасць, сорам, злосць на сябе; пасля Аксаніных слоў нібы сонца выбліснула раптам з гэтага нізкага, зацягнутага суцэльнай шэранню неба.

Ён ускочыў:

— Твая праўда — няма чаго перажываць. Мы ж на прасецы, значыць, ужо заблудзіцца немагчыма, хоць куды-небудзь яна ж выведзе! Цяпер пойдзем у той бок, куды ты пакажаш, мо ў цябе рука шчаслівейшая... Ды ты сядзі, адпачывай! — спахапіўся ён, убачыўшы, што Аксана таксама ўстае.

— Не, няма калі. Ды і холадна сядзець. Хадзем, напрыклад... туды,— наўзгад паказала яна пальцам.

І сапраўды, не памылілася. Не прайшлі яны і дзвесце крокаў, як апынуліся на лясной, досыць уезджанай дарозе, што крыжавала прасеку. Аднак Чэсю сёння проста наканаваныя былі няўдачы. Стаўшы пасярод дарогі, ён нерашуча зірнуў управа, улева... Баяўся памыліцца.

— Ізноў не помніш? — спагадліва спытала Аксана.

— Ды дарогу я помню... Летась мы з бацькам тут матацыклам праязджалі... Ведаю, што яна праходзіць праз поле каля Вушы і вядзе аж да самай Бярозы, да моста праз раку.

— Поле? Пра якое Міхал расказваў Барысу Рыгоравічу?

— Ну... Аксана! — раптам усклікнуў Чэсь і паглядзеў на яе шырока раскрытымі вачыма.— Аксана, помніш, твой настаўнік абмовіўся, што па схеме звілістая лінія павінна выводзіць акурат на гэтае поле?! Ах, якія ж мы дурныя... Я, а не мы,— адразу паправіўся.— Можа, нашы даўно ўжо там?

— Вядома, там! — падтрымала Аксана, абы не стаяць на месцы.— Калі гэта не далёка, хадзем хутчэй.

— Далёка тут не можа быць, кіламетр, мо паўтара,— але ж каб ведаць, у які бок... Зусім у галаве закруцілася! — з адчаем у голасе прызнаўся Чэсь.

— Не перажывай ты так, нічога страшнага. Хадзем хоць куды, недзе ж гэтая дарога скончыцца.

— А калі выйдзем да ракі, а не да поля?

— Давай так,— прапанавала Аксана.— Ты ідзі ў той бок, а я ў гэты. Можа, рака ці поле зусім недалёка. Сядзелі ж мы на прасецы і не ведалі, што дарога ўсяго за дзвесце метраў ад нас.

Чэсь неахвотна згадзіўся. Ізноў ён адчуваў сябе вінаватым. Дамовіліся, што будуць перагукваццa, і разышліся.

Астаўшыся адзін, Чэсь пакрысе супакоіўся. Паспрабаваў перанесціся ў думках у тое лета, калі ехалі з бацькам матацыклам... І раптам штосьці крутанулася ў галаве і нібы стала на сваё месца — так бывае, калі едзеш у цягніку з заплюшчанымі вачыма і здаецца, едзеш назад, а потым расплюшчышся, у галаве штосьці — круць! — і бачыш, што едзеш уперад.

Чэсь убачыў старую пахілую бярозу з расчэпленым ствалом, успомніў яе — і імгненна ўсё-ўсё зразумеў: дзе поле, дзе рака, дзе Клады і нават дзе калодзежык, які яны шукалі цэлую раніцу. Поле было ўперадзе, а Аксана ішла цяпер да ракі.

— Аксана! — гукнуў ён і кінуўся назад.

Ад таго месца, дзе яны разышліся, дарога паварочвала, таму дзяўчынкі не было відаць. І не адгукнулася... Чэсь выбег з-за павароту і ўбачыў, што воддаль, на дарозе, стаіць легкавушка, побач, каля расчыненых задніх дзверцаў — Аксана. Дык гэта ж машына "геолагаў"! Як яны тут апынуліся?! Чаму Аксана размаўляе з імі? Ды не толькі размаўляе, а вось прыгнулася, сядае ў машыну...

— Аксана! — крыкнуў Чэсь.

Дзяўчынка азірнулася, весела махнула яму рукою, каб бег хутчэй да іх. У Чэся адлегла ад душы. Цяпер усё зразумела: "геолагі" вяртаюцца з Бярозы, чамусьці гэтай дарогаю, будуць праязджаць праз поле, і Аксана папрасіла іх падвезці.

Чэсь быў ужо зусім блізка. Раптам машына кранулася з месца. З-пад задніх колаў на яго паляцела гразь, заляпіла вочы. Калі ён працёр іх, машына даўно схавалася за паваротам.

## Раздзел 65
## Аксана ў небяспецы

А здарылася вось што. Убачыўшы знаёмую "Аўдзі", Аксана, вядома, здзівілася, але не спалохалася. Яна сышла з дарогі. Нечакана машына спынілася каля яе, адчыніліся заднія дзверцы, знаёмы голас назваў яе па імені, і Аксана ўбачыла ў машыне... Павука.

— Старая знаёмая,— прыязна ўсміхнуўшыся, сказаў ён.— А дзе астатнія? На полі? Мы вас шукаем.

Аксана прамаўчала, яшчэ больш здзіўленая. Павук патлумачыў:

— Нам настаўнік трэба, Барыс Рыгоравіч, яго ў Мінск тэрмінова выклікаюць. Твая бабуля сказала, дзе вас можна знайсці.

— І вас заадно папрасіла падвезці,— умяшаўся лысы, які сядзеў ужо не за рулём; за рулём быў Сева.

— Дык настаўнік, кажаш, на полі? — спытаў Павук.

— Мабыць,— Аксана пацiснула плячыма.

— А што ж ты не з імі? Заблудзілася? А, разумею, тут нейкі сакрэт, пра які нельга расказваць... Барыс Рыгоравіч любіць сакрэты,— Павук захіхікаў, пасунуўся крыху: — Дык сядай. Ды сядай, не бойся! — убачыўшы, што Аксана не кранаецца з месца, зноў запрасіў ён.— Мы не жартуем, бабуля прасіла, каб забралі вас усіх. Зараз знойдзем настаўніка і падкінем вас у Паплавы.

— Мы самі зойдзем,— Аксана зірнула на свае мокрыя красоўкі, паварушыла пальцамі, правяла далоняю па мокрым, халодным ілбе. Яна раптам адчула страшэнную ўтому. А ў машыне, відаць, цёпла, суха, сядзенне такое мяккае, такое зручнае. Мабыць, ехаць у такой машыне натомленаму, змерзламу чалавеку — адна асалода.

— Ды яна проста баіцца нас,— насмешліва сказаў лысы.— Паехалі, Сева!

Эх, Аксана, дзе ж згубілася твая абачлівасць, асцярога, твая няхітрая, але надзейная навука: з незнаёмымі мужчынамі не размаўляць, не верыць ім, не заходзіць разам у ліфт ці ў пад'езд, тым больш не сядаць у машыну? Але ж гэтыя былі не зусім чужыя. Павук ведаў яе бацьку, бабулю, Барыса Рыгоравіча, Сева з лысым заходзілі да Кацінага бацькі, жылі ў дзеда Макара...

— Вось яшчэ — нікога я не баюся! — сказала яна.

У гэты момант яе гукнулі. Яна ўбачыла непадалёку Чэся, які спяшаўся да іх, махнула яму рукою: — Толькі пачакайце, забярэм Чэся,— і залезла ў машыну.

— Сядзі ціха,— прасіпеў ёй у твар Павук, хапаючы яе за плечы. Рукі ў яго нечакана аказаліся моцнымі, бы абцугі.— Сева, за паваротам спынішся, лысы сюды перасядзе, паможа мне!

Аксана, вырываючыся, крыкнула, але моцная, учэпістая далонь заціснула ёй рот.

## Раздзел 66
## Нарэшце ўдача

Чэсь дзе пехам, дзе подбежкам спяшаўся па дарозе — туды, дзе поле, куды паехала машына. Ён сам не ведаў, навошта бяжыць туды, што збіраецца там рабіць, чым ён зможа дапамагчы Аксане. Што задумалі "геолагі"? Неяк пранюхалі, разгадалі пра месца скарба? І едуць цяпер на поле, каб адабраць яго? Калі яны застануць там усіх, стары настаўнік з Міхалам і Змітрам, і з Кацяю ў дадатак, не абароняцца ад двух здаровых маладых мужчын... І навошта села да іх Аксана? Яна ўсміхалася, была спакойная... Тады чаму не падабралі яго, Чэся? Ці Аксану заманілі ў машыну і проста не выпусцілі? Не, штосьці тут не так!..

Самае разумнае, што адразу прыходзіла ў галаву: бегчы зараз да Кладаў, гнаць лодку ў Паплавы і зваць людзей на дапамогу. Але не было ўжо ні сілаў, ні часу, а галоўнае, сорамна — раптам гэтыя "геолагі" ніякай шкоды ім не зробяць і не збіраліся рабіць? Тады і хлопцы, і Аксана, і настаўнік, ды ўвесь пасёлак засмяюць яго!

— Далёка сабраўся? — раптам пачуў ён ззаду знаёмы старэчы голас.

З лесу на дарогу выходзіў дзед Макар. Не верачы сваім вачам, Чэсь кінуўся да яго:

— Дзед Макар, вось дзякуй Богу, што вы тут!

Дужы, крыху прыгорблены, у сваіх нязменных кірзачах, у брызентавым плашчы і са стрэльбай за плячыма дзед адным выглядам сваім адразу ўсяліў спакой. Цяпер усё абыдзецца!

— Памажыце, дзед Макар, "геолагі" вашыя забралі Аксану і на поле паехалі, а там настаўнік зараз можа быць, і ўсе!.. Там экскурсія ў нас... раскопкі могуць быць, а "геолагі" могуць забраць, ім патрэбна дужа...

Чэсь зразумеў, што заблытаўся. На яго шчасце, дзед Макар ні аб чым не распытваў, нават, як падалося, не вельмі і ўстрывожыўся, нібы быў гатовы да такіх падзей. Адно ссунуў над пераноссем кашлатыя бровы:

— Усё ж не ўбераглiся, праўду казаў участковы... Даўно паехалі гэтыя прыблуды, "геолагі"?

— Нядаўна. Можа, яшчэ нічога страшнага, бо Аксана сама да іх села, але... хадземце хутчэй на поле! Па дарозе раскажу.

— Пачакай, я ведаю сцежку наўпрасткі, праз лес.

Ужо на хаду мяльком зірнуў на Чэся, паспачуваў:

— Аднак ты мокры ўвесь, аж калоцішся, не захварэй.

— Нічога страшнага,— Чэся трэсла зусім не ад холаду.

## Раздзел 67
## На полі

Змяняючы адзін аднаго, Міхал са Змітрам па чарзе абкапалі пень, абчысцілі зямлю па краях, і пень — шырокі, роўны, бы стол,— здалося, ва ўсіх на вачах прыпадняўся, вырас з зямлі сантыметраў на пяць — дзесяць. Міхал калупнуў яго прэнтам:

— Бачыце, як пілавалі? Укругавую, па частачках, ручнымі пiламі.

— Усё ты ведаеш,— пазайздросціў Зміцер.

— Я што, ніколі не пілаваў з бацькам? Вось адтуль і ведаю: калі рукамі пілуеш — пень роўны, а бензапілою — абы-які.

Міхал падспудна чакаў, што Барыс Рыгоравіч пахваліць яго за назіральнасць, падтрымае, але настаўнік як і не чуў хлопцаў. Ён хоць і не працаваў рыдлёўкаю, але стаміўся, здавалася, больш за хлопцаў. Гледзячы, як яны завіхаліся вакол пня, настаўнік штораз прыкладаў да лба і без таго даўно мокрую насоўку.

— Сябры мае, нам і так сёння дужа шэнціла, аж не верыцца,— усхвалявана сказаў ён.— І ўсё адно так будзе крыўдна, калі зараз напаткае расчараванне! Я вось думаю: а раптам француз не закапаў карту пры пні, а схаваў у сухую дуплянку ў ствале? А ствала даўно няма.

— Я на месцы француза таксама не стала б капацца ў зямлі,— сказала Каця. Да гэтага яна ціхенька стаяла збоку, стуліўшыся, але не скардзілася ні на дождж, ні на холад.

— Тады б людзі, што спілавалі дрэва, абавязкова праверылі б усе дуплы,— не згадзіўся Зміцер,— і знайшлі б карту. Гэта ж Цікава, як утрымацца, каб не залезці ў дупло? А калі б карта знайшлася, усе ведалі б пра гэта, і ў музеі была б, і ў кніжках напісалі б.

— Лагічна! — засмяяўся Барыс Рыгоравіч.— Дый часта бывае, што дупло размешчана нізка, пры самай зямлі, і вядзе пад зямлю, так што яму, можа, і капаць не давялося. Толькі што гадаць? Зараз пра ўсё даведаемся. Давай, Міхал, з Богам...

Міхал асцярожна, акуратна, упрытык з пнём, па сантыметрах пачаў пратыкаць зямлю, стараючыся ўганяць востры прэнт на ўсю даўжыню. Настаўнік з Кацяю моўчкі сачылі за ім, Змітрок даваў парады:

— Не спяшайся... Акуратней... Адступіся далей ад пня, чаго ты да яго прыліп...

— Не вучы вучонага. Карані перашкаджаюць...

— Правер пад каранямі.

Раптам Міхалава рука застыла. Седзячы на кукішках, хлопец знізу ўверх зірнуў на Барыса Рыгоравіча, сказаў здзіўлена:

— Тут. Барыс Рыгоравіч, далібог, тут!

— Асцярожней, толькі асцярожней, Міхась,— яшчэ больш расхваляваўся настаўнік.— Пасудзіна можа быць гліняная, даставай вельмі акуратна, па міліметры, каб не пашкодзіць!

Міхал хутка разгроб мяккую зямлю, поўную парахні і трэсачак. Вось ухапіўся за штосьці пальцамі, пакалываў, каб лягчэй выйшла. З-пад гнілога, спарахнелага кораня, чвякнуўшы, нібы развітваючыся з гэтай зямлёю, у якой правяла столькі дзесяцігоддзяў, выкалупнулася невялікая пасудзіна з вузкім гарлячыкам.

— Ваза!

Міхал падаў вазу настаўніку, сам, не падымаючыся, пачаў шнырыць у ямцы пальцамі, паглыбляць яе, пароць прэнтам. Ён спадзяваўся, што гэта толькі пачатак і тут, пад пнём, яшчэ поўна каштоўнасцей.

Барыс Рыгоравіч аднёс вазу да мяжы, вырваў пук травы, беражліва счысціў з пасудзіны зямлю.

— Ух ты! — выдыхнуў Зміцер.

У Каці таксама ад захаплення свяціліся вочы. Яна працягнула руку і злёгку пастукала па вазе пазногцем. Ці толькі пачулася, ці сапраўды ваза раптам зазвінела — ледзь чутным,

тонкім, чыстым звонам, бы перадала цяперашнім сваім гаспадарам вітанне з самых глыбіняў далёкай мінуўшчыны... Падышоў Міхал, выціраючы рукі аб штаны.

— Няма нічога больш,— і таксама застыў, уражаны. Здалося, нават пасвятлела вакол ад прыгажосці гэтага стварэння звычайных рук чалавечых. Ваза мякка адлівала колерам сіняй парцаляны, па сіні — дробныя залатыя зорачкі. Звычайны авальны падыспад і тонкая шыйка, расшыраная ўверсе. Але было ў гэтай прастаце формы і звычайнасці колеру штосьці загадкавае, нават велічнае, як бывае загадкавым і велічным звыклае неба, калі яно пасля яснага дня пачынае сінець і расквечвацца залатымі зоркамі. Кім гэтая ваза зроблена? Чые палаты ўпрыгожвала? Якія рукі краналі яе, якія кветкі ў яе ставілі?..

**Раздзел 68**
**Сустрэча**

— Міхал, падай, калі ласка, прэнт,— сказаў настаўнік, калі ўсе налюбаваліся знаходкаю.— Усё так, як мы і думалі — гарлячык заліты воскам. У вазе павінен быць план сапраўднага скарбу.

Перавярнуўшы вазу ўверх донцам, ён асцярожна выкалупаў чорны крохкі воск з шыйкі. Трасянуў, пастукаў па донцы. З вазы высунуўся жоўты скрутачак. Зміцер ухапіў, выцягнуў.

— Глядзіце, таксама воскам пакрыты! Зусім цэлы, толькі склізкі нейкі,— перадаў настаўніку.

Той беражліва разгарнуў скрутачак. Папера і праўда пры такой "кансервацыі" захавалася выдатна, амаль не пацярпела ад вільгаці, адно была тоўстая, пакарабачаная і нагадвала пергамент.

— Ну, што там, Барыс Рыгоравіч? — Міхал зазіраў настаўніку праз плячо.— О, вось гэта сапраўдны план, акурат такі, як цяпер малююць! — усклікнуў ён.

— Словы, аднак, расплыліся... Нічога не разабраць. Ды і па-французску тут...

— Ну і што? Затое паглядзіце, Барыс Рыгоравіч: вось рака, вось лес, вось нейкае паселішча — тут і без слоў здагадацца можна!

— Пень мы ўсяго па адным слове знайшлі,— сказала Каця.

— Вось іменна!

— Не, давайце не спяшацца... Схаваем пакуль... Дождж ідзе, я баюся, папера намокне, распаўзецца.— Барыс Рыгоравіч, не падымаючы ні на кога вачэй, скруціў "пергамент", уставіў назад у вазу, паклаў пасудзіну ў рукзак.

— Усё, сябры мае,— пара дамоў— і ўскінуў рукзак на плячо.— Дома я вам усё растлумачу.

Міхал з Кацяю пераглянуліся. Яны нічога не разумелі. Што здарылася?! Чаму настаўнік хавае ад іх вочы? Чаму ў яго нават голас зрабіўся нейкі вінаваты, стомлены?

Аднаму Змітру паводзіны настаўніка чамусьці ніяк не абыходзілі. Ён ужо хвіляў колькі стаяў, завярнуўшыся, і пазіраў на дарогу.

— Глядзіце, машына! — усклікнуў ён.— З лесу выскачыла, сюды едзе...

— Ды гэта ж "геолагаў" машына,— адразу пазнаў Міхал. Устрывожыўся: — Якой трасцы ім тут трэба?

— Таго, што і нам,— пасміхнуўся Зміцер.

— Дык што ж мы стаім?! — Міхал схапіў прэнт, рыдлёўку, кінуў у жыта— Уцякайма самі па жыце!

— Позна ўжо, убачылі нас — вунь як нясуцца... Ды і пень гэты раскапаны — адразу здагадаюцца.— Зміцер сышоў з дарогі да мяжы, Каця таксама.

Цяпер ужо нічога не разумеў Барыс Рыгоравіч:

— Хлопцы, што з вамі? Каго нам баяцца? Я настаўнік, мы на гістарычна-краязнаўчай экскурсіі...

— Схавайце хоць рукзак, Барыс Рыгоравіч! Дайце, я...— Міхал схапіўся за лямку, але машына была ўжо зусім блізка, і ён адняў руку. Неяк паспакайнеў, падышоў да Змітра з Кацяю.

Машына спынілася каля іх. З яе адразу ж выскачыў Сева, падбег да раскапанага пня, убачыў ямку пад коранем, прысеў.

— Знайшлі-такі! Выкапалі! Ну, чэрці!..— і зарагатаў. Следам з машыны выграбся Павук з мыліцамі, хуценька зашчоўкнуў за сабою дзверцы.

— Ты?! — Барыс Рыгоравіч аслупянеў ад нечаканасці.

За цёмным шклом машыны нельга было ўбачыць, хто там у ёй, таму поўна неспадзяванкаю было з'яўленне старога аднакашніка, нават сябра некалі.

Хутка, аднак, Барыс Рыгоравіч прыйшоў у сябе.

— Трэба ж! — сказаў насмешліва.— Столькі гадоў не бачыцца, каб сустрэцца ў дождж, у гразь, на нейкім полі, за дзвесце кіламетраў ад сталіцы!

— Чаго не зробіш, калі засумуеш па старым сябры? — у тон яму адказаў Павук.— Не пабаішся ні дажджу, ні гразі.— Абапёрся на мыліцы, падкавыляў да пня, пацмокаў языком.— Ідзі да машыны! — загадаў Севу і зноў павярнуўся да Барыса Рыгоравіча: — Што ж, Барыс, нават павітацца не хочаш? — сказаў з дакорам.

Настаўнік неахвотна падышоў. Парукаліся.

— Дык ты знарок з Мінска дзеля гэтага? — кіўнуў на раскапаны пень Барыс Рыгоравіч.

— Кажу ж, цябе пабачыць захацелася! Маладосць успомніць...

— Не крыўляйся.

— Эх, маладосць!.. Памятаеш, Барыс, якія мы былі маладыя! Апантаныя! Легендамі рознымі цікавіліся, скарбы нейкія шукалі... І, як бачу, нездарма! — Павук падміргнуў Барысу Рыгоравічу— У самы час я сябра наведаў, акурат паспеў... Нюх у мяне на гэта. Многа хоць каштоўнасцей было? — па-

змоўшчыцку спытаўся ён.— Ці толькі план, як мы з табою некалі і здагадваліся? Бачу, бачу — ямка малая, значыць, адзін план.

Барыс Рыгоравіч азірнуўся на дзяцей. Было відаць, што яму сорамна казаць няпраўду нават такому чалавеку, як Павук. Усё ж сказаў:

— Нічога не было. Легенда гэта, проста прыгожае паданне.

— Малая прыходзіць да мяне ў архіўны музей і гадзіну выпытвае і выпісвае ўсё што можна пра гэтае паданне. Другі талер знаходзіцца. Ты раптоўна знікаеш з Мінска, і я даведваюся, што ты ў Паплавах,— Павук панізіў голас— Падшыванцы гэтыя толькі тое і робяць, што паўсюль лазяць, вынюхваюць, высочваюць... І вось вы ўсе разам апынаецеся ў адным месцы. Ці не зашмат мітусні з-за нейкага падання? Табе не здаецца?

Настаўнік памаўчаў крыху, тады ў сваю чаргу спытаў:

— Адкуль ты даведаўся, што я ў Паплавах? А, ну вядома — шпіёны твае данеслі, яны ў Паплавы часта ездзяць,— кіўнуў ён на Севу, што прыхінуўся да капота машыны, падняў каўнер скураной курткі і цярпліва чакаў.

— Чаму шпіёны? Звычайныя людзі, сябры мне. Яны таксама маюць права на долю, як і я. Згадзіся, Барыс,— мы ўсе маем права на гэты скарб. Табе давядзецца падзяліцца.

— Нічога пад пнём не было,— цвёрда сказаў настаўнік, не гледзячы, аднак, Павуку ў вочы.— А калі б і было, дык я думаю, без аніякіх доляў — цалкам усё належала б толькі дзецям. Але няма!..

— Няма, дык няма, што ж паробіш...— згадзіўся Павук.— І ўсё адно вы героі! Гэта ж знайшлі самое месца, вылічылі неяк! Зайздрошчу. А мы з табою столькі гадоў біліся — раскажы хоць, у чым загадка?

— Не я, яны разгадалі,— паказаў на дзяцей Барыс Рыгоравіч.— А ў чым была загадка... баюся, табе не зразумець гэтага. Трэба быць сваім у гэтым краі, а ты як быў тут чужы, так, відаць, і застаўся.

— Цудоўна сказана! — падхапіў Павук.— Дзе радней, там і радзіма. Надакучыла мне тут, Барыс, сіл больш няма! Хоць пад канец жыцця хачу дыхнуць вальней, пажыць па-людску.

— З'язджаць хіба сабраўся?

— Нават пашпарт замежны з сабою,— ляпнуў па кішэні Павук.— Нават з працы звольніўся, нават кватэру прадаў,— усё, як трэба.

— Што ж, так адсюль і паедзеш? І ў Мінск больш не вернешся?

— Проста з гэтага поля і паеду. Навошта мне Мінск, хто мяне там чакае?.. Усе мае пажыткі ў надзейным месцы, далёка адсюль. Даляраў крыху, золата, абразы, каменьчыкаў з дзесятак... але мала, мала! Таму і закарцела праведаць старога сябра — а раптам паможа?

— Павук, канчайце гаварыльню! — гукнуў Сева.— Часу мала.

— Чуў? Дык дзе яна, карта, кажаш? — у голасе Павука раптам зніклі ноткі іроніі.— У рукзачку? Зараз праверым,— заціснуўшы пад пахаю мыліцу, ён пацягнуўся рукою да рукзака.

Барыс Рыгоравіч адступіў:

— Апамятайся! Што вы задумалі?! Сілаю будзеце адбіраць у мяне тут, на вачах у дзяцей?!

— Ага, значыць, усё ж ёсць што адбіраць.— Павук зглынуў сліну, нядобра прыжмурыўся.— Не бойся, сілаю адбіраць не будзем. Ты сам аддасі. Ты яшчэ не ведаеш, які ў нас сюрпрыз для цябе падрыхтаваны.

Сева адарваўся ад машыны, сунуў правую руку за пазуху, хутка падышоў да іх.

— Ну, скончылі свае байкі, старыя прыяцелі? — сказаў раздражнёна.— Настаўнік, думай хутчэй, ты нас затрымліваеш!

— Карты ў мяне няма, мы схавалі яе...

— У нас вашая малая, Аксана, у машыне,— зразумела табе? Скажы, дзе карта, мы адпускаем яе, зматваемся, і больш вы нас тут ніколі не пабачыце. Будзеш дрыгацца — мы зараз сядаем у машыну і вы больш не пабачыце ні нас, ні малой,

Настаўнік збялеў як палатно. Раптам ён кінуўся да машыны. Сева загарадзіў яму дарогу, выхапіў з-за пазухі руку. Бліснула лязо нажа. Каця ўскрыкнула, закрыла далонямі твар, прыціснулася да Змітрака.

— Стань на месца! — загадаў Сева настаўніку— Ты думаў, жартаваць тут з вамі сабраліся?

— Пакажыце... яе,— выдыхнуў настаўнік.

— Лысы!

Заднія дзверцы адчыніліся. Аксана тузалася на сядзенні. Лысы моцна трымаў яе за каўнер курткі. Рукі ў дзяўчынкі былі звязаныя за спінаю, рот таксама закрыты павязкаю, таму яна і не крычала.

— Хутка вы там? — прабурчэў лысы.— Кусаецца, зараза, павязку сцягвае.

— Вар'яты,— збялелы Барыс Рыгоравіч схапіўся за сэрца.— Пачакайце, я зараз... Я ўсё аддам... Што ж вы робіце, чым вы думаеце?.. Хіба ж любыя скарбы варты гэтага?..

— Дурань ты,— пагардліва сказаў Павук,— газет, відаць, не чытаеш, тэлевізара не глядзіш. Жыццё чалавечае цяпер нічога не варта. Знік чалавек — і ніхто не шукае!

— Вас будуць шукаць, і зловяць...

— За што нас лавіць? Мы забіраем карту, адпускаем малую — і ўсё. У міліцыі вам скажуць: "Дзяўчынка жывая-здаровая? Ну і не дурыце нам галавы!" Да таго ж не паспееце вы выбрацца з гэтага поля, як мы будзем на тэрыторыі іншай краіны, у Расеі-матухне, тут праз Барысаў гадзіну язды. А там у нас усё падмазана, падрыхтавана, дакументы ў норме і, можа быць, ужо заўтра шукай нас па ўсёй Еўропе. Ды і шукаць ніхто не будзе, паўтаруся, бо "ў наяўнасці адсутнасць злачынства", як казаў адзін мой знаёмы адвакат.

— Ты забываеш пра галоўнае,— нагадаў Сева, забаўляючыся з нажом,— нам трэба яшчэ забраць скарб, а месца яго пазначана на карце, а карту нам не аддаюць...

— Аддадуць. Вось зараз адпусціць чалавеку сэрца, і ўсё нам аддадуць.

Барыс Рыгоравіч скінуў з пляча рукзак, стаў развязваць матузкі. Рукі ў яго дрыжэлі. Сева адпіхнуў яго, узяўся сам. Мокрыя, туга сцягнутыя матузкі не паддаваліся. Сева вылаяўся і чыркнуў па вузле вострым нажом.

— Толькі не азірайся адразу,— прашаптаў Змітрок Міхалу.— Бачыш, ідуць жытам?..

— Я іх даўно бачу! — гучна сказаў Міхал.

**Раздзел 69**
**Нечаканая дапамога**

З-за машыны, на хаду сцягваючы з пляча стрэльбу, паказаўся дзед Макар, мокры з галавы да ног. Ззаду ледзь паспяваў змораны Чэсь. Хлопчык адразу падаўся да сваіх.

Выгляд у дзеда быў грозны.

— Дзе дзяўчынка?

— Хто гэта яшчэ такі? — Павук здзіўлена зірнуў на Севу.

— Ды дзед наш, мы ў яго начуем.— Сева разагнуўся, трымаючы рукзак за гіч.— Чаго табе трэба, старэча? Чаму на печы не сядзіш?

— Адпусціце дзяўчынку, кажу, прыблуды! — дзед Макар ускінуў стрэльбу, прыцэліўся — акурат як тады, калі страляў у сома.— Шрот у мяне буйны, мала нікому не падасца!..

У машыне адчыніліся дзверцы:

— Сева, дай яму даляраў дзесяць, ды хай валіць адсюль! — пачуўся голас лысага.

Дзед крута павярнуўся і паспеў убачыць звязаную Аксану. Сева палез у кішэню курткі.

— На! — дастаў і працягнуў дзеду нейкую купюру— Цябе тут толькі не хапала, стары корч...

У адказ ляснуў стрэл. Шрот прасвістаў у Севы над галавою. Той ахнуў і запознена прысеў.

— Ты... што?!

— Другі раз вазьму ніжэй,— паабяцаў дзед Макар. Павук першы апамятаўся, крыкнуў спалохана:

— Барыс, спыні яго! Інакш малой горш будзе! Настаўнік кінуўся да дзеда, стаў паміж ім і Севаю, растапырыў рукі:

— Што вы робіце, апусціце стрэльбу, тут жа дзеці! Я аддам, усё ім аддам, і яны адпусцяць Аксану... Дзе рукзак?

Сева асцярожна наблізіўся, падаў. Барыс Рыгоравіч сунуў руку ў разрэзаную Севам дзірку, выцягнуў вазу:

— Вось, у ёй план, вы ўсё лёгка знойдзеце, гэта недалёка, пад Барысавам... А цяпер адпусціце дзяўчынку!

— Пачакай, дай сюды.— Павук забраў вазу ў Севы, выкалупнуў пергамент, блізарука пачаў узірацца. І раптам радасна засмяяўся: — Вось яно! Усё тут... Божа мой, нарэшце... новае жыццё, Еўропа, эх, Барыс,— дзеля сваёй мары чаго не зробіш? Усё зробіш!

— Вазу хоць пакінь дзецям,— папрасіў настаўнік.

— Вазу? Гм, сапраўды, гэта было б справядліва... Але не магу — музейны экспанат. Яны сабе яшчэ такую знойдуць, а я пакідаю вам малую — ці ж гэтага мала? Адпускай! — крыкнуў ён і пацёгся да машыны.

Лысы выштурхнуў дзяўчынку. Яна ўпала на калені, войкнула. На твары ў яе ўжо не было павязкі. Настаўнік падбег, дапамог ёй падняцца і развязаў рукі. Аксана аддыхалася, убачыла сяброў, дзеда Макара, вазу і пергамент у руцэ ў Павука... Усё зразумела:

— Не аддавайце, Барыс Рыгоравіч!..

— Хай, усё добра, галоўнае, ты ёсць,— настаўнік пацалаваў яе ў гарачыя шчокі, хутчэй адвёў убок.

— Дзед, апусці жалязяку, усё скончылася.— Асмялелы Сева, азіраючыся, сядаў на пярэдняе месца за руль.

— Больш каб я вас тут не бачыў! — Дзед Макар праводзіў яго да машыны пад руляю стрэльбы, толькі цяпер апусціў

— На чорта вы нам боль патрэбны,— рагатнуў Сева.

— Гуд бай, Барыс! — не забыў развітацца Павук.— Чакай паштоўкі з Парыжа. Можаш "настукаць" на нас у міліцыю, расказаць падрабязна пра французскага афіцэра, шчарбатыя талеры, пра заложніцу, пра скарб... Толькі не крыўдуй пасля, калі цябе за вар'ята прымуць!

"Аўдзі" развярнулася, заехаўшы крыху ў жыта, паімчала палявой дарогаю і хутка схавалася ў лесе.

Раптам пачуліся дзіўныя гукі — як бы хто ціхенька ікаў і пры тым шморгаў носам... Гэта плакала Аксана.

— Спалохалася? Што ты, дзяўчынка мая,— прытуліў яе да сябе настаўнік,— ды хіба б я аддаў ім цябе? Ды я хутчэй пад колы лёг бы!..

— Я... не... спалохалася,— усхліпваючы, адказала Аксана.— Скарб... наш скарб... усё дастанецца ім, ніхто іх не зловіць!

— Зловяць! — упэўнена сказаў раптам дзед Макар.— Машына ў іх, прыблудаў, крадзеная, і міліцыя ведае.

— А калі зловяць, дык усё адно не нам дастанецца, міліцыя выкапае каштоўнасці,— выціраючы слёзы, сумна прамовіла Аксана.

Ад гэтых наіўных слоў нібы спала з усіх напруга, нібы адпусціла ўсім нацятыя нервы... Першы рассмяяўся Міхал, гледзячы на яго — Чэсь, а хутка смяяліся ўжо ўсе; гэта была разрадка смехам пасля трывогі, хваляванняў, страху.

— Нічога, не перажывайце, сябры мае! Кожнаму дастанецца сваё,— загадкава прамовіў настаўнік.

Дзед Макар, які дасюль з няўцямным выразам твару слухаў пра ўсе гэтыя "планы", "карты", "скарбы", "золата-каштоўнасці", якія павінны "выкапаць", здалося, толькі цяпер заўважыў раскапаны пень. Падышоў капнуў зямлю мысам бота, паківаў галавою:

— Трэба ж!.. А я думаў, казачкі гэта... Я ж нават помню, як яшчэ дуб на гэтым месцы рос, як пілавалі яго.

Бегаў па гэтым полі, касіў тут, араў, сеяў, жаў... і хоць бы калі ў галаву прыйшло, што пад гэтым пнём, дурань ты, багацтва тваё ляжыць! Што значыць цёмны, невучоны чалавек!..

## Раздзел 70
## Апошні, у якім, аднак, нічога яшчэ не канчаецца

Праляцеў цэлы месяц.

Час быў вяртацца ў Мінск Барысу Рыгоравічу, бацькі забіралі ў горад Змітрака, паслязаўтра павінны прыехаць па Кацю, якую наперадзе яшчэ чакала дзівоснае падарожжа ў далёкі Егіпет... У Паплавах заставаліся толькі мясцовыя Міхал з Чэсем ды Аксана.

Перад развітаннем у апошні раз сабраліся на сваім пагорку каля будана. Усім было крыху сумна.

— Барыс Рыгоравіч,— сказаў Міхал,— а я тады здагадаўся, што скарба няма, калі вы пазбегалі глядзець нам у вочы... Мы былі мокрыя, натомленыя, так верылі, што ўсё нездарма,— вось вы і не хацелі нас адразу расчароўваць.

— І ўсё ж несправядліва,— уздыхнула Аксана.— Мы заслужылі скарб.

— І я лічу, несправядліва,— азваўся Барыс Рыгоравіч,— але што зробіш? Прыкрая недарэчнасць!

Чэсь прызнаўся:

— А я і да гэтага часу не ўсё разумею... Ім вы расказвалі, Барыс Рыгоравіч, а мне не.

— Не трэба было хітраваць,— не прамінуў выпадку Міхал.

— На плане француза ўсё было вычарчана выдатна, і я, на вялікі жаль, з першага погляду зразумеў: скарб — tresor па-французску — схаваны пры перасячэнні Бярэзіны з рачулкай Плісаю, каля мястэчка Юшкавічы пад Барысавам. Гэта так званы "брандэнбургскі скарб", які знайшлі яшчэ аж у 1896 годзе, калі Міністэрства шляхоў зносін расчышчала і паглыбляла рэчышча Бярэзіны; заадно вяліся пошукавыя работы на месцы колішняй пераправы французаў, а таксама ў бліжэйшых ваколіцах. Было многа каштоўных знаходак, адна з якіх — каваны жалезам драўляны куфэрак, адкапаны на пагорку пад дубамі, акурат там, дзе Пліса ўпадае ў Бярэзіну. Гэтае месца і было пазначана на нашай карце... Дрэва куфэрка згніло, спарахнела, і калі рабочыя пачалі даставаць куфэрак, ён рассыпаўся. У яму і на зямлю каля ямы

паляцелі-пасыпаліся каштоўныя камяні, каралі, пярсцёнкі, залатыя і срэбныя манеты... Гэта і быў скарб нашага француза Anri-B...na, ingenira.

— А чаму "брандэнбургскі"? — спытаў Чэсь.

— Усе знаходкі былі апісаны, упакаваны і здадзены генералу Брандэнбургскаму, які знарок дзеля гэтага прыбыў сюды з Масквы.

— І як Павук папаўся на такую вуду?! — здзіўлена спытаў Міхал.— Няўжо ён нічога не ведаў пра "брандэнбургскую знаходку"?

— Ведаў, вядома. Але ён заўсёды быў блізарукі, а тады спяшаўся, не было калі разбіраць, з яго хапіла слова tresor.

— Аднак якія яны былі ўпэўненыя, што каштоўнасці ляжаць і толькі чакаюць іх! — пакруціў галавою Зміцер.— Асабліва гэты Павук...

Крадзеную "Аўдзі" затрымалі ў той жа дзень на Бярэзінска-Барысаўскай шашы. Праз пару тыдняў Барыса Рыгоравіча з дзедам Макарам выклікалі ў горад як сведак. Барыс Рыгоравіч даў паказанне, што з Павуком некалі разам вучыўся і з тых часоў яны больш не сустракаліся. Што да Севы з лысым, дык ён увогуле першы раз аб такіх чуе (настаўнік з дзедам Макарам дамовіліся маўчаць пра выпадак на полі, каб не ўблытваць ва ўсё гэта дзяцей; тым больш маўчалі аб гэтым Павук з хаўруснікамі). Дзед Макар сваімі простымі адказамі штораз ставіў следчага ў тупік: "Ну, начавалі яны ў мяне, дык за тое грошы плацілі. А што машына крадзеная, на ёй не было напісана". Так нічога следчы ад яго і не дабіўся.

— Мне асабліва вазы шкада,— сказала наіўная Каця.— Такая была прыгожанькая, звонкая, парцалянавая ваза!..

— Нічога, вазу пасля суда перададуць у архіўны музей. Загадчык гістарычнага аддзела цяпер, замест Парыжа, апынецца, відаць, зусім у іншым месцы,— прамовіў Барыс Рыгоравіч, і ў голасе яго не было і крышку зларадства, а наадварот, было нават нібы шкадаванне.— Цяпер вы можаце аддаць у музей і талеры. Будзем хадзіць туды на экскурсіі — напрыклад, я павяду ваш, Каця з Аксанаю, клас, а вы раскажаце ўсім, як "пазнаёміліся" з гэтай вазаю.

— Не павераць,— засумнявалася Каця. Памаўчалі. Аксана сказала:

— А шкада, што ўсё скончылася і больш няма чаго шукаць. Барыс Рыгоравіч, а праўда, мне неяк бацька гаварыў, што ў адной Беларусі кожны год знаходзяць да дзесяці скарбаў, не лічачы адзінкавых манет?

— Чыстая праўда,— пацвердзіў настаўнік. Затым хітравата прыжмурыўся.— Да прыкладу, тое ж напалеонаўскае войска, адступаючы, вымушана было перыядычна "разгружацца" і хаваць нарабаваныя каштоўнасці. Як мінімум, існуе пяць версій, дзе трэба гэтыя скарбы шукаць. Скрынкі з золатам нібыта закапаны ў царкве ў Коўне — цяпер Каўнас — каля старога замка, чатыры бочкі з золатам — у лесе непадалёку ад Барысава на беразе Бярэзіны, сем бочак золата — пад Беластокам, недзе каля плаціны, што знаходзіцца паміж манастыром і млынам... А як вам такое паданне: на Ашмяншчыне французы нібыта закапалі скарб у лесе, а да дрэва прыбілі падковы. Калі пілавалі ўжо звезены лес, піла натрапіла на адну падкову. Пень знайсці не ўдалося...

— Эх! Трэба было адпілаваць кругляк і шукаць пень па гадавых кольцах! — адразу загарэўся Міхал.

— А ў мяне ў Астраўцы цётка жыве,— сказаў Чэсь.— Гэта блізка ад Ашмянаў.

— А ў мяне ў Гродне дзед з бабаю,— сказала Каця.

— А што, калі і гэты скарб ужо выкапаны? — устрывожылася Аксана.— Таксама крыўдна: мы шукаем па правілах, доўга, а хтосьці адразу знаходзіць!

Усе засмяяліся, акрамя настаўніка.

— Сябры мае, вы знайшлі вельмі многа,— сур'ёзна сказаў ён.— Можа, нават больш за самыя багатыя каштоўнасці... Вы знайшлі сяброўства паміж сабою. Вы адчулі подых багатай гісторыі свайго народа, палюбілі свой край. Вы зразумелі, якая каштоўнасць, якое багацце — наша родная мова. Хіба ж гэтага мала, хіба гэта не скарб?

Унізе, пад пагоркам, усё бегла некуды сіняя, як неба, вада Бярэзіны. За ракою зелянеў, раствараўся ў сонечнай смузе далёкі лес. З другога боку стракацеў разнаквеццем поплаў, і ветрык даносіў адтуль духмяны водар летніх красак. Перад настаўнікам з дзецьмі рассцілалася зямля — такая прыгожая, такая шчодрая, такая знаёмая і разам з тым такая загадкавая.

Іхняя зямля.